СЕРЫЯ
«БЕЛАРУСКАЯ ТУРЭМНАЯ ЛІТАРАТУРА»
заснаваная ў 2017 годзе
распрацаваная Праваабарончым цэнтрам «Вясна»

**Бяляцкі, А.**

Турэмныя сшыткі / Алесь Бяляцкі. — Мінск, 2018. — 324 с. : іл. — (Серыя «Беларуская турэмная літаратура»; вып. 5).

Алесь Бяляцкі, старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна», пісьменьнік і грамадскі дзеяч, быў арыштаваны 04.08.2011 за праваабарончую дзейнасьць. Віны не прызнаў. Асуджаны 24.11.2011 на чатыры з паловай гады пазбаўленьня волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасьці і спагнаньнем нанесенай шкоды дзяржаве. Да суда сядзеў у СІЗА г. Менска і Жодзіна. Пакараньне адбываў у ПК № 2 г. Бабруйска, працаваў упакоўшчыкам у швейным цэху.

Зьняволеньне беларускага праваабаронцы выклікала шырокую кампанію салідарнасьці ва ўсім сьвеце. Алесь Бяляцкі быў вылучаны на Нобелеўскую прэмію міру, у 2013 г. стаў першым лаўрэатам прэміі за правы чалавека Рады Еўропы імя Вацлава Гаўла. Дзякуючы міжнароднаму ціску быў датэрмінова вызвалены. Правёў за кратамі 1052 дні.

Падчас зьняволеньня Алесь Бяляцкі вёў актыўную перапіску, напісаў багата розных тэкстаў, у тым ліку на літаратуразнаўчыя тэмы, эсэ, успаміны. З дапамогай сяброў і калег у гэты перыяд выйшлі тры ягоныя кнігі — «Асьвечаныя беларушчынай» (2013), «Іртутнае срэбра жыцьця» (2014) і «Халоднае крыло Радзімы» (2014).

Новая кніга былога палітвязьня ў серыі «БТЛ» «Турэмныя сшыткі» складаецца зь дзёньнікавых запісаў, якія пункцірна рабіліся ў розных сшытках ці на асобных аркушах, зазвычай сярод іншых запісаў і папер. Аб'яднаныя і расчытаныя разам, яны склалі турэмны тэкст без прыўкрасаў і ўнутранай цэнзуры.

Выданьне прасякнутае сучаснай «лагернай» атмасферай, персанажамі, адносінамі, дапоўненае аўтарскімі каментарамі і лістамі, не прапушчанымі лагернай цэнзурай.

ВЯСНА
праваабарончы цэнтр

ЗЬМЕСТ



*4 жніўня 2011 г.*
*Каля офіса Праваабарончага цэнтра «Вясна».*
*Пасьля вобшуку на офісе «Вясны».*
*Яшчэ на волі, але ўжо зьняволены.*

# Турэмныя сшыткі

## РОЗНАКАЛЯРОВЫ СШЫТАК

І звонкі бразгат ключа аб жалеза парэнчаў, і гучны крык наглядчыка: «Тры-сем!», што азначае, што нас ідзе трое ў прагулачны дворык № 7. А затым ня менш гучны і ўтробны з долу: «Давай!»

Сьветла-карычневыя сьцены, бялюткая пасьля рамонту столь. Расклад у драўлянай рамачцы, у жоўтых разводах і плямах. Жоўты стол і дзьве лаўкі, бетонная падлога, шырокія «расьнічкі», праз іх зь цяжкасьцю можна бачыць неба, энергазьберагальная лямпачка ў надточаным голым патроне, апельсінавыя лушпайкі на падваконьні.

### 13.08.2011

Аляксей падвярнуў нагу, загіпсавалі, укалолі, зрабілі рэнтген, сказалі, што ці то расцягнуў, ці то меніск выскачыў. Перасялілі Францавіча на гору, а Аляксея — на ягонае месца. Вясёлы, самаўпэўнены Лёша замоўк на цэлыя суткі. А яшчэ ўчора зьбіраўся ісьці на выгул.

«Саўбелія» метадычна з нумара ў нумар дабівае мяне. Стараецца «кантора» разам зь Якубовічам[1], які проста ненавідзіць праваабаронцаў. Маўчаў 11 гадоў пасьля таго, як мы яго за Шыдлоўскага[2] адхлясталі, зараз іхнія імкненьні супалі. Наехаў і на Наталю[3]. Незразумела, што будзе зь яе працай.

Уменьне спаць — важнае ўменьне ў гэтай сітуацыі.

— Вася, падцягні трошкі! Вася, харош! Вася, лаві! Вася, на месцы?

— На месцы, на месцы!

— Зразумеў!

Зэкі ў суседняй хаце «ганяюць каня»[4].

«Што тут тваё? — пытаецца У. у В. — Толькі г…, ды і тое толькі тады, калі ляціць».

Як заначкі[5] правяраюць пры вобшуку. Бяруць даўбешку драўляную зь метровай ручкаю, як дадуць па абшчаку[6] ці па нарах — усе заначкі з шчылінаў вылятаюць ці зьвіняць.

Пабудка: ключом па кармушцы — бразь!

«Осужденный, знай и строго выполняй правила внутреннего распорядка!»

Душ — цёмна-зялёныя сьцены, іржавыя трубы і саскі, выбітая плітка.

**Правілы ўнутранага распарадку сьледчых ізалятараў крымінальна-выканаўчай сістэмы МУС РБ**

Абавязкі асобаў, якія ўтрымліваюцца пад вартаю:

28.12. Зьвяртацца да супрацоўнікаў СІЗА на «вы»

і называць іх «грамадзянін» ці «грамадзянка» і далей па званьні ці па пасадзе ці «грамадзянін начальнік».

30. Асобам, якія ўтрымліваюцца пад вартаю, забараняецца:

30.2. Весьці перамовы, ажыцьцяўляць перадачу якіх-небудзь прадметаў асобам, якія ўтрымліваюцца ў іншых камерах ці ў іншых памяшканьнях СІЗА, перастуквацца ці перапісвацца зь імі.

30.6. Вырабляць і ўжываць алкагольныя напоі, ужываць наркатычныя сродкі, таксічныя і псіхатропныя рэчывы.

30.7. Гуляць у карты.

30.9. Рабіць сабе ці іншым асобам татуіроўкі.

30.13. Утрымліваць жывёлаў і птушак.

30.17. Абклейваць сьцены, абсталяваньне, якое знаходзіцца ў камеры, паперай, фотаздымкамі, малюнкамі, выразкамі з газет і часопісаў, рабіць на іх надпісы і малюнкі.

30.18. Пры руху па тэрыторыі СІЗА выходзіць з строя, паліць, размаўляць, зазіраць у камерныя вочкі, паднімаць якія-небудзь прадметы, націскаць кнопкі трывожных сігналізацый.

**04.09.2011**

Сьцены дворыкаў пакрытыя растворам унахлёп, калюжы на паўдвара, патрэсканы асфальт і лаўкі пасярэдзіне. Сьцены па кутах мокрыя і пазелянелыя. Зьверху — краты, бачны франтон-сьцяна, а з другога боку — сетка. Дах над галавой: палова — бляха, другая палова — сетка. Мы ходзім, адціскаемся, размаўляем, прысядаем, марым — чым будзем займацца, як выйдзем.

Зазірнула калідорная:

— Во, расклалі харчы на падваконьніку. На волі ежы не хапае, а вы тут раскашуеце!

— Халадзільнік дазволілі б у камеры, не было б такога навалу на вакне, — буркачу я ў адказ.

Шконка[7] — шэсьць жалезных палос і абвадная труба.

Ва́та[8] — якая ў каго, як і коўдра.

Туалет — цагляная сьценачка па грудзі, зьверху абвадны жалезны прэнт з падпоркаю, на ім — ванная цырата з рыбкамі.

Стол — каркас з жалезных трубак, зьверху — дошкі, пад імі — аддзелы-секцыі. З двух бакоў — лаўкі. Чатыры палічкі, паліца над ТВ, тумбачка. Ежа — на вакне і ў куце. Кешары[9], як свае, так і абшчакоўскія[10], з макаронамі і з гаспадарчымі таварамі: мылам, туалетнай паперай, мыйным парашком — пад шконкамі.

Каробачка пад пошту і скаргі.

Вешалка.

Лука выступае па ТВ, пагражае валютным спекулянтам. Хлопцы каментуюць. Адзін: «Усе ў турму!» А другі: «Месцаў няма. Занята».

«Што за мужык, каторы ня быў у турме?»

«Ды гэта я…а́лава, гэта не мужык».

Жартуюць. Адзін кажа на другога:

— Цюфяк лядашчы.

Другі адказвае:

— Дамоў ідзі, там высьпісься.

— Дык адчыняй дзьверы, я пайду.

— Ручкі няма, чацьвёрты год шукаю, а так бы выпусьціў.

Зранку дзяжурны мые рукі, забірае цукар у зялёным мяшэчку з нумарам камеры, напісаным ручкаю, чорны хлеб, затым белы хлеб і дыету.

«Чэрці» — беспрэдзельшчыкі.

Наколка: КЛЕН — Клянусь Любить Её Навек.

«Людзі “зашты́рыліся”» — ускрыліся[11].

«Падкручваюць пальцамі па-рознаму” (як гуляюць у нарды.

«Для таго, каб жыць у шчасьці, трэба красьці, красьці, красьці!»

Ігар зьвяртаецца ў «кармушку»[12] да зусім маладзенькай кантралёркі зь белай касой пад кепі:

— Дзевушка, дзевушка!

Тая адказвае тоненькім галаском:

— Я ня дзевушка, я дзяжурны кантралёр!

«Мент — гаёвы манекен».

«Мы як касманаўты на арбіце: і хацеў бы зьбегчы, ды х... зьбяжыш».

«Як хутка жыцьцё прайшло. Няхай бы яно **так** ляцела **тут**, у турме».

У малога была кароста. Забралі на бальнічку і сказалі, што гэта «турэмная хвароба»: алергія на ваду, на хлёрку.

«Тут важныя тры рэчы: курыць, варыць і атаварка».

«Буба́сы» — мак.

— Я вор!

— Які ты вор? Крадун я…аны!

Светла-карычневыя сьцены, шэрая бетонная падлога, белая столь, такі ж жоўты, як сьцены, абшчак, на талчку занавеска з рыбкамі — сіняя з жоўтым.

«Тэрміны даюць такія, як быццам бы мы чарапашкі».

«Зараз у турме ні кулак, ні х... не гуляе».

«Я старшы ў хаце, а не сматрашчы. Сматрашчым быць — гэта дах… дзялоў».

# КАРЫЧНЕВЫ СШЫТАК

## АРЫШТ

Заставалася апошняя школа[13]. Еду з дому ў Ракаў. Узяў пустыя слоікі ў пляцак. Метро — перад офісам «Вясны» папярэдзілі, што там круцяцца нейкія людзі, — вяртаюся (на ўсялякі выпадак).

Думаў, можа, чарговы вобшук[14].

На Круглай плошчы мужычок спыніў[15]. Пасьведчаньне паказвае, рукі дрыжаць. Уся каманда чакала ў двары. Паказалі пастанову на арышт.

Паднімаемся. Вобшук. Знайшлі дробязь грашовую, тасёмку з флэшкаю я перадаў[16].

Двое «маскі-шоу» і камермэн у падраных джынсах. Пагражае Адасю[17]. Забіраюць трохі папераў, грашовую дробязь, ноўтбук сяброўкі Адама і вінчэстар з прыбіральні[18].

Затым дзіўны вобшук у «Вясьне». Апісалі ў нашай кватэры тэлік, тут — ксеракс, факс. Забралі пару аркушаў папераў, а старыя ноўтбукі, што ляжалі ў канапе, пакінулі[19].

Дзяўчаты[20] заходзяць як журналісткі, іх выкідаюць, маскі паздымалі і праз дзьверы здымаюць дзяўчат, а самі хаваюцца ад здымкаў, здаровыя дзецюкі.

Каментуць: «Хтосьці фатаграфуе». Тацяна разьвітваецца.

Едзем у «кантору». Там Зьміцер і Касынкіна[21]. Першы допыт. Я адмаўляюся даваць паказаньні. Мяне вязуць «спаць» на завулак Коласа[22]. Едзем у цывільнай машыне. Начны жніваеньскі Менск.

Заводзяць у «абязьяньнік». Вузенькія лаўкі. П'яныя хлопцы, якія пабілі люстру ў боўлінгу. Крычаць, пагражаюць, у мянтоў скура сланячая. Праз тры гадзіны ўночы іх выпускаюць. Я сплю.

Зранку вяртаемся. Допыт другі. Я прызнаю рахункі, кажу, што даход — ня мой. Паведамілі, што ёсьць польскі рахунак. У мяне аж цямнее ў вачох. Выходзім на калідор. Адсопваюся.

Думаю: усё ж адважыліся хлопнуць. Нейтралітэт скончыўся[23].

Званок да Наталі. Прыехала з Ірынай[24]. Прывезла рэчы і ежу. Абняліся, пацалаваліся. Ірка цялёпкалася, паклікаў яе, і зь ёй абняліся. Падумаў, што, можа, і надоўга.

Едзем адразу на Валадарку, на Сапёраў[25] не вязуць. Яны кажуць — так лепей, цягаць ня будуць.

Валадарская брама, здача мяне, забор крыві і рэнтген. Праверка скуры. Рэчавы склад. Увесь час з ДФРа са мной «пухлы», штосьці з кілбасой хімічыў. На Расію перакідвалі.

Выдалі вату, коўдру і зэчку (алюмініевы кубак). Павялі на трэці паверх. 22-я хата.

Сказалі вату паставіць. Старшы папытаўся, патлумачыў. У мяне месца каля вакна. 16 шконак, 2 вентылятары, я — 16-ы. Паказалі, як абыходзіцца з выключальнікам у туалеце, дзе есьці. Я — больш гляджу, назіраю.

Гена Ракаўскі[26]. Распавёў, што хадзіў паўз нашу хату на рынак.

Начальнік УКСа Цэнтральнага раёна: «Адплацілі. Жонка дома ня бачыла, казала, бяры раскладанку і ідзі спаць на працу!»

Сакуб[27]. Хлопец з маім 243-м артыкулам, будаўнік: «Тут нас багата», — сьмяецца. Маладыя хакеры, кіраўнікі фірмаў, доктар-іранец, які вучыць нямецкую мову. Зладжаная мітусьня. Апетыту няма. Я тармажу з чысткаю зубоў — пакрыкваюць.

Першыя прагулкі.

## ПРАГУЛКІ

Прагулкі: выхад, звон ключоў, «Давай!». Спуск у падземны паверх замка. Ягонае апісаньне: скляпеньне, нежылыя хаты, зьлева недзе яшчэ адзін калідор…[28] Ідзём, рукі ззаду, затым выхад у дзьверы ў вежу, прамінаем. Наўпрост дворыкі пад нумарамі 1–10, двухзначныя — направа. Расьлінкі, коцікі, захляпаныя сьцены, цагляны дол у куце аднаго дворыка, сетка і краты, неба, лісты, лаўка. Улетку — адціскаюся і прысядаю, увосень — ходзім. Носім з сабой пляшкі з вадой, каб цягліцы працавалі. У маленькіх дворыках калюжы на паўдвара. Гучнае радыё а 15-й гадзіне.

Ходзім да абеду ў выходныя, пасьля абеду — у будныя дні.

Ігар[29] ледзь ходзіць, а мы бегаем. Ён скардзіцца: «Во, чаравікі запыліліся».

Тут можна размаўляць больш адкрыта, бо праслухаць цяжэй, хаця магчыма.

Дыхаю, бо баліць галава ўвесь час.

Налёпкі на сьценах — розныя, зялёная кветачка налеплена на сьцяне.

Ходзім доўга, дамаўляемся і на працягласьць, і на лепшыя дворыкі.

Жалезны люк у дворыку. Жартую: выхад на волю і назад.

Жартую: «Во, даць бы нагою,— б’ю, — каб мур задрыжаў і ўпаў… Свабоду!» — крычу.

Бачны шчыток-франтон корпуса, дзе трымаюць жанчынаў і няпоўнагадовых.

Перавязанае зялёнымі стужкамі цела Валадаркі[30].

Аднаго разу сварка афіцэраў і прапараў. Зьвялі ў адзін час разам у праходзе ў падземным лёху тры вывады. Прапар крычыць: «Ды за такія грошы!..»

Сухая восень.

Запляваныя куты сьценаў у дворыку, недапалкі, недакуркі ў сьценах тырчаць.

Глеб[31], які сядзіць і зудзіць на лаўцы.

Я з Максам[32] хаджу і распавядаю: «Ідзём па прасьпекце, ідзём да цырка». Макс пытаецца: «Куды наступны раз пойдзем?»

Я ўяўляю, як па горадзе шпацырую. Часам размаўляю з сабой.

Міша[33] ня ходзіць, не бяром. Валодзя[34] ня ходзіць — ня хоча.

Дзе на прагулцы шмат людзей, выходзяць у дворык і проста стаяць.

Надпіс на сьцяне ў дворыку: «Браты-цыганы, далі 3 месяцы за канакрадства. Жызьнь хараша! Лола, сука, укаціла на юга».

## ТЭЛЕВІЗАР, ГАЗЕТЫ

Лістапад — паездка пісьменьнікаў з афіцыйнага саюза «ў народ»… Паказуха аж да непрыстойнасьці.

Зьезд пісьменьнікаў.

«Зьвязда» — Наркевіч сышоў. Мова «Зьвязды», тэмы…

«ЛіМ» — я спачатку злаваўся, затым супакоіўся.

«Беларусы і рынак» — найлепшая.

«Камсамолка» — жоўценькая.

«Беларусь сёньня» (Саўбелка) — орган КДБ. Ардэнаносцы. Што там робяць Сьцяпан і Рублеўская[35]?

«БелГазета» — сьцябаюцца.

«Рэспубліка» — пустая.

Серыялы, якія глядзім: «Мілашка», «Чорныя ваўкі» (Бязрукаў).

Тэрытарыяльная абарона[36].

Таджыкістан.

Зямля (кантроль). Лука адчытвае Мясьніковіча: «Я — агульны кантроль!»

Зьмены ў кодэксе.

Вучэньні з расіянамі.

Рэклама «Ма́ры» (пральны парашок)[37].

Па тэлевізары ідуць БТ1 і БТ2. «Лад» — ёк, 1-ы канал — ёк.

Надвор’е па «Ладзе» — Панкратава[38].

Грэцыя.

Амерыка.

Расія — Пуцін–Мядзьведзеў.

## АГУЛЬНЫЯ ТЭМЫ (прававыя, палітычныя)

Сьледчы камітэт.

Ніжняя мяжа пакараньняў.

Пакараньне «не злачынцаў» — чаму тут і не падпіска, і не залог?

Чуткі — суды сталі больш справядлівыя.

Ардэнаноска Байкова[39]…

Мытны саюз. Стасункі з Расіяй.

Спадзяваньні на заканадаўчую ўніфікацыю[40].

Еўразьвяз — супярэчлівыя адносіны.

Беларусь. Улады. Мова, культура, літаратура. Правы чалавека. Жанчыны. Сістэма пакараньняў. Агульная сітуацыя ў краіне. Крызіс.

Напісаньне скаргаў. Паўлавіч піша сабе і Максіму[41].

Лукашэнка і кардынал. «Ждзём абарону нашых інтарэсаў». Валюта, адзіны курс.

Іншыя зьняволеныя-кандыдаты і Вус, Дашкевіч, Лобаў.

Ва ўсіх сьледакоў адна школа — Байковай. Справу зьляпіў і скінуў у суд.

Справа Грамовіча[42]. Апраўдалі 36 чалавек. Узровень сьледства. Людзі адсядзелі, быў фізічны прэсінг, выбітыя зубы, зламаныя рэбры. Апраўдаў вайсковы суд. Усе чакаюць разборак.

На Валадарцы, як пасадзілі Дуброўскага, былога начальніка, і Цэдрык адсядзеў у «амерыканцы» тры дні, болей не прасуюць. Баяцца.

Сёньня Лука, Дзіма[43] і Назарбаеў у Маскве Дэкларацыю аб эканамічным супрацоўніцтве падпісалі. У нас у камеры дыскусія. Я нервуюся, нясу на Расію. Казахам дзявацца няма куды, зьнізу Кітай. У Расіі выбары і амбіцыі. А мы што?

## УМОВЫ ЎТРЫМАНЬНЯ

Ляскат кармушкі ў 5:30, на выходныя ў 6:00.

Хлеб чорны, дыета і белы.

Калупаюць дакалупліўыя кантралёры, а так — сьпім.

У мяне вата і коўдра — ОК. Я на пальме[44].

У іншых — горшыя, а ў каго і па дзьве коўдры.

У 8:00 праверка (як гэта адбываецца).

Затым (ці перад тым) сьнедаем.

Затым хто што робіць. Хто сьпіць, хто піша, а хто чытае.

На суды — ці зранку ў 6:15, ці ў 8:30.

Абед пачынаецца гатавацца ў 12:30.

У 13:30 — абед.

У 14:15 — прагулка да 16:00, затым гарбата абавязковая

У 18:30 — гатоўка вячэры.

У 20:00 — агляд.

У 22:00 — адбой.

Прыкладна ў 11:00 — медсястра.

Да абеду водзяць уколы рабіць.

Да абеду і пасьля — паход да адваката.

У панядзелак у 9:00 — душ.

У 11:30 — лісты. У 12:30 — газеты.

Пасьля абеду — «кабан» (перадача).

З суда — 19:00. Па серадах — перадача лекаў, можа быць гадзіньнік ды інш.

Ляскат дзьвярэй зь лесьвіцы.

Рогат па выходных кантралёраў.

Раз на тыдзень — абход Цэдрыка, Варыкаша ды іншых[45].

Хаджэньні ў прыбіральню… (падколкі: «не раскалі фарфор!»). Апельсінавыя лушпайкі[46].

Ходзім гуляць у лістападзе па дзьве гадіны. Выгульваемся.

## ЕЖА

Дыета: сечка, пярлоўка, пярлова-гарохавы, малочны (зь сечкай ці макаронай) супы, бульба, кісель, малако, капуста.

Нашыя супчыкі, салаткі эксклюзіў.

Кіпяцільнік, лыжкі, талеркі.

«Кабан» зайшоў (перадачу перадалі).

Зэчка, вясло, шлёмка (кубак, лыжка, міска).

Халодная вада, ачышчальнік вады.

Атаварка — цукеркі, зефір, масла, шакалад, мінералка, папера туалетная, «пячэньне ў клетачку» — вафлі.

У «кабане» — мяса, сала, сасіскі, грэчка, рыс.

Салата: рэдзька + яблычкі + морква + мёд.

Кісламалочная вытворчасьць[47].

Лядоўні няма (хто просіць — едзе «катацца», — гэта значыць, перакідаюць з камеры ў камеру).

Гарбата чорная, зялёная (кітайская), кава мая і тутэйшы «Жакей».

Расійскія таблеткі з 7-месячным тэрмінам прыдатнасьці.

Сухое малако.

Чарэшні — Паўлавіч.

У суд — шакаладка, пячэньне ў клетку, вада.

Маю атаварку кантралёр перадае асабіста ў рукі.

Хлеб «палажняковы» і «вальняшны».

Розныя рэцэпты супу. Я — зеляніну не вару.

Дыету Паўлавіча — мяса ці тушонку — кідаем у суп.

Зранку ягоная дыета — масла, зь перадачак нарэзанае мяса ці каўбаса. («Скажам “дзякуй” нашым родным, а ня нам».)

У першых перадачках — «касякі»: вада, хлеб.

Максу перадачак зусім не было. Я пісаў на яго долю, Наталя перадавала.

## ХАТА, ПРАДОЛ, КАБІНЕТЫ

«Абажур»[48] гатовы.

Дальня́к — талчок, адгароджаны ваннымі шторкамі з рыбкамі. Шконка — праз сьцяну.

Кешары[49], жоўты стол-абшчак, сьцены, белая столь, бетонная падлога ў белыя каменьчыкі.

Аддзелы пад абшчаком.

Паліца зь лекамі, кнігамі і тэлевізарам, цукеркамі і ніткамі. Тумбачка — запасы ўсярэдзіне. Гарбатнік і ачышчальнік — на ёй. Калі гатуем — камаз[50] ставім

на месца ачышчальніка, у яго апускаем кіпяцільнік, закручаны цалафанам.

Як камазы запайваюць[51].

Начнік завешваем.

Ежа — на рэшцы[52], пляшкі з вадой — у куце.

Батарэя, на якой сушым шмоткі.

Краткі над дзьвярыма — вісім на іх.

Радыё палкаю зачапілі і вырубілі.

Бляшаны ўмывальнік, піпка, зь якой цячэ вада, зробленая зь цюбіка з-пад зубной пасты, балея і балейка (начовачкі). Зубныя шчоткі стаяць у абрэзаных пляшках з-пад вады.

На сьцяне — правілы распарадку.

«Кісламалочная прадукцыя» з малочнага супу.

Кешары пад шконкамі.

Мыем і падмятаем раз на два дні.

Тэлік віцебскі, маленькі, выключаўся, здалі ў рамонт.

## КНІЖКІ

Гінзбург, Караткевіч, Купрын («Алеся»), «Дзеяслоў», «Беларускі гістарычны часопіс»[53].

## ЛІСТЫ

## УНУТРАНАЕ Я

Я шмат пішу, магчымасьць, умовы дазваляюць.

Першыя два месяцы — чытаю, вучу ангельскую.

Затым рыхтуюся да справы.

Пішу іншым, што стаў лепшым, чысьцейшым, адбываецца тое, што апісвала Гінзбург, але не ў такіх умовах, бо тут лягчэй, і я старэйшы. Але тым ня менш тут нічога кепскага ня робіш, бо няма як, нічога ня просіш, ні з кім не дамаўляесься і ад цябе ніхто нічога

не патрабуе, ты нікому ні ў чым не абавязаны. Актыўней пачынае працаваць мозг, адраджаюцца навыкі, якія змарнелі. Уменьне марыць — гэта № 1. Адсутнасьць сьпіртнога ачысьціла мозг. Прымітыўны быт узьняў дух. Абвастрыліся пачуцьці — менш бачыш разнастайнага, затое лепш чуеш — любы шоргат на прадоле.

Тое ж — зь іншымі сядзельцамі. Усё заўважаеш. І ты таксама як на далоні.

І ўнутраныя пачуцьці аджываюць — зноў вучысься пісаць лісты, праз словы выражаць свае пачуцьці.

Пачуцьці становяцца больш складанымі, больш яркімі і шматфарбнымі: каханьне, сяброўства, прыяцельства, знаёмства, нелюбоў, нехаць — усё больш рэльефнае і больш важнае, незаезджанае штодзённай мітусьнёй.

Я значна менш размаўляю, больш думаю, перажываю, асэнсоўваю. У душы я памаладзеў. Штосьці падобнае, прыгадваю, адчуваў, калі мне было з 20 да 30 гадоў — у гэты перыяд.

І больш думаеш пра сваё месца ў жыцьці, пра свае «каардынаты быцьця».

Я зноў «пачаў размаўляць зь людзьмі», у мяне зьявілася жаданьне і час.

Я значна болей успамінаю — як яно было.

Праз тры з паловай месяцы я стаў больш упэўненым. Абжыўся. Вольна паводжу сябе ў хаце, размаўляю зь іншымі, з баландзёрамі і зь вертухаямі. Паспакайнеў і гляджу на сьвет ужо ня дзікімі вачыма. Паступова Валадарка стала домам.

Прачытаў у «Дзеяслове» ў інтэрв’ю з Бураўкіным: «Часта ўжо нічога не паправіш, гады мінуліся. Іх ня вернеш назад, але тое, што трэба было б больш цаніць жыцьцё, больш цаніць людскія адносіны, больш цаніць шчасьце яднаньня з прыродай, яднаньня зь сябрамі, яднаньня з высокай літаратурай, пра гэта цяпер думаецца ўсё часьцей і часьцей і з усё больш шчымлівай журбою».

Вось і ў мяне такія ж пачуцьці, але ёсьць упэўненасьць, што ўсё яшчэ можна выправіць і наладзіць, зрабіць сваё жыцьцё больш правільным і камфортным.

Далей Генадзь Бураўкін гаворыць: «Мае старэйшыя сябры расказвалі, як вайна абвастрыла іх пачуцьці, асабліва тады, калі яны пасьля бою траплялі ў шпіталь».

І я падпішуся пад гэтымі словамі. Пачуцьці абвастраюцца, калі трапляеш у турму. А потым, кажуць, усё мінае. І як гэта захаваць?

Пасьля суду пачуцьці мае прытупіліся. Чаканьне суду і прысуду зьмянілася на чаканьне этапу, які, па ўсім відаць, будзе неўзабаве.

## ІНШЫЯ ЗНАЁМЫЯ

Браты Кісялёвы. Ігарок Пажарыцкі, Андрэй Шэмбярэцкі, Макс Анкуда, Глеб Капшай[54].

## ЛАЗЬНЯ

## ІНШЫЯ, ХТО ТАМ

Ігар сядзіць на вочку, паліць і ліст чытае, шторку не зашмаргнуў, стомлены пасьля суда.

Я кажу: «І ў туалеце, як туды ідуць, ваду ўключаюць і шторку зашморгваюць».

Ён крычыць: «Алесь! Пад’ё…шчык!»

## МАЙНО, ПРАВІЛЫ ПАВОДЗІН

## МАРЫ

Гэта аднавілася. Памятаю, як я марыў, калі быў юнаком, у школе і ва ўнівэрсітэце. Затым тэмп жыцьця быў такім, што мары проста зьніклі, а зараз Саша[55]

напісала — і я зразумеў, што, не ўсьведамляючы, ізноў замарыў. І становіцца гэта даволі навязьлівым, але прыцягальным.

Пра што мае мары? Пра «Вясну». Вось мы легалізаваліся, вось мы ад дзяржавы «хатку» атрымалі, вось мы раскруціліся і ўсе лічацца з намі.

А таксама Андрэй[56] захоплена распавядаў пра Сакі, пра Крым, пра тое, што там можна будзе жыць больш працяглы час, пра мора, пра горы, пра Новы Сьвет ці Судак.

А яшчэ пра Вільню і пра Варшаву.

А яшчэ пра хатку ў Налібоцкай пушчы, куды буду прыязджаць у верасьні ці ў жніўні ў грыбы.

А яшчэ пра наш адпачынак з Наталяй дзе-небудзь у Турцыі, ці ў Іспаніі, ці ў Італіі і Партугаліі.

А яшчэ пра гулянку ў «Вясьне» і проста пра размовы з Адасём ці з Наталяй. І пра цёплую, задушную піўнуху з добрым півам. І пра прагулкі ў ракаўскім лесе і па прасьпекце Незалежнасьці.

Я мару пра сустрэчы з Наталяй і Адасём у Варшаве і пра нашую размову дзе-небудзь у кавярні.

Я мару, як мяне вызваляць — ці ў зале суда, ці адсюль, з Валадаркі, ці з зоны, куды я, верагодна, патраплю, — і адразу паеду да бацькі.

І яшчэ сасьпеў зрабіць свой радавод.

Мару, як мы зьбіраемся ў нас удома і прыходзяць сябры, знаёмыя. Як у Ракаве топім лазьню і зьбіраемся ў лазьні зь Сержуком і Эдзікам[57].

Я мару, як, смакуючы, выпіваю сотку добрага каньяку. А таксама як мы з Наталяй ідзём на балет, а таксама ў оперу і ў тэатр.

Усё больш мае мары — пра актыўны адпачынак і пра магчымасьць спакойна пісаць.

Мару, як я ў Ракаве корпаюся на агародзе.

## ПАДРЫХТОЎКА ДА СУДА

Пачалася, як пачаў азнаямляцца з справаю. Сядзеў, гартаў тамы, штосьці перапісваў, а таксама пазначаў старонкі, якія Зьміцер па дамове з Касынкінай адфатаграфаваў, а затым зрабіў ксера і перадаў праз сьпецаддзел мне. Я іх уважліва вывучыў.

Уразіў пачатак — першыя рапарты маёра, які вёў расьсьледаваньне, а таксама лісты Зайцава, Шведа і Вегеры[58].

Я зрабіў асобныя разьдзелы:

1. «Вясна».

2. Міжнародныя дакументы па правах чалавека.

3. Хада расьсьледаваньня.

4. Іншае.

5. Раздрукоўкі.

Пры бліжэйшым вывучэньні аказалася, што паўсюль на банкаўскіх раздрукоўках — пазнакі, якія гавораць пра тое, што сродкі ішлі ня мне, а «Вясьне». Мяркую, што і камітэтчыкам, і пракурорскім, і дэфээру[59] гэта было зразумела адразу. Але была замова — і ўсё пакацілася па наезджанай каляіне. Яны ж бачылі, што грошы не мае, але душылі. Хаця ведалі і ацэнкі, і пазіцыю замежнікаў.

А наконт спрэчак я туплю. Дасюль яшчэ (17 лістапада) ня ведаю падрабязна, што гаварыць. Зьміцер просіць, каб я напісаў. Заўтра буду складаць падрабязны план.

Рыхтаваўся, лічы, месяц, закінуў ангельскую, а Караткевіча прымушаў сябе чытаць. Але зусім не шкадую.

Я прагаворваю сваю прамову, ужо дзясяткі разоў. І некуды мяне заносіць, заносіць ня ў той стэп.

Калі пракурор запрасіў пяць, а адвакат — апраўдаць мяне, спрэчкі скончыліся. Мне засталося «апошняе слова».

Выступіў я, як мне падалося, даволі нармальна.

Толькі што канцоўка была недапрацаванаю. Сэнсоўнага акцэнту на канчатак я не прыдумаў.

І ўсё ж пачаў я з «нерэальнага»: такога ня можа быць. Бо ж супрацьстаяньне «КДБ — праваабаронцы» было 40 гадоў таму, мінула цэлая эпоха. А тут… паўтор гістарычны. Затым распавёў пра іншыя метады барацьбы (рэпрэсіі і дыскрэдытацыя), затым — пра хлопцаў зь беларускага КДБ. З такім сэнсам, што гістарычных высноваў яны ня робяць. Затым пра тое, што гэта сьпецыяльная дыскрэдытацыйная і рэпрэсіўная кампанія. Добра арганізаванае цкаваньне. Гістарычны кантэкст цкаваньня «Вясны». Затым пра КДБ-аўтарытарную сістэму ўлады ў Беларусі, яе характарыстыка. Далей: супярэчнасьць у тым, што яны не выконваюць міжнародныя пагадненьні. І цытаты з Канстытуцыі і міжнародных пагадненьняў. Далей: адносіны да праваабаронцаў — гэта як лакмусавая паперка (Узьбекістан, Расія, Кыргызстан). Таму «праўдападобнасьць» майго перасьледу — лухта. Ціск на суд. Афіцыйныя СМІ. «Вясна». 10-ы год.

## СНЫ

З 15 на 16 лістапада сьніў два сны (пігулак ня еў, таму сны былі вельмі маляўнічыя).

1-ы: вёска (зямля, набрынялая вадой, бялявая дзяўчынка).

2-і: як я на самакаце зь Менска да Бабруйска каціў (пасьціраліся колы, блукаў па вуліцах, шукаў выйсьця на цэнтральныя вуліцы, так і не знайшоў).

З 16-га на 17-га сьнілася, што я ў судзе штосьці доўга і нудна тлумачу па кожным факце.

## СУД

### 1-Ы ДЗЕНЬ[60]

Быў самы напружаны, бо напачатку ўсе былі ўзьвінчаныя. Хадайніцтва наконт мовы адхілілі. Далі перакладчыцу, затым пасьля разгляду хадайніцтва і пасьля перапынку судзьдзя[61] хацеў яе адхіліць, спытаўся, ці добра я разумею па-руску. Я адказаў: «А якое гэта мае значэньне?» Ён адступіў.

Распавядаць я нічога ня стаў. Пытаньні задаваў пракурор[62]. Бачна, што рахункі ён і сам толкам ня вывучыў. Я зьвярнуў увагу на «Вясну», гранты, грамадскую прыёмную, камандзіроўку і брашуру, выдадзеную ў Літве, пазнакі пра не мае даходы, якія былі паўсюль. Распавёў, як яно было на самай справе. Пазіцыя — па рахунках, пазіцыя — па людзях, распавёў пра «Вясну».

Судзьдзя — сіваваты, маладжавы, верхняя губа даўжэйшая за ніжнюю. Выгляд адкормленага труса ў чорнай мантыі.

Пракурор — непрыемная звычка аскальваць верхнія зубы, падцягваючы верхнюю губу. Як быццам бы хоча ўкусіць.

Я кажу гучна і выразна. Вымушаю іх рабіць гэтаксама, памятаючы з суда над Казуліным, што ў гэтай зале няма акустыкі.

18 лістапада пракурор, запінаючыся, перачытаў новае абвінавачваньне, што мы і прадбачылі.

Я набіраў інстынктыўна паветра паболей у грудзі, як перад скачком у ваду. Дзесь з абеду судзьдзя ўжо супакоіўся.

### 2-І ДЗЕНЬ

У 2-і дзень былі сьведкі. Добразычлівая цётка з банка, мужык-чыноўнік з Дэпартамента па гуманітар-

най дзейнасьці, які спачатку быў драўляным, а затым падабрэў і пачаў усьміхацца. З Лоева родам. Затым сьведкі-праваабаронцы.

Пракурор дастаў мяне, і я пачаў адказваць нахабна. Калі спытаўся, што зьвязвае з Палудам[63], я адказаў — піва п’ём разам. Ён сьцярпеў.

Затым Звозскава[64] выклікалі — зусім худы і глухнуць пачынае. Пракурор спытаўся пра яго. «У грыбы хадзім разам», — адказаў я. Зала засьмяялася. І калі Барыс быў на допыце, пракурор ня вытрымаў, спытаўся:

— Вы зь Бяляцкім Аляксандрам Віктаравічам хадзілі ў грыбы?

Зала ізноў засьмяялася.

— Так, бывала такое, — адказаў Барыс, заядлы грыбнік.

Але выглядае так, што, мабыць, у грыбы мы болей зь ім ня сходзім.

Алена[65] пазьней напісала, што калі б не пабывала раней у судзе, калі б не пабачыла мяне раней у клетцы, дык зараз расплакалася б.

Наталя прыйшла, элегантная, усьміхаецца на ўсе зубы. Судзьдзя ў яе пачаў пытацца месца пражываньня, а яна адразу пачала адмаўляцца што-небудзь казаць. Я ад радасьці, што ўбачыў яе, засьмяяўся. Яна таксама, а судзьдзя гыркнуў на яе.

Віця Сазонаў[66] выступаў як сьведка і прызнаўся, што ў «Вясьне», а Таццяна Равяка паведаміла, што працуе ў Доме правоў чалавека ў Вільні, а потым пракацілася перадачка па БТ ад Алесі Мураўёвай — і ДПЧ заблішчаў. Як яно яшчэ будзе? Усе спасылаліся на 27-ы артыкул Канстытуцыі.

Забыўся яшчэ пра цётак з падаткавай. Першай зайшла Анжаліка Анатольеўна[67], паглядзела на мяне спачувальна. Але гаварыла ўсё тую ж лухту. Гэта раз-

злавала мяне. Таму па банкаўскіх выпісках я яе паганяў — і яна паплыла, сказала, што грошы прыйшлі мне ад «Вясны»…

А з Барысам Звозскавым следчая яшчэ не магла разабрацца, ці то ён грошы пералічваў, ці то яму. І ў прынцыпе ў бюро ў рахунку памылку ляпнулі. Барыс паехаў у банк і ўзяў даведку, што ў яго такога рахунку няма.

Дзед з Дэпартамента па гуманітарнай дзейнасьці заявіў пракурору, што калі грошы ў Беларусь не прыйшлі, тады яны іх і ня бачаць і за іх не адказваюць. Той, мабыць, хацеў падвесьці справу пад парушэньні ў атрыманьні дармовай гуманітарнай дапамогі.

Дзяўчына з банка таксама расстроіла яго, сказала, што паперкі зь літоўскага і польскага банкаў несаліднfestive нейкія і не зьяўляюцца дакументамі.

У «стакане»[68] я ем шакаладку, пячэньне ў клетку, п’ю мінералку. Мянты ставяцца з павагай. Вязуць нязручна. Рукі ў кольцах ззаду. Сядзіш і ззаду яшчэ пакунак з судовымі паперамі трымаеш. Нязручна.

## 3-І ДЗЕНЬ

Чыталі дакументы. Пракурор ішоў па іх даволі падрабязна, але лісты КДБ наўмысна прапусьціў. Допыты сьведкаў, якія выступілі, таксама не зачытваліся.

У канцы дня я пасьля пракурора зачытаў тры дакументы — Вегеры, Зайцава і Шведа. І яшчэ раз сказаў, што справа мае палітычны кантэкст.

Гулак[69], паслухаўшы, сказаў: «Цікавыя дакуменцікі».

Затым наконт нашай машыны папрасілі зачытаць. Адвакат не знайшоў, дык судзьдзя зачытаў — 35 мільёнаў (запісалі кошт з маіх слоў). Адвакат сказаў пра гэта. «А колькі яна каштавала?» — спытаўся судзьдзя.

«Дзьве тысячы еўра зь невялікім хвастом»,— адказаў я. А вось адкуль на тэлебачаньні лічба ў 8 тысячаў даляраў узялася? З справы. «Кантора», мабыць, туды лічбу скінула.

### 4-Ы ДЗЕНЬ

Завяршэньне судовага разбору.

Пачыталі паперы — падаткавай пра мае даходы, якія яны накапалі яшчэ раней па ўсіх нашых прыватных куплях і продажах, а таксама акты агляду з розных беларускіх межаў. Прыйшло іх мала, літаральна дзьве-тры паперы. З купляй «сітраэна»[70] і з 150 баксамі. І ўсё.

Пракурор прадставіў іх, спытаўся, ці не знайшла Наталя іншыя копіі аглядаў. «Адпусьціце пад падпіску, — сказаў я, — тады прынясу». Народ засьмяяўся, і ён, гадзёныш, пасьміхнуўся.

Адвакат, у сваю чаргу, прадставіў паперы ад шведаў, ФІДШа, ОСІ[71], дзе было напісана, што ў іх няма ніякіх прэтэнзіяў да мяне. Затым пракурор заявіў, што ён мае новае, значна адрознае абвінавачваньне. Мы ўсе ўсьміхаліся, бо ўдалося хоць даказаць, што тое, што сьледства прад’явіла мне, — непрафесійнае. Падцёрлі нос Касынкінай.

### 5-Ы ДЗЕНЬ

Зала зноў поўная. Усе ківаюць мне, вітаюць, усьміхаюцца, я ім таксама. Пракурор узяў яшчэ адтэрміноўку на паўгадзіны, а затым зачытаў тое самае, але прапісанае больш дакладна і падрабязна. Словазлучэньне «асабісты даход» зьнікла, трохі фармулёўку зьмяніў. Я ўзяў пяць дзён перапынку на азнаямленьне.

**18 лістапада**

Было шмат прадстаўнікоў амбасадаў, для іх першая лаўка. Паківалі галовамі. З журналістамі ўсімі вітаюся. Генадзь Кесьнер, Сяргей Пульша, Іна Студзінская — усе ўсьміхаюцца, Таццяна Каліноўская — сумная такая. З міжнароднай місіі дзяўчыну ледзь пазнаў. Зь палітыкаў былі Анатоль Лябедзька, Юрась Губарэвіч, Аляксей Янукевіч. Зь сяброў — Вінцук, Сяргей Мацкевіч з Тамараю, Алена Валынец і ўсе нашыя. Пад'ехалі Жодзіна і Гародня, Павел Жук зьявіўся, Юля і Іркі. Язэп Янушкевіч быў «за брата», сказаў, што Наталя прыхварэла. Зала зноўку поўная. Пракурор сказаў, што «утро вечера мудренее», і папрасіў 20 хвілінаў для ўдакладненьня абвінавачваньня. Усе зашумелі, Зьміцер-адвакат сказаў, што ён такога яшчэ ня бачыў, Язэп — што Мясьніковіча зьнялі (ва ўсіх свае версіі), а Ўладзя Лабковіч штосьці пра 193-ю тлумачыў. Яны і такі варыянт прадбачаць. А былі яшчэ Валеры Шчукін і Раіса Міхайлоўская. І зь імі я павітаўся.

Пракурор зачытаў больш удакладненае і разгорнутае абвінавачваньне. Падчас перапынку мяне выводзілі ў кайданках. Аляксей жодзінскі[72] здымаў. А Пятровіч з Таццянай[73] так жаласьліва пaглядалі. Як на памерлага ці скалечанага. Я сябе такім не адчуваю.

У «стакане» цёпла і хадзіць можна. Тры крокі. Зьеў шакаладку. Запіў вадою. На парозе «стакана» кальцуюць, вядуць, трымаючы за руку ззаду і збоку.

У калідоры пры дзьвярах, у якія заходзяць, сядзяць трое амапаўцаў у чорным. Мянты падкрэсьлена ветлівыя, і голас у таго, хто кольцы здымаў-апранаў, дрыжыць. Хвалююцца. Ходзіць у зале нейкі тоўсты падпалкоўнік.

Вязуць з гаёвымі наперадзе і зь сігналамі. На суд ехала шмат народу, у «Хлебе» сядзеў разам з Кісялёвым. Назад — у «газелі». Галаву прыгінаў, каб ня

стукнуцца, бо пазамінулы раз ляснуўся галавою аб дах, калі перавальваліся празь «ляжачага паліцэйскага». Зараз бярогся.

Папрасілі азнаёміцца да 22-га (згодна з УПК, маем пяць дзён). Судзьдзя пагадзіўся.

Я сам сабе падобны на чырвонага чмяля, які папаў у раскінутыя цянёты нашага правасудзьдзя. Цянёты тонкія, амаль нябачныя, але з сталёвага дроту. Прарваў, здаецца, у адным месцы, але іншае павуцíньне спружыніла, утрымала і адкінула назад, а тут зноў заснавалі імклівыя лапы павука і зьвязалі-прывязалі яшчэ мацней і прыгажэй. У лагічнасьці і прыгажосьці сталёвай павуціны павука-пракурора ёсьць штосьці ад прыгажосьці і бязьлітаснасьці сьмерці. Я яшчэ буду торгацца і гудзець, але неўзабаве падпаўзе скурчаны павук-сьмерць і ўгоніць у маё аздобленае перапялёсае цела сваё джала.

Рыхтаваўся доўга, усё ўважліва перачытаў і вывучыў найбольш цікавае. Затым расьпісаў па асобных аркушах. Па тэмах. Гэта прыдалося. У Ігара навучыўся. Іна[74] была ў майцы з маёй выявай. Алена давала паказаньні, скінула сьвітку, засталася ў такой жа майцы і сказала: «Свабоду Бяляцкаму!»

Пасьля суда — аблягчэньне і задавальненьне. Адсыпаюся ўжо амаль тыдзень. Трэба зьбірацца на зону, а ўзімку ня хочацца.

**6-Ы ДЗЕНЬ**

Народ рэагаваў на мяне па-рознаму. У асноўным усьміхаліся. Уладзя быў скрыўлены, адчувалася, што палічылі яны з Валікам[75], што пасадзяць. Ізноў Палуда паглядаў, як на памерлага. Някляеў памахаў рукою: трымайся!

Быў Уладзя Арлоў[76], вялікі і кашлаты. Паспрабаваў паразмаўляць са мной. Мент адагнаў яго. Таксама

глядзеў на мяне, разьвітваючыся. І Артак[77] аднекуль. Няўжо столькі сядзеў у нас?

Спрэчкі. Пракурор пачаў пра «мировое сообщество», пра «процветающие страны», пра мяне, які «в некоторых сферах общества даже уважаемый». Казаў, што я вінаваты, што ўсё даказана, і запрасіў… пяць.

Пракурор Сайкоўскі падкрэсьліў подленька, што я атрымліваў «эканамічную выгоду». Апісваючы маю асобу, сказаў: «Даже не затруднял себя быть честным і выплачивать налоги». Назваў мае паказаньні «няшчырымі і няпраўдзівымі», а калі зачытваў паперы пра КДБ, зьвяртаўся да залы. Таксама сказаў, што недахопы па рэгістрацыі «Вясны» маглі быць выпраўленыя.

Усе замоўклі. І мне стала «волнительно». Усё ж запрасіў значна болей, чым чакалася. Перад гэтым я размаўляў з адвакатам, ён казаў, што 70% будзе «хімія», а 30% — што дадуць ад трох да чатырох. Бо ўсе ў турме казалі, што па гэтым артыкуле па першым разе ня садзяць, а даюць «хімію». Толькі калі «по беспределу», тады ўжо дадуць колькі заплануююць. Зьміцер адказаў, што загадваць баіцца. Але ў яго інтанацыях я адчуваў, што ён спадзяецца і на вызваленьне ў зале суда.

Ды пракурор раскінуў іншыя карты.

### 7-Ы ДЗЕНЬ

Кепска спаў. Прачынаўся мо зь дзесяць разоў і зноў засынаў. Завялі ў залу за паўгадзіны загадзя. У зале мо зь дзясятак камер. Я сяджу як дурань, мяне моўчкі здымаюць. Я тады ўстаў і павітаўся. Затым зьявіўся Зьміцер, і стала весялей, я зь ім паразмаўляў. Штосьці жывое для здымкаў зьявілася.

Пачалі запускаць народ. І вось тут я, як заўсёды, заўсьміхаўся, замахаў рукою, ажыў. Мянты таксама перагаварылі міжсобку, дамовіліся, каб адразу пасьля

агалошваньня прысуду вывесьці мяне як хутчэй. Я гэта ўлічыў таксама.

Зачытвалі ўвесь прысуд. Судзьдзя часьціў скорагаворкаю і вось наблізіўся да выніковай часткі. З залы: «Чытайце разборлівей!» Пачаў чытаць павольней і выразьней. І вось: чатыры гады і шэсьць месяцаў з канфіскацыяй.

Наперадзе сядзяць Вольга[78] з Наталяй. Вольга сумная, Наталя нармальная, усьміхаецца.

Як чыталі прысуд, Тацяна плакат узьняла. Плакат ФІДШаўскі са мной.

Скончылі. Мянты ўсе прысьпешваюць мяне, зала гукае: «Ганьба!» Як скончылі, я адно пасьпеў выгукнуць: «Жыве “Вясна”!» Хутка вывелі.

Як мянты прывезьлі ў турму, старлей спытаўся:

— Яшчэ ўбачымся?

— Наўрад ці, — адказаў я.

Пасьля працэсу Кацярына-перакладчыца пацiснула мне руку, сказаўшы Зьмітру, што яна пераканалася, што я невінаваты.

Везьлі назад на Валадарку зь дзяўчатамі, якія трындзелі ўсю дарогу.

«Хто ня быў у астрозе, кахаць ня ўмее».

«Дзелюга́» — крымінальная справа.

«Начнікі́» — тыя са зьняволеных, хто ня сьпіць ноччу.

«Ты каго турмою папужваеш? Мышонак!»

— Шаноўны суд! Шкада, што я не нарадзіўся птушкаю!

— Чаму?

— А тады б я насраў на вас згары!

«За дабро — дабром, а за зло — па заслугах!»

«Турма — ня хрэн. Сядай! Ня бойся!»

**10.10.2011**

Калі ў 2010 годзе былі расстраляныя А. Жук і В. Язэпчук, памятаю, як мяне ахапіла пачуцьцё абурэньня і бясьсільля.

Ужо год, як мы, беларускія праваабаронцы, распачалі і праводзілі кампанію супраць сьмяротнай кары. Мы замовілі сацыялагічнае апытваньне, якое дало непаганыя вынікі. Два замеры паказвалі ўстойлівыя лічбы. Амаль палова беларускіх грамадзянаў выказвалася супраць сьмяротнай кары. Калі ўлічыць, што дзяржава ў гэтым пытаньні заўсёды і пасьлядоўна займала агрэсіўную пазіцыю, дык існуючае грамадскае меркаваньне, якое сфармавалася насуперак афіцыйнай пазіцыі ўладаў, было неблагім.

Некаторыя чыноўнікі высокага ўзроўню таксама пазітыўна выказваліся па гэтым пытаньні. Я маю на ўвазе і старшыню Вярхоўнага Суда, і некаторых дэпутатаў, і, здаецца, генеральнага пракурора. Гэта таксама было добрым знакам. Бо ад нашага запалоханага і страшна заціснутага чынавенства ўвогуле цяжка дабіцца нейкага самастойнага меркаваньня, а тым болей калі яно яшчэ пярэчыць статус-кво.

Аргументы супраць сьмяротнай кары былі розныя. І калі простыя людзі часта спасылаліся на маральныя нормы, на хрысьціянскае разуменьне таемнасьці і сьвятасьці жыцьця, якое дадзенае Богам, дык чыноўнікі казалі наўпрост, прыводзілі палітычныя аргументы: трэба ўводзіць мараторый на сьмяротную кару, бо яе існаваньне перашкаджае Беларусі стаць сьпецыяльна запрошанай у Раду Еўропы. А ў хуткай персьпектыве, у выніку рэферэндуму ці адмены сьмяротнай кары, стаць і сябрам Рады Еўропы.

Да такога рашэньня іх падпіхвала таксама і пазіцыя ўсіх нашых краінаў-суседзяў, якія ўсе, нават Расія, ужо даўно ўвялі мараторый ці адмянілі сьмяротную кару.

У вачах цывілізаванага і нават ня вельмі цывілізаванага сьвету, маючы сьмяротную кару, Беларусь выглядала на нявыхаванага дзікуна.

Відавочным аргументам супраць сьмяротнай кары зьяўляецца тое, што нідзе ў Еўропе яе ўжо няма. І нават постсавецкія сярэднеазіяцкія сатрапіі, такія, як Узьбекістан і Туркменістан, былі вымушаныя адмовіцца ад яе.

Усе гэтыя абставіны стварали добрыя перадумовы для правядзеньня грамадзянскай кампаніі супраць сьмяротнай кары.

Падчас кампаніі абязьлічаныя асуджаныя на сьмерць дзякуючы нашым намаганьням пераўтварыліся ў жывых людзей. І яшчэ больш бессэнсоўным уявілася гэтае ўзаконенае дзяржаваю забойства.

Але, як высьветлілася, усе нашыя намаганьні і грамадскія інтэнцыі ў кірунку забароны сьмяротнай кары натыкнуліся на палітычнае рашэньне аднаго чалавека. Яму зь нейкіх прычынаў, пра якія можна толькі здагадвацца, была патрэбная гэтая сьмяротная кара.

У свой час пытаньне пра сьмяротную кару было вынесенае на рэферэндум, гэткім прычапным пытаньнем да іншых, якія дазволілі зьмяніць Канстытуцыю і зрабіць ягоную ўладу практычна неабмежаванай. Таму ўвесь блок пытаньняў, які быў у 1996 годзе вынесены на рэферэндум, у ягонай сьвядомасьці зьвязаны непарушна. Таму ён ня можа адмовіцца ад сьмяротнай кары і чыста па эмацыйных, забабонных матывах.

Яшчэ адзін аргумент, больш рацыянальны: адмена сьмяротнай кары паказала б слабасьць ягонай персанальнай улады, і гэта было б адступленьне ў выніку зьнешняга і ўнутранага ціску. А саступка нават у маленькім у аўтарытарных дзяржавах можа імгненна

прывесьці да разбурэньня атмасферы страху ў грамадстве і да радыкальных палітычных зьменаў.

У выніку мы пачулі катэгарычнае «не», і Жук зь Язэпчуком былі расстраляныя. У знак пратэсту чацьвёра праваабаронцаў выйшлі да Адміністрацыі прэзідэнта[79]. Менавіта туды, бо ягоная пазіцыя і была асноўнай прычынай гэтых расстрэлаў.

Нас былі асудзілі, але кампанія супраць сьмяротнай кары працягваецца. Дэмакратычнае грамадства ў гэтым пытаньні аднадушнае. Падчас леташніх (2010) выбараў у прэзідэнты практычна ўсе апытаныя кандыдаты — апаненты дзеючага прэзідэнта выказаліся супраць сьмяротнай кары.

Седзячы зараз на Валадарцы, дзе ўтрымліваюцца сьмяротнікі, а таксама дзесьці ў лёхах турмы адбываюцца расстрэлы няшчасных, я чую яшчэ адзін істотны аргумент. Сістэма правасудзьдзя ў Беларусі настолькі недасканалая, залежная і суб’ектыўная, што ані сьледству, ані судам няма даверу. У судах вельмі верагодныя памылкі.

Дзіўнай у гэтай сітуацыі выглядае пазіцыя праваслаўнай царквы і каталіцкага касьцёла. З аднаго боку, на пастаўленае наўпрост пытаньне: «як царква і касьцёл ставяцца да сьмяротнай кары» — мы атрымліваем адназначнае: супраць. Але гучыць гэты адказ ледзь ня шэптам, напаўголасу і з асьцярожнай аглядкаю на ўлады. У той час як ясная і выразная пазіцыя царквы і касьцёла магла б канчаткова схіліць вагі на карысьць забароны сьмяротнай кары.

Можа, гэта прымусіла б таго, хто так ганарыцца народнай падтрымкай і ўвагаю да меркаваньня народу, адступіць.

## ПЕРАДАЧКА

(на Валадарку)
сасіскі — 1,5 кг
разынкі — 0,5 кг
чарнасьліў — 0,3 кг
курага — 0,3 кг
арэхі (сумесь) — 0,5 кг
мяса вэнджанае — 0,4 кг
рыс, грэчка (у пакунках) — па 6 шт.
сала — 1 кг
рыба — 1 упакоўка
салата пекінка — 1 шт.
апельсіны — 10 шт.
мюсьлі — 1 пачак
каўбаса вэнджаная — 1 палка
буракі вараныя — 1 кг
зяляніна
прыправа для супу

грошы на рахунак — 1 млн.
лекі
~~адзеньне~~
папера — 0,5 пачка
парашок пральны
вялікія канверты і маркі для вяртаньня
зубная паста, мыла (3 шт.)
~~шалік, пальчаткі~~
~~спатканьне~~.

# ЧОРНЫ СШЫТАК

***

Гавораць пра будучае. І Макс штосьці кажа: «Вось як буду старым…»

— Не дажывеш, — кажа спакойна Валодзя. — Будзеш матляцца па турмах, падхопіш тубік і згнієш зь сярэдзіны, брадзяга.

***

Гавораць пра наколкі. У Макса выкалата слова: КЛЕН (Клянусь Любіць Её Навек). Ён кажа: «Дзесяць месяцаў адсяджу, хачу пагон сабе выкалаць».

— Ты што, ах…? — пытаецца Валодзя. — Пагон колюць тыя, хто дзясятку на зоне ўзяў. Да іх і ў масках «зялёныя» з асьцярогаю ставяцца. Выколвай павука, калі і далей зьбіраесься ісьці гэтай дарожкай. Павука на плячо з заходам на шыю. Гэта якраз па табе, брадзяга.

***

«У Жодзіне лісты “марозяць”. Тут хоць на тры дні, а ў Жодзіне людзі лісты па два тыдні не атрымліваюць».

***

«Тармазы́» — дзьверы.

Выкідаюць зранку з хаты ня «мусар», а — сьмецьце.

«Чэрці» — тыя, хто прэсуе.

«Усе размовы ў іх: курыць-варыць, на …уй — за …уй».

«З понтам пад зонтам».

«Зраблю, як у авіяцыі: спачатку ўзьлятаем, а там — паглядзім».

«Да …уя закону».

«Сонца сьвеціць вору, а не пракурору».

Макс распавядае: у газету «Адам і Ева» часта пішуць з МЛС (мест лишения свободы). Таму там у абвестках часта прыпіска: з МЛС просьба не пісаць: «Гэта ўсё злыя зэкі».

Распавядаюць мне «гісторыю пра танкіста», кантралёра, які накрываўся прасьцінай, ляжаў у сьнезе, лавіў і зрываў багром «коней»[80].

«Раней паражняк не ганялі. Калі б пагнаў паражняк, галаву адбілі б. А зараз толькі паражняк і ганяюць»[81].

Пра аднаго з афіцэраў, які раней працаваў на Валадарцы, распавядае Валодзя: «Сядзіць зараз Кузавок у “амерыканцы”, галава пакачваецца».

«Хазяін» — павук. «Хазяйка» — начальнік зоны.

«Турма-старушка, дай паграмушку» — так раней на рэшку ўставалі і «паганяла» прасілі.

Падколка пра «корм каня». Буханку хлеба навічку далі — на прагулку, каб «каня пакарміў»[82].

Яшчэ аднаго падвучылі спытацца на праверцы: калі ў хляраваны басейн павядуць?

«На пальме сядзець» — на другім ці на трэцім ярусе на нарах.

«Строгая хата» — камера з тымі, хто ўжо ня першы раз сядзіць.

Перваходка, втараходка.

Валодзя распавядае: «Як на зоне сядзеў, не хацеў працаваць. Дошку пад паху — і пайшоў на спортгарадок, затым у бібліятэку, шараё…іцца».

Па начох глуха стучаць «маякі». У кожнай хаты ён свой. Гук передаецца па жалезных шконках. Пазначаюць «дарогу».

«Хата перабіта?» — багата людзей.

«”Х…” зь мяккім знакам піша, а ўсё туды ж. Ня дай паесьці, а дай пакамандаваць».

Кешары пад шканар! (Торбы пад нары.)

«На паса́дачным сяброў не бывае».

«Гэта ж ня важна, у каго колькі за плячыма» (у каго які тэрмін).

«Палажня́к» — «паложаная» ў турме ежа.

«Перашы́ць» справу — зьмяніць артыкул абвінавачваньня.

«Дзелаво́» — справа.

«Дзіравая хата» — паганая камера.

«Рабочая хата» — камера, у якой «ганяюць каня».

«Увогуле, стала цяжка жыць. Ня тыя турмы і ня тыя зоны».

«У нашай хаце парняга сядзеў».

Вызываць «на громкую» — размаўляць гучна з кімсьці зь іншай камеры.

«Закідваць праз кармушку» (перадаваць штосьці дробнае ў камеру праз кармушку).

«Зялёныя» схапілі.

«’’Калхоз’’ (абшчак) зьбіраецца? Так, я перадаю дзецям лішкі».

Кíча — карцар.

Жалеза — зброя.

# АСОБНЫЯ АРКУШЫ

## ВАЛАДАРКА. ЖОДЗІНА, ТУРМА № 8[83]

Ходзім часам у душ. Ён на першым паверсе. Напачатку праходзім першы паверх, дзе відавочна сыра. У хатах вокны не зачыняюцца цэлыя суткі, бо адразу зьяўляецца вільгаць. Усе душы з двума ўваходамі і выхадамі. Вада ледзь ідзе. Перад гэтым мяняем бялізну — лядашчыя прасьціны і наўлічкі. Ручнікі зрэдзь. Мыем адначасова шкарпэткі і трусы. Хтось мые і майкі. Я — не, бо мне падаецца, што яны не высьціруюцца. Саскі і трубы ржавыя. Напор слабы. Але вельмі прыемна. І такой радасьці ў нас — раз на тыдзень. Было для нашай камеры, перад тым як мяне закінулі, часьцей. А як я зьявіўся, усё стала строга па раскладзе. Пасьля «лазьні» п’ём гарбату.

Сястрычка маленькая, чорненькая, спачатку афіцыйная і раўнадушная. Затым стала пазнаваць мяне, бо я кожны раз прашу пігулкі асьпірыну і валяр’янкі і «для сну». Для сну яна дае нейкія супрацьалергічныя. Дзейнічаюць. Сплю не прачынаючыся ноччу і зранку. Каб канчаткова прачнуцца, выпіваю кубак кавы. Яшчэ яна мерае нам ціск. Ён у мяне тут у норме. Празь яе

запісалі мяне і зрабілі ў бальнічцы УЗІ горла, а таксама схадзіў да акуліста, прымералі мне лінзы для акуляраў, падбіраючы шкельцы старым спосабам, і памералі вочны ціск, ужо новым. Замарозілі вока кроплямі, а затым прыставілі мернік, як маленькі малаточак. Усё ў норме.

Дзесь унізе ляжыць Зьміцер, якога прывезьлі зноў са сьпінаю. Апошні месяц ходзім гуляць з Санем па дзьве гадзіны. Неяк ён угаварыў вывадных. Добрыя дворыкі з 1-га па 5-ы. Затым 18-ы. І яшчэ пару, дзе можна хадзіць хай сабе і па пабітым і вышчарбленым асфальце ці нават проста па зямлі. А вось 10-ы — зусім ніякі. Люк завараны сталёвай паласою, а ў другой палове маленькага, 2 метры на 6 дворыка, стаіць калюжына. Не разьвярнуцца. Нас туды сьпецыяльна выводзілі пару разоў. «Будзем крапі́ць»[84], — кажа Саня. «Шуба» ў іх розная, накіданая ў розныя часы, пластамі, куты пазелянелі ад вільгаці, у дзірках тырчаць недакуркі і запалкі. Да муроў лепей не дакранацца. Запляваныя. А вывад ідзе праз лёхі-падвалы з падвальнымі хатамі старога корпусу. Дзесь справа там схаваная яшчэ адная галерэя. Гулка адбіваюцца крокі. Вывадны вечна бухнуты і абліты адэкалонам. Пустыя вочы, адбывае час.

Пасьля суда адсыпаўся. Было супакаеньне, спусташэньне і задавальненьне. Як вагон з цэментам разгрузіў. Грамадская думка цалкам на маім баку. Афіцыёз проста шалее.

Спатканьне было з Н.[85] Добра пагаварылі. Яна трымаецца выдатна. Замовіў сабе вопратку, лекі і перадачку. І нічога яна перадаць не пасьпела. Паехаў я на этап. Прыйшлі зранку, сказалі зьбірацца і вопіс рэчаў далі — верная прыкмета этапу. А тут і адвакат

прыйшоў, я яшчэ і да яго схадзіў, папярэдзіў, што выязджаю. Памеркавалі куды, вырашылі, што сюды.

Вярнуўся, па мяне ўжо прыходзілі, паеў разам з усімі супчыку, хацеў яшчэ на прагулку схадзіць — не атрымалася. Там у калідоры і разьвітаўся з Санем і Ігарам. Вось каму я не зайздрошчу. З торбамі спусьцілі мяне ў транзітку. Тут — групы па інтарэсах. Хто абмяркоўвае, як бубкі курыць-варыць, цэлая кампанія зь месячнымі тэрмінамі арышту. І народ зь перасудаў ды іншых судоў, куды іх прывозілі як сьведкаў.

Валодзя з Маладзечна, насаты вясёлы алкаголік зь беларускай моваю, зарэзаў брата-блізьнюка. Напачатку далі 9, потым 8, затым вось перасуд у абласным судзе і прызналі як самаабарону, далі паўтара. Вяртаецца ў Магілёў, дзе яшчэ паўгода даседжваць, але праз Жодзіна.

І я сяджу з кампаніяй, трое прыязджалі з калоніі на суд як сьведкі. Хлапцы драбнаватыя, гадоў па 25, двое зь іх — браты. Усе ў масьцях, прыблатнёныя. Прывозілі іх зь Віцьбы[86]. А зь імі і яшчэ адзін малы, зь якім мы зараз сядзім у камеры ў Жодзіне. Браты гэтыя атрымалі па 5 за «цяжкія цялесныя», адбылі амаль усё ўжо, вырашылі і далей блатаваць, таму сядзелі «да званка». Аказалася зараз, што пашкоджаньні былі не такія сур’ёзныя. Верагодна, будзе перасуд, але ім што — амаль усё ўжо адсядзелі.

Павезьлі ў «хлебавозцы» з Валодзем на пару. Распавёў, што грэх на ім за тое, што брата забіў, застанецца да канца жыцьця. Родам з Капыля. Сын таксама сядзіць, у Ваўкавыску, — суседа пабіў. Кажа, яму памалу там даюць, бо дужа ладны ды шустры.

Ехалі амаль гадзіну. Я меркаваў, што ўжо на месца. Не. Аказалася, толькі на перагрузку ў Калодзішчы.

Там — «сталыпін», вагон бяз вокнаў у купэ і з кратамі ўздоўж. Канвойныя мяне пазналі, ветліва пыталіся, колькі далі. Тады і я запытаўся: а куды едзем?

Прыехалі ўжо ў гадзіну. Пагрузілі нас пад брэх сабак зноў у «хлебавозку». Яшчэ трошку — і мы на месцы. Мяне асобна — у аднамесную. У суседнюю такую самую шасьцярых запіхнулі. Затым нáрыкаў пакінулі на першым, а мяне ўзьнялі аж на пяты паверх. Адзін, холадна, камера разьлічаная на дваіх, месца — нямерана. Батарэя халодная. А пасьля абеду закінулі да мяне і гэтага малога зь перасыльнай камеры. Затым першая працэдура шмону. Сасіскі, абгорткі ад цукерак пазабіралі. Паперы параілі здаць на склад, «каб не трапаліся» пры шмонах. Так і зрабіў.

Ужо тут выбраў я з двух магчымых дазволеных здымкаў Касю і Ваўка[87]. А чаму — ня ведаю.

Эпізод зь вітаньнем: «Здравствуйте, гражданин начальник!» І з разьвітаньнем: «Вопросов нет, гражданин начальник!» Заскочыў сяржант і пачаў вучыць мяне беларускай мове. Потым мы пераклалі і празь дзень казалі ўжо па-беларуску.

Напісаў заяву ў бібліятэку на беларускамоўныя кніжкі. Прыйшла сама і прынесла тры кніжкі: Шынклера, Варановіча і Сімянона ў перакладзе Ніны Мацяш[88].

Разьвітваемся:

— Вопросы есть?

— Пытаньняў няма, грамадзянін начальнік.

— А вопросы?

Зь дзевяці да дзесяці прыборка камеры. У нас і так чыста, мы прыбіраемся двойчы на тыдзень, і нам

хапае. Але прадольны ходзіць, пакрыквае, зазірае да нас. Сядзім з зэчкамі[89] ў руках і з анучкамі з жоўтым пяском. Робім выгляд, што кубкі чысьцім.

Два дні таму наладзілі і нам радыё. Крычыць са страшнай сілай. І пастаянна лекцыі перадаюць наконт розных артыкулаў КК і хваробаў (сухоты, СНІД і г. д.). Я нават затычкі сабе ставіў. Затым С. пралез рукой праз краты, вырваў дрот — і ўсё, ціха стала.

Штодень тут свае прыколы. У аўторак — абыход начальства. Апошні раз быў начальнік турмы. Увайшло чалавек пяць. Усе трымаюць гарызантальна ў руках гумовыя дручкі (мо так і трэба па інструкцыі), гатовыя да ўжытку. У цёплых бушлатах і зімовых шапках. Начальнік дзяжурна спытаўся, ці ёсьць пытаньні. Адказалі, што няма. «Усё ў парадку?» — спытаўся ён у выхавацелькі. Яна аглядала нашыя палічкі. На адной зь іх — ежа, на другой — капэрты, кніжкі і лекі. «Так», — адказала яна.

«До свидания», — сказаў ён, і яны рушылі. Мы прамармыталі штосьці ў адказ (таму што яшчэ не развучылі па-беларуску). Апошнім сыходзіў нейкі старшы лейтэнант. Спытаўся: «Вы тут надоўга?»

«Месяц», — адказаў я. Як быццам бы я ведаў…

Ёсьць тут і «дзень тэхагляду». Рэчы — на сярэдзіну, матрацы скручаныя — на лаўку. Кантралёры забягаюць і драўлянаю калатушкаю абгрукваюць усё жалезьзе: шконкі, абшчак, перагародку з дальняком. Гукі ідуць на розных танах, як ігра на арганах. Адначасова правяраюць, прамацваюць усе нычкі.

Лазьня лепшая за валадарскую значна. Проста сучасны душ, але вада рэгулюецца цяжка. Лазьня тут жа на паверсе, таму туды можна хадзіць у майцы. Дво-

рыкі чыстыя, падмеценыя. Прыходзіш зь іх, а яшчэ на пяты паверх, падэшвы амаль чыстыя.

Штовечар прызначаюць дзяжурнага. Кантралёр ходзіць і ў кожную камеру ў кармушку называе прозьвішча. Нам: «Бяляцкі!» Ты адказваеш: «Аляксандр Віктаравіч!» Ён працягвае: «Дзяжурны!»

Ваюем за зачыненьне форткі, якую праз сетку зачыніць немагчыма. Першая фортка зачыненая, адчыненая зьнешняя. Дзьме моцна, асабліва калі вецер сюды.

1. [90]Саня з Чыжоўкі. Скончыў вучылішча на механізатара. Трактарыст зь Сеньніцы. З моцікам — з раньніх гадоў, затым машыны адна за адной. Розныя — масквічы, запары, іншая фігня. Куплялі, каталіся, прадавалі і зноў. І тое ж моцікі.

2. Мяне паднялі ў камеру. Адзін, камера двухмесная, пыльная. Расклаўся, падмёў, яго закінулі.

3. Вада льецца не перастаючы ў дальняку. З вакна скразіць моцна. Днём батарэі халодныя — выключаюць. Затым дні праз два ваду зрабілі. Вакно — ніхто не бярэцца. Зь сярэдзіны сетка стаіць, да форткі не дацягнуцца.

4. Мы прастылі. Я — мацней, ён — меней. Зачынілі, прынесьлі ключ, толькі калі Андрэй зьявіўся.

5. Тут усё стражэй. Выхад — рукі за сьпіну абавязкова, ніякіх размоў. Ледзь што — запісы ў асабістую справу. Праверкі — усё па форме. На першай зайшоў прапаршчык малы, белабрысы: «Здравствуйте!» Я: «Добры дзень». Ён: «Здравствуйте!» Я: «Добры дзень!» І так разы тры. Я потым: «Добры вечар!» Ён: «”Здравствуйте!” нужно отвечать». Я: «Я размаўляю толькі па-беларуску». Ледзь на мяне не накінуўся.

Іншы калідорны праз пару дзён зьдзіўлена пытаецца ў кантралёра: «А гэта што за кабаны?»

6. Я завёў правіла, як дзяжурны, вітацца і разьвітвацца па-беларуску. Спачатку кантралёры тузаліся, затым як паглядзелі, што падчас абходу ў аўторак афіцэры — ОК, і яны супакоіліся. А адзін прадольны заўсёды разьвітваецца: «Жыве Беларусь!»

7. Затым зьявіўся сівы прапар зь цёмнымі кругамі пад вачыма: «Я не понимаю, я русский». Я адказаў: «А я па-руску ня ўмею». Пастаяў, памаўчаў, затым: «Собирайся с вещами!» Мажа, у СІЗА хацеў пасадзіць. Я сабраўся. Прыйшоў праз 15 хвілінаў, даў адбой. Мо пагаварыў зь іншымі прапарамі і тыя яму патлумачылі, што ў Беларусі дзьве мовы дзяржаўныя. Затым тлумачыў мне, што не разумее па-беларуску, на што я зноў адказаў, што і я па-руску не размаўляю.

8. Хата прыкладна метраў 12, даволі вялікая і халаднаватая як на дваіх. Першы прыход начальніка турмы быў цэлым дзействам. Прапары з дубінкамі ў руках наперадзе, ён пад аховаю. Кабета, якая сказала, што парадак «у бары» «задавальняючы».

9. Хтось на прадоле гучна вые-пазяхае, хтосьці мацюгаецца, увесь час нейкая «двіжуха», этапы ноччу, рассоўваюць з/к па хатах. Хаты перагружаныя. Там, дзе 15 шконак, разьмяшчаецца прыкладна 18 чалавек. Штоноч 3–4 чалавекі крэпяць.

10. Пасьля цапаньня з рускім прапарам і неверагоднай колькасьці лістоў і газетаў да мяне з боку прадольных і прапароў — рэспект, але ўсё роўна «тыкаюць». Старшына, які прынёс нам ключ, чарнявы, насаты. Яшчэ адзін вечна пасьміхаецца, на Колю з «Партнёрства» падобны[91]. Іншыя здараватыя, грузна-

ватыя. Адзін з прадольных ходзіць і сьпяцом па-беларуску размаўляе.

11. Лазьня-душ тут жа на паверсе, у параўнаньні з Валадаркаю зусім цывілізаваная. Толькі вада часам толькі гарачая ідзе, як кіпень, не ўстаяць.

12. Тэлік Мацкевічы[92] перадалі, робіць цэлы дзень з ранку да 22.

13. Вата, і падушка, і коўдра, і прасьціны — усё лядашчае. Вата — сапраўдная вата, падушка — маленькая, адно коўдра больш-менш, а была дзіравая. Андрэй сыходзіў, я ягоную сабе забраў, а сваю дзіравую здаў.

14. Тарабаніць званок на прадоле. У нейкай хаце чагосьці хочуць.

— Няма мяне! — крычыць у адказ прадольны.

Зноў звоніць званок.

— Не хачу работаць ні х…! — адказвае прадольны.

Званок змаўкае. Праз пяць хвілінаў зноў гучыць званок.

— Пакуль не пакуру, ні х… работаць ня буду!

Зноў званок.

— Вой, бягу, бягу, бягу! — крычыць прадольны.

Званок.

— Да-да, уваходзьце, — адказвае прадольны.

15. Дворыкі чысьцейшыя за валадарскія. Заход — з падвальнага паверха, і дворыкі атрымліваюцца пад зямлёй. Гуляем — каля гадзіны, а калі і болей ці меней. Куты чорныя ад пляўкоў і смаркачоў. Сонца толькі кранае верхнія берагі дворыка. Зіма. Учора гуляем, з суседняга крычаць: «Два-адзін-два!» Саня ў адказ: «Кажы!» Пачынаецца абмен інфой, хто куды ідзе. Затым чуем, як вывадны сяржант выстраіў суседнюю хату. Затым прыйшоў да нас:

— Выходзьце! — гэта мне.

— А табе што, размаўляць хочацца? Станавіся да сьценкі!

— Болей ня буду, — просіцца Саня.

— Стой! — камандуе сяржант.

Усе мае суседзі паляць. Таму ў дворыку становяцца бліжэй да берага-сьцежкі, па якой над галавой ходзіць кантралёр, і паляць. Цыгарэту праносяць з запальнічкаю ў шкарпэтцы.

16. На ўсё трэба пісаць заявы: на «ляпілу»[93] і г. д.

Атаварка. З кармушкі ўсё ляціць у камеру. Людзей у нас яны ня бачаць.

17. Бібліятэка. Прасіў беларускія кніжкі. Бібліятэкарка глядзела няўцямнымі вачыма. Напачатку прынесла, затым доўга не было, хаця я быў напісаў заяву на новыя кніжкі. Затым зноў прынесла, крыху болей уважлівай стала, як я напісаў, што сябра СБП[94].

18. Больш за месяц перхаю, соплі і г. д., прастуда. Напачатку злосная, затым слабейшая, але непраходзячая. І душы штотыднёвыя сваё дадаюць — скразьнякі, але што ж зробіш, мыцца трэба.

19. 16-га была Мацкевіч[95], абрадавала: аказваецца, у Івацэвічах у Лукі[96] пыталіся пра мяне. Адказаў: «Мала далі». Персьпектывы зразумелыя.

20. Ежа — супчыкі есьці можна. Зранку кашу ем, пярлоўка на малацэ. Туды цукар, масла і разынкі — і есьці можна. Днём часам расольнікі — салёныя гуркі зь пярлоўкай — нармальныя, а астатняе — г…: ці капуста з бураком, ці макароны, але ж ямо. Ці маянэзам забельваем, з салам і кетчупам на хлеб. Увечары — капуста, не бяром. Двойчы на тыдзень — бульба, бяром, нармальная. У дадатак — сьмярдзючы рыбны паштэт, не бяром. І салёная мойва маленькая, але пакалупац-

ца можна — бяром. Днём — гарбатка зь пернікамі і шакаладам ці пячэньнем у клетачку. Увечары замест капусты я заліваю кіпнем мюсьлі. Зранку — па два кавалачкі сухой кілбасы з гарбатаю да кашы. Хапае.

21. Натальля Г. прыслала «Запісы»[97]. Цяжкія. Прагляджу і адашлю дадому, бо торбы і так цяжкія. Лісты перыядычна адсылаю дадому. Па 25 у вялікім канверце.

22. Ангельскую зноў пачаў з другога ўрока. Кожны раз новыя словы. І зараз.

23. У «п’яных рулёў»[98] канкрэтныя псіхалагічныя праблемы, проста не разумеюць, што і да чаго. У абодвух мацярок не было. Іх трэба было б не сюды на год, а на грамадскія працы і абавязковае наведваньне псіхолага, які мусіў бы паспрабаваць стварыць для іх зразумелую сістэму каардынатаў. Саня — спакойны, сьпіць ды распавядае пра свае сеньніцкія работы ды розныя паездкі. Андрэй — неўтаймаваны, як Сыс[99], гародаў панабіраў, і лес на дровы сячэ, прадае, і на заводзе робіць, і агароды даглядае. За ўсё хапаецца. Жонка пілуе, бо ўдома не бывае.

## БАБРУЙСКАЯ КАЛОНІЯ. КАРАНЦІН

Антон, футбольны фанат, былы баскетбаліст, наркаман, распавядае: «Вось, шнар на галаве бачыш? Было так. Я выйшаў з кавярні і біцца пачаў з чатырма іншымі. Я п’яны, і яны п’яныя. І я аднаго, другога, трэцяга пабіваю, а чацьвёрты мне бутэлькаю па галаве. Сябры мае стаяць, сьмяюцца: давай, Антон, давай! Затым я яго пляшкаю агрэў. Назаўтра пайшоў у дзіцячую клініку зашывацца, бо ж я няпоўнагадовым быў. Вось у мяне шнар і застаўся».

Дзёня распавёў, як ён рыбаліў у Гомелі на сожскіх затоках за пятым мікрараёнам і ў двор прыносіў, бабулькам прадаваў. І як ад браканьераў уцякаў, і каля моста праз Сож лавіў. Сетку зь меха выпускаў, так што ніхто нічога зразумець ня мог. А працаваў сантэхнікам і на роварах пагарэў. У сябра з падвала дома два «Зубраняці» скралі, пакаталіся, а затым загналі іх.

Праверка начальніка калоніі. Ён упэцкаў руку ў разьлітую гарбату, і потым мы цэлы дзень жылі «па распарадку». Пазамярзалі ўсе.

Сёмага[100] была вечаровая праверка. Я стаяў усярэдзіне, затым мяне тарганулі, бо недакурак валяўся ў курылцы. Мы з Санем тугавухім былі дзяжурнымі, сьвяточна замялі яго, але маё месца аказалася ўжо занятым. Прыйшлося ісьці наперад. Паўгадзіны сталі, выслухоўвалі: «Внимание! В ИК-2 проводится проверка! Старшие бригадиры, вывести и построить людей в отведённых местах!» Затым зайшоў нейкі сяржант, запісаў нас. Затым заўхоз скамандаваў «готовиться к отбою». Вось тут я зь першага рада і рвануў, і ўвесь першы рад за мной. «Ты куды? — зьдзівіўся заўхоз. — Назад!» Гэта была зяпа.

А шостага ён мне сказаў зьбірацца з рэчамі на бальнічку. Я сабраўся, аказваецца, гэта ня мне, а іншаму бяляваму худому хлопцу зь нездаровым румянцам на шчоках. Прозьвішча ягонае Бяляўскі. Пераблыталі, а то я ўжо ўстурбаваўся. Прыйшлося скручаны ўліткай матрац раскручваць і рэчы раскладаць. Я забыўся сваю лыжку ў кешары, ляжала да вечара ў кешарцы. Еў пластыкавай, якую ўзяў у Антона.

Восьмага зранку бегалі па двары, грэліся, бо мароз стаяў моцны і пальцы на нагах адмярзалі. А пасьля, з 9 гадзінаў пацяплела. Было дзіўнае надвор’е: мінус 5

і сонца. Нашая цёмная вопратка рэальна награвалася. І чаравікі. У выніку перасталі мерзнуць ногі. Я задрамаў на сонцы. Зранку чырыкалі вераб'і, а потым некуды зьляцелі. Уначы было мінус 18.

# ЖОЎТЫ СШЫТАК

## БАБРУЙСКАЯ КАЛОНІЯ № 2

***

— Што сядзіш, як ляляк на шышках? — пытаецца Ш. у мяне.

— А хто такі ляляк? — перапытваю я.

— Доуд. Удод па-руску — адказвае ён.

— А чаму на шышках?

— Бо гнёзды ў яго зь яловых шышак. Ён вельмі іх любіць.

***

— Дзе ты быў?

— Можа, у туалеце, можа, на му́рзе[101].

— Так, я бачыў, на мурзе стаяў нехта, малаціў.

***

26 красавіка 2012 года. Бабруйская калонія. Па радыё «Магілёў-1», якое гучыць па радыёсетцы, перадаюць: «Поздравляем Александра Беляцкого из Бобруйска с 16-летием его любимого ребенка и просим поставить песню про весну».

Так мае калегі павіншавалі мяне. 16 гадоў таму мы «нарадзілі» Праваабарончы цэнтр «Вясна».

***

Упершыню пачуў:

— Вы чалавек ужо сталы, жыцьцё пражылі, таму вырашайце самі.

Мне 49 гадоў з паловай. І вось пачуў: «Жыцьцё пражыў...»

***

«Якая кармёжка, такая і я…ёшка».

***

Вось так пераўтвараесься ў зэка. Спачатку цябе ня ўкласьці спаць, затым табе ўжо падабаецца, а потым цябе ўжо не падняць.

***

Кодэкс маіх паводзінаў мне прадыктаваны. Але выснова: рабіце, як хочаце.

***

«Ды амністыю ўжо расьпісалі: цыганам па пяць, касякам па два, а мужыкам па году».

***

«Гэта касяковае ачко ці не? Ды ўрэшце пая…ць. Х… з далбану не расьце».

І сеў, запаліўшы цыгарэту.

**30 траўня 2012 года. Бабруйская калонія № 2**

Зайшоў П., сеў на ложак да Л., даў кулаком у жывот, пракаментаваў:

— Ну і пуза. Адзін кісель.

Пайшоў.

Л. гаворыць сам сабе:

— Чухае галаву, як быццам бы ў ёй штосьці ёсьць. Мазгоў як у канарэйкі.

***

«Калі мяне пасадзілі, табе яшчэ мамка сраку падцірала».

***

Вяршыня гумару: мурзілка[102], загорнутая ў «Трудовой путь»[103].

***

Гісторыя зь яблыкам і Л. і з цыбулькаю і М.[104]

***

Мая характарыстыка: «Обязательство не утверждено; в СООТ[105] не вступил; взыскания — есть». Вынік: спатканьне — 1 суткі, вынас са спатканьня харчоў — 15 кг.

***

«Бабу гэтую зловяць ды знахаляць».

***

Зэкі гавораць за амністыю:

— Два гады пабыў тут, здароўе паправіў, трэба на свабоду.

— Здароўе паправіў, а нервы папаліў.

— А я нерваў ня маю. Так што няма чаго паліць.

***

— У першую зьмену працаваць будзеце, а затым гуляць.

— Да, пагуляеш, як цялё на прывязі.

***

«Брыгада — тры касякí, два гáды».

***

«”Паняцьце”! Якое зараз паняцьце? Кавалак наждачкі на язык наклеіў і шукае, каму сраку лепей вылізаць. Стаяць два зэкі, і адзін гаворыць другому: “Я ведаю, зь якім мянтом дружыць, каб хутчэй на волю выйсьці”».

***

«Касяк на касяку, зборная — дзярмо і страна петушыная».

***

Панкрат показку распавядае:

— Унучак, я ўжо старая, як зубкі павыпадаюць, ты мне хоць хлебца дай.

— Бабулька, родненькая, я цябе так буду карміць, аж удавісься.

***

Агляд па атрадах. Пад музыку ваеннага часу, як на 9 Траўня.

— Мянты парад вырашылі сабе ўстроіць, — каментуе сядзелец.

У мяне пытаюцца, ці я ў аб’яднаньні, маючы на ўвазе, што нарукаўнага знака няма.

— Не, — адказваю я.

***

«У атрадзе 20 аматараў прыправы і 35 адчаюг».

***

Учора (14 траўня) хадзілі ў бібліятэку. Сказалі, што дыск да «Дзеяслова» аддадуць у клуб. Там фільм Віці[106] пра Чарнобыль.

***

Натачылі нажы, выціраў аб газету, зранку парэзаў палец, і кроў не спыняецца. Плястара ні ў кога няма. Дзіма даў нейкі бруднатаваты, сказаў — нармальны, ім вудзільна было заматанае.

***

Любімая прымаўка Мышкі: «Чых-пых мянту ў рот».

***

«Гэта табе ня конікаў з гаўна ляпіць, а затым галовы паадкусваць».

***

Зэк глядзіцца ў люстэрка. Другі каментуе:

— Што глядзіш? Як рогі адрасьлі? Бык ты!

***

Настырнасьць Насты[107] і сустрэчы з гэтай нагоды. Віншаваньні і наступствы яго на заўтра[108]. А затым пасьлязаўтра — мой нарад па секцыі.

Пустэльнік. Шызафрэнія — гэта заразная хвароба. Што рабіць, калі ў зэка багата вольнага часу?

***

«Не мяці мятлой!» (гэта значыць: не трындзі, не кажы няпраўду).

***

«Калі сучка не захоча, сабака ня ўскоча».

***

Стаіць кантралёр, трымае картатэку.

— Во, — гаворыць Панкрат,— ён неяк пахваліўся, што ў нас у вёсцы два чалавекі ў людзі выбіліся: я і мой брат участковы.

***

Тэлефанаваў учора Наталі, не датэлефанаваўся.

— Дык сотавы папрасіце, — жартуе Барысавіч, начальнік атрада. — Вам дадуць.

— Нашто мне па зоне бегаць? — адказваю. — Калі будзе патрэба, у вас вазьму.

— Дык нам не паложана, — адказвае.

А ў самога кішэнь адтапыраная.

***

Сітуацыя з вусьцілкамі.

— Пашый, — зьвярнуўся да мяне С.

— Я ня ўмею, у Віталіка папрасі. — адказваю.

Адстаў. Затое Віталік выказаў прэтэнзію:

— Чаго стрэлкі пераводзіш? Раней за жарт трымалі адказ.

***

Ужо хадзіў у нарад па сталоўцы.

***

У бабруйскай калоніі прачытаў я незвычайны раман Васілія Гросмана «Жыцьцё і лёс». Выпісаў сабе цытаты з эпізоду размовы гестапаўца Ліса з старым бальшавіком Мастоўскім у канцлагеры:

— *Когда мы смотрим в лицо друг другу, мы смотрим не только на ненавистное лицо, мы смотрим в зеркало. В этом трагедия эпохи. Разве вы не узнаёте себя, свою волю в нас? Разве для вас мир не*

*есть ваша воля, разве вас можно поколебать, остановить?..*

*— Мы наносим удар по вашей армии, но мы бьём себя. Наши танки прорвали не только вашу границу, но и нашу, гусеницы наших танков давят немецкий национал-социализм...*

*— А если победите вы, то мы и погибнем и будем жить в вашей победе. Это как парадокс: проиграв войну, мы выиграем войну, мы будем развиваться в другой форме, но в том же существе...*

*— Тех немецких коммунистов, которых мы посадили в лагерь, вы тоже посадили в лагерь в тридцать седьмом году. Ежов посадил их, и рейхсфюрер Гиммлер посадил их…*

*— Ваш террор убил миллионы людей, и только мы, немцы, во всём мире понимали: так надо!..*

*— Учитель, — сказал он, — вы всегда будете учить нас и всегда у нас учиться. Будем думать вместе....*

***

Спрабаваў даць пачак цыгарэтаў за прыборку лакалкі — не ўзялі.

***

Дзіўны ўзьбекскі хлопчык. Быў-быў, а потым зьнік[109].

***

«Матрас, матрас, дай хоць раз. Палак восем і болей ня просім».

***

Паганяла кантралёра: Маша-Саша-жопа.

***

Шмон з выкіданьнем століка, пляшак, фаянсавых кубкаў і дзьвюх коўдраў.

***

— Што за фільм? Сіські ды піські?

— Перадок, задок, а што зэкам яшчэ трэба?

***

Туалет — сядзеньне з прычындальлем напаказ. Сярэдні пісуар «не работает».

***

Трэцяя сьмерць за гэты час блізкіх мне людзей. Сямдзянава, бацька, Арына. Пішу ліст Вінцуку і дзецям — і сьлёзы цякуць.

***

Гісторыя, як Міхайлавіч пісаў сваёй жонцы, каб не чакала яго і выжывала сама. Яе забілі, ён жыве.

***

«Панты беспантовыя».

***

«Ганяць лысага» — займацца ананізмам.

«Касяка шавяліць» — мець полавы кантакт з гомасексуалістам.

***

27 красавіка. На трэцюю лаўку не пайшоў[110]. Ужо грошай не было. Але прыехала адвакатка.

***

Рукі ва ўпакоўшчыкаў чырвоныя, як гусіныя лапы.

***

Паглядзеў на татýхі, сказаў працягліва:

— Базару нет. Свой в доску.

***

Пайшлі ў прыбіральню, сядзім зь Лёнем, ён газуе.

— Не ўзьляці, Лёня, — жартуюць хлопцы.

— І тут спакою няма, — каментую я.

— Дакладуць Барысавічу, што разам паелі чагосьці, разам і на гаўно пайшлі, — сьмяецца ён.

Рэзкі пах мачы і гаўна.

***

У цэх заляцела ластаўка. Доўга лётала з канца ў канец, не магла сарыентавацца. Прысаджвалася згары на лямпы дзённага асьвятленьня, адпачывала, дзюба яе была разяўленая ў жаху. Але віртуознасьць палёту дазваляла ёй ня ўрэзацца ў сьценку, ня ўпасьці. Урэшце вылецела ў калідор, а там адчыненае вакно — і на волю!

Тут было суцэльнае стракатаньне машынак, пыл і задуха. А там — сонца і сьвежае паветра. Мабыць, падумала, што пабывала ў ластаўчыным пекле.

***

Юрась зь Вялікай Бераставіцы, а дакладней з Адэльска, бо ў Бераставіцы вучыўся і нарабіў дзялоў. 18 гадоў. Сядзіць ужо сем месяцаў, а ўсяго прывёз два гады. Малы, круглы, губасты, нагадвае хамяка. Ззаду на куртцы пад каўняром дзірка. Кажу яму. Ён адказвае: сьпецыяльна зрабіў, каб вешаць можна было.

У цэху музыка грае, папса, шансон. Юрка парадкуе рукавіцы і плямкае губамі, сьпявае сам сабе.

Пытаюся ў яго:

— Як табе тут?

— Падабаецца, — адказвае.

Юрка абшыў цёмную робу белай ніткай. Атрымалася як навыварат.

***

Хлопчык-зямляк са Сьветлагорска сядзіць. Пачынаем украдкаю размаўляць. Высьвятляецца, калі вучыўся ў тэхнікуме, быў на археалагічных раскопках у Казіміры пад Сьветлагорскам. Ведае і маіх знаёмых Сяргея Рассадзіна і Тэльмана Масьлюкова, якія там кіравалі раскопкамі. Беларусь малая.

***

Сядзяць зэкі ў кубрыку, гуляюць у даміно. Падышоў яшчэ адзін і стаіць каля кубрыка, паглядае. Яму кажа адзін з гульцоў:

— Падцірай сраку, хадзі ў хату.

***

«Люди, поверьте, мы живы тоской!»

Марына Цьвятаева, напісала ў 17 гадоў.

***

— Колькі прывёз?

Так у мяне спыталі ў бальнічцы, куды мы прыйшлі, як былі ў каранціне, здаваць аналізы.

— Што? — перапытаўся я.

— Сроку колькі?

— Чатыры з паловай, — адказаў я.

***

Стаіць, машына шые, башка ня варыць.

***

«Хлопцы вату не катаюць»[111].

***

«Не камандуй, не пры немцах».

***

Прыбірае хлопец, хоча газетку ўзяць пачытаць. Лічыць ня ўмее, вечныя прыколы на праверцы. Я кажу: нельга, бо атраднік прыйдзе, галаву адарве. Усе сьмяюцца. Распавялі мне, што ён і сам тупым нажом адрэзаў галаву ахвяры. За гэта сюды і патрапіў.

***

— Нах… ты іх зьбіраеш! Пустыя пляшкі! Перасíдак!

***

В большом и радостном Париже
Мне снятся травы, облака.
*Марына Цьвятаева, 1909*

***

2 красавіка. Я дзяжурны. Мыю прадол. Тады ж не адчынілі лакалку. Колькі выклікала размоваў.

***

Саня і Саня, — зьвяртаюцца ў першую суботу да мяне. Я цярпліва папраўляю: Алесь, Алесь.

***

Бальнічка. Доктар глядзіць маю картку і чытае: Бяляцкі Алесь Віктаравіч, хоць там напісана Аляксандр. Адразу бачна, што ведае, хто я.

***

Адзін зэк кажа другому:
— Яшчэ можаш паспаць гадзінку, пая…ць матрац.

***

«Васёк, ная…аў і ўцёк».

***

Званок — «банка».
Банку даюць на абед, на пастраеньне.

***

Шлёпала (недарэка)

***

— Я пабываў там і зья...аў.
— Куды?
— Чатыры вярблюды!

***

Налітая вазелінам рука Сярожкі.

***

Валера, строгі мой настаўнік на швейнай машынцы, у былым забойшчык гавяды на Аршанскім мясакамбінаце. А затым па п’яні вось так, зь лёгкасьцю, і чалавека заваліў.

***

Жоўтая прасьціна ў прыбіральні. Занавешвае драчыльню.

***

Бальнічка і мае акуляры.

***

Украінцы і іхнія балаканьні і смуткі.

***

Праўдалюбцы і хто я ў параўнаньні зь імі.

***

Філасофія маіх паводзінаў.

***

Эпапея з тэлефоннымі званкамі.

***

Скорагаворка ад Панкрата. Выдаў падчас праверкі:

Зварыла баба галапі…ду,
Паставіла на прапі…ду,
Аднекуль узяўся катапі…ду,
Паеў усю галапі…ду.
(Чачэрскі раён)

***

Кладбищенской земляники
Вкуснее и слаще нет.
*Марына Цьвятаева*

***

«У каго эканамічныя артыкулы — залог і — нах… з пляжу!»

***

Калі на «бэнтлі» прыязджаў, гэта значыць у наш час усе такія «прыкурваюць» з мянтамі.

***

«Папаў у пі…дарэз».

***

«Выскачыў з пражаркі».

***

Я лавіўся з К., з Л. і з М. (гэта значыць сустракаліся ў турме).

# ЗЯЛЁНЫ СШЫТАК 1

***

— Уладзь! — кліча зэк. Той засяроджана ўпакоўвае пагоны. — Прызнавайся!

— Чево? — пытаецца.

— Ты з-пад сучкі яйцы ўкраў? — пагрозьліва пытаецца зэк.

— Ідзі ты ў пі…ду! —адказвае ён.

— Фу, які ты гідкі! — дакарае зэк. — Будзеш хаміць, я цябе, як п’яную шлюху, па шчоках адхлястаю!

Абодва ўсьміхаюцца. Паразмаўлялі.

***

Хлопец зь Мікалаеўшчыны[112] сядзіць. Кажа, ззаду на краме ў вёсцы на сьцяне было напісана:

Мой родны кут, як ты мне мілы!
Як добра п’юцца тут чарнілы.
Высокі бераг, Нёман льецца,
Як добра тут чарніла п’ецца.

***

«Столькі год ня бачыліся, на х… сустрэліся…»

***

Косьця пытаецца ва Ўладзі:
— Матаблок[113], ты гома сапіенс ці не?
— Ідзі ты, Косьця! — адказвае той.

***

— Ты куды?
— Званіць.
— Сікіляўцы сваёй?
— Не. Дадому. Сала даражэйшае.

***

«Серп і молат — бяда і холад».

***

На цыганскай:
Лачо дэвыс — добры дзень.
Нанэ лавэ — няма грошай.
Явэн харэ — хадзем дадому.
Сыр дэлы? — як справы?
Яў састо — прывітаньне.

***

— Я табе глазья наб’ю! Во такія будуць, як у панды! Запалкі будзеш устаўляць, бо ні х… бачыць ня будзеш!

***

«Чуеш, што кажа: “Я сёньня не такі, як учора”. Таму што прысадзілі. Учора быў мужыком, а сёньня стаў касяком».

***

«Буду ганяць цябе, як жабу дубчыкам!»

***

У сталоўцы на слупе вісіць лозунг: «Лепшая прыправа да ежы — голад». Сакрат.

***

На цыганскай:

Шукар — добра.

Бібах — пагана.

Ту на панэса чачыпэ — ты мне ня скажаш праўды.

Гожа чай — прыгожая дзяўчына.

Чавэ — хлопцы.

Рома — цыгане.

Джукэл — сабака.

Напсіл мозгі — ня трахай мне мазгі.

***

— Ты ідзеш на матрацы[114]?

— Так.

— Дык там жа холадна.

— А што рабіць?

— Здымай штаны і бегай. Так цяплей.

***

На цыганскай:

П’ясам браінта, тхасам маро (мас) — будзем піць гарэлку і есьці хлеб (мяса).

***

Нататкі з нагоды прэміі Рады Еўропы:

1. Я ўпэўнены, што я яе ня варты.

2. Мы ўсе памыляемся. І тыя, хто дае, — у палоне ілюзіяў (крытэрыі няпэўныя, а намінанты недасканалыя). І я, бо пагаджаюся на яе і на груз адказнасьці.

3. У сьвеце існуе багата незразумелых і неспазнальных рэчаў, калі, напрыклад, нікчэмныя людзі становяцца правадырамі.

4. Гэта прэмія — з гэтага ж парадку.

5. Тым ня менш я мяркую, што такія прэміі трэба даваць.

6. Праблема ў тым, як патрапіць ёй у таго героя, які варты яе.

7. А ён ёсьць, я перакананы ў гэтым гэтаксама, як у тым, што гэта ня я.

8. Ён — невядомы герой, невядомы праваабаронца.

9. Адзінае, што суцяшае мяне і стрымлівае маю роспач, — матэматыка.

10. Закон верагоднасьці. Мяркую, што зь пяці лаўрэатаў хоць раз ды прэмія пацэліць у вартага.

11. Можа быць, той, хто быў перада мною, варты яе. Можа, той, хто будзе пасьля мяне, можа, ён сапраўды варты яе!

12. І я прымаю прэмію дзеля таго, каб падтрымаць гэтую веру — у тое, што ён ёсьць. Гэта — сапраўды невядомы праваабаронца!

13. Ён, як жаўнер, выпацканы ў брудзе штодзённасьці, і на ім ня бачна знакаў адрозьненьня.

14. Ён бясстрашны і адданы, бо ня раз рызыкаваў сваім жыцьцём.

15. Ён узьнікае тады, калі ў ім ёсьць патрэба, і зьнікае, калі ўсё сьціхае.

16. Ён адданы справе і перакананы ў тым, што робіць.

17. Ён творчы і здольны на ўчынкі, якія бураць правілы і законы. Ён іх устанаўлівае і разьвівае.

18. Яму нічога не патрэбна і ён ні на што не прэтэндуе.

19. Ён не славалюбны і мае задавальненьне толькі ад таго, што робіць.

20. Я ведаю: ён ёсьць сярод нас!

21. Дзякуючы яму і мы рухаемся, як караван вярблюдаў па пустэльні жыцьця.

**2012**

Выклік усёй секцыі 25 чэрвеня да аператыўніка. Пратас сказаў: «Я не пайду». Астатнія сабраліся ціха і моўчкі і пайшлі. Васільевіч вільнуў таксама: «Я на промку іду». Я ж, падумаўшы, папрасіў Барыса[115], і той завёў. Недагаворкі, замоўчваньні. Барыс: «Ты мужык ці ты пазногці грызеш?» Затым: «Прымай рашэньні за сябе». Размова была вельмі фармальная.

**27 чэрвеня.** Высяляюць Валеру[116] ў 2-і атрад. Сказаў: «Гэта з-за цябе, Алесь». Хто, што і як — незразумела. Дзьве асобы прыходзілі ўчора і сёньня. Прасілі «газеты пачытаць». Адмовіў. І чаго прыходзілі?

**28 чэрвеня.** Рэжымны аддзел праверыў секцыю дзесьці ў 8 вечара. Пазабіралі ва ўсіх і ў мяне коўдры, плітку, патэльню. Коўдра ў мяне вісела на вешалцы. Затым прыйшлі на «кабурку» (майстэрня, дзе вырабляюць скураную амуніцыю для міліцыянтаў) чацьвёра на чале з начальнікам. Я якраз сядзеў, думаў над тэкстам пра паэзію Уладзіміра Някляева[117]. Паглядзелі мае паперы, нічога не сказалі. Кішэні праверылі. У штанах у мяне іх няма. Працоўнае месца, дзе я сядзеў, усе скрынкі перабралі. Нічога не ўзялі. А што шукалі — невядома.

**29 чэрвеня.** Чакалі ў зоне начальніка ДІНа[118]. Усім сказалі хадзіць па форме. Чамусьці пайшла чутка, што разам з камісіяй едуць палякі і літоўцы, каб сустрэцца

са мной. Пракацілася адная з зэкаўскіх казак. Таму і тэлефанаваць хадзілі зранку, а не ў абед, як планавалася.

Я тэлефанаваў з карткі. Удома тэлефон маўчаў, датэлефанаваўся да Наталі ў метро. Паразмаўлялі. Затым хадзілі ў лазьню. Я там ня перу, таму памыўся хутка. «Камісія» так і не прыехала.

Пасьля абеду пайшлі на працу. Сядзеў я ў «кабурцы», ніткі зашморгваў. Прыйшоў майстар, сказаў ісьці «на касьцюмы» ў брыгаду на першы паверх. Абразаў ніткі на касьцюмах. Тут працуюць, у параўнаньні з нашай брыгадаю, майстры.

**30 чэрвеня.** Брыгада пайшла на працу на дзьве зьмены. Рамонт, тынкуюць сьцены. Мяне не ўзялі, ці не ўпершыню. Зранку памыў напачатку каляровае, затым белае. А потым прыйшоў днявальны Юра і сказаў, што ў 14:30 іду да начальніка.

Прыйшлі. Штось там перайгралася. Я напісаў тлумачэньні для цывільнага хлопца са сьпецаддзела на суд па іску Наталі аб падзеле маёмасьці. Ранейшыя тлумачэньні яны недзе згубілі. І мы пайшлі ў атрад. Менш клопату. Зараз будзе тры дні выходных.

Пасьля абеду падстрыгся. Сяджу, на лісты адказваю. Без Валеры ў секцыі стала вальней. А ён як адчуваў. Як толькі я засяліўся, ён адразу сказаў: «Алесь, з-за цябе дах… праблемаў у нас будзе». Як у ваду глядзеў.

**2 ліпеня.** Мыўся сёньня ва ўмывальні пасьля дзённай сьпякоты, змываў пот і мыліўся. Жэнька кажа: «Алесь, як мыесься, не паварочвайся да дзьвярэй задам, а лепей х…ем, бо зэкі гэта могуць так распісаць, што ты да іх задам паварочваесься».

У ПВРы[119] сядзім, тэлік глядзім, людзей багата.

Нехта прабіраецца па нагах. Коленька абураецца: «Вось, бляха, х... пакладзі, вывалі, дык і па ім, празь яго папаўзуць».

Загараем у лакалцы, з асьцярогаю. Як ідзе дзяжурны, усе майкі накідваюць. І я таксама.

Учора мералі біцэпс і паясьніцу. У мяне — 33 і 92.

**4 ліпеня.** Было цёпла і сонечна. Сядзеў на сьвежым паветры. Праз сілу пхаю ў сябе кашу. Пафарбавалі лаўкі. Былі карычневыя, сталі зялёныя. Пазаўчора Барысавіч[120] убачыў у мяне тату і сказаў: «Вы ж да гэтых сваіх наклеек нічога тут не дамалёўвайце». Вакула, сын Купліна, зьдзівіўся: «Во, ён цябе на “вы” называе». Вакула падарыў мне новае слова: кнопка — пінэска.

Чытаў учора і пазаўчора Амаду «Дона Флёр і два яе мужы». Цікавы гарадскі раман.

**5 ліпеня.** «Х… вам, а не пасылка!»

Хадзілі на атаварку. Гарачыня. Я — у апошніх шэрагах. Ужо злосьнік. Сваю суму ў 100 тысячаў дзялю напалам. Купіў кавалак сыру, кетчуп, пачак масла і марозіва, патраціў 53 тысячы. Усё ў адной руцэ панёс.

Пасьля абеду наводзілі парадак. Чакаецца і «хазяін», і нейкая камісія.

Паехаў на «хімію» Дзіма Р., бялявы хлопец з Гародні, расеец па крыві, гарадзенец па выхаваньні. Адсядзеў сем гадоў за наркату.

На двары ў лакалцы сабралася кола зэкаў. Пусьцілі кубкі з чыфірам. А ўдзень Барысавіч выклікаў і распытваўся, чаму пра яго ў інтэрнэце пішуць як пра сатрапа і што я як быццам бы сядзеў у ШЫЗА. Так яму казалі. Я адхрысьціўся. Адно сказаў, што адвакатка напісала скаргу на трэцяе спагнаньне. Сказаў, што там і Трутко[121] фігуруе.

**7 ліпеня.** «Ты што папутаў?»

Гарачыня. Як гульцы ідуць на праверку ці з-за мянтоў гульня спыняецца — «мянтоўскі расход».

На першым паверсе абразаў рукавіцы. Вопыту ў швейшчыкаў мала, браку багата. Усе па пояс голыя, адзін я ў кашулі. Абразаў цэлы дзень. На працы кормяць лепей, чым у звыклы дзень.

**8 ліпеня.** Раніца. Лёня хрыпатым дзікім голасам крычыць: «Прыгатовіцца к праверке!»

Пазаўчора на промцы сустрэўся з С. Спытаўся ў яго: «Ну, а ты ўсё стучыш? — Потым дадаў: — Малатком стучыш?»

Ад першага сказа ён аж падскочыў: «Да ты што, Алесь!»

**19 верасьня.** Я прылёг на шконку. Увайшоў Барысавіч, лёгка дакрануўся да пляча і сказаў: «Акт».

**20 верасьня.** У першай палове дня Барысавіч звадзіў мяне ў бальнічку. Доктар паслухаў мяне, ціск памераў, зьверыў тату. Здаровы. Спытаўся ў мяне між іншага: «Не магу зразумець, чаму вы такі вядомы». — «І я не магу» — адказаў я. Ён хітра ўсьміхнуўся, мабыць, не паверыў мне.

Зранку напісаў тлумачальную. Указаў, што ня спаў, а знаходзіўся «ва ўтрапеньні» — сьпецыфічны стан, блізкі да прастрацыі, медытаваньня, глыбокага роздуму, характэрны для беларусаў, як індывідуумаў, так і цэлых групаў, каб адысьці ад цяжкой рэчаіснасьці.

Таксама напісаў, што будзе неўзабаве 50 гадоў і саджаць у ШЫЗА — негуманна.

Трэці аргумент — маю пяць балаў у табелі ўліку заахвочвальных балаў.

Чацьвёрты — працую ў другую зьмену і ня маю «паложаных» для сну 8 гадзінаў.

Яны зь мяне прыколваюцца, а я што?

У абед — пакараньне. Разам са мной у атрадзе 14 «занавешвальнікаў», тых, хто на ноч занавешваў свае шконкі. А яшчэ і ўсе «профучотчыкі» з зоны, чалавек 40–50.

На вуліцы дождж, усе зайшлі ўсярэдзіну. Папярэдне сабраў пакунак з мылам, пастаю, туалетнай паперай, пантоплямі.

Спачатку пайшлі патэнцыйныя сутачнікі. Раскід ад трох да дзесяці.

Мая чарга.

Заходжу. Выпад начальніка[122] супраць беларускай мовы: «Справаводства ж па-руску. Пішыце па-руску». Адказаў: «Не. Як умею, так і пішу».

Начальнік: «Я пачытаў, мне спадабалася. Вы так усё граматна распісалі». Афіцэры сядзяць, маўчаць.

Начальнік: «Гм, сітуацыя няпростая. Выйдзіце». Выйшаў.

Стаю, чакаю. Барысавіч пытаецца: «Што будзе?»

«Пасадзяць, што», — адказваю.

Заходзім. Начальнік адправіў Барысавіча і пачынае наязджаць на мяне: «Багата сабе дазваляеце! Агледзеліся, асвоіліся! Выбралі лінію паводзінаў!»

Стаю, ківаю галавою. Начальнік: «Глядзіце, з ШЫЗА ня выйдзеце! І “отряд не заметит потери бойца”!»

Маўчу. А што казаць?

Выносіць спагнаньне: «Апошні раз! Пазачарговае дзяжурства». Гэта сёмае спагнаньне.

Выходжу. А што гэта было? Навошта было гарод гарадзіць? Чаму не ШЫЗА?

Чаму — стане зразумелым 25-га.

**23 верасьня.** Нядзеля. Ранішняя праверка. «Хазяйка»[123] ідзе па ўзьлётцы: «Чаму ў сушылцы разабраныя ложкі стаяць? Брыгадзір!»

Прыбягае Барыс: «Рамонт у секцыі. Фарба сохне».

«Хазяйка»: «Да аўторка каб прыбралі!»

Я думаю: у аўторак мой юбілей — можа, з гэтым неяк зьвязана? Як потым аказалася, не памыліўся.

**25 верасьня.** Пытаюся ў брыгадзіра наконт чыфіру, ці прастаўляцца. Ня ведае. Ідзём на працу. Перад гэтым перадаюць згорнутую газетку[124].

Сыходзім раней, пасьля атаваркі, на якую ў мяне ўсё роўна грошай няма. Праходзім кантралёраў. Пытаюцца: «Ідзяце 50 гадоў адзначаць?»

Прыйшло 23 лісты, паштоўкі, тэлеграмы. «Народная воля» — зь сьмешнымі цытатамі, якія я быў Ірыне[125] даслаў. Яны што, іх сур'ёзна ўспрынялі? «Алесь, вы наш талісман!»

У атрад заходзяць афіцэры. Запрашаюць мяне ў кабінет да Барысавіча. Пытаюцца пра сьпектакль пра мяне, які ў Швецыі ставяць[126]. Першы раз чую. Гэта як і байку пра тое, што сустрэчу з ксяндзом не дазволілі[127]. А я тут пры чым? Я разумею, пры чым. Але — а вы тут пры чым?

Глядзяць, як апрануты і абуты. Нармальна. Стрымана віншуюць зь юбілеем. Гэтак жа і адказваю. Кажуць: вас чакае прыемны сюрпрыз. Нікуды не адыходзьце. Добра.

Іду ў секцыю. Там цішыня. Разгром. Булік сядзіць у ШЫЗА за тэлефон. Пратас і Харок невядома за што. Рыжы бегае, псіхуе, яго рыхтуюць, сказалі: «Гатоўся».

Я ламаю галаву, якая мая ў гэтым роля.

Вячэра, аўсянка. Ем. Аўсянку я заўсёды ем. Вяртаемся.

Барысавіч бярэ мяне. Ідзём у штаб. Там пуста. Стаім на двары. Чую загад: «Схавайцеся! Эй, КБО[128], зайсьці ўсярэдзіну! Бальнічка!» Усе пахаваліся. Значыць, ідуць. А хто? Невядома.

І вось, сам «хазяйка», а за ім яшчэ адзін палкоўнік[129] і зь ім арцыбіскуп у чырвонай шапачцы, з залатым крыжам з небліскучага золата і падпяразаны чырвоным пасам. Зь ім — малады хлопец-ксёндз. Аказваецца — нунцый, амбасадар Ватыкана ў Беларусі[130]. Дазволілі ўсё-такі. І гэта пасьля візіту айца Юрыя, пасьля якога і быў складзены апошні акт.

Заходзім у кабінет начальніка. Палкоўнік гаворыць «хазяйцы»: «Ідзі». З загаднымі ноткамі ў голасе. Той хутка выходзіць, ня гледзячы ні на кога. Сустрэча будзе ў ягоным кабінеце, дзе мне выпісалі бальшыню актаў. І апошні. І дзе ня так даўно пры пакараньні ўскрываўся зэк.

Рассаджваемся. За прыстаўны столік сядае нунцый. Я іду сесьці насупраць, куды мераецца палкоўнік. Але я першы ўзяўся за крэсла. Сядаю і пытаюся: «Можа, я на вашае месца сеў?» — «На маё месца вы ня селі», — зь металам у голасе адказвае палкоўнік, з намёкам.

Я сьмяюся. Трэба мне тваё месца сто гадоў. Ён змушана пасьміхаецца.

Нунцый гаворыць, што прыехаў па даручэньні Папы перадаць ягонае бласлаўленьне. Я дзякую. Пытаецца, як мне тут. Кажа, што багата хто і з дыпламатаў, і з грамадскасьці хвалюецца. Я адказваю, што пра ўмовы ўтрыманьня гаварыць ня буду. Ня ў той сітуацыі знаходжуся, каб мог пра гэта казаць.

Гаварылі:

Пра стан здароўя. Здаровы і псіхалагічна, і фізічна.

Я распавёў пра візіт ксяндза Юрыя.

Пагаварылі пра беларускую літаратуру. Нунцый

устаўляе ў свае прамовы беларускія вершы. Я распавёў пра сваю кніжку. Пра сяброў-пісьменьнікаў.

Нунцый запытаўся, чым я займаюся і ці ёсьць час думаць. Я адказаў, што працую фізічна і зрэдку думаю. Сказаў яму, што з працоўнай сям'і і працаваць прывучаны. Ня буду ж пры палкоўніку расьпісваць, як і што.

Нунцый распавёў, што быў выкладчыкам і вучыў студэнтаў думаць, бо мала людзей, якія ўмеюць думаць.

Я падзякаваў за візіт. Сказаў, што гэта першы аптымістычны крок. Мо будзе і другі?

Нунцый сказаў: у нас такі падыход. Ня ўсё на Захадзе добра. Калі так усё далей пойдзе, то цывілізацыя скончыцца.

На гэта я заўважыў: у нас праблемы фундаментальнага парадку — грамадзянскія і палітычныя правы. Але на другім плане — дыскусіі пра аборты і пра гомасексуалістаў. І галоўнае тут — дыялог, а не канфрантацыя. Беларусь — постсавецкая краіна. Галоўная праблема — адсутнасьць традыцыйнай маральнасьці, разбуранай камуністамі.

Нунцый адрэагаваў: я ведаю, што гэта такое, бо дзевяць гадоў быў нунцыем у Закаўказьзі. Зараз выбары ў Грузіі. Каб там хоць вайна не пачалася.

Ён: Што перадаць амбасадарам і зацікаўленым?

Я: Што здаровы і аптымістычны. У Беларусі ўсё будзе добра, але трэба папрацаваць. Сказаў, што сяджу мала, усяго 14 месяцаў, і што мне адразу сказалі, што тэрмін у мяне маленькі.

Ён: Колькі?

Я: Чатыры з паловай.

Ён сьмяецца.

Я: І яшчэ. Вялікі дзякуй за падтрымку.

Ён распавёў пра асобую пазіцыю Ватыкана.

Я — пра знаёмага кубінца, які адсядзеў пяць гадоў у турме, а потым Папа прыехаў на Кубу, і іх, болей за сто палітзьняволеных, пасадзілі на самалёт і адправілі ў Канаду.

Ён: Буду ў кастрычніку ў Папы. Што перадаць яму?

Я згадаў Уладзю і амерыкаца на судах. Як той, калі яго не пускалі ў суд, строга спытаўся ў мянта: «Што перадаць пóслу?» — «Перадайце прывет», — адказаў вясёлы мент.

Я: Гэта найвялікшая падзея ў маім жыцьці. Увага і клопат Папы пра нас. Перадайце маю ўдзячнасьць і што ён слушна ўсё робіць (як і Някляеў мне пісаў: «Алесь, ты ўсё слушна робіш»). Будзем спадзявацца, што ягонае заступніцтва за палітычных зьняволеных у Беларусі дасьць плён.

Разьвіталіся. Абняліся.

Ён кажа: Да сустрэчы.

Я: На свабодзе.

Яны сыходзяць. Я стаю прыбалдзелы. Заводзяць мяне ў атрад. Распавядаю ў секцыі. Гарбель[131] змрочны бегае. Пры сыходзе Барысавіч пытаецца: «Ну што, прыемны сюрпрыз?» — «Каб толькі пасьля яго на ШЫЗА не заехаць», — адказваю. Хаця насамрэч — бяз розьніцы. Пасьля такой сустрэчы гатовы і заехаць.

І яшчэ. Пры самым разьвітаньні, ужо на вуліцы, палкоўнік, які сядзеў з намі ўсю размову, кажа нунцыю: «Каваленка і Сырамалотаў вызваленыя».

Барысавіч, як яны сышлі, і кажа мне: «Дык, можа, і вы напішаце? Удома будзеце хутка».

Я: «Ды я лепей здохну, чым напішу».

У атрадзе ўсе працягваюць шугацца[132]. Вось дык дзень нараджэньня!

А ўвечары і ўначы ў секцыю заходзілі, правяралі,

ці сьпім. Я аўтаматычна зрываў шапку кожны раз — не паложана. І ўсьміхаўся ад пражытага дня.

Р. ціха пытаецца адрас, хоча напісаць, а ці дапаможа гэта яму?

Уражаньні ад нунцыя — прыемныя. Багата гаварыў, але й слухаў. І акуратна задаваў тыя пытаньні, на якія хацеў атрымаць адказ.

# ЗЯЛЁНЫ СШЫТАК 2

## 2012

**29 ліпеня.** Развагі пра Сержука Сыса[133].

Паклікалі ў кешарку[134]. Размова наконт лядоўні[135].

**30 ліпеня.** Братва сярод апазіцыі зараз толькі і засталася. Працягваюцца развагі пра Сыса.

**31 ліпеня.** Аперацыя «лядоўня». Высьвятленьне (разборкі) з Камаром[136].

**1 жніўня.** Шторка[137].

**3 жніўня.** Хрэсьбіны[138]. Сплыла мая перадачка.

**4 жніўня.** Алімпіяда.

**5 жніўня.** «Адстрэлілі» за скібку хлеба. На вячэры. І яшчэ колькі чалавек[139].

Азаранка і Мірны — гульня супраць ангельцаў, і — золата[140].

**6 жніўня.** Пісаў тлумачальную па хлебу. Хадзіў у санчастку. Ціск 130 на 80.

**7 жніўня.** Вадзілі «хрысьціць» да «хазяйкі». Забралі кароткачасовае спатканьне.

**8 жніўня.** Гарбаты хадзіў да Кісяля[141].

**9 жніўня.** Гаварылі з другім (намесьнік «хазяйкі»). Пытаўся, ці не зьбіраюся я «адкопваць сякеру вайны». Чуткі такія пашлі. Сказаў, што не зьбіраюся.

Па Еўраньюс прайшоў сюжэт, зьвязаны з гадавінаю адсідкі.

Эрыксана[142] вырашылі выкінуць. Журналісты пішуць, што «паспрыяў» гэтаму і візіт Ларын у амбасаду, і маечка, якую яна апранула на сябе[143].

**10 жніўня.** Пятніца. Лазьня. Стрыжка. Выварочваю і разразаю пагоны для эмчээсьнікаў. Міністры замежных спраў ЕС сабраліся на надзвычайную нараду па Беларусі ў зьвязку з выкіданьнем шведскіх дыпламатаў. Якое будзе рашэньне?

**13 жніўня.** У першую зьмену працую, у другую — нарад па сталовай. На працы сёньня Панкрат распавёў показку:

Дзед з бабаю ляжаць на печы. Дзед гаворыць: «Вось, баба, жыцьцё пражылі, а ня бачылі, што там. Давай пацікавімся». Баба рассунула ногі. Дзед паглядзеў і кажа: «Во прысады якія, як уваход у царкву!» Пасьля баба ў дзеда паглядзела і кажа: «Вось пан, на дзьвюх падушках ляжыць. Раней у царкву хадзіў, а цяпер ня хоча».

**15 жніўня.** 4 жніўня абвешчаны Міжнародны дзень салідарнасьці зь беларускімі праваабаронцамі. І вось трэці дзень, як ідуць мне паштоўкі з розных краінаў. Сёньня быў дзень Швецыі. Марцін з Сафіяй[144], усяго 8 паштовак. А Марына Статкевіч напісала, што запрасіла «жонак і матак» і будуць сьвяткаваць дзень народзінаў Міколы[145] і пра нас гаварыць». Бр-р-р.

**17 жніўня.** Душ на промцы. Гарачая вада і нікога.

**18 жніўня.** Працы няма. Проста сяджу і пішу лісты.

**19 жніўня.** Нядзеля. Цэлы дзень пісаў лісты.

**20 жніўня.** Панядзелак. Абход. Дасталі з спартовага кутка плеценыя з брызентавых рамянёў гіры, мяхі з цэглаю і два камені. Пагрузілі на вазок «касяка» і вывезьлі.

**21 жніўня.** Хадзілі на 101-ю[146], перакідвалі аполкі з пахіленага кораба ў новы. Затым схадзіў на КП-2, атрымаў удакладнены іск. К. пытаецца: «Ну што, на свабоду?» — «Не, — кажу, — яшчэ рана, пад зіму пайду». Прыслала Наталя прадмову Карла Гершмана да кнігі[147]. Вельмі ўзьнёслая, а я занадта там ідэальны.

**22 жніўня.** Распавялі мне.

З тонежцаў кпяць:

— Дзядзько, стобка гарыць!

— А даўно яна гарыць?

— Пакуль мы з вамі будзем гаманець, то і хата выгарыць!

І гэта адтуль:

— Дзе була?

— У лес хоіла.

— Ну і як?

— Хоіла, хоіла і нічого не выхоіла.

**23 жніўня.** Прыязджала доўгачаканая «праверка». Зайшла і ў наш атрад. І выйшла. Учора кашу з тушонкаю ўвечары давалі.

**26 жніўня.** Нядзеля. Пішу лісты. Воля працягваецца (ня ходзім на працу).

**27 жніўня.** Распавялі показкі, як у Воршы ў калоніі адзін зэк зубы кіслатой ачысьціў, а другі токам зубны нерв вырашыў забіць. Забіваў зварачным апаратам. Ачомаўся на трэці дзень: «А што гэта было?»

**4 верасьня.** Прыйшоў Рудзік, псіхіятр[148], і ўпакаваў Рыжага.

**6 верасьня.** Гарбаты прад’явіў мне за гэта, я яго паслаў. Папярэдзіў: «Глядзі, будзе бяда». Усе напружаныя, чакаюць працягу.

**7 верасьня.** У «Народнай волі» зьявілася прадмова да кнігі[149], цікава, як яна паўплывае на маё існаваньне. Званіў дадому. Часам пры размовах пачынаем буксаваць. У перагаворным пакоі вісяць на сьцяне цы-

таты: «У таго, хто вырашыць вывучыць усе законы, не застанецца часу іх парушаць». Гётэ. І «Усё, што схавана зараз, раскрые некалі час». Гарацый. Ці эстэты своеасаблівыя, ці цынікі. Не магу сказаць дакладна.

Хадзілі забіраць заказныя лісты ў штаб. Перад уваходам правілы паводзінаў у штабе. Адзін з пунктаў: «Ведите разговоры вполголоса, на пониженных тонах». Унізе падагулена: «Помни! Соблюдение этих правил позволит найти понимание ваших проблем представителями администрации и ускорит их решение».

**9 верасьня.** Сёньня ў Менск прыехаў старшыня ПА АБСЕ[150]. Ясна, што будзе размаўляць пра нас, мо каго і выпусьцяць.

Заходзіць Барысавіч у секцыю і пытаецца ў Буліка:

— У ШЫЗА пасадзіць?

Той:

— За што?

— Было б за што, дык у ПКТ пасадзіў бы.

**10 верасьня.** Уначы і зранку холадна, нацягваю ўсе сьвіткі, якія ёсьць. А ўдзень сонца, як улетку, пячэ. Усё неяк супакоілася.

Зэк кажа: «Кладуся спаць, шчыра кажучы, у сьне мне цікавей, чым тут слухаць усялякую ху…ю. У сьне я як удома».

**11 верасьня.** Прыязджала адвакатка Натальля[151].

**12 верасьня.** Зрабілі заўвагу на праверцы за туфлі «неустановленного образца» і за «Народную волю» пад падушкаю. Склалі акт за туфлі, якія насіў чатыры месяцы.

**13 верасьня.** Хадзіў на «хрэсьбіны» да начальніка. Запісаў «гутарку» і папярэдзіў: апошні раз. Вось і ня вер пасьля гэтага Каэльё, таму, што ён пісаў пра знакі[152]. Гэта быў знак пасьля прыезду Натальлі. А можа, і пасьля візіту ў Менск старшыні ПА АБСЕ.

**14 верасьня.** Прыйшла ўся брыгада. Думалі, што будзем працаваць на трэцім паверсе, але наверх яшчэ не пусьцілі. Засталася палова, астатнія пайшлі ў казарму.

**16 верасьня.** Троху прастыў, таму фізкультураю не займаўся. І другі раз стаяў у шыхце і прапусьціў правяральніка.

**17 верасьня.** Зранку ў 5 прыходзіў «хазяйка». Запісалі з атрада 14 чалавек за шторкі. Сёньня пасьля абеду будуць хрысьціць.

Чытаю «Гісторыю аднаго цуду» Дубаўца[153], яна мне проста душу выварочвае.

Усю размову тут можна пабудаваць на наступных фразах: «Ты што-та папутаў!», «Не чудзі!», «В натуре», «Завалі я…ала!»

**18 верасьня.** Прыходзіў ксёндз Юры[154]. Паразмаўлялі 45 хвілінаў. Тэлефанаваў Наталі. У Адася бралі пункцыю пасьля ўкусу кляшча. Мяне гэта хвалюе. «Народная воля» друкуе Валераву кніжку пра мяне.

**19 верасьня.** У 14:40 ціха-ціха зайшоў Барысавіч. Я ляжаў з павязкаю на вачах. Драмаў. Ён ціхенька пакратаў мяне за плячо. Сказаў: «Акт». А я адказаў: «Я ня сплю, а думаю». Позна.

**20 верасьня.** Напісаў, што я «ўпаў ва ўтрапеньне», стаў утрапёным, што хутка будзе 50, што маю 5 балаў заахвочвальных і недасыпаю паложаную норму. Да абеду звадзілі на асьведчаньне ў бальнічку, а пасьля абеду «памілавалі». Што і да чаго — ня ведаю, але добра, бо на вуліцы — дождж і холадна. Але сказалі, каб «не нахабнічаў». Што мелася на ўвазе — ксёндз гэтым разам? А тыдзень таму — адвакатка?

Пайшлі лісты зь віншаваньнямі. «И отряд не заметит потери бойца». У бальнічцы мне мералі тэмпера-

туру, стопнік паставілі. Прахалодна — а ў мяне з-пад пахі, дзе стопнік стаіць, пот сьцякае.

**22 верасьня.** Зранку дождж. Вільготна і мярзотна. Пятніца. Стрыжка і лазьня. В. кажа: «Я б тут усім наркаманам даў бы скрыню гераіну. Няхай усе падохнуць». А другі гаворыць: «Слухайце пу́ка, цяпер нюхайце».

**23 верасьня.** Спаць кладзёмся. Гарбыль размаўляе з Аленаю[155] праз вакно. Аленка на вуліцы:

— А! Што? Ты чым займаесься?

— Мне яшчэ ў прыбіральні памыць трэба.

— А мінет зробіш?

— Не. Заўтра хіба.

— У колькі?

— Пасьля дзесяці. Закурыць дай.

— Зараз. «Вінстан». Ах ты, сука, на!

**25 верасьня.** Вось мне і 50. Сёньня прыязджаў папскі нунцый. Сустракаліся ў кабінеце ў начальніка, адкуль яго папрасілі і дзе пяць дзён таму мяне ледзь не адправілі ў ШЫЗА. Прыязджаў нунцый па асабістым пасланьні Папы. Улады дазволілі сустрэцца. Пры сыходзе сказалі яму, што вызвалілі Каваленку і Сырамалотава. Дылевіч[156] кажа: «Можа, і вы?» Я: «Лепш я здохну, а не падпішу».

**29 верасьня.** Прыйшоў з промкі ў чужых зэчках. Зранку ў сталовай падзывае пузанчык (афіцэр) і кажа: «Хацеў пераканацца, што з вамі ўсё добра, бо ў інтэрнэце пішуць, што вы ў ШЫЗА». Вынік адмененых званкоў. Наталя, мабыць, зрабіла такія высновы. Другі побач стаіць: «Дык мы можам гэта хутка выправіць». Пажартаваў, мянтоўскія жарцікі. Пасьля, як прыйшоў з промкі, да вечара праўся. Выправў ватоўку, куртку, бялізну і робу. Пральны парашок скончыўся.

**30 верасьня.** Пішу адказы на віншаваньні. Някляеў павіншаваў: «Дарагі Алесь, зь юбілеем! Можна і ў

турме быць у жыцьці, і на волі быць у небыцьці. Ты ў жыцьці. Мы цябе чакаем. Абдымаем. Вольга і Ўладзімір Някляевы».

**1 кастрычніка.** Прыязджала адвакатка Натальля. Думалі, што я ў ШЫЗА сяджу. Сказала, што далі мне прэмію Леха Валэнсы. Наталя езьдзіла яе атрымліваць. А потым Барысавіч гаварыў, што вось такія чуткі ў нэце і правакуюць сітуацыю. Наўрад ці.

Панкрат жартуе падчас праверкі, прагаворвае:

«Піцень, піцень,

Ку́ста, ёй!

Цурка́йка, а-а-а!»

«Што гэта?» — пытаюся.

«Салавей сьпявае, — адказвае, —- ці хлопец зь дзяўчынаю ў кустах кахаюцца».

**2 кастрычніка.** На працу не хадзілі, сядзеў, лісты адпісваў. Суды падыходзяць да канца. Прачытаў, што ў «Галерэі Ў» на 25 верасьня была прысьвечаная мне вечарына. Прыйшоў «Новы час» з эсэ пра Сержука Сыса. Прачытаў, і са скаротамі мне падабаецца. Напісана ад душы. Атрымаў чарговае рашэньне суда аб «хвосьціку» падаткаў за 2011 год.

**3 кастрычніка.** Прыйшло аж 209 паштовак з украінскай Эмнесьці з падтрымкаю. І нашыя яшчэ дапісваюць. Усяго такім чынам каля 600 паштовак. Зь іх прыкладна 300 зь Беларусі. Вось, імкнуся адказаць на ўсе. Пішу днямі.

**5 кастрычніка.** «Ты што, ігнаруеш мяне»?

Лістоў і паштовак прыйшло ўжо каля 700. І сёньня прыкладна 30. Яшчэ даходзяць.

**7 кастрычніка.** «Без му́ткі чаю, а “на отношениях”».

Сьпяваюць па радыё: «Падает в небо ласковой негой». Гарбаты ходзіць ужо трэція суткі і сьпявае: «Па-

дает в небо ласковый негр». Пытаецца: «А “нега” — ёсьць такое слова?» Усе ў задуменьні, ня ведаюць.

Хадзілі тэлефанаваць. Пагаварылі з Наталяй. Укус кляшча выклікаў у Адася інфекцыю. Ходзіць зараз з вокам заклееным, паўплывала на зрок. Наталя адыходзіць ад нагрузак, зьвязаных з паездкаю ў Польшчу.

Пятроўна[157], атрадны касяк, нясе гарбату ў прыбіральню. Я сяджу на талчку. Ён становіцца на батарэйную трубу, крычыць у вакно: «Гэй, п…с, ты дзе? Бяры, п…с!» — падае гарбату Алене праз фортку на двор.

Срака агляд праводзіць на ўзьлётцы, крычыць пра нейкага зэка: «Дзе гэтае цела?»

А я адказваю на паштоўкі. Яшчэ прыкладна на сто трэба адказаць. Першы і апошні раз узяўся за гэтую справу.

Гена[158] прыходзіць званіць першы раз. Яго ставяць на 5-ы апарат. «Ідзі, — каментуюць, — гэта табе не заводам камандаваць».

Адзін зэк сказаў: «Людзі як г…о, ты іх топіш, а яны ўсплываюць».

Падышоў В. і сказаў, што яго Барысавіч запытаўся: «Ну як там твой сябрук пажывае?»

«“Нах…й-зах…й, пі…р-сідар” — як вы тут увогуле адзін з адным размаўляеце»?

**10 кастрычніка.** Прыйшоў Жэнька, мые, прыбірае і паўтарае тое, чаму я яго ўчора навучыў: «Кветкі!», бо ён казаў «цвяточкі». «Кветкі, — кажа, — кветачкі!» С. сядзіць, п’е каву, пачуў, каментуе: «Недада́вак». Жэнька сядзіць ужо 13 гадоў. У Гомелі адрэзаў галаву нейкаму, як ён кажа, «гусю», які быў моцна маці пакрыўдзіў.

**13 кастрычніка.** «Гэта вам ня ца́цкі-пэ́цкі і не сьмехуёчкі!»

Тры ночы хадзілі ў начную, выварочвалі мяшэчкі.

Норма — тысяча штук. А ўдзень спалі. І сёньня адсыпны. Ноч працуеш, днём сьпіш. На іншае зусім часу няма. Усё ж узьнялі мне трэму з прэміяй[159]. Усе гэтыя дні міжволі круцілася ў галаве. Таму, можа, і добра, што спаў днямі, не было асабліва калі «ганяць». І вось учора ўсё вырашылася. І зноў, як і мінулыя разы, у 2006 і 2007 гадох, — справядліва. І ў мяне камень з плячэй упаў. Сектар для асабістага жыцьця застаецца.

Вярнуўся Рыжы з кічы, зьнікла паўпачка цыгарэтаў за гэты час. Яго не было пару тыдняў, працягвалі яму «адпачынак». Усчалі разборкі, вырашылі, што Чахол узяў, хоць ён і не прызнаецца.

**14 кастрычніка.** Пасьля абеду прыйшоў Барысавіч і вышурудзіў увесь гардэроб. Ш. спаў, яго строс са шконкі, праверыў, ці заклееныя вокны і загадаў усім выносіцца зь секцыі з матрацамі і тумбачкамі. Ледзь адгаварыліся. Увечары тэлефанаваў Наталі. Сказала, каб я быў асьцярожнейшы ў выказваньнях.

**17 кастрычніка.** Вызваляецца зэк. Хлопец адсядзеў 11 гадоў. Пасьля суду, дзе зацьвердзілі датэрміновае вызваленьне, далі патэлефанаваць тры хвіліны. Распавядае: «Пазваніў дадому, мамцы кажу: “Заўтра прыеду”. Яна перапытвае: “Заўтра прыязджаць?” — “Не, — кажу, — я сам заўтра прыеду”».

Евангельле ад Яна (8-57). Іўдзеі: «Табе няма яшчэ 50 гадоў — і ты бачыў Абрагама?»

**22 кастрычніка.** «Рыжы пёс, насраў у авёс і крычыць: “Яечка зьнёс!”»

Учора была нядзеля. Папраўся, ліст дапісаў, Рубінчыка[160] пачытаў.

**25 кастрычніка.** Зранку зацяплілі батарэі. Выдатна, а то пару дзён апошніх было вельмі вільготна і халаднавата ўжо. Я ж не дачакаўся. Схапіла крыж, разагнуцца не магу. Іду сёньня ў бальнічку, на працу не пайшоў.

**26 кастрычніка.** Прыходзіла падаткавая. Склалі адміністрацыйны пратакол за нявыплату падатку ў 2011 годзе, які я мусіў выплаціць у 2012-м, седзячы ў турме.

Прыйшлі лісты — стаў я ганаровым грамадзянінам Парыжа.

**30 кастрычніка.** Чытаю «Нашу веру». Ксёндз Адам Станкевіч гаворыць: «Ці ж мы толькі вечна будзем гнуцца і плакаць і наракаць невядома на каго, што нам дрэнна. Што нас усе крыўдзяць… Нічога дарма нікому не даецца… І лепшыя часы для нашага народа бяз нашай працы і нашых ахвяр да нас ня прыйдуць… Гэта выкуць для сябе мы павінны самі». Мудры быў чалавек. Да апошняга адданы беларускай справе.

А ўвечары, пасьля вячэры, калі я ляжаў і чытаў газеты, прыходзіў Барысавіч. Я, прылёгшы, чытаю. На бальнічным апошні дзень. Ён прысеў, пацікавіўся, што пішуць, як з Адамам, потым, усьміхаючыся, пытаецца: «Парушаем?» — «Што парушаем?» — цікаўлюся я. «Вось, без адзеньня адпаведнага і без бэйджа». — «Дык я ж на бальнічным». Ён разводзіць рукамі: «Так можна хадзіць толькі ў прыватны час, пасьля вячэрняй праверкі. Складу акт». І пайшоў.

**1 лістапада.** Ізноў хрысьцілі. «Хазяйка» распавёў пра 96-ы, пра тое, што ён быў на «Чарнобыльскім Шляху» маладым лейтэнанцікам, пра публікацыі. Пра Саньнікава, пра «закрытасьць» турмаў і метады выхаваньня персаналу. Сэнс — чым меней пра вас будуць згадваць у прэсе, тым лепей. У выніку — вымова. Працуем у ноч зараз.

**2 лістапада.** Дзяды. Разбудзілі ў 11. Па паперы пайшлі да Станішэўскага. А там — камісія (УДО, замена). Гадзіну прастаялі каля штаба пад дажджом. Затым зайшоў, распісаўся ў паведамленьні пра будучы

суд наконт пені да падатку (што за ён, ужо заблытаўся). Прыпіска — можна асабіста не прысутнічаць. Я расьпісаўся і выйшаў. Гадзіну недаспаў, а сёньня зноў у ноч. Кіпяціла перагарэла да ўсяго. Вазьму на промку на рамонт. Увечары, як ужо расьсьцяліўся і лёг, дастаў малітоўнік і памаліўся за бацькоў. Дзяды.

**3 лістапада.** У ноч з 2-га на 3-га не пайшлі. І для мяне была вялікая палёгка. Бо пасьля начы сплю цэлы дзень, і тое, калі даюць, а не цягаюць па розных справах. Нічога тады не пасьпяваю і ўсё роўна ня выспаны. А так, у суботу пайшлі зранку. На другую зьмену не застаўся, хоць мяне Андрэй[161] і прасіў. Сказаў, што здароўя няма. Другая зьмена, 16 гадзінаў — было б і сапраўды цяжка, нягледзячы на тое, што зараз па адным швейшчыку на ўпакоўшчыка прыходзіцца, і гэта палавінная загрузка.

**5 лістапада.** Выварочвалі і суботнія, і сёньняшнія рукавіцы. Фактычна бесперастанку, толькі зь перапынкам на абед. Сяджу за сталом, дзе і ба́кі стаяць. Днявальныя на промцы — шустры Эдзік і нехлямяжы Шусьцік. Сёньня засталіся дзьве пайкі лішнія другога (бульба, капуста, тушонка). Ну нам іх і хлёпнулі.

А ў 13:45 я зьняўся на «ўскрыцьцё» бандэролі. Прыйшлі ў бальнічку. Прастаялі 40 хвілінаў, а затым з рэжымкі сказалі, што пры ўскрыцьці бандэроляў мусіць прысутнічаць рэжымнік і што ён будзе заўтра. Заўтра ізноў пойдзем.

Прыходжу ў атрад, нервова па лакалцы бегае Рыжы. Адпраўляюць у БУР, а адтуль на крытку хутчэй за ўсё. Даю яму маркі і канверты. Схадзілі на вячэру. Сяджу, пішу Алене Валынец ліст, тут у казарму зайшоў «хазяйка». Усе кінуліся апранацца. Пакуль ён зайшоў у секцыю, пасьпелі і прачнуцца, і апрануцца. «Штосьці мне парадак у вас не падабаецца. Аляксандр Віктаравіч, вам ужо пад 60?» — «50», — па-

праўляю. «Ня можаце моладзь навучыць, як парадак наводзіць?» — «Я сам тут малады, — адказваю, — год сяджу толькі».

Дыялог суседзяў па секцыі:

— А., можаш зрабіць гучней радыё, калі ласка?

— Пайшоў у сраку!

— Дык вось ты які, паўночны алень!

Хлопец з Жлобінскага раёна заўтра выходзіць. Кажу яму:

— Во ўжо сябры прыйдуць, вып’еш.

— Зусім піць не хачу. А палавіну сяброў паадшываю. Як на волі быў, дык быў патрэбны. А як сюды патрапіў, дык і не абазваліся.

Ня першы раз чую такую гісторыю.

Гісторыя з тумбачкамі. Не хапіла Мішу-цыгану тумбы ў 2-й секцыі, там, дзе я раней жыў. Пайшоў, сказаў старшаму брыгадзіру Бору, той — атрадніку. Назаўтра — загад: усіхураўняць. На 2-павярховую шконку — адна тумба. Гэта на дваіх чалавек. Мне давялося ўціскацца, Шусьцік падсяліўся.

**6 лістапада.** Зранку чытаю пра полацкага епіскапа Сімяона (XIII ст.). Напісаў твор: «Убоіцеся, брацiе, урэдныя бяседы, і ў цішыне будзет душа твая».

**7 лістапада.** Учора ўвечары Матаблок гаворыць Пятроўне (таму 67 гадоў):

— Пятроўна, ня будзеш рабіць тое і тое, дам пасасаць.

Пятроўна з гумарам адказвае:

— Я магу хіба што падзёргаць.

Учора зранку Барысавіч пагражаў на праверцы:

— Зьнік сьпіс дзяжурстваў па ўборцы тэрыторыі. Калі ня знойдзецца, усе будуць прыбіраць па чарзе.

Ніхто не прызнаўся. А сёньня пытаюся падчас праверкі.

— Вісіць, — адказваюць. Нехта ціхенька павесіў.

Учора ўвечары пасьля праверкі — нарад па сталовай. Дзелім рады́ сталоў і прыбіраем, падмятаем і мыем. Жоўтабірачнік, які мінулы раз крывіўся, гэтым разам забіў у хамут, адмовіўся прыбіраць. Барысавіч прыйшоў, спачатку крычаў на яго, потым папулярна патлумачыў:

— Ты з тваім тэрмінам (24 гады) да канца не дасядзіш, і сядзеньне тваё будзе цяжкае.

І затым наконт уборкі зь ім спакойна паразмаўляў. Урэшце той узяўся. А калі б не — быў бы ШЫЗА, затым БУР (ПКТ), а потым і крытка. А якія яны з краткі прыязджаюць, я па Сяргею памятаю: худы і аж зялёны, зь сінякамі пад вачыма. Зараз вось, хутчэй за ўсё, Марцінковіча (Рыжага) чакае гэта. Дзесяць адсядзеў і яшчэ шэсьць яму сядзець. Худы, на каленях зоркі выкалатыя.

Сёньня «сьвята», зь Менска прыязджае хтось з рэжымнікаў. Вопісы ў кешарах папраўлялі.

Далей прыбіраю. Пад канец ужо, учора, падчас прыборкі ў сталовай, пасьля канфлікту з жоўтабірачнікам, Барысавіч і кажа:

— Вось бы і вы так, Аляксандр Віктаравіч, сказалі б: «Не хачу, ня буду», адмовіліся б, і мне значна лягчэй было б. Я б вас, як Бандарэнку[162], у ШЫЗА здаў бы — і ўсе дзялы.

— Вы і так можаце здаць, — адказваю.

— Не, — ён кажа, — гэта ня тое. А так прыгожа было б.

— Дык я і рады быў бы адмовіцца, — адказваю, — але здароўе не дазваляе.

**8 лістапада.** Іду сёньня ў бальнічку, выпісваць рэцэпт на лекі ва ўскрытай бандэролі. Таму не пайшоў разам з усімі на працу. Пакуль з самага ранку сяджу, пішу паштоўкі. Выпісаў рэцэпт. Усе лекі доктар ня

выпісаў. Я папрасіў ціск памераць. 140 на 90 — павышаны. З чаго б гэта, ня ведаю. Адчуваю ж сябе нармальна.

**10 лістапада.** Былі званкі. Пагаварыў з Наталяй і з Валодзем[163] троху. Ён такі ж негаваркі, якім і бацька быў. Наталя з Марынаю[164] зьезьдзілі на апошнім тыдні і сустрэліся зь Фюле. Часу пагуляць па Брусэлі ў іх не было зусім.

Потым на працы перабіраў жалезкі для мантажных шлемаў, а затым пайшоў у канец цэха да пагоньнікаў. І там змарыў мяне сон пасьля абеду. Сонечны дзень, і ў цэху цёпла. А на абед ужо тыдзень як бульба з тушонкаю. Сёньня Шусьцік наваліў ад душы. Зараз увечары буду працца.

У абед выходжу са сталоўкі, пакуль паеў, атрад ужо пабег. Я — разам з апошнімі адзінкамі.

Маёр:

— Я за вамі даўно назіраю. Штосьці вы не пасьпяваеце разам з усімі.

Я:

— Дык у мяне ж перадачак няма (дзякуючы вам). Вось я хлеб даядаю, таму спазьняюся.

— Вам трэба зрабіць высновы…

Якія? Думаю: недаядаць ці каўтаць не жуючы.

**14 лістапада.** Зайшоў з узьлёткі дзяжурны:

— Ляжалі?

— Не, сядзеў.

Я ў спартовым касьцюме чытаю газеты.

— Акт за парушэньне формы адзеньня.

Ясна. Прачытаў у «Зьвязьдзе», Лука ізноў выказаўся пра мяне.

**16 лістапада.** Барысавіч кажа: «Хазяіна няма. У Трутко спытаюся, ці будзе ён акт разглядаць. Калі не, тады да панядзелка адкладаецца». Прачытаў тлу-

мачэньне, дзе я напісаў, што «знаходзіўся ў працэсе пераапрананьня». Пытаецца:

— Што, сапраўды?

На што я па-філасофску адказаў:

— Мы ўсё жыцьцё знаходзімся ў пераапрананьні. Адное скідаем, іншае апранаем.

А потым дадаў:

— Які акт, такое і тлумачэньне.

— Ясна, — адказаў ён.

А тут яшчэ пятніца. Стрыжка і лазьня. І лекі забіраць трэба, якія з бандэрolькі не дабраў. Выпісваў у пятніцу зранку. Уладзіміраўна, галоўны доктар, на прыёме. Прыйшоў. Сказала:

— Фу, як непрыемна было чытаць.

— Гэта вы пра што, — спытаўся, — пра бандэрольку?

— Так.

Потым дадала:

— У сувязі з гэтым я вырашыла, што ў нас сваіх лекаў хапае. І ў выпадку неабходнасьці будзем лячыць імі. Гэта лекі, вядома, не замежныя, беларускія, але яны часам лепшыя. Таму скажыце сваякам, каб болей нічога не прысылалі.

**17 лістапада.** Апошні дзень працы на тыдні. Швейшчыкі працуюць па дзьве зьмены і ў начную ходзяць, а мы за вячэрнюю зьмену выварочваем і пакуем як нашытае, так і тое, што шыецца. Стомленыя яны, стомленыя і мы. Усе зьнерваваныя.

Выпадак з жоўтабірачнікам. Пабіўся з М., хапаўся за пажарны за́ступ, чыркануў па сьцяне, атрымаў па пысе, пасадзілі ў ШЫЗА абодвух.

А ўчора ў Шусьціка коўдру з накоўдранікам забралі. Коўдра была Рыжага. Той урэшце ўзяў анучу і швабру, мыў прадол. Прыходзіць потым у секцыю,

мацюгаецца. Чатыры разы езьдзіў у ШЫЗА перад гэтым за тое, што адмаўляўся браць швабру ў рукі.

А зараз ізноў зьбіраюся на працу. Лістоў у апошнія дні зусім не пісаў. Сілаў не было. Чытаю газеты. Ёсьць уражаньне, што штосьці павінна скрануцца.

**19 лістапада.** На хрэсьбіны не вадзілі. Усе «падзеі» адбываліся ў ядальні. Спачатку ў абед са столі крапнула ржавая кропля мне на галаву. Вярнуліся ў цэх, хлопцы сьмяюцца: сьлед застаўся (ці ня птушка сернула). А падчас вячэры выпацкаў куртку-пінжак у кашу. Прыйшоў у казарму і замываў.

**21 лістапада.** Гучыць «Я свободен» — своеасаблівы гімн-мара зэкаў. Усе яго любяць і часта з волі для сябрукоў-зэкаў замаўляюць. Валеры Кіпелаў сьпявае: «Я свободен, словно птица в небесах!»

Учора адбылося вялікае кілешава́ньне. Напачатку пазаўчора ў іншую секцыю перасялілі Дзіму-дыябетыка. Затым учора з нашай секцыі Шухно, сьвятога Валодзю Азаркова і Саню Шусьціка. Шуст спаў нада мной, разгойдваў шконку, сплючы. Паслалі ў 2-і атрад. А сёньня Сяргей-стары ўцёк, палічыў, што і яго могуць перакінуць. Зь іншых паехалі Дзіма, Мішка, Саня Малянок і Ашароўскі — усе з 2-й секцыі. Чаму — невядома. А нашыя — вядома, з-за мяне. На месца Шуста прыехаў з 7-га атрада нейкі малы з маларлеткі, сядзіць ужо 5 гадоў, яму 21. Яшчэ 5 сядзець, усяго — 10. Зямеля Гарбатага, той ім адразу заапекаваўся.

Сходзіў сёньня ўвечары пазаймаўся. Стараюся не кідаць канчаткова.

Учора «хрысьцілі» 8-ы раз. Гутарка.

**22 лістапада.** Зьняўся раней на дзьве гадзіны з працы. Сходзіў у бальнічку, забраў лекі. Адную на́ру ў секцыі разабралі. Стала вальней. Пасажыр нада мной перабраўся на другую шконку ў кут.

**23 лістапада.** Кажу Жэньку, які прыбірае ў секцыі,

сядзіць ужо 13 гадоў (у 18 заехаў) і яшчэ год сядзець: «Вой-вой-вой, людзей з-за мяне пераводзяць». Ён адказвае цьвяроза так: «Не хвалюйся. Абы табе добра было, а ім пагана ня будзе».

**26 лістапада.** У пятніцу сышоў Кцітар. Мае́ развагі і размовы з Мота. Кцітар паабяцаў мне сваё пасьцірачнае вядро за «Народную волю», якую я перадаваў яму праз Мота. Урэшце прыходзім са зьмены, вядра няма, здаў. Пабаяўся? Кінуў? Ці Мота штось накруціў?

А ўчора размова з начальнікам атрада. Пытаецца пра «общение» з тым і тым. «А з гэтым, — кажа, — “общайся”, бо ён нядобры чалавек. Няхай бы яго ў іншы атрад перавялі».

**27 лістапада.** Толькі пачалі працу, Барысавіч прыходзіць. Я з нажніцамі разразаю сшытыя рукавіцы. «Бяляцкі, зьбірайцеся!» Прыйшлі на прахадную. Карчэўскі[165] даглядзеў па поўнай праграме: паміж ног папляскаў так, што я аж вохнуў.

«Да адваката», — калі здымалі, сказаў Барысавіч.

Прыходжу праз 1,5 гадзіны на працу. На запытальныя погляды кажу: «Да адваката хадзіў, а наконт ШЫЗА — гэта мянтоўскія жарты».

А ўчора зранку прыходзіла панядзелкавая праверка, пра ўзнагароду Петры Келі распытвалі. «Адкуль я ведаю, — кажу, — гэта ж вы там інтэрнэт гледзіце, а я — не».

**29 лістапада.** Пасьля прыходу правяральшчыкаў загарэліся рабіць рамонт. Начальнік атрада закамандаваў — касьметычны, начальнік аддзяленьня — больш грунтоўны, зь перабудовай ша́тні і абшчаку. Мы ўчора і сьцены абадралі, і фарбу падрыхтавалі, хацелі ўсё хутка падмазаць, ды начальнік аддзяленьня забараніў. Сёньня ён пераканаў і нач. атрада. Прыйшоў хлопец-будаўнік, з Валодзем падпісалі кошт ра-

монту. А большасьць жа — безграшовыя. Па сто тысячаў скінуцца і то ня ўсе могуць. Я ж буду, як і ўсе.

Учора рэзаў нажніцамі сваімі маленькімі вацін, нацёр вадзяны мазоль на пальцы.

З галавы не выходзіць размова з Наталяй наконт Адама. Той ніяк ня можа ўвайсьці ў каляіну. Хоць і ходзіць на заняткі, але, як яна кажа, зьбіраецца браць акадэмічны. Можа, так і лепей. Можа, занадта хутка ён ішоў наперад, можа, і час прыпыніцца. Чакаю ад яго ліста. Калі ў сям’і ўсё добра, тады і ня думаеш пра гэта, заняты сваімі клопатамі. А калі вось узьнікаюць праблемы, тады разумееш, наколькі важныя для цябе твае сямейнікі, іх спакой і посьпехі.

На вуліцы нават сонейка вызірнула, апошняе, мабыць, восеньскае. У суботу ўжо будзе зімовае. Учора была Піліпаўка («На Піліпаўку воўк нема вые». Я. Купала). Цёмная і змрочная пара года, доўгія ночы, пахмурныя дні.

**30 лістапада.**

«Я гляджу, ён тут увесь час “трэ падэшву”» (падглядвае).

«”Крыло” на рукаве» (на «крыле» напісаная ці выціснутая абрэвіятура «добраахвотнай» секцыі).

**1 сьнежня.** Прыехаў нейкі хрэн зь ДІНа. Лакалка пустая. Усе ходзяць «па форме», толькі трэцяя зьмена сьпіць. Паказуха.

**2 сьнежня.**

«Стары сядзелец, х…лі табе баяцца, ты ўжо ні нажа, ні х… не баісься».

«Гамася́ціна» — Гарбаты з Жэнькам-прыбіральшчыкам размаўляюць.

У абед выходзім са сталоўкі — і галубы з даху двухпавярховага корпуса, які стаіць побач, уздымаюцца гурмою, узьлятаюць паўколам над намі і зноў сядаюць. Сонца сьвеціць, неба блакітнае, і падкрыльлі

галубоў аж зьзяюць на сонцы пяшчотнай белізною. Заходзім у лакалку — аніводнага вераб'я, усе пахаваліся. І высока-высока ў небе гурмы галак, багата, штук 50, і невялікія гурмачкі галубоў паблісваючь-пераліваюцца на сонцы і трапечуцца, быццам матылькі, туды-сюды. Чаго яны ўсе напалохаліся — невядома. Зьлякалася ўсё птушынае царства.

Гарбаты ходзіць, знарок беларускія словы перакрыўляе, спрабуе вывесьці мяне зь сябе.

Выпраў сёньня працоўную вопратку і майкі чорныя. Заўтра ў першую зьмену працуем.

**3 сьнежня.** Стала холадна. На праверцы вецер дапякае. Сьнегу яшчэ няма. Але трываць можна.

Штораніцу з мацюгальніка:

— В ИК-2 объявляется подъём! Всем старшим дневальным провести подъём своих отрядов!

Праз гадзіну:

— В ИК-2 объявляется проверка! Всем старшим бригадирам вывести и построить людей в отведённых местах!

**4 сьнежня.** Званіў сёньня Наталі. Размаўляў пра «госьці». І сёньня пасадзілі Чаромушкіна на 7 сутак. Тыдзень таму, у панядзелкавы абход, знайшлі ў тумбачцы самаробныя карты. І вось тыдзень справа цягнулася. За карты, адназначна, па мясцовых расцэнках, ШЫЗА. Учора ён ня выйшаў на працу. А сёньня на яго склалі акт і зачынілі за нявыхад, а не за карты.

**7 сьнежня.** «Ты што, сёньня на "вушном"» (падслухоўваеш)?

Учора атрымаў перадачу. Цягну ў чатыры рукі, двух папутчыкаў дапамагае. Стаіць Барысавіч на ўзьлётцы. Дзяжурыць. Мяне зьнялі з працы перадачу атрымліваць. Потым папрасіў днявальнага, каб завёў мяне ў сталоўку. Выходзім. Барысавіч пытаецца:

— А што, вам перадача ўжо паложана? Начальнік жа вас пазбавіў. Што, ужо час мінуў?

— Мінуў, Барысавіч, — кажу, — мінуў.

Я ж не вінаваты, а вельмі нават рады, што ты прашляпіў яе і ня склаў чарговы акт.

**11 сьнежня.** Гісторыя з Толікам Баруном. Пераехаў да нас. Шчырая размова. Рамсы́. Праз два дні ў яго сіняк. А ўчора абышоў два паверхі промкі і абвясьціў, што быў на малалетцы «крысай». Вакол гэтага ўсё і круціцца. Сядзець яму яшчэ год. Тут і Гарбаты ўжо ў абаронцах, і Руслан — усе перажываюць.

У нас гісторыя з рамонтам працягваецца. У панядзелак, 10-га, ізноў прыйшла «камісія» з Трутко на чале. Ацанілі — цёмна. Кішко[166] сказаў: «Ды ў нас у ШЫЗА сьвятлей». Зараз вось спрабуюць белай каймой і сіняй каёмкаю выправіць сітуацыю.

**17 сьнежня.** Мароз. Праверкі пры мінус 15 — запамінальныя.

Новае слоўца: аплéйтух (вісус, абібок, растрындзяй).

Па радыё перадаюць, што той сказаў, што да канца 2013 года заробкі будуць 600 даляраў, а да канца 2015-га — 1 тыс. даляраў. Зэкі стаяць, кпяць: «Яшчэ Новага года няма, а яны ўжо панапіваліся ці паабкурваліся».

**20 сьнежня.** Зранку склаў Барысавіч акт за дзяжурства. Звадзіў на асьведчаньне ў бальнічку, а затым было спатканьне. Наталя з Вольгаю прыехалі. Пасьля сьведанкі адразу Барысавіч павёў на хрэсьбіны. Думалі-гадалі, чаго пазбавіць, перанесьлі на заўтра.

Затым была «схватка» Харка і Гарбатага. Гарбаты дастаў Харка, і той тузаў яго па секцыі, хочучы, але баючыся стукнуць. А ўжо перад званком рэжымнікі зайшлі і калонку для радыё зьнесьлі. Цэлы букет падзеяў.

На працу сёньня не хадзіў. Лістамі Эмнесьці завальвае. Я спрабую каментаваць найбольш цікавыя.

«Лосік, яго вядуць, а ён галосіць».

«Добра стала, як дзесяць бабак адшаптала».

А ўсё пачалося з таго, што Харок узяў тазік Гарбатага. Той пачаў ныць, што ён яму будзе зранку патрэбны. Харок пайшоў, быў не ў настроі, памяняў тазікі, узяў ружовы стары тазік, які дастаўся яму ў спадчыну ад Пратаса. А Пратаса за два тыдні да званка пасадзілі ў ШЫЗА, і так ён адтуль пайшоў на волю, таму і тазік нікому загнаць ці аддаць не пасьпеў. А потым Гарбыль зачапіўся: ды што ты, ды чаго ты, вось і дабалтаўся.

**22 сьнежня.** Учора пасьля хросту забраў мяне ад штаба адразу начальнік клуба. Завёў у клуб, спытаўся:

— Вы каталік?

— Так, — адказаў я.

— Ксяндзы актывізаваліся, — сказаў начальнік клуба, — бабруйскі ксёндз Юры і яшчэ адзін з Адэльска, Гродзенскі раён, кніжкі вам перадаў.

І ён перадаў мне некалькі кніжак, выпушчаных Гродзенскай дыяцэзіяй па-руску. Я праглядзеў іх, як прыйшоў у казарму. Мяне зацікавілі жыцьці сьвятых, якія маюць адносіны да Беларусі.

А сёньня рвалі вацін на матрацы ўдоле ў гаражы. Я апрануўся максімальна цёпла, так што ня зьмерз. Ішлі з працы. Двух — Толіка і Аўтуха — тармазнуў «хазяйка». Адзін ішоў з паднятым каўняром, другі з рукамі ў кішэнях. Парушэньне. Склалі на іх акты.

Працуем заўтра, у нядзелю, і толькі 25-га выходны. Мяне завальваюць лістамі. Ізноў, мабыць, на беларускія паспрабую адказаць.

**23 сьнежня.** Народная показка ад Панкрата:

Жанчына супонь у хамуце заціскае, калена паднялала, упёрлася ў хамут. У сына малога пытаецца:

— Сыночак, паглядзі, там роўна?

Той адказвае, склаўшы губкі гузкаю:

— Ды не, мама, во так во!»

**24 сьнежня.** «Ты, бацька, за мяне ня плач, бо я ж брадзяга! Няхай той плача, у каго сын — казёл».

Сёньня гадавіна, як бацька памёр. Тэлефанаваў Наталі ўвечары, яна хадзіла да Вольгі, і яны пасядзелі, памянулі. Пра тое, што забралі кароткае спатканьне, пакуль не сказаў з тактычных меркаваньняў. Сказаў, каб перадала ўсім пажаданьне сустрэць весела Каляды і мець шчасьлівы Новы год.

Учора рвалі вацін унізе для матрацаў і падушак. Набілі ўсе наматрасьнікі. Ноччу я дыхаць ня мог, нос быў забіты. Толькі вось зараз раздыхаўся. Сёньня зрабілі нам выходны, бо 2-і атрад у дзьве зьмены шые нейкія там касьцюмы, якія трэба здаць да 26-га. У любым выпадку добра, я хоць троху віншавальных лістоў панапісваю за гэтыя дні. І Ірыне Пракопчык пішу зараз штодзень[167], бо багата розных цікавых лістоў да мяне прыходзіць. За мінулы тыдзень прыкладна 300 штук. Зараз палічыў — 372 лісты з-за мяжы.

Як быццам бы Патрыка нада мной сёньня зьбіраюцца пасяліць.

У мяне ад маразоў і працы ў холадзе і ад халоднай вады пальцы патрэскаліся. Вельмі шчыплюць. Мажу крэмам. А заўтра як быццам бы мароз спадзе. Сёньня сьнег валіць моцны і прыгожы.

Мароз. Зранку ідзём у сталоўку, амаль 100 чалавек. Сьнег пад нагамі рыпіць ва ўвесь голас. Стаіць гучны няспынны рып.

**28 сьнежня.** «Турма — гэта лес. А ваўка ногі кормяць».

Учора абразалі падшлёмнікі, нацёр на пальцах мазалі. Сёньня зранку Толік праспаў праверку. Усе пайшлі, ён сьпіць. Барысавіч пакараў: загадаў мыць прадол. Той мыў. Затым — пошта, і я ў шоку. Прыкладна

500 лістоў, паштовак, малюнкаў. Я проста завалены гэтай хваляй падтрымкі. Яна заліла мяне з галавой. Сядзеў, разьбіраўся да абеду.

А затым выклік на спатканьне. Прыязджала адвакатка Альвіна, Натальля працуе. Аказваецца, вярнуліся да людзей канверты, што пасылалі да мяне і падпісвалі: ВК-2. Вярнуліся з «воспитательной колонии», з «малалеткі», з пазнакаю, што там такога няма. І ў інтэрнэце стаіць шухер — Алесь зьнік. Вось такая блытаніна з гэтымі ПК, ІК, ВК. Пасьмяяліся, паразмаўлялі. Я загадаў не ўздымаць паніку надарэмна.

Прыслала Ірына[168] аанаўскае рашэньне па мне. І гэта мяне яшчэ больш узварушыла. Я ж ведаў пра яго, а тут — вось, нічога вышэйшага за ААН няма. І рашэньне — не вінаваты!

На промку пасьля сустрэчы з адвакаткай ужо не пайшоў. І Кірылавіч[169] рукою махнуў, як са сьвіданкі выходзіў. І ў сьпецаддзел яшчэ зь Юрам[170] схадзілі. Прыйшла позва ў бабруйскі суд наконт штрафу падаткавай. Яўка «не абавязковая». Яшчэ заказным лістом прыйшла кніжка Эдзіка[171] — зграбненькая і густоўная. І пераклады вершаў Яна Твардоўскага з паштоўкаю ад Жарнасек Ірыны і з аплаткаю, якую я адразу ж і зьеў.

Заўтра яшчэ адпраўляюць лісты — буду адпісваць паштоўкі.

**31 сьнежня.** Зранку ў 9 гадзінаў я тэлефанаваў Наталі. Паразмаўлялі пра ІК-ПК-ВК. Распавяла, што зрабілі «выпуск Алеся Віктаравіча на волю» — выпусьцілі нашага кенара з клеткі. Я спытаўся: «Хоць не на мароз?» — «Не», — адказала. І яшчэ распавяла, што сустракаліся сваякі, віншаваліся, цягнулі сюрпрызы. Выцягнула яна чорнага і белага пінгвінаў. Добры знак.

Зранку Гарбаты не пайшоў на сьняданак, затаіўся ў цёмнай секцыі. Барысавіч зайшоў, уключыў сьвятло, пытаецца:

— А ты што тут робіш?

— Ды так, нічога, — адказаў.

Пасьля сьняданку ужо цёр прадол. Зараз ляжаць і разважаюць. Адзін: «А памятаеш, як раней і лакалку прыбіраць западло было? А зараз — пох…». — «Усё да туалетаў набліжаецца», — гаворыць другі.

Пішу агульнае віншаваньне:

*«Дарагія сябры!*

*Віншую вас са сьвятамі!*

*Жадаю шчасьлівых Калядаў і вясёлага Новага года!*

*Жадаю ў гэтыя няпростыя для беларускага народа часы жыцьцёвага аптымізму, асабістага шчасьця, трываласьці і веры ў лепшую будучыню! Толькі разам мы зьменім нашае агульнае грамадскае жыцьцё да лепшага!*

*Жыве Беларусь!»*

**2013**

**1 студзеня.** Учора ўвечары на Новы год паглядзеў канцэрт у ПВРы. Прыйшоў «хазяйка», павіншаваў, папярэдзіў, каб паводзілі сябе прыстойна, каб не падгадзілі тым, хто тут будзе сустракаць наступны Новы год. Міколка на ўсё гучна адказваў: «Так! Так! Так!» У яго ў гэтым годзе званок.

Паслухаў Луку. Казаў: беларусы — адзін народ, адна нацыя. Выступ быў, я сказаў бы, міралюбны, зброяй не бразгатаў. Затым ізноў канцэрт, і ў гадзіну пайшоў спаць. Зранку схадзілі ў 7 гадзінаў на праверку і легальна дасыпалі.

Затым я ўстаў, зьеў навагодняй салаты, папіў кавы з шакаладам і чытаў «Малітву воч» Едруся Акуліна. Прачытаў 1-ю частку. Вельмі добрыя вершы. Створа-

ны свой сьвет вобразаў, сюжэтаў. Нават Бог у яго — свой, я думаю, радзіміцкі. Зараз дапішу да канца дня ўсе віншаваньні-адказы, а заўтра ўжо — праца.

**4 студзеня.** Адзін зэк кажа, адбіваючыся: «Добрай ночы!»

Рыжы, засынаючы, адказвае: «Памры нах…! Сабака дзікая!»

І ўсё гэта бяз злосьці, амаль тое самае, як і «добрай ночы».

Удзень іду з промкі атрымліваць заказныя лісты. На ўзьлётцы стаіць Барысавіч, дзяжурыць. Пытаецца:

— Калі дадому?

— На днях, — адказваю.

— За словы трэба адказваць, — кажа. — Калі прыйду ў атрад і будзеце там — у ШЫЗА паедзеце.

Мянтоўскія жарты.

Пагаліўся сёньня налыса. Гадзіну галаву шкрабаў. Неяк выгаліўся.

Самалёт заўтра сыходзіць па амністыі. Хаджу ўвечары па лакалцы. Кліча з суседняй лакалкі праз плот. Кажа: «Заўтра сыходжу». Я пажадаў усяго добрага, а потым толькі падумаў, што трэба было даравання папрасіць за клопат[172].

Пабіліся Прорвіч зь Дзімам Чацьвертаком (паганяла такое, бо ў яго тэрміну — 24 гады) на промцы. Абодвух пасадзілі ў ШЫЗА.

Лістоў ідзе багата. Цэнзар кажа: «Мы табе ня ўсе аддалі, інакш бы паралізавалі пошту для іншых зэкаў. У нас яшчэ штук 200 ляжыць. Пазьней аддамо». Выдаюць порцыямі.

**7 студзеня.** Раство. Дзень народзінаў Эдзіка.

5 студзеня праўся. Барысавіч робіць абход па секцыях:

— Хто ваду грэе?

— Я

— Чый тазік?

— Дзімы.

— Якога?

— Гэтага.

Пайшоў далей, знайшоў Дзіму, наехаў на яго: «Будзе табе парушэньне за тое, што Бяляцкаму тазік даў».

Учора я разьбіраўся зь лістамі і сёньня яшчэ працягну. Пытаньне па тазіку для праньня стала актуальным. Сёньня выходны. Барысавіч 5 студзеня выклікаў:

— Ходзяць чуткі, што вы дадому зьбіраецеся?

— Ды не, сяджу, як сядзеў. Скажуць «зьбірайся», тады і буду[173].

**9 студзеня.** Учора ў лаўцы паразмаўляў з Барысавічам. Ён «даў зялёную»[174] на секцыйны тазік. Але я ламаю галаву: дзе тут сабака закапаны?

**13 студзеня.** Пазаўчора хаджу па лакалцы. Чую крыкі з суседняй лакалкі: «Скласьці на гэтага ўрода акт!» Зэк карміў птушак хлебам, а тут «хазяйка» ішоў. Вось ён і крычыць дзяжурнаму афіцэру.

А ў абед ідзём з лазьні, Барысавіч крычыць зь перамоўнага пункта:

— Гэй ты, шакаладны, зайдзі да мяне!

Гэта ён так Патрыка[175] кліча.

**15 студзеня.** Другі дзень ірвём падсумкі ад супрацьгазаў на працоўныя рукавіцы для нашай промкі. Падсумкі старыя, яшчэ савецкія, сустракаюцца 1964 года выпуску. Яны і гнілаватыя, і ў плесьні, і ў тальку, якім была абсыпаная супрацьгазавая гума. Мабыць, вайсковая частка аддала сьпісаныя падсумкі, а айцы-камандзіры вырашылі ня даць ім прапасьці. Ірвём — пыл, цьвіль, тальк у паветры, забітыя нечым вочы, усе чхаюць, кашляюць.

Мы разрываем іх па шве, затым зь іх на 2-м паверсе

зробяць выкрайкі, а потым іх сшыюць нашыя швейшчыкі. У такіх рукавіцах мы цягалі бярвеньне на 101-й. Усё добра, каб яшчэ нам рэсьпіратары выдалі. Працуем «на разрыў», таму за дзень рукі трэніруюцца.

Хлопец з Мазыра, далі 24 гады, прозьвішча Гетманенка, мітусьлівы і недалёкі, відаць. Мянушку далі, перарабіўшы прозьвішча, — Бэтман, сугучнае з Гетман.

Другі дзень, як колькасьць лістоў з-за мяжы зьменшылася. Прыходзіць каля 10 лістоў у дзень. Нават ня верыцца, хваля спадае, і гэта пасьля 200–500 лістоў штодзень на працягу трох тыдняў.

Пытаньне тазіка — зараз адное з істотных для мяне.

**19 студзеня.** Рвалі супрацьгазы, з хусьцінкі зрабіў павязку. Палова адразу перахварэла на прастуду. Учора, у пятніцу, бальнічка не прымала, «таблеткі скончыліся». А два дні таму некалькі чалавек у розных атрадах падалі на праверцы. І ў нашым адзін упаў. Пазаўчора ў Менску была прэзентацыя кніжкі Валеры пра мяне[176].

**26 студзеня.** Тыдзень быў такі. У панядзелак прыязджаў як быццам бы міністр МУС. Мы ўсе хадзілі «па форме», а бальнічку напалову разагналі. Да чацьвярга мы яшчэ рвалі супрацьгазавыя падсумкі і выварочвалі пашытыя зь іх рукавіцы. Апошнія два дні — касьцюмы. Мы — ніткі абразаем.

Сёньня зайшоў зранку Барысавіч — і паляцела мая начная шапачка ў сьметніцу. А была ж са мной ад самага пачатку. Затым — шмон у секцыі. І тут выпраная мною ўчора бялізна ледзь не паляцела туды ж. І лісты загадаў забраць зь верхняй шконкі, маўляў, шконка не твая. Я адсылаю лісты дадому. Ледзь пасьпяваю, кожны дзень.

Увесь тыдзень пісаў рэцэнзію на «Малітву воч».

Чарнавік ёсьць, буду перапісваць. Зранку сёньня мыў палову прадола. Другую палову мыў Гарбаты. Учора ён наехаў на беларускую мову. Папрасіў сёньня ваду не выліваць, я — выліў.

**27 студзеня.** Вось ружовая штучка, тазік, і ў мяне[177]. Гарбаты чытае кнігу «Искусство обмана». Барысавіч будзе пасьля абеду. Усе сьпяць. На вуліцы мінус 20. Сонца.

**31 студзеня.** Учора зранку Барысавіч прымусіў прыбіраць секцыю. Стаім на ранішняй праверцы. Сьвятло запалілася ў секцыі, а я па графіку дзяжурны. Кажу: «Гэта па маю душу». Адразу пасьля праверкі торгае:

— Аляксандр Віктаравіч, прыбіралі?

Адказваю:

— Произвёл внешний осмотр помещения. Предметов, засоряющих его, не замечено, вёдер и тазиков также.

— Вы убирать должны.

— Добра, зараз прыбяру.

На ягонай мове паразмаўляў.

А прыйшоў з працы — ліст ад Тацяны: кніжка мая выйшла[178]. Вось сапраўды прыемная навіна.

**3 лютага.** У прыбіральні хацеў сесьці, заходзіць Дзімыч (Мышка). Стаў, адлівае, і я ўжо сеў. Пятроўна кешкаецца. Дзімыч пытаецца:

— Што, стары, ці думаў ты на старасьці гадоў, што касяком станеш?

Пятроўна сьмяецца:

— Мая жонка была казала мне: «Ты — п…с!»

— Дык таму ты яе і заваліў?

Сьмяецца:

— Не.

**4 лютага.** Інфармацыя па радыё: у хаце ў Касьцюковічах — пажар. Патушылі. «Там жыве нідзе не

працуючы, судзімы, адзінокі мужчына. Загараньне ўзьнікла ў выніку няспраўнасьці ў праводцы».

Зранку пасьля агляду Барысавіч выклікае:

— Дзяжурны — і не прыбраў.

— Дык я думаў, што ўчора быў дзяжурным, — адказваю.

— Я мінулы раз (калі я мінулы раз быў дзяжурным па графіку) вам намякаў. Так што гэтым разам — акт.

Так… асаблівая ўвага.

**5 лютага.** Стаім на праверцы ў лакалцы. Лёгкі марозік прыбраў учарашнюю хлюпоту. З пляскатага даха 4-павярховай казармы вецер пасмамі зьдзімае сьнег. Той ляціць зьмеямі, разгортваецца ў абрус-пелярыну, якая зьзяе тысячамі блёстак пад сьвятлом моцных лямпаў. Прыгожа.

З хаты (секцыі) чацьвёра ідуць (нас вядуць) на хрэсьбіны. У кожнага штосьці сваё. Але ўсё роўна дзіўна неяк.

Схадзіў на хрэсьбіны. «Хазяйка» сказаў: апошні раз. Наступны — будзе ШЫЗА (які ўжо раз). Пазбавілі доўгатэрміновага спатканьня. Рыжыку і Харку — па 10 сутак. У Гарбатага таксама «лішонка»[179]. На працу ўжо не пайшоў. Засталася яшчэ ў мяне перадачка, але да красавіка і яе забяруць, мабыць.

**6 лютага.** «Хто быў у турме, той у цырку не сьмяецца».

Барысавіч дае расьпісацца за парушэньне і гаворыць:

— Дзе наш найпаважанейшы Аляксандр Віктаравіч?

Я адказваю:

— Мо дзе і найпаважанейшы, але ня ў гэтых месцах.

**7 лютага.** Падчас хрэсьбінаў «хазяйка» сказаў, што дастаць чалавека маральна можна мацней, чым фізічна.

Сёньня ўначы прысьніўся Андрэй С.[180] у горадзе. Трывожная атмасфера. Прысеў на лаўку спінаю да мяне. Размаўлялі пра штосьці. Дзіўна, ніколі ня сьніўся перад гэтым.

**9 лютага.** Субота. 9 гадзінаў 24 хвіліны. Клацнула фортка. Я паглядзеў у вакно. Пайшоў Бабёр. Па званку. Выйшаў, ніхто яго не праводзіў, у кароткай куртачцы, з голай галавою, з пустымі рукамі. І пайшоў, не азіраючыся, у бок КПП. Прасядзеў тры гады. Тыдзень таму я ў яго пытаюся: «Як сядзелася?» Кажа: «Можа, таму, каму пасылкі прыходзяць, пераводы, і лёгка сядзелася. А мне, на палажняку[181], цяжка.

**10 лютага.**

Нядзеля. Палякі хочуць выдаць кніжку. Прапанавалі напісаць. Пачытаю, што прапаноўваюць. Мо Валераву кніжку варта перакласьці і выдаць. Сёньня званкі. Тэлефанаваў Наталі, гэта яна сказала.

**16 лютага.** У сераду 13-га прыязджала Натальля-адвакатка, спрабавала высьветліць наконт «лішонак». А то я думаю, чаму Барысавіч такі нейкі спалоханы і падкрэсьлена ветлівы. Па пяць разоў пытаўся і тлумачыў мне наконт даверанасьці і настойліва раіў адаслаць яе як мага хутчэй. Даверанасьць на ключы была складзена не зусім слушна. Мясцовы юрыст разьвярнуў яе. А ўчора ў «Народнай волі» ўжо была пра гэта інфа. Я дзіўлюся, адкуль у Наталі бярэцца энергія, і ўвогуле — слушныя дзеяньні, да якіх я і не дадумваюся. Я адмахваюся ад «лішонак», як ад камароў. «Наша Ніва» надрукавала, што галандскі Эмнесьці адбілі жэтон з маім фэйсам. Адасёў апошні ліст усхваляваў мяне: ён пачаў чытаць кнігі. Раней дражніў мяне: «кніжны чарвяк».

**17 лютага.** Матаблок кульгае: калена баліць.

Падчас апошніх хрэсьбінаў, перад імі, завёў мяне

Барысавіч у бальнічку. Я, як заўсёды, скарыстаўшы момант, мераю пульс. Нармальны.

Доктар:

— Прысядзьце.

Я прысеў.

— Вось, чытаю інтэрнэт. Жонка вашая гаворыць, што ўсе там (тут) хварэюць і лекаў няма. Гэта ж няпраўда.

Я не сьпяшаюся з адказам. Затым кажу:

— Але ж праблемы ўсё роўна ёсьць.

— Ну якія? — пытаецца ён. — Ежа нармальная, тубіку, як народу стала на зоне меней, амаль няма. Калі я чаго ня ведаю, у горадзе з маімі калегамі кансультуюся, лекаў хапае.

— Так дык так, — кажу.

— Я, вядома, магу пакрычаць, выгнаць асуджанага з кабінета, але па сутнасьці ўсе дапамогу атрымліваюць.

Я нічога не адказаў. Прыйшоў Барысавіч, і мы пайшлі ў атрад. Пазьней ужо я падумаў: а чаго ж вы бальнічку перад прыездам генерала разгрузілі напалову і зэкаў па атрадах паразганялі?

Пальчык і кетатыфен. Каўтае яго, каб спаць, па маёй парадзе. Але ж па дзьве пігулкі. Назаўтра ходзіць, як п’яны. Кажа: «Не магу засяродзіцца». Я сьмяюся: во параіў. «Дык пі па адной». — «Тады не засынаю», — кажа. Зьбіраецца на перасуд. Прыйшла адмена прысуду.

**19 лютага.** Учора зранку пасьля пад’ёму заходзіў у секцыю «хазяйка». Тыцнуў пальцам на тых, хто не пасьпеў устаць: «Скласьці акты». Затым спыніўся і на ламанай беларускай мове на падвышаных танах паразмаўляў са мной. Выказаўся: «Піяр (гэта пра публікацыі пра «лішонкі»), наступны раз — пасаджу ў ШЫЗА. Понялі?» — «Так». Пайшоў далей.

А ўвечары падчас праверкі ён бегаў па промцы, крычаў: «Што там у вас? Адзін дрочыць, бл…, другі носіць!» — да чаго і чаму крычаў, ня ведаю.

Зранку сёньня хадзілі ў клуб. Барысавіч казаў: «Эканомце ваду і энергію! Бо ходзяць чуткі, лішнія секцыі паразганяюць і вас ушчыльняць. Ня будзеце ўставаць зранку — будзеце хадзіць па пляцы калонай па пяць чалавек. А я па секцыі прайдуся: фаянсавыя кубкі — пі-і…да. Чайнічак — пі…да! Яшчэ што знайду — пі…да!»

Схадзілі ў камерцыйную лаўку. Зефіру, мармеладу не было. Купіў пакунак кетчупу.

**24 лютага.** «Ты аднясіся да мяне з арыштанцкім паніманіем!»

Пятроўна, касяк, зьбіраецца на волю, жартуе: «Хутка вакансія зьявіцца на “загадчыка санвузла”».

«Дубешка-паляк».

На гэтым тыдні зьявіўся новы сусед, заняў верхнюю шконку, цёзка. Пару дзён пагуляў і пайшоў на промку. Выварочвае пагоны за адным са мной сталом[182].

Пазаўчора я ледзь не праспаў. Званок на гадзіньніку не пачуў. За чатыры хвіліны перад пашыхтоўкаю піхнулі. Ледзь пасьпеў. Перапісваю рэцэнзію на Паліну[183].

**26 лютага.** Стаю на праверцы — рукі за сьпіну закладаю. Кастэнку рукамі чапляю ўжо другі раз. Той торгаецца. Тлумачу: «Ужо год без двух дзён, як у гэтай камандзіроўцы, а ад парадку, як у Жодзінскім СІЗА навучылі, адвыкнуць не магу».

Стаяць зэкі на праверцы, распавядаюць «цікавыя» гісторыі. Адзін пра тое, як на волі па п’яні замест локшынаў запалкі варыў. Другі пра тое, як цешча купіла здохлае прапеніцыліненае парася і смажыць пачала, а ён адчуў пах пеніцыліну і пайшоў да суседа, у якога

купілі, высьвятляць. Аказалася, здохлых, замарожаных, крадуць з мясакамбіната, а потым — на фарш і прадаюць. Тады першы расказаў, як у яго карова ў хляве здохла. Дык ён яе адтуль не выцягваў, а там шматы адразаў, варыў і еў.

Тут і праверка скончылася.

У інтэрв'ю Сяргею Шапрану Рыгор Барадулін называе геніяльным Някляева. А Шапран цытуе Геніюш, як яна казала пра Барадуліна: «Гэта ж не нармальны чалавек, а паэт». І Геніюш у Барадуліна геніяльная. І Быкаў. А Някляеў Барадуліна называе геніяльным паэтам.

«Перакінулі б мяне ў іншую секцыю, — скардзіцца Гарбаты, — а то ў мяне тут "ірве галаву"».

**3 сакавіка.** Уладзімір Сыракомля (пераклад Ірыны Багдановіч):

Мужу ў справах спагадае,
Падтрымае ліхалецьцем,
Перадасьць любоў да краю
З малаком уласным дзецям.
Гаспадарна будзе весьці
Ў доме мужа лад-парадкі…
Хоць кабет нямала ў сьвеце,
Ды найлепшыя сарматкі.

Ян Чачот:

О, сорам жа нам, ліцьвіны!
О, сорам, браты-палякі,
Што вус мы згаліць павінны
Й насіць не свае апранахі.

**5 сакавіка.** Звадзілі «на наказание». Да намесьніка (Трутко). Пазачарговая ўборка лакалкі. За тое акт, што секцыю не прыбраў. Напісаў, што быў Міжнародны дзень пісьменьніка (3-га) і я «находился под впечатлением».

**7 сакавіка.** Учора ідзём на промку. Усіх абшманалі. Мяне глядзеў начальнік рэжымкі. Дастаў дзве газеткі, ліст Алены і пусты аркуш. Трутко стаіць, глядзіць, кажа: «Чытаць газеты ідзе». З незадавальненьнем такім. Адклалі. Як вяртаўся з промкі, забраў у дзяжурнага афіцэра.

Хварэю. Калі абшмонвалі, рэжымнік пытаецца: «Ня горача?» — «Не, — кажу, — прастыўшы». Было на мне дзве спартовыя сьвіткі. Спытаўся, ці ведаю, колькі можна. Адну, кажу, але я хварэю. Не забраў.

А сёньня прыйшлі сем пакетаў з Канады зь лістамі і паштоўкамі — 822 асобнікі.

**9 сакавіка.** «Міхал Міхалыч — Піхал Піхалыч».

Пайшоў Пятроўна. Восем гадоў «узяў» за забойства жонкі. Ні кала ні двара. Ісьці баяўся. Кажа: «Я не ўяўляю, як там яно…»

У секцыю зайшоў дзяжурны афіцэр з узьлёткі:

— Ну што, вары́, ці хто — павары́?

**11 сакавіка.** Схадзіў сёньня ў бальнічку. Грыпую. Прыхварэў ужо з 7-га. «Ад інфекцыі нічога няма. Прыйдзецца вам лячыцца тым, што ёсьць у вас». Арпетол шукалі — не знайшлі. У мяне ёсьць колдрэкс і яшчэ нейкія пігулкі. Так што галоўнае, што бальнічны да 15-га. Таму зараз сяджу ўдома і адказваю на лісты.

**17 сакавіка.** Да пятніцы сядзеў у секцыі, хварэў. А ў пятніцу–суботу ўжо выйшаў на працу. За гэтыя два дні сьнегу наваліла, як не было за ўсю зіму. Мусіла прыехаць Натальля-адвакатка, мо таму і не прыехала. Усе гэтыя дні, і сёньня, з тэрыторыі на «стадыён» звозілі сьнег. А ўчора на вячэрняй праверцы прыляцела птушка і села, неяк дзіўна паднырнуўшы, на дрот, на рагу нашага Тытаніка. Я гляджу — галава пляскатая. Аказалася — коршак. І нас не баіцца. А потым зьляцеў удол, у сушылку. Мы падышлі і паглядзелі. Невялікі, як 2–3 галубы, хвост з узорам. Вылецеў у

супрацьлеглы ад нас бок. Птушак у небе — аніводнай. Вераб’і забіліся пад шыфер у сушылцы і ціха сядзяць, а то ж звычайна чылікаюць.

Прыбіральня, шторка, пах. Мышка: умоўны рэфлекс выпрацоўваецца ў тых, хто ходзіць за шторку. Эрэкцыя на смурод.

**22 сакавіка.** Апытаньне «Люстэрка-ААА» — травень 12 г.

Адносіны людзей да ўлады: плюс — 16%, мінус — 48%, ня ведаю — 34%.

Важнейшыя нормы жыцьця грамадства:

• эканамічны росквіт — 51 %

• стабільнасьць — 44 %

• выкананьне законнасьці — 37 %

• дэмакратыя — 25 %

• свабода — 19 %

• цярпімасьць — 18 %

• справядлівасьць суда (правасудзьдзе) — 18 %

• рэлігійная вера — 10 %

Мэты ладу жыцьця сям’і:

• жыць ня горш за большасьць сем’яў у маім горадзе, раёне — 39 %

• жыць лепей — 31 %

• жыць, як у ЕС, ЗША, — 17 %

• выжыць — 8 %.

Пазаўчора ў сталовую заляцеў той самы коршак і пачаў драць вераб’ёў. Яны спрабавалі хавацца па шчылінах. Налятае, лапай туды — і цягне вераб’я. Сядзіць на трубах, і толькі пер’е ляціць — дзярэ. А ўчора там ужо амаль іх і не было. Зьляцелі. Вераб’іны рай — сталоўка — для іх скончыўся. І ў той жа дзень прыязджала адвакатка Натальля наконт кватэры. Паразмаўлялі толькі 20 хвілін.

— Дурні, во, сядзяць.

— А ты што — лятаеш, не сядзіш?

— Я адбываю пакараньне.

**24 сакавіка.** Пальмавая (вербная) нядзеля. Сьнег. Завіруха. Сёньня ў Менску шэсьце. Тры дні не працавалі, работы не было.

Зайшоў у аўторак начальнік аддзяленьня Крупа[184]. Я паўляжу, Эдзікавае «выбранае» чытаю[185]. «Чаму ў верхняй вопратцы і валяецеся?» Склаў акт. Мабыць, бывай, перадача!

Коршак у сталоўцы так і прыжыўся.

На працы кальсоны і кашулі ніжнія, белыя, работы небагата. Выглядае, што хутка выпусьцяць.

**27 сакавіка.** У панядзелак, 25-га, «хазяйка» караць адмовіўся, адправіў да зампаліта. Было «апошняе папярэджаньне», але ў спакойным тоне. А я казаў, што ўжо «дадому зьбіраюся». Ён: «Без памілаваньня… гм…», не зусім паверыў.

Сёньня вадзілі да зампаліта. Дыля[186] разглядаў.

Пытаецца: «Ну як?»

Я кажу: «Як напісана».

Ён у Барысавіча: «Што?»

Той: «Ленін жа цярпеў. Хі-хі… Пазбавіць перадачы».

Я: «Рэмарка. Да атрыманьня перадачы засталося 9 дзён, і жонка ўжо падрыхтавала яе. А потым — я працую. Патрэбны калорыі і вітаміны».

Дыля вагаецца, ізноў пытаецца: «Што скажа атраднік?»

Той: «Пазбавіць перадачы».

Так і вырашылі. Блін.

**1 красавіка.** Учора коршак у сталоўцы разьбіўся. Пагнаўся за вераб'ём, які сядзеў па другі бок шыбы, уляпіўся ў шкло — і ўсё. Так блізкасьць да людзей пакарала яго.

Стаім сёньня на праверцы. Па ўзьлётцы ідзе здаровы, мардаты афіцэр у суседнія атрады. Я кажу сам сабе: «Во, зараз форткаю лясьне». Лясь! Ня можа, каб ня ляснуць.

Халодная вясна 2013-га. Ляжыць сьнег. Ідзе дождж. Згоніць сьнег за некалькі дзён. Вясна хмурная, з дажджом.

Барысавіч пайшоў у адпачынак. Вадзіў 27-га мяне на пакараньне да зампаліта Дылі.

Прачытаў у «Свободных новостях плюс» інтэрв'ю Марзалюка[187]. Спыталі наконт палітзьняволеных. Кажа: «Слушна!» Вось му…ак. Ня так бы чапляла, калі б не гісторык быў і не беларускамоўны.

Дачытаў кніжку Дубаўца пра «Талаку». Таксама зачапіла. Але ўжо зь іншага боку. Адбылося вяртаньне ў маладосьць.

Учора быў Вялікдзень. Прайшоў зусім спакойна. Рэлігійнасьць мая дрэмле.

Ксёндз Анджэй Возьняк, ужо 10 гадоў як пробашч касьцёла ў Паставах: «Беларусы даволі замкнутыя ў сабе, калі гаворка ідзе пра выяўленьне сваіх пачуцьцяў і перажываньняў — таксама рэлігійных — перад іншымі людзьмі».

Па «Магілёве FM» пусьцілі перадачу «Шансон». Запрасілі нейкага «вядомага» шансанье Севу Квадрата (ёсьць Круг, ёсьць і шансанье з Глуска Квадрат). Ён гаварыў пра «рускую душу» і г. д. Пайшлі эсэмэскі.

Адная: «Ці можна навучыць сьпяваць зязюлю ў гадзіньніку?»

Ён: «Это что? Предъява? Что за делюга?»

Наступную эсэмэс вядучая чытае: «Где вы выкопали это хамло?»

Затым яна працягвае: «Всё-всё, Сева. Присядьте. Это, наверное, мне эсэмэс».

Такі развод на 1 красавіка.

**13 красавіка.** НІІСІПІ пытаньне:

«Ці можна давяраць большасьці людзей або ў адносінах зь людзьмі трэба быць вельмі асьцярожным?»

70% — быць асьцярожным;

23,1% — можна давяраць.

**6 красавіка.** У газетах абмяркоўваецца сьмерць Беразоўскага[188]. Адна з апошніх ягоных фразаў: «Хадаркоўскі захаваў сябе». Меў на ўвазе, што ён — не, а Хадаркоўскі — так. І гэта нягледзячы на тое, што Хадаркоўскі ўжо амаль 10 гадоў як сядзіць. Так, дарагі кошт, але праўда. Як часам дорага прыходзіцца плаціць, каб «захаваць сябе».

**11 красавіка.** «Пацана яда — хлеб ды вада. А каўбаса, ведаеш, на што падобная?»

Мянушкі афіцэрам: Конь-галава, Даберман.

Чайкі сёньня над галавой ляцелі. Па адной.

**14 красавіка.** «Уставіў кукурузіну, папарыў, папарыў, адваліўся, паспаў, а потым ізноў».

Усё неба ў птушках. Самы прылёт.

**18 красавіка.** Опер пытаецца ў зэка пра мяне:

— Як ён?

— Ды ніяк. Сядзіць на марозе[189]. Паперкі піша.

**19 красавіка.**

— Ты апошні лох у гэтай калоніі, Джоні!

— Чаму?

— Бо ты ня ведаеш, што такое Мадрыд!

— Мадрыд — гэта горад.

— Не, Джоні, Мадрыд — гэта сталіца Іспаніі!

**20 красавіка.** Пайшоў сёньня Кацуба. Год скасавалі па амністыі. Дыябетык. У мяне пачуцьця зайздрасьці зусім няма. Ёсьць адчуваньне, што кожны сядзіць сваё і за сваё. Я свайго тэрміну яшчэ не адсядзеў.

Учора ластаўкі ў цэх прыляцелі. Адразу некалькі параў.

**22 красавіка.** У. Някляеў С. Шапрану ў гутарцы-інтэрв'ю гаворыць: «Мы звычайна ідэалізуем сябе, мы заўсёды лепшыя за іншых».

**23 красавіка.** Учора Матаблок прыбірае цэх, я кажу: «Мяці, мяці». Ён злосна: «А ты ўсё пішаш і пішаш!» — і голасна так. Сапраўды кажуць: бойся дурняў.

**24 красавіка.** Учора на працы перапісваю артыкул пра Эдзіка[190], а Толік гадзіньнік разабраў, дэтальку згубіў. Шукалі Фікса і Андрэй. Скончылася бойкай.

**25 красавіка.** С. Калінкіна напісала, што мо на Вялікдзень (Пасху) палітычных вызваляць.

Чытаю «Нашу Ніву». Літоўская рэжысёрка Рамуне Кудзманайтэ паставіла ў Менску «Дзяды» Міцкевіча. Зрабілі агрэсію з Максімам Клімковічам. У інтэрв'ю яна кажа: «Маналогі рэпетавала і плакала». І ў мяне сьлёзы навярнуліся.

А потым ем хлеб з вафляю і гарбатаю, і зноў сьлёзы навярнуліся. Сам сябе пашкадаваў, першы раз за тэрмін.

А трэці раз, чытаючы Севярынца, што жонка галоўнага інжынера праз мужа піражок яму перадала — цяпер ужо Пашу пашкадаваў[191].

**1 траўня.** Відавочна, што ён[192] — не сьпяшаецца. І мы не сьпяшаемся. Тым болей ня трэба і іншым тады сьпяшацца. Перапісваю і праўлю нарыс пра Эдзіка[193]. Будзе вялікім.

**5 траўня.** Падпісаў заяву ў начальніка на рэчавую перадачу. Сёньня праваслаўная Пасха. Нас не выпусьцілі, як некаторыя спадзяваліся. Вось і ў праваслаўных Хрыстос Уваскрос.

**7 траўня.** Міша гаворыць пра тое, як шыў рукавіцы: «Я сіліў, сіліў, 20 штук не пасіліў».

На дошцы аб'яваў павесілі абвестку пра чарговы сьмяротны прысуд — «в назидание»[194].

Учора падчас праверкі голуб сярнуў на опера, які праводзіў праверку. Той спыніў праверку і пайшоў абціраццa. А сёньня на Мішу верабейка крапнуў. Проста птушынае каралеўства.

Скончыў у агульных рысах я нарыс пра Едруся, толькі канцоўка засталася.

**8 траўня.** З працы выходзілі, забралі ў мяне два лісты і старонку тэксту пра Эдзіка. Сказалі: «Паглядзім…»

**11 траўня.** Міша кажа:

Камары і мошкі
Я..цца патрошкі.
Мухі з аваднямі —
Цэлымі днямі.

**13 траўня.** Камары заядаюць. Пішу ліст У. Някляеву «Пра ахвярнасьць»[195]. Цяжка ідзе. Захапляюся стрыжамі.

Зранку сёньня Жэнік прыбірае секцыю. Пытаюся ў яго:

— Як ты?

— Пагана, — кажа, — гэта я толькі выгляду не падаю і кажу, што ўсё добра. А насамрэч — пагана.

І я згадваю адразу Хадаркоўскага, які на пытаньне: «Як вам у турме?» адказаў: «Турма — месца паганае (па-руску так сказаў), але жыць можна».

**26 траўня.** «Не хрэн рыць тут, адно ка́ліўе».

Учора закрылі Гарбатага, Жука і Зялёнага. Спачатку Гарбаты і Зялёны пераабазваліся петушкамі і пі…мі, а затым Гарбаты з Жуком пайшлі разьбіраццa зь Зялёным. Урэшце ўсе апынуліся ў ШЫЗА. Далі па сем сутак. Але Гарбатаму месяц да званка. Кажуць, што можа там і да канца прасядзець.

Сёньня паслаў Ірыне ліст пра Цікоту[196], і званкі былі. Наталя трапеча перад 6-м.

«Пакуты крышталізуюць прыроджаную сілу духу.

Менавіта праз пакуты сьмелы чалавек можа дасягнуць мэты і спазнаць меру сваёй адвагі». Анвар Садат.

**1 чэрвеня.** Трэці дзень сяджу на бюлетэні. Схапіла сьпіну. Сёньня скончыў пераказ жыцьця айца Леаніда Фёдарава[197], якое ўразіла мяне сваёй самаахвярнасьцю.

Булгакаў вярнуўся[198]. «Архэ» аднавілі рэгістрацыю. Наступныя, выглядае, што мы. Але калі…

**2 чэрвеня.** «Ні адзін галодны шчэ ня ўсраўся».

**16 чэрвеня.** Нейкі спакойны перыяд у жыцьці быў.

Размова -іча наконт «Абажура».

Чытаю зараз Дамброўскага[199].

Зранку сёньня Жопа[200] забег. Усе ляжаць. Рыжага павёў. Я не ляжаў, газеты чытаў. Заходзіць: «Усе ў вас воры. А дзе ў вас вараўское?» — з пагардаю так.

Працы небагата. Пастарнак Андрэй сёньня пайшоў. Гарбаты так і сядзіць у ШЫЗА, і яму пару тыдняў да званка засталося.

**17 чэрвеня.** Вось ужо трэці месяц, як нічога не адбываецца. Сумнавата стала! А лета якое, лета! Сёньня на працы ў першую зьмену напісаў тры старонкі пра Аляксандра Неўскага[201]. Пішу розную муру. Чытаю кніжкі і пішу. Адначасова зараз чытаю дзьве цудоўныя кніжкі: «Факультэт непатрэбных рэчаў» Дамброўскага і «Майстра і Маргарыту» Булгакава.

**19 чэрвеня.** Учора ў лаўку хадзілі. Стаім, ні майстра, ні афіцэра, атаварыцца ня можам. Барысавіч прайшоў на абед, партфелікам памахвае, у наш бок і не паглядзеў.

Барысавіч сёньня зранку крычаў моцна на Кулікова Андрэя за Чаромху. Гісторыя з Чаромхай[202]. Сядзіць зараз у ШЫЗА.

Гутаперчавыя стрыжы.

Абед. Эдзік (Бэдзя) бунт падняў у адказ на жарты і наезды Таранава.

Даміношнікі.

Акты на Толіка і на Рыжага. Заўтра, мабыць, будуць хрысьціць. Рыжы зьбіраецца, а Гарбыль яшчэ там.

Я сёньня спортам пазаймаўся: пападцягваўся, прэс пакачаў, пахадзіў, як заўсёды.

Азар не забываецца, а Эдзік усё ня піша, ужо больш за месяц, пакрыўдзіўся, ці што.

**20 чэрвеня.** Учора стаіць Косьця, калупае пальцы і грызе пазгногці. Кажу яму: «Не рабі так, бо бамжом станеш».

Адказаў: «Што хачу, тое і раблю». З чаго я раблю выснову, што вельмі часта людзі вучацца толькі на сваіх памылках, а чужыя парады яны не ўспрымаюць. Яны ім непатрэбныя.

Сёньня былі званкі. Барысавіч кажа: «Ну што вы, Бяляцкі, тут седзіце? Ідзіце на волю, там сьцягам махаць будзеце».

Я адказаў: «Ёсьць у мяне сябра серб. Дык некалі ён сказаў, што часам самае большае і лепшае, што можа зрабіць чалавек, гэта нічога не рабіць. Вось і я зараз у такой сітуацыі».

**21 чэрвеня.** Пытаюся ўчора ў двух 20-гадовых калегаў па няшчасьці:

— Што заўтра за дзень, ведаеце?

Адзін адказвае:

— На дзень менш сядзець буду.

— А яшчэ?

Ня ведаюць.

Схадзілі ў лазьню, вада ледзь цячэ, але гарачая. Хапіла.

Прыйшлі заказныя лісты, а сярод іх — кніжка Адама Глобуса, ім падпісаная[203].

Выпраў чорную вопратку.

**23 чэрвеня.** Учора спаць ужо лёг. Хлопцы раз-

маўляюць: «Сёньня ж дзень вызваленьня…» Я іх паправіў.

Стаім на праверцы Тара(ка)наў гаворыць пра Бэтмана, якая прыйшла яму пасылка: кілаграм цукру, кілаграм чаю і 10 ролтанаў: «Усё, — сказаў я яму, — вось гэта даядай— і ўсё. Забылі цябе». — «Дык хто ж яго будзе памятаць? — гаворыць Міша. — Тэрміну ў яго 25 гадоў». — «Не 25, а 24», — папраўляе Таранаў.

**24 чэрвеня.** Выклікаў Губіч[204] у штаб, паказваў лісты наконт адпачынку[205]. Я тлумачыўся. Здаецца, пойдуць. Заходзіць Барысавіч: «Адпачынак? І я хацеў бы зьезьдзіць у Сочы».

**26 чэрвеня.** Урэшце прыйшоў ліст ад Эдзіка. Добры. І я супакоіўся. Заняты быў, помнік бацьку мяняў, на фестываль у Балгарыю езьдзіў. І дзякуй Богу.

Нашыя пацягнуліся вялікай грамадой у лаўку. Я застаюся. Грошай няма. Чую за вакном:

— А ты кап’ё ўзяў? — Барысавіч у Патрыка пытаецца. Мянтоўскія жарты. Усё «кап’ё» ў нас ненаяўнае.

— Ідзі сюды, …уіла! — гэта ўжо дзяжурны афіцэр на ўзьлётцы кліча нейкага беднага зэка, які брыдзе нечага з аднаго атрада ў другі.

**29 чэрвеня.** Ідзём зранку ў сталоўку. «Што, эфіёп, холадна?» — пытаецца Барысавіч у мулата Патрыка.

Тэлефануем:

— Ну, калі вашыя сябры вас вызваляць? — гэта ўжо ў мяне.

Размова з Наталяй была нервовай. Я сеў і адразу накатаў ліст. Яна нервуецца пасьля абароны: паперы абрыдлі.

**2 ліпеня.** Рыжы чытае тэлепраграму на заўтра: «Альпінісцкая балада». Я папраўляю: «Не альпінісцкая, а альпійская». Маўчыць.

Пяе «Любэ»: «Скворцы летят на родину, скворцы, скворцы».

Рыжы кажа: «Во, гэта пціца такая».

Я кажу: «Гэта расійская птушка, а нашая — шпакі».

Ён кажа: «Дык гэта адное і тое ж».

Я кажу: «Не, у іх пад крылом напісана. Калі — шпак, значыць наш, калі скварэц — значыць, расійская птушка». Маўчыць, думае.

Ягоныя любімыя выразы: сабака канвойны, карова п’яная.

**6 ліпеня.** Два дні стаіць сквар, і два дні Барысавіч мучае атрад — праверкі кешараў, пастраеньні праз гадзіну і г. д.

# ЗЯЛЁНЫ СШЫТАК 3

## 12.07.2013

Паспрабую запісваць больш і падрабязьней.

Пятніца. «Нагружаны» рознымі справамі дзень, зь якіх самыя пільныя — стрыжка, заказныя лісты, лазьня. Першае звычайна па часе супадае з другім. Так і сёньня. Заняў чаргу на стрыжку, паклікалі па заказныя. Схадзіў, забраў лісты ад Міланы Міхалевіч[206] і Леаніда Гаравога[207] і кніжку Рамэна Гары[208], гэтага літаратурнага містыфікатара. Мабыць, Саша Кулаева даслала, хоць і з адраса Сержука Сыса. Будзе што на швейцы чытаць, бо «Прыніжаныя і зьняважаныя»[209] ужо сканчаю.

Зараз перапісваю эсэ для «Дзеяслова» пра Дзяды[210], займаюся толькі гэтым.

Прачытаў інтэрв'ю ў «С. Б.» зь Ігарам Бабковым[211], як заўсёды, разумнае. Назваў «новую расійскую літаратуру» чарнухай, прыперчанай гламурам і сэксам. А пра Глобуса[212] піша — гэта стваральнік новага рэалізму ў беларускай літаратуры. Адразу транспалюю яго да новых расійскіх рэалістаў. І ў яго таксама адчуваецца — вучыўся пісаць мініяцюры ў Брыля, але дадае гламуру і сэксу. І нягледзячы на гэтае папсовае, сустракаецца і багата чаго цікавага.

Увечары — праца, вывернуў і ўпакаваў два пачкі рукавіцаў, дачытаў «Прыніжаныя і зьняважаныя». У некаторых месцах нават сьлёзы накаціліся. Рэч з добра выпісанымі характарамі і імклівым сюжэтам.

**13.07**

Субота. Зранку прагледзеў газеты за пятніцу. Пуста. У краіне нічога не адбываецца. У «Народнай волі» артыкул-зварот Пазьняка пра абарону Курапатаў. Напісаў, што гэта стала справаю цэлай партыі. Што ж гэта за партыя такая? З другога боку, гэта лепей, чым нічога.

У «Зьвязьдзе» А. Глобус напісаў пра Савіцкага[213] жменю сваіх карацелек. Я зьдзіўляюся ягонаму ўменьню ў такім сьціслым аб’ёме абасраць такую вялікую колькасьць людзей. І першы тут — Савіцкі. Напісаў, што той усё жыцьцё маляваў дзяржзаказы (што часткова праўда), што маляваў трупы, што быў вучнем у мадэрністаў і нічога новага, свайго ў мастацтва не прынёс. А потым напісаў, што і Кожух, і Янушкевіч, і Альшэўскі[214] як былі вучнямі Савіцкага, так і засталіся. Зьвёў іх да ролі дробных эпігонаў. Не прынялі яны яго ў Саюз мастакоў, вось ён і грае на іхніх рэбрах.

Зараз буду даперапісваць эсэ пра Дзяды. Пахадзіў па лакалцы 20 хвілінаў, асьвяжыў галаву. Праходкі асьвяжаюць мае думкі.

**14.07**

Зранку пачалі ізноў даваць кашу са згушчаным малаком. Учора ўвечары на вячэры адзін сусед за сталом кажа: «Зранку пасаліў кашу, штосьці горкая». Я кажу: «Дык яна ж згушчонкаю запраўленая». Тады другі гаворыць: «А я то думаю, чаго яна такая салодкая ад пакуначка цукру». Ён кашу пасаладзіў. Я не саліў і не саладзіў, самы «хітры» аказаўся.

Зараз праць каляровае буду.

Прыходзіў Барысавіч у другую зьмену, здалося яму, што брудна ў секцыях, вынесьлі ўсе матрацы на вуліцу і прыбіралі па другім разе.

**15.07**

Гена пайшоў на спатканьне, і я за яго выварочваў рукавіцы за Толікам і Фіксам. Працы хапіла. Увечары ў асабісты час хаджу, выходжваю сваю гадзіну, узьнялася цэлая хмара галак, варонаў, лятуць над галавою, каркаюць, ця́каюць. Я стаў, галаву ўзьняў, гляджу на іх. Барысавіч выходзіць з казармы і ідзе на пост. Ён сёньня дзяжурны. «Што, гледзіце, каб не абга́дзілі? Нічога. Зноў якую-небудзь прэмію атрымаеце». Пайшоў, жартаўнік.

**17.07**

Пахмурны цёплы ранак. Учора перапісваў эсэ, 2-ю частку, засталася 3-я. Усё думаю, пісаць эсэ пра кніжку Глобуса ці не[215].

Сёньня ў зоне бокс, у актавай зале будуць баі паміж зэкамі, але мы працуем. Пасьля працы ў першую зьмену прыходжу стомлены, толькі газеты чытаю. І думкі, думкі, але праходка пасьля вячэрняй праверкі разгружае галаву і сьплю добра.

Чытаю Рамэна Гары пра сланоў у «Каранях неба»[216], і ўставіў ужо гэтых сланоў адным словам у эсэ.

Учора прыйшло некалькі новых вясноўскіх паштовак з палітзьняволенымі, і ў тым ліку з часткаю майго твару. Нармальныя.

**18.07**

У «БГ»[217] прачытаў, што Макей[218] напісаў вялікі артыкул пра гістарычную абумоўленасьць усходне-

славянскай цывілізацыі, уключыўшы ў яе без усялякіх агаворак і Беларусь. Вось так міністр 500 гадоў нашай гісторыі ўзяў і выкрасьліў.

Учора ўвечары крыху на брусах паадціскаўся, пахадзіў, пападцягваўся. Пазначыўся і другі «пасажыр», які паедзе з нашай секцыі. Гэта Кэваль. Восем гадоў сядзіць.

Ізноў пайшлі даволі густа паштоўкі з-за мяжы, у асноўным нямецкія. Учора 15 я атрымаў.

**21.07**

Тыповая размова зранку:

— У футбол гуляць пойдзем?

— А дазвол ёсьць?

— Ды там на ўзьлётцы Чэлентана стаіць.

— А хто такі Чэлентана?

— Ня ведаеш, хто такі Адрыяна Чэлентана?

— Адразу відаць, малады.

— Ды некаторыя зь іх ня ведаюць, хто такі Ленін.

Тут я ўжо не вытрымліваю:

— Вось Толік ня ведае, хто такі Ленін.

Толік, памаўчаўшы крыху, гаворыць:

— Председатель партии Ленин.

— Правільна, Толік, — кажу я.

Сёньня нядзеля, адпрацавалі ўвесь тыдзень, і я крыху стаміўся. Гарачыня стамляе. Зараз рэзка пахаладала і няўтульна ў секцыі, холадна. Таксама нядобра. Для зэка ўсё пагана.

Даправіў 15 старонак нарыса пра Эдзіка[219]. Працягваю чытаць «Карані неба» і выпісаў цудоўную цытату пра «Вясну».

**22.07**

Стаіць халаднаватае надвор’е, хмары, часам сыпле

дождж. Вельмі добрае надвор’е для працы ў цэху — ня горача.

Зранку былі званкі. Наталі яшчэ няма, і я коратка пагаварыў з Воляй[220]. 16-га ў яе быў дзень народзінаў, паштоўку ад мяне яна атрымала. Ужо бабуля ў 41 год. Аксанка[221] нарадзіла Максіма месяц таму.

Уношу праўкі ў «Сьцягу паэта». І тэкст вялікі, і правак багата.

**24.07**

Зранку даўнёс праўкі ў тэкст пра Эдзіка Акуліна, заўтра вышлю Алене[222]. А потым пасьля сьняданку да абеду валяўся на шконцы, чытаў газеты. У аўторак прыходзяць і «Народная воля», і «Белорусы и рынок» і «БелГазета». Вось жа ў сераду і адбываецца генеральнае чытво.

Галоўныя навіны — Макей паехаў у Брусель. Па дадзеных НІСЭПІ, рэйтынг Л. узрос да 40% — гэта просты вынік падвышэньня заробку.

Учора на працы добра было. Людзей хадзіла на працу з брыгады няшмат. Работы — абразаць і складаць касьцюмы — было на гадзіну. Астатні час сядзеў, чытаў. Прачытаў «Тэксты», альманах Зьмітра Вішнёва[223]. Ёсьць цікавыя тэксты: сам Вішнёў, Жыбуль, Сыс, Кавалёў[224]. І пачаў чытаць Стругацкіх «Панядзелак пачынаецца ў суботу», напісаны ў 1967 годзе, у той час, калі і Караткевіч напісаў свайго «Хрыста». Зьдзівілі пакуль кошты на ежу, якія там апісаныя. Удома ж ляжыць Рамэн Гары «Карані неба», але з-за сёньняшняй порцыі газетаў за яго ня браўся.

Па ўсім выглядае, што і ў 2015 годзе шанцаў ні ў кога няма[225].

У Расеі Навальнаму[226] далі 5 гадоў і адпусьцілі, пакуль абскарджвае. Спадзяюцца, што збаіцца і ўцячэ за мяжу. Вось дык блогер, які стаў палітыкам.

Ем сухі часнык. Смакчу. Адзіны з прысмакаў, які застаўся, бо я доўга ня мог зразумець, што гэта такое.

Зараз абед, потым — праца, у другую зьмену гэты тыдзень ходзім.

**25.07**

Сёньня чацьвер — сядзім удома, рукавіцаў не накраілі. Напісаў лісты Барысу[227] і Наталі. Сухафрукты ўрэшце скончыліся, дастаў згушчонку. Падцягваўся сёньня 9 + 8 + 8 = 25 разоў у тры прыёмы. Ня трэба і на Камароўцы працаваць, як Скрабец[228].

Пацяплела, але быў яшчэ дождж. Надвор’е добрае. Хвосьцікі на рукавіцах папрасіў Косьцю абрэзаць за пачак «двушак». Зараз прыходзіў Жора, прынёс «Інтэкс-прэс»[229] з нататкаю, фоткаю і паведамленьнем пра тое, што ў другія ўгодкі майго затрыманьня падалі заяўку на пікет у Баранавічах і яшчэ ў 15 гарадах. Пададмаўляюць, хутчэй за ўсё.

**26.07**

Пятніца, дзень шматлікіх падзеяў. Стрыжка, пайшоў на ПВР, заняў чаргу, сеў стрыгчыся, прыйшлі з заказнымі. Папрасіў, каб пачакалі, пакуль падстрыгуся. Тры заказныя лісты. Наста[230] ліст напісала і канвертаў з паштоўкамі прыслала, хоць я прасіў яе не дасылаць, бо ў мяне «затаварваньне», ужо багата ляжыць і абгортак, і паштовак. Вось упартая, жах!

Паліна[231] даслала старонкі з Шынклера пра Мікуліча[232].

Зьбіраўся папрацца, сёньня ж у нас пральны дзень, — дзе там, званок на пастраеньне, зноў хтось, як і ўчора, у іншы атрад у госьці пайшоў. Аказалася, што хлопец, што з ПКТ[233] да нас прыйшоў, зматаўся некуды. Паўгадзіны мы прастаялі, потым разышліся.

Затое пачаў пра кніжку С. Балахонава[234] пісаць.

Будзе такі водгук. Гэта стаіць у мяне ў планах: адпісацца па тых кніжках, якія я чытаю і пра якія хочацца напісаць — пра А. Рыбакова, А. Глобуса, Дамброўскага[235], хоць карацелькі якія.

Дык вось, цэнзар сказаў, што і Някляеў[236] усьлед за астатнімі ўчора быў вызвалены ад сваёй «адтэрміноўкі». І дзякуй Богу!

Яшчэ не зразумела, ці пойдзем сёньня на працу. Зараз пайду, пахаджу паўгадзінкі, на ўсялякі выпадак.

Яшчэ ж і лазьня сёньня. Алена прыслала назву маіх успамінаў як «Падсумаваньне».

Пытаюся ў Юркі Дзяргаўкі:

— Ідзеш сёньня на працу?

— Ня ведаю.

Стаім на пастраеньні.

— Пацікаўся ў бугра, — кажу.

Бугор — брыгадзір Андрэй — стаіць побач.

— Ня буду.

— Чаго, — пытаюся, — баісься?

— Пацікаўлюся, дык будуць распытваць — чаму пацікавіўся. Таму і не хачу.

Што гэта — вытрымка скрытнага беларускага характару? Ці выхаваньне цярпеньнем, уменьнем трываць?

**27.07**

«Такі вобраз жызьні мне непрыемлемы!»

Так не хацелася ісьці на працу, тым болей што ўчора ўсе рукавіцы паскладалі і была верагоднасьць, што сёньня работы ня будзе. Але ж дзе там! Пасьля абеду павесіў бугор абвестку: выхад — 100%. Што ўжо яны там накраілі?

«Народная воля» ўчора выйшла з зацемкаю на 1-й старонцы: «Палітвязьняў выпускаюць?». Блін.

Вось што выводзіць з раўнавагі, дык гэта няпэўнасьць і неправераная інфармацыя.

Зранку сёньня паперыў каляровае і дапісаў зацемку пра Балахонава.

**28.07**

Учора з промкі ідзём на вячэру, стаіць прапар, пыса ад’етая, чэрава з-пад папругі вывальваецца. Сьмяецца: «Падыдзіце, я хоць перагарам на вас дыхну!»

Паперыў белую бялізну, костачкі пасьціраў, так цёр. І водгук на Балахонава перапісаў начыстую.

Сёньня нядзеля. Сядзім удома. Дзіма, у якога праз тры тыдні «званок», адсядзеў 6 гадоў, кажа: «Усё. Час для мяне спыніўся».

**29.07**

«Дык што рабіць, распаясаліся, зараз ні я…уць, ні рэжуць».

Пацяплела. Сплю бяз майкі і споднягa, у адных трусах. На працу сёньня не пайшлі, работы няма. Я ўзяўся напісаць пра «Важкі пясок» А. Рыбакова. Алена надасылала мне шмат цікавых матэрыялаў. Там багата чаго зьвязана з Беларусьсю. Піша пра Юрыя Трыфанава[237]: «Цярпеньні, абвастраючы талент пісьменьніка, часта скарачаюць яго жыцьцё».

Учора Гараднова[238], пузатага маёра, зьнялі з загадчыка выхаваўчай часткі, а «хазяйка» як быццам бы вымову атрымаў. А за што — невядома.

Сёньня нашыя прыйшлі з промкі ўзбуджаныя. Стары, які ў Расіі адсядзеў амаль 20 гадоў, а сюды заехаў з двума гадамі і ўжо адсядзеў 13 месяцаў (11 засталося), спрабаваў на промцы павесіцца. Заўважылі і зьнялі жывым. «Хуткая» забірала. Зноў жа, чаго — невядома.

**30.07**

«Накінуў ноздры на пальцы».

Скончыў чытаць раман Ажáра «Жыцьцё наперадзе» — псеўданім Рамэна Гары. За абедзьве кніжкі атрымаў Ганкураўскую прэмію. Зьбіраўся хоць у літаратуры «пачаць жыцьцё спачатку». Містыфікацыя ўдалася, што ня выратавала яго ад самагубства. Ён не наталіў сваё «тамленьне духу».

Ранак пачаўся актыўна. На промку не пайшлі. Працы няма, затое Барысавіч загадаў памыць прадол. Ці не перад палажняковай перадачкай гэта, думаю я, да яе яшчэ паўтара тыдня. Часу хопіць, каб адабраць.

А затым — агляд зьнешняга выгляду на пляцы пад бравурныя маршы. Агляд праходзілі першымі, таму — хутка. Зараз будзе паход у лаўку, але я не іду, грошы скончыліся. Паспрабую напісаць штосьці пра «Важкі пясок» А. Рыбакова.

«Беларускай мове нашылі на сьвітку жоўтую зорку» — з горыччу напісаў Сяргей Астраўцоў у эсэ «Пісьменьнікі ва ўласным соку», якое выйшла ў «Літаратурнай Беларусі», ліпень 2013 г.

Тэлефанаваў Наталі. Была ў Адама. Той яшчэ працягвае здымаць «сагу ў пушчы»[239]. Зацыкліўся на ёй.

**05.08**

Учора быў мой персанальны юбілей, два гады ў зьняволеньні, а таксама Міжнародны дзень салідарнасьці з грамадзянскай супольнасьцю і праваабарончым рухам Беларусі. І ўчора была нядзеля. Я напісаў свае «паложаныя» старонкі па «Важкім пяску» А. Рыбакова. Займае гэта ня так і мала часу — да абеду.

А пасьля абеду — нічога не рабіў. Прачытаў 100 старонак з рамана Муракамі[240] «Краіна цудаў». Зараз амаль усё, што чытаю, падпіхвае да думак, і ўсё хочацца адкаментаваць. Вось, прачытаў у Мура-

камі цытату з «Палаты № 6» Чэхава[241], якая мала што значыла для мяне, і адразу ж узгадаў іншыя думкі А. Чэхава ў гэтай «Палаце». І адразу ж захацелася штосьці напісаць пра іх.

Найвялікшая праблема з Глобусам. Мучаюся: пісаць ці не пісаць. І ўжо быў вырашыў — пісаць, а потым атрымаў ліст ад Паліны, дзе яна страшна крыўдзіцца на яго. Ізноў я ў роздуме.

Ізноў «гайкі падкруціліся».

У суботу брыгада, асноўны склад, сядзелі ў атрадзе, а мяне «пагналі» на працу. Асаблівая ўвага да персоны. Ці гэта зьвязана неяк з 4 жніўня, ці не — ня ведаю. Зараз, мабыць, буду рэгулярна хадзіць. А ў чэрвені–ліпені па тыдню і я не працаваў. Усё нічога, але зараз надта горача там у цэху.

І яшчэ адное пытаньне не выходзіць зараз з галавы: ці «дажыву» я да 7-га без акта аб парушэньні[242]? Хаця я імкнуся надта пра гэта ня думаць, але ўсё роўна думкі рэгулярна вяртаюцца.

Сёньня будзе цёплы дзень, як і ўвесь гэты тыдзень, да 28 градусаў гарачыні.

Два гады — мабыць, яны ўсё ж болей пайшлі мне на карысьць. Яны перафарматавалі маё жыцьцё.

Ірка Пракопчык ліст мне напісала і высока ацаніла гэтыя гады для мяне. Ня ведаю, якая зь іх карысьць для іншых, але мне жадалася, каб вось вынік ад іх быў менавіта такі, як яна напісала.

**06.08**

Сёньня некалькі чалавек пайшлі ў першую зьмену, а ў другую зьмену працы не было. Тым ня менш увесь дзень быў вельмі нервовы. У 10 гадзінаў хадзілі мы на рэнтген, які робяць раз у паўгода. Я пішу-дапісваю да ўсяго свой артыкул на «Важкі пясок». Ідзе ўсё даволі павольна, па старонцы ў дзень, ня лічачы цытатаў.

Дык вось, флюараграфію пайшлі рабіць, я яшчэ ніводнага радка не напісаў, прайшлі хутка. Як вяртаўся, зайшоў у бібліятэку. Узяў урэшце «Вайну і мір» і «Уваскрэсеньне» Л. Талстога і «Паны Галаўлёвы» Салтыкова-Шчадрына. Цягне зараз на расійскую класіку. Прыйшоў, прачытаў «Пасьля балю»[243]. Усё гэта чытаў некалі, нічога ня памятаю, толькі смутныя, далёкія нейкія сьцені і адгалоскі.

Затым кіпеш пачаўся. Ці не начальнік ДІНа прыязджаў. Адпаведна, Барысавіч сабраў усіх на прадоле і даў 15 хвілінаў на навядзеньне ідэальнага парадку. Я скарыстаў іх на галеньне. Затым усё ж сеў і старонку па «Важкім пяску» напісаў. І падчас гэтага пісаньня забягае потны К.: «Мяне садзяць!», абвяшчае, за тры тыдні да званка.

Пачалася мітусьня, ён зьбіраецца, майно раздае. Прыйшлі аператыўнікі, абшукалі тумбачку, праверылі паперы. Па абедзе ён і пайшоў.

«Вараўскія традыцыі падтрымліваеш?» — запытаўся ў яго Барысавіч.

Затым, усё ж, вось толькі тады я дапісаў сваю старонку.

І газеты прынесьлі. У «Народнай волі» — фотка з паведамленьнем пра Дзень салідарнасьці і фоткі зь Берліна і яшчэ аднекуль. І асобна — інфармацыя, што імпрэзы прайшлі ў розных гарадах і краінах.

Сьпякотна вельмі, пад 30. І так будзе да канца тыдня. Тут гарачыня — ня самая добрая справа.

Перад вечаровай праверкаю пахадзіў 40 хвілінаў, падцягнуўся на турніку тры разы па сем. Зараз — бáйкаць.

**10.08**

Сёмага жніўня перадала Наталя мне перадачку. Вельмі дарэчы, бо ў торбе заставалася бляшанка

згушчонкі, 2 пачкі вафляў, 1,2 кг рысу — і ўсё. І вось у гэтыя два дні, 7–8-га, я ўкладаў усё ў дзве торбы, і тое, што мне перадалі — 30 кг ежы і 5 кг садавіны і астаткі ежы, якая заставалася, — усё ў адную торбу; адзеньне — у другую, паперы, кніжкі, пральны парашок. Кожная стала важыць кілаграмаў па 35–40. Затое — дзьве, як і дабіваўся Барысавіч.

Гарачыня ўсе гэтыя дні стаіць пад 30, а то і болей. Есьці ня хочацца, але мяса я ем, каб не прапала… Кава зьявілася зранку, жыцьцё ўсталявалася.

Сёньня вычытаў у «Нашай Ніве», што Тацяна і Ўладзя[244] раздавалі ўлёткі і былі за гэта аштрафаваныя, значыць, затрыманыя і асуджаныя. З аднаго боку, я ўдзячны, з другога — хочацца пасьпяховых акцыяў.

Перапісваю «Важкі пясок», пішу лісты, ні пра што іншае ня думаю.

Зьявіліся ізноў багамолы. Увечары на промцы прылятаюць на вялікі ліхтар. Адтуль іх цягнуць сюды, у жылую зону. Так было і летась.

Выклікаў Батанік[245] і распытваўся пра блог, пра які я і сам нічога ня ведаю[246]. Супакоіў яго, сказаў, што там — толькі дазволеная інфа, якая прайшла цэнзуру.

Чытаю зараз паэму магілёўскага самадзейнага паэта-сядзельца. Перадаў і папрасіў, каб я пачытаў. Намяшана ўсяго, блытаніна і хаос у думках, вылітыя на паперу. Але хаос патрыятычны, за ліцьвінаў і Пагоню.

**11.08**

«Во злодзей дык злодзей! Чужы х… украў і ў сваёй срацы схаваў!»

Нядзеля. Пачынаецца ранак з пошуку двух багамолаў, якія з кветак разпаўзьліся і пазамаскіроўваліся. Рыжы кажа, трымаючы муху: «Яму трэба ням-ням, а ён дзесьці лётае».

Чытаю «Уваскрэсеньне» Л. Талстога. Вельмі добра апісвае суд, вёску, але нянавісьць да царквы прэзь яго.

Увесь мінулы тыдзень днявальныя аддзіралі пабелку на фасадзе, запылілі-забялілі ўсю лакалку. Усе хадзілі з пабеленымі чаравікамі і цягалі гэтую пабелку на падэшвах у секцыі.

Вось толькі як мінула залева, Жырык выйшаў, шоргае сінтэтычнай мятлой, мутныя ад пабелкі ручаі сьцякаюць з лакалкі на ўзьлётку, забеленыя, як малаком. На вуліцы было пад 30, а зараз лупіць шчодрая залева.

Моладзь дурэла, зьвязалі на верхняй шконцы Толіка, рукі прывязалі зьнізу, а да саскоў на грудзях прышчэпкі прычапілі. Малыя зь іншых секцыяў хадзілі глядзець і ржалі.

**13.08**

Міхась распавядае. Калі затрымалі, усё адзеньне забралі на экспертызу. «Я трое сутак у міліцыі ў трусах прасядзеў. Жонцы пазваніў, адзеньне прынесла, туфлі забыла. Да пракурора босым вадзілі».

Стрыжоў ужо і не чуваць, і не відаць. Зьляцелі першымі.

Учора выварочвалі брызентавыя рукавіцы. Цяжкавата.

«Народы, народжаныя для рабства (барбары для рымлянаў)».

**14.08**

Учора зранку стаялі на праверцы. Штосьці шмякнула аб асфальт — галка, вялікая, яшчэ лапкамі ўздрыганула — і ўсё. Распавялі, што далася ў жалезны прэнт, які тырчыць на даху. Вароны адразу ўсхадзіліся, закаркалі, мо і яны не зразумелі, у чым прычына.

**15.08**

Зранку сёньня стаім на праверцы. Я кажу: «Сёньня ўначы, як ніколі, у двух снах, спачатку жонка, а ў другім сястра і брат сьніліся».

Міхась побач стаіць, кажа: «І мне жонка сьнілася. Пакойнікі — да турмы і да добрага надвор'я сьняцца».

Ён быў разьвёўся і сеў. А калі сядзеў, дык другі муж ягонай былой жонкі забіў яе. А мае сны напярэдадні спатканьня, мабыць, сьняцца.

Цыган здаровы і вясёлы, з Гомеля, Ваня Іваноў. Чапляецца і жартуе зь Міхасём. Той незлабліва называе яго «патомкам Індзіры Гандзі».

Сёньня ці ня першы (можа, яшчэ толькі раз быў) дзень, калі не прыйшло мне аніводнага ліста.

Валодзю пазычыў два пачкі «Вінстана» і кніжку.

Чытаю і дзіўлюся з «Уваскрэсеньня» Л. Талстога. Гэта раман пра правы чалавека.

**16.08**

Учора тэлефанавалі ўвечары. Пагаварыў з Натаняй, Вольгай і Валодзем[247]. Усе ў зборы і ўсе сьпяшаюцца паразмаўляць, гаварылі тэлеграфным стылем. Аказваецца, мае спадзяваньні на іхні прыезд заўчасныя. Спатканьне можа быць толькі 21-га. Так што я супакоіўся. Пра Л. Талстога таксама, мабыць, прыйдзецца штосьці напісаць, пра «Уваскрэсеньне». Як ні круці, але багата што датычыць і Беларусі, як часткі імперыі.

Нейкае зачараванае кола. Што ні чытаю, усё хочацца каментаваць. Толькі трэба будзе неяк лаканічна.

**17.08**

Учора на працы сяджу, ліст пішу, заходзіць дзяжурны афіцэр Фралоў, пачынае запісваць тых, хто без кліфта[248] працуе, а ў нас — гарачыня ў цэху і многія

ў майках. Я — у кліфце. Пасьля працы ўжо даведваюся, што сярод шасьці запісаных за парушэньне формы адзеньня — і я. Ні заўвагі не рабіў, нічога. А 21-га мусіла быць спатканьне з Наталяй і Воляй. Хутчэй за ўсё, не адбудзецца.

**18.08**

Урэшце нядзеля. Зранку прачытаў яшчэ раз артыкул пра раман «Важкі пясок» А. Рыбакова, атрымалася 26 старонак, зь якіх старонак 10–12 — цытаты. І ўкінуў тэкст на адрас Ірыны П.[249], а пасьля абеду разаспаўся ўпершыню за тыдзень, а мо і за месяц і прадрыхнуў дзьве гадзіны.

Учора глядзеў «Аватар»[250], але не з пачатку. Захапіў міжволі. Сёньня я, жартуючы, кажу Матаблоку: «Я — Аватар! А ты — мой дракон! Кось-кось-кось!» Першыя два сказы для яго незразумелыя, бо ён Аватара не глядзеў, праў бялізну ўчора для некалькіх чалавек, таму адказвае мне, пачуўшы апошняе, знаёмае: «Я табе дам, бл…, кось-кось-кось!»

Ці павядуць заўтра «хрысьціць»? А калі павядуць, дык ці пазбавяць спатканьня? Думаю пра гэта, міжволі, час ад часу, цэлы дзень. І што рабіць, самае простае і лагічнае, у такім выпадку, я ўжо прадумаў.

Панкрат на праверцы мармыча:

Як на Красьненскім масту
Баба мыла торбу.
А другая разагналась
Ды п… у морду!

Праверку вячэрнюю праводзіць маладзенькі лейтэнанцік. Народ шуміць, размаўляе. Ён: «Закройте рот там!» Побач каля мяне каментуюць: «Рана пачынае, далёка пойдзе».

Гарачыня і духата сёньня мацнейшыя. У нас ужо другі дзень брызентавыя рукавіцы ідуць. Пальцы сча-

саныя брызентам, але не дарэшты. Дастаў я свае ніцяныя пальчаткі і ў іх вываручваў. Усе зайздросьцяць. Папытаўся цыган Вася — дзе ўзяць. Я паслаў яго да брыгадзіра. Пасьля пасьмяяліся. А прыйшоў з працы (зь першай зьмены) і адсопваўся. Вось зараз толькі ў 20 гадзінаў адсопся.

**23.08**

21-га было спатканьне. Былі мае жанчыны: жонка Наталя і сястра Воля. Размаўлялі дзьве гадзіны. Яны — наперамену, а я — то з адной, то з другой, па тэлефоне, праз шкло. Было багата дробных навінаў, бо ня бачыліся ж восем месяцаў. Пагаварылі і пра Адама, і пра Валодзю[251], які таксама прыехаў і чакаў іх каля машыны, і пра вёску, і пра працу іхнюю, і пра здароўе. …

Сустрэча ўнесла разлад у разьмераны рытм майго жыцьця. Эмоцыі накрылі мяне, і ўчора я быў пад уражаньнем сустрэчы. Усё перабіраў у галаве тэмы нашай размовы. Я адвык ад клопатаў бягучага жыцьця. І што будзе, калі вярнуся? Хацелася б захаваць час для чытаньня, пісаньня, сузіраньня. Але наколькі гэта атрымаецца? Пераключацца з аднаго на другое, мець ясныя мазгі зранку, не стамляцца маральна і фізічна, не ўжываць алкаголь, бегаць?

Учора Вадзік, зь якім мы былі разам у каранціне, сказаў, што Дзяніску Пцічкіна, які быў у каранціне разам з намі і які выйшаў на волю перад самымі Калядамі, ізноў асудзілі на 5 гадоў. А яму — 19, гомельскі.

**24.08**

Завяліся мошкі ў маіх яблыках-апельсінах. Яблыкі я ўжо сам паеў. А апельсіны вось зараз зьнішчаю па дзьве штукі ў дзень. Забраў з кешаркі і перавесіў на плечыкі пад робу. Зь «зеляніны» яшчэ кілаграма

паўтара цыбулі і штук шэсьць часночынаў ёсьць. І я ўсё яшчэ перажываю нашую сустрэчу.

Дасюль за «Новае неба» — зборнік вершаў А. Глобуса — ня ўзяўся, а трэба. Адчуваю, што прыйдзецца забіраць на працу. У думках учора ўвесь вечар размаўляў з Наталяй.

На вуліцы дождж. Пахаладала. Павеяла восеньню. Зранку нават мерзнуў.

**25.08**

Прачытаў «Паны Галаўлёвы» Шчадрына. Напачатку чытаў уважліва, а другую палову проста праглядзеў, чытаў урыўкамі, стаміў ён мяне.

— Чай ёсьць?

— У мяне ёсьць. А ў цябе — ня ведаю.

— Што тут за пакістанскі вагон (багата людзей у хадку)?

— Што за беспантовы двіж (мітусьня)?

**27.08**

«Мне што паглáдзіць, што паслаць на х… — аднолькава».

«Сала нет, г… ня грэе».

Пачаў чытаць «Вайну і мір». І адразу на першых старонках П'ер Бязухаў бароніць Напалеона за тое, што той не пасягнуў на правы чалавека і на свабоду прэсы ў французаў...

А «Уваскрэсеньне» можна ўвогуле ацэньваць як праваабарончы раман.

**29.08**

Працы на працы няма. Пішу рэцэнзію на вершы

Глобуса. Атрымліваецца, як і ўсё ў мяне, станоўчая. На адмоўныя водгукі на слабыя кніжкі шкадую час.

Чытаю-перачытваю «Вайну і мір» Л. Талстога. Часам ад празрыстасьці прозы ў мяне аж сьлёзы выступаюць. Паразмаўляў з Наталяй сёньня. Яна зьезьдзіла да Адама, супакоеная. Пасадзілі гендырэктара «Уралкалію»[252], штосьці будзе.

**30.08**

«Вадкае г… хутка стыне».

Раніца. Прачнуўся з памяцьцю пра два сны, якія сасьніліся гэтай ноччу. Першы — я ў нейкай канторы, як у бібліятэцы, бяру кніжкі. Нейкія дзяўчаты, знаёмыя, адна зь якіх Валынец Алена, зьбіраліся мне перадаваць кніжкі на зону. А я ім тлумачу, што (вось гэтая частка сну сьніцца мне ўжо ня першы раз) прасядзеў я на зоне года паўтара, а потым патрапіў у бальнічку, а пасьля яе нейкім дзіўным чынам мяне на зону ўжо і не забіралі. Бальнічка была цывільная. Так што быў я ў сне — на волі.

А другі сон быў — у секцыі. Як быццам бы я прачынаюся і бачу Сыса Сержука, як побач сядзіць. І мне весела і лёгка — удваіх сядзець лягчэй. І зэкі зьбіраюцца на нейкую прабежку, і нават пару дзяўчатаў сярод іх ёсьць, апранаюць спартовае. Я пытаюся: «Што, гэта для ўсіх абавязковае?» — «Не, — адказваюць, — па жаданьні». І я супакойваюся.

Зранку спаў так моцна, што і будзільніка ня чуў, разбудзілі за хвіліну да «банкі», паторгаўшы за плячо. А я якраз сон з Сысом глядзеў.

Коршак ходзіць, зьбірае цыгарэты за ўборку лакалкі для днявальных. Да мяне не зьвяртаецца. На калідоры сустракае Патрыка, кажа:

— Эй, Патрык, зь цябе два пачкі за лакалку, за два месяцы.

Патрык флегматычна адказвае:

— Да-ам, калі ў мяне будзе багата цыгарэтаў.

— А калі? — пытаюся я, праходзячы побач.

— Ніколі, — адказвае Патрык.

Закон пачка цыгарэтаў у секцыі.

У «Народнай волі» прайшла інфа, што я ўвайшоў у тройку намінантаў на прэмію Рады Еўропы В. Гаўла. Яшчэ — грузінская і кітайская праваабарончыя сеткі.

**01.09**

Чытаю «Нашу веру», дзе Кандрусевіч[253] даволі падрабязна расьпісвае пагрозу ад «сьвецкага лібералізму», якая зьяўляецца падмуркам для праваабарончых поглядаў… Але вельмі багата людзей, якія мне пішуць у падтрымку ад Эмнесьці, галандцы і амерыканцы, жадаюць, каб Бог бараніў мяне. І пішуць, што яны моляцца за мяне. Яны ня бачаць супярэчнасьці паміж Богам, рэлігіяй і правамі чалавека. Ня бачу іх і я. Ёсьць пэўныя межы, якія іх разьмяжоўваюць, але ёсьць і шырокае агульнае поле. А дзе супярэчнасьці? Па дробных пытаньнях? Ці так яны важныя? Значна большая небясьпека стаіць зь іншага боку — паміж лібералізмам і рэлігіяй з аднаго і таталітарызмам і дыктатураю з другога.

Жэнька мые падлогу. Заходзіць Саня. Я кажу:

— Ну ўсё, Жэнька, хавайся.

Ён мые і адказвае:

— Нах… мне хавацца? Я сам убійца. Ад каго мне хавацца?

— Ты што так сьмела базарыш? — сказаў я Матаблоку, калі ён занадта дзёрзка жартаваў са мной.

**02.09**

Заходзіла праверка, сёньня панядзелак — дзень праверак. Я сядзеў, перапісваў рэцэнзію на Глёбуса. Тыя, хто спаў, паўскоквалі, хто кідаў за́рыкі[254], пахаваў і іх, і дошку. У секцыі мітусьня, апранаемся, папраўляемся — і на вуліцу. Стаім, чакаем. Я з сумам думаю, што на адную зь ніжніх паліцаў пад абуткам запіхнуты мой пакунак з рэчамі, якія я хацеў адаслаць дадому, і торба з цыбуляй, дзесь з кілаграмам цыбулі. Дастаў з кешаркі, бо з маёй вялізнай торбы разьляталіся мошкі, і я падаставаў усю гародніну (цыбулю, часнок) і апельсіны. Калі выпараць — выкінуць, і акт будзе складзены. Такое няпэўнае жыцьцё зэка. Але выйшлі, трое афіцэраў, безь нічога. Абышлося і для мяне, і для астатніх.

**05.09**

Заходзім у сталоўку зранку на сьняданак. Смачна і бясьпечна пахне кашаю на малацэ, і сонца ярка сьвеціць у вокны, а на вуліцы золка.

Учора ўвечары абмяркоўвалі, ці зачыняць на ноч вокны, ці не, пакуль вырашылі не зачыняць, хоць ноччу 5–7 градусаў. Зранку мне зябка. Як адціснуўся 100 разоў (у тры прыёмы), тады пацяплела.

Загаварыў Лука пра каштоўнасьць незалежнай дзяржавы — вынік калійнага канфлікту.

Руднік, старшыня Магілёўскага аблвыканкама, выступаў у Быхаве на Днях беларускага пісьменства і сказаў: рэстаўрацыю замка давядзём да канца, хоць зьбіраліся толькі часткова яго закансерваваць і дзьве вежы адбудавалі. Відаць, як і гэтых калгасьнікаў урэшце нейкія аргументы прымушаюць па-іншаму глядзець на гістарычную спадчыну.

Сёньня і званкі, і лаўка.

**08.09**

— Здароў.

— Здаравейшых бачылі.

— Дзе?

— Па радыё паказвалі.

Скончыў пісаць пра А. Глёбуса і ўзяў перапынак. Трэба было б пачынаць пра Б. Мікуліча, але яшчэ хачу атрымаць некалькі ягоных перадваенных апавяданьняў.

Пайшлі ўрэшце рукавіцы на працы. Учора выйшла на працу ўся брыгада. Я выварочваю за Арбузам і Паўлюковічам. Два пачкі яны зрабілі і два пачкі я вывернуў.

Ідзе пазачарговы рамонт секцыяў. Валодзя, старшы секцыі, нікуды не сьпяшаецца, і мы апошнія. Адпаведна, падчас рамонту па некалькі чалавек з тых секцыяў, якія рамантуюцца, перабіраюцца да нас. Летась у нас рамонт у студзені быў і сёлета пад зіму будзе.

Дашкевічы[255] здымкі зь вясельля прыслалі. Адашлю сёньня дадому. Марына[256] і Наталя самыя імпазантныя.

Чытаю Талстога «Вайну і мір» — і сьлёзы на вачах стаяць. Сёньня буду чытаць.

У Глёбуса ў прозе ёсьць ня толькі літаратура, але і антылітаратура.

У мяне няма адчуваньня, што сяджу ні за што і што ня так сяджу.

Сёньня быў вельмі расслаблены дзень. Тамара Мацкевіч ліст учора прыслала, дзе напісала, што і на «Вайне і міры» можна вучыць сёньняшніх дзяцей. Напрыклад, задаць дзецям тэму твора «Ці ўзялі б сёньня Наташу Растову на працу ў прэстыжную фірму? Чаму?» Сьмех дый годзе. Талстога трэба чытаць,

каб разьвіваць ня рынкавае і ня офіснае мысьленьне, а каб разьвіваць душу, вучыцца адрозьніваць дабро і зло, спрабаваць зразумець — што такое каханьне. Яна мяне добра зачапіла. Ці ў яе розум такі занадта матэматычны, ці што?

Сімураў, карэспандэнт «Правды», са слоў Някляева згадвае пра «ліберала» Кузьміна ў ЦК КПБ: «Трэба Быкава ў “Праўдзе” адмяцеліць. І наогул у цэнтральнай прэсе біць яго часьцей, бо ён гэткі ж вораг, як Сахараў ці Салжаніцын. А для нас яшчэ большы». — «Сімураў не выдумляе. Ён праўду ўспамінае» (У. Някляеў).

«Дурны, як да года».

**10.09**

Зэк запаўняе вопіс, запісвае штаны: «1. Брікі».

Другі, граматнейшы, падказвае: «Гэтае слова пішацца праз “ю”».

Першы папраўляе: «Брікю».

«Мянта на…ць — як дома пабываць».

— Касяк былы.

— А чаго былы?

— Таго што памёр.

**11.09**

Мянушкі тут хлёсткія. Юру ў акулярах з тоўстым шклом, які «гандляваў патронамі», назвалі Снайперам. А з Бэтманам пабіліся на заклад, што калі загаворыць на праверцы, будуць зваць Ала Барысаўна Пугачова. Пагадзіўся, хаця мог адмовіцца. Прамаўчаў два дні, потым папрасіў запаліць. Зараз завуць яго Ала Барысаўна Пугачова, ён супраціўляецца.

**10.09**

А. Л. казаў Макею (і ўсім): «Затым заходні напрамак, другі саміт у лістападзе — Усходняга партнёрства. На якім узроўні мы знаходзімся? Прынцыповая пазіцыя МЗС вядомая, мы не адступаем ад гэтай пазіцыі». Макей жа гаворыць у адказ і ў працяг: «Мы гатовыя да таго, каб рухацца насустрач адзін аднаму і будаваць адносіны на раўнапраўнай, абсалютна добрасуседскай, канструктыўнай аснове». Вось як хочаш, так і тлумач гэтыя два выказваньні. Такая дыпламатыя XVIII стагодзьдзя: скажам так, што ніхто нічога не зразумее.

**13.09**

Сёньня мала, што 13-га, дык яшчэ і пятніца, непрыемнае спалучэньне. А сёньня ж і заказныя лісты, і лаўка, і лазьня, і званкі. Усё — у адзін дзень, як тут не насьцярожыцца. Але пабачым, дзень толькі пачынаецца.

**14.09**

Апошнія пару дзён пачуваюся штось ня надта добра. І сьпіна пабольвае, і ў галаве пахіствае. Прачытаў у «Свободных новостях плюс» пра 27 кандыдатаў на прэмію В. Гаўла Рады Еўропы. У шорт-ліст патрапілі дзьве праваабарончыя арганізацыі (сеткі арганізацыяў) з Грузіі і Кітая і я. Учора пераказаў Наталі, што там прамаўляць, калі што. Сазонаў Віктар[257] якраз кніжку ёй прывозіў, зь ім парай словаў перакінуўся. Ён вельмі хваляваўся, стаў дзедам. Нічога ў гэты тыдзень не пішу.

Зранку кепскавата, а потым «раскумарваюся». Вось і зараз прыйшлі з працы — і я ўжо за вячэрай сьпяваю:

> І цэлы год на шконцы думаў я пра то,
> Якая ж курва нас заклала.

Гена кажа: «Сьпяваць тут — дрэнная прыкмета. Трэба хадзіць ціха і ўвагнуўшы галаў». Сумныя жарты.

**16.09**

Юра, старшы днявальны, ходзіць па лакалцы з цыгарэтаю ў зубах, не струсваючы попел, зь мятлою на доўгай ручцы і саўком — зьбірае недакуркі і розныя паперкі. Кажа некаму з зэкаў, якія выйшлі на ганак папаліць:

— Вася, маякні. Калі ласка, касяку.

Той выходзіць. Ён яму:

— Ты сьметніцы думаеш калі-небудзь выграбаць ці як?

Той:

— Я спачатку ў туалеце памыю, а потым выграбу.

Учора дзень быў вельмі спакойны. Я з-за сваёй хваробы нічога не пісаў, але чатыры фільмы за дзень паглядзеў і два разы па паўгадзіны паспаў. Палягчэла. Хаджу зараз зранку, думаю якую-небудзь старонку тэксту пра Эдзіка напісаць.

«Што ты мне тут зачэсваеш, дарослы пацан, ужо столькі гадоў сядзіш!»

**17.09**

«Надзея — пэўна, што ня тое самае, што аптымізм. Гэта не перакананасьць, што ўсё атрымаецца добра, а ўпэўненасьць у тым, што ўсё, што ты робіш, мае сэнс незалежна ад таго, як яно атрымліваецца». В. Гавэл.

**18.09**

Распавялі пра пераход аднаго з зэкаў на промцы з аднаго вачка на другое ўпрысядку.

Зранку была запланаваная выхаваўчая сустрэча з Борычам[258]. Пагаварылі пра крызіс, які стаіць каля дзьвярэй. Затым чытаў газеты. Здароўе палепшала, у галаве ня круціцца, але ўчора пасьля гарачага душу на промцы з носа пайшла кроў. Нічога сёньня не пісаў, хаця ўчора абдумаў, як буду пісаць і пра што — пра «Баскаў»[259]. Такі расслаблены стан — вынік чаканьня 30-га. Але трэба неяк узяць сябе ў рукі і працягваць пісаньне.

Учора ў старшога быў дзень народзінаў.

Учора зранку ўсе пайшлі набіваць матрацы, мяне ж пакінулі ў «палажняковую» другую зьмену. Выварочваў цэлую зьмену пагоны.

**20.09**

Пятніца, як заўсёды, дзень, запоўнены рознымі «справамі». Атрымаў тры заказныя лісты, адзін зь якіх, зь «Віцебскім кур'ерам», мне не аддалі[260]. Затое забраў «Маладосьць» з аповесьцю А. Федарэнкі і кнігу эсэ Ч. Мілаша, якія даслала мне Алена[261]. Падстрыгся. Будзе яшчэ лазьня. Прачытаў у «Нашай Ніве», што А. Лукашэнка атрымаў прэмію «Антышнобеля» за 2013 год. Ён усё ж і тут апынуўся першым. Пасьля лазьні буду яшчэ забіраць медбандэрольку.

**21.09**

Напісаў яшчэ дзьве старонкі пра «Баскаў». Атрымаецца, мабыць, такі ўспамін-эсэ-навэла. А потым яшчэ зраблю парачку, можа. Так дні па сваіх старонках і лічу. Напісаў калі дзьве старонкі — значыць, дзень атрымаўся.

Прачытаў у «ЛіМе» экспрэсіі Марыны Яўсейчык, якая запомнілася мне тым, што пісала з Стужак ці то Чыркавіч з-пад Сьветлагорска, ня ведаю, што яна там

рабіла. Экспрэсіі шчырыя і крыху нагадваюць бядулеўскія.

Пасьля абеду — на працу. Галава мая была направілася, а сёньня зранку нешта ізноў закруцілася. Здаецца ж, і ніякіх зьнешніх дадатковых раздражняльнікаў не было.

**23.09**

Ігар Бабкоў піша: Кампанія зьбіраецца піць. Два літры мадэры ёсьць, сыр нарэзаны, сала, цыбуля і хлеб. «Парменід ужо ў дарозе, і Платон, і цені некаторых вельмі старых кітайцаў будуць з намі», — вось за гэта я люблю яго.

Немагчыма вызваліць чалавека насуперак ягонай волі. Можна толькі дапамагчы вызваліцца самому.

Чалавек нараджаецца з пэўнай формай душы. І нават калі ўсё зьменіцца, яны зусім ня кінуцца паміраць за табой за Бацькаўшчыну.

Спачатку трэба вярнуць мову. Бяз мовы ўсё гэта ня мае сэнсу.

Сёньня застаўся ў атрадзе, на промку не пайшоў. Хадзіў у санчастку. Выпісваў рэцэпт на лекі, якія прыйшлі ў медбандэролі. Дождж ішоў цэлую ноч. Днём халаднавата, прыкладна 10. Вокны ў нас адчыненыя. Я з насмаркам, ці то ад прастуды, ці то алергія на вацін, зараз у нас у цэху 2-і атрад курткі на ваціне шые. У паветры яго поўна. У выніку — нос у мяне распухлы і закладзены. На ноч капаю кроплі, а днём так трываю.

Наталя тым часам асьцярожна неяк казала: «Менш пішы». Яны з Воляй дбаюць пра мяне. Я ж не хвалююся і жыву як лічу патрэбным. Пішацца — значыць, пішу.

**25.09**

Дзень нараджэньня. Працуем у першую зьмену. Разоў пяць за зьмену прыходзілі міліцыянты правяраць, ці я на месцы, — і кантралёры, і Фрося. Прыйшлі з працы. Ужо два разы сюды ў секцыю заходзілі. Весела.

Прыйшоў ліст ад Наталі і сьціплая паштоўка ад Эдзіка. У мяне мой дзень народзінаў ніколі не выклікаў нейкіх моцных эмоцыяў. Вось што значыць — не было традыцыяў адзначаць яго ў коле сям'і.

**29.09**

Нядзеля. Было багата лістоў, тэлеграмаў і працы. Прыходзіў, кешкаўся, пакуль прыходзіў у сябе — і дзень скончаўся. На працы былі пагоны. Заяву на доўгатэрміновае спатканьне на лістапад напісаць я спазьніўся. Буду пісаць на сьнежань. А ў сьнежні яшчэ і час кароткатэрміновага. Заўтра пераязджаем, у секцыі будзе рамонт. А Борыч зорачку вялікую на пагон атрымаў. Наталя паляцела ў Страсбург, як яно там будзе, заўтра яна будзе ведаць. А я, выглядае, што пазьней. Борыч выклікаў, казаў, што ўсе размовы адвакаткі з начальнікам ня маюць сэнсу (пра УДО), бо там неабходна прызнаць віну. Я пацьвердзіў: сэнсу размовы ня маюць, бо я віны не прызнаю.

**02.10**

Пазаўчора быў цяжкаваты дзень. Зранку адшкрабалі сьцены, фарбу, а пасьля абеду — на швейку. Прыйшлі толькі ў 23:20. Я стаміўся моцна, ды яшчэ і спалі на новым месцы. І ў гэты дзень у Страсбургу Наталя была падчас «інтрыгі», якая скончылася для мяне памысна. На працы былі пагоны МНС.

Усе гэтыя дні адпісваю на віншавальныя, з днём народзінаў, паштоўкі. Учора пісаў да абеду. І ўчора па-

чуў па радыё «Магілёў-1» віншаваньне «ад калегаў» з прэміяй. Вядучая зьдзівілася: «Што гэта за Алесь Віктаравіч такі, якога віншуюць то з днём нараджэньня, то з прэміяй. Але ў любым выпадку і я яго шчыра віншую!» Бедная і не здагадвалася, дзе ён, гэты Алесь Віктаравіч, знаходзіцца. А ўначы ўчора прыйшлі, а там «Народная воля» са здымкам і інфой на 1-й старонцы. Народ заварушыўся, і Борыч пасьміхаецца, як начышчаны пятак.

Сёньня выбівалі жалезныя кліны з дужак на нарах, задаўбаўся крыху, і ізноў — паштоўкі. Зараз — абед і пасьля яго — на працу.

**04.10**

Сёньня 2 гады і 2 месяцы зьняволеньня. Пятніца. Атрымліваю заказныя. Цэнзар Віктаравіч кажа:

— Шчасьлівы вы чалавек, Бяляцкі. Сядзіш, а лісты і прэміі на цябе так і сыплюцца.

Робім рамонт у секцыі, сёньня я падмазваў плінтусы на столі. Учора хадзілі мянялі білы ў ложкаў, бо адное, зь якога выбівалі гачкі для замены на вінты, трэснула. Прыйшлі, у падвале кладаўшчыка няма. Самі залезьлі, схапілі, замянілі і прынесьлі… бракаваныя. Ізноў вярнуліся.

Я крычу ў цемру падвала: «Дзед!» Выйшаў нейкі іншы дзядзька, кажа: яго няма, ён у атрадзе. «А як яго клічуць?» — пытаюся. «Санька» — ён кажа. Пайшлі мы шукаць Саньку ў 7-ы атрад. Знайшлі, дзед пад 60 гадоў, састарэлы, зморшчаны — гэта Санька. Ён якраз і зьбіраўся ісьці на склад. А нашыя маладыя, якія прыходзілі сюды зранку, казалі, што ён надта сварыўся на іх. З намі ж ён паводзіў сябе спакойна. Кажа: «Як я магу вам штосьці добрае выбраць з гаўна?» Штось выбраў.

Прынесьлі. Верхнія гачкі аказаліся прываранымі. Ізноў Валодзя кажа: «Ідзі, памяняй, бо толькі ў цябе з кладаўшчыком "отношения"». Я паглядзеў біла, ніжнія гачкі былі ўкручаныя. Кажу Рыжаму: «Сярожа, давай адаб'ём, боісьці мяняць — дах… дзялоў». Урэшце білі, білі і выбілі гэтыя гачкі. Прываранымя адбілі, а зварку ўбілі, увагнулі. Затым мы пайшлі на працу. А ложкі пафарбавалі ўвечары.

Юрка Дзяргаўка паводзіць сябе дзіўна: мыляе вуснамі, штосьці сам сабе гаворыць, — такое адчуваньне, што рашае задачу. Дзіўнае такое стварэньне.

Учора ўжо выйшлі на вуліцу з цэха і, як заўсёды, тусуемся каля ўвахода, побач брыгады шыхтуюцца і ідуць на прахадную. У небе міргаюць зоркі. Юрка брэсцкі і Гена глядзяць на іх і вызначаюць, што гэта — зоркі ці самалёт які. «Зоркі» — па-беларуску пацьвярджаю я. Пачуўшы гэтае слова, Гена зацягвае ціхенька: «Зорка Венера…» Мы сьмяёмся. Я яму распавядаю, што ў нас у музеі гэта была абавязковай застольнай песьняю. А потым кажу яму: «Во каб мы, Гена, з табой заяўку ў клуб падалі ды прасьпявалі яе дуэтам, наш Міша-цыган і блізка не стаяў бы». — «Першае месца было б нашым», — згодна ківае Гена. Ізноў весела сьмяёмся. Часу — на чвэрць дванаццатай ночы. Холадна і суха.

Папярэдне наш пакой быў выфарбаваны ў металічны шэры колер, і белыя і жоўтыя палоскі яго не ратавалі. Чысты сейф. Рамонт рабілі ўзімку, сьнег ляжаў. Зараз будзе фісташкавым. Століь была блакітнай, а стала сьветла-жоўтай.

У. Сыракомля, перакладаючы шаўчэнкаўскага «Кабзара», не пераклаў ягоную паэму «Гайдамакі», бо, як ён сказаў у прадмове, Тарас Шаўчэнка пісаў яе «макаючы пэндзаль у кроў».

— Ты ня хочаш міру на зямлі?

— Нашто мне гэты мір? Няхай ваююць.

Армянін штосьці гаворыць, Саныч каментуе: «Ты нейкі гені мысьлі». Потым дадае: «І мысьлей і сусьлей».

**07.10**

Бэтман прыбірае, завуць яго Віцем. Да яго зьвяртаюцца: «Віцёк, што з п… ўцёк».

**09.10**

Заўтра вызначаць двух лаўрэатаў і Еўрапарламент, і Осла. Шанцаў у мяне вельмі мала, калі і зусім няма. Так што праехалі.

**12.10**

Скончылася эпапея з намінацыямі. Осла, як часта ў апошнія часы, дае прэміі немаведама каму, а парламент даў прэмію Малале, што справядліва. Незразумелая ад самага пачатку ў яе справе і жыцьці пазіцыя BBC, якія фактычна падставілі дзіця. Якое яны мелі маральнае права? Яна аказалася закладніцай грамадскіх і палітычных дактрынаў. Усё нічога, бо ўсе мы таксама знаходзімся ў гэткім самым становішчы, каб ёй не было так мала гадоў. Я, як адзін з намінантаў, мушу маўчаць пра гэты маральны аспект.

**13.10**

Рамонт скончыўся. Заклеілі сёньня вокны — і стала моцна цёпла. На вуліцы суха і таксама цёпла, як для кастрычніка. Сёньня нядзеля. Я перабраў торбу з кнігамі, шэсьць штук ляжыць для чытаньня і яшчэ чатыры — для пісаньня, плюс паперы па Мікулічу. Планы такія:

1. Дамброўскі.
2. Галандцы (паштоўкі).
3. Мікуліч.
4. Зьніч.
5. Чэхаў («Палата № 6»).
6. Талстой «Уваскрэсеньне»[262].

Зрабіць бы гэта ўсё да Калядаў. Але наўрад ці. Зараз пішу нататкі па кніжцы Ліліяны Лунгіной[263].

Толік валяецца, я паперы парадкую, астатнія вокны клеяць. Снайпер сядзіць красворды разгадвае, Валодзя на спорт пайшоў. Пачалі Толіка паднімаць, каб дапамагаў, той ня хоча. Пачалі рамсíць[264] з Арбузам. Так і жывём.

Прачытаў інтэрв’ю з Папам Францішкам. Ён сапраўды пачаў мне падабацца, значна жывейшы за свайго папярэдніка.

Пра Віцю Івашкевіча[265] трэба ўспаміны напісаць.

Папа гаворыць: «Нарцысізм указвае на выключную самазакаханасьць, а гэта нядобра, можа прынесьці цяжкую страту ня толькі душы самазакаханага чалавека, але й яго стасункам зь іншымі людзьмі, з грамадствам, у якім ён жыве. Нарцысізм — хвароба сьвядомасьці.

Перад клерыкалам я таксама раптам станаўлюся антыклерыкалам.

Містык бачыць глыбінны сэнс дзеяньняў, фактаў, мэтаў, місіянерскага служэньня. Ён узвышаецца да “блажэнства”. Гэтыя кароткія моманты напаўняюць усё ягонае жыцьцё.

Другі Ватыканскі сабор… вырашыў, што царква павінна глядзець у будучыню, павінна прасякнуцца духам сучаснасьці, стаць адчыненай для сучаснай культуры.

А я веру ў Бога, не ў каталіцкага Бога, бо не іс-

нуе каталіцкага Бога, а ёсьць Бог». (Інтэрв'ю газеце «Republika», Італія.)

**15.10**

Учора былі званкі. Наталя вярнулася з Італіі, дзе была з турам Эмнесьці разам з Хэзай[266], стамілася. Вось так, «дзякуючы» маёй пасадцы яна хоць сьвет пабачыць. Хаця малапрыемна езьдзіць і распавядаць пра тое, што твой муж сядзіць у турме.

Я перапісваю начыста эсэ пра «Баскаў». Ідзе павольна, бо штосьці прыбіраю, мяняю, дадаю.

Лука выступаў перад расійскімі журналістамі, даў вялізнае інтэрв'ю, хваліцца, што ўмацаваў незалежнасьць Беларусі, і ані слова пра нас.

Ціха ў атрадзе зранку, частка працуе, частка пайшла на 101-ю, і Борыч на нейкія курсы пайшоў, кабінет апячатаны. Пайду пахаджу.

**16.10**

Учора выклікаў Ігаравіч[267]. Цікавіўся, ці пішу я пра зону і ці не зьбіраюся я пісаць прашэньне пра памілаваньне, што за прэміі мне даюць і якія ўвогуле ў мяне праблемы. На што я адказаў, што пра зону нічога не пішу, што прэмія — гэта найперш палітычны пасыл і што пісаць прашэньне я не зьбіраюся, бо невінаваты, і ніякіх пытаньняў у мяне няма.

Коля кажа Арбузу: «Вось ты яшчэ такі вясёлы і шчасьлівы, бо мала сядзіш. А вось пасядзіш гады тры, будзешісьці па прадоле, а там нешта раптам — раз! — і пабяжыць пад нагамі, дах крыху паедзе.

Прачытаў у «Народнай волі», Лінкявічус[268] зьбіраецца ў кастрычніку ў Беларусь, запрашэньне на саміт Усходняга партнёрства прывязе. Ізноў размовы — ці выпусьцяць палітвязьняў.

Чытаю «Апёк» Васіля Аксёнава[269], здаецца, Ула-

дзімір Някляеў у сваёй «Газіроўцы»[270] крыху ўзяў адтуль. Калі ў Аксёнава — чысты джаз, дык у Някляева — сьвінг.

Сяджу перапісваю ўспаміны пра «Баскаў», па радыё «Мір» перадалі, што Беларусь атрымала запрашэньне на саміт Усходняга партнёрства ў Вільню і што рашэньне пра ўдзел знаходзіцца ў кампетэнцыі кіраўніка дзяржавы. Вось жа сапраўды, Пан Бог уклаў мой зямны лёс (прынамсі чатыры з паловай годы, адмераныя мне) у рукі Лукі — парадокс.

**17.10**

У прыбіральні зранку брудна. Схадзілі на сьнеданак, заходзіць у прыбіральню Нос:

— Ды ну на х…, сука, такое адчуваньне, што ў нас касяка няма.

Учора лаўкі не было, перанесьлі на сёньня. Учора я не хадзіў, а сёньня схаджу, можа, зефір будзе ці лёдаў куплю.

Андрэй-брыгадзір учора хадзіў на доўгае спатканьне. Пабыў з ранку да абеду і вярнуўся. Жонка, мабыць, не прыехала, а з бацькамі на ноч не застаўся. Прыйшоў і пайшоў адразу ў ноч на працу. Ваван яго асуджае, што запрацоўваецца бяз мэты. Я ж бачу, што мэта ў яго ёсьць.

**20.10**

Вось урэшце скончыў перапісваць эсэ пра «Баскаў». Калі размаўляў з Барысавічам, падкрэсьлена агаварыўся, што ні з кім кантактаў не падтрымліваю. А ён: «А чаму так?» Я адказаў двухсэнсоўна, пасьміхаючыся: «Так склалася», як быццам бы ён сам да гэтага не прыклаў руку.

Сёньня нядзеля. Сапраўды нічога амаль не рабіў,

вось, пра «Баскаў» дапісаў, каляровую бялізну паперыў — і ўсё, спаў пасьля абеду дзьве гадзіны. Чаго зараз, пасьля 10-га, чакаць? Празь месяц аб'явіць «таракан», ці будзем сядзець далей, ці выйдзем. Багата гаварыў пра незалежнасьць, аж дзіўна. І ў той жа час сказаў: «Паслухай еўрапейцаў і рабі наадварот».

Амаль месяц быў выбіты са сваіх штодзённых заняткаў фізкультураю, урэшце вярнуўся. Сёньня на турніку падкачваў прэс. Учора адціскаўся на брусах, ізноў рэгулярна хаджу.

Пачытаў тыя раздрукоўкі, што Ірына даслала[271]. Цікавай была сустрэча Сашы, Валіка і Джыбладзэ ў Галандыі[272]. Можа, таму і «рамонт» у нас такі атрымаўся.

Паставілі гардэроб, звараны са шконак і засланы дошчачкамі. Зусім усё цывільна атрымалася. Лепей за бальніцу, хаця ўсе ўсё роўна параўноўваюць з бальнічнай палатаю.

Пальцы трэскаюцца каля пазногцяў, ад холаду мабыць, хоць кажуць, што вітамінаў не хапае.

Учора Борыч залез у торбы, знайшоў неадпаведнасьць (5 пачкаў вафляў, а не 4, як было запісана, і г. д.), пайшоў, адксерыў сьпісы, мабыць, заўтра будуць разборкі. Учора я сеў і ўсё перабраў да каліва, усё перапісаў.

**21.10**

Справы па палітычных хоць і клопатныя, але выгодныя для чыноўнікаў, якія імі займаюцца.

**22.10**

Праверка кешараў у мінулую суботу проста так ня скончылася. Борыч склаў акт на мяне. Зранку я напісаў тлумачальную, а з абеду мы зьняліся, я і яшчэ брыгадзір Кулікоў, і засталіся ў атрадзе. Чакаем.

Сходзілі ў штаб, бо Шумахер сказаў а 14-й быць на ганку, а яму — Борыч. Там, у штабе, пуста. Усе на нейкай вучобе, якая ў іх па аўторках штотыдзень. Вярнуліся. Напісаў заяву на тэлефанаваньне ў лістападзе[273]. У ПВР заходжу, аднošу тэчку з узорамі заяваў, Тарас сядзіць, які Бульба, кажа:

— Алесь, трэба заяву на ТБО напісаць наконт вашай прапіскі і працаўладкаваньня па месцы жыхарства.

— Нашто? — пытаюся.

— Фармальна трэба.

— У мяне ўсё ёсьць, — кажу, — праца, прапіска, толькі свабоды ня маю.

Не напісаў.

Прайшла дыскусія з Рыжым пра Амерыку і Францыю, якіх ён крытыкаваў за блакітнасьць. Кажа: «35% п… у Амерыцы!» Аж на вечаровую праверку на 3 хвіліны затрымаліся, спрачаліся.

**28.10**

Тыдзень мінуў за працай. У «Дзеяслове» выйшаў матэрыял пра Дзяды-88[274], чытаю «У коле першым» А. Салжаніцына[275]. Дакладныя апісаньні чалавечых пачуцьцяў і, самае істотнае, зэкаўскай тугі нагналі на мяне меланхолію, і ўчора-пазаўчора неяк вельмі выразна згадваў я Наталю, хату, працу, волю.

У суботу працавалі дзьве зьмены, сёньня, у панядзелак, выходныя. Сустрэў учора ў сталоўцы далёкага знаёмага, ён сказаў: «Мабыць, будзеце яшчэ сядзець». Я адказаў: «Паглядзім».

Прачытаў эсэ Гаўла «Сіла бясьсільных»[276], трэба што-нішто запісаць сабе для цытатаў. Сёньня яшчэ лаўка. Дні стаяць цёплыя, але дажджы. Усё лепей за раньні сьнег.

Стаім на праверцы, нас палічылі, нудзімся.

Сьмяёмся, я распавядаю пра маторыку пальцаў на ўпакоўцы рукавіцаў, пра сваю абрэзку, а Мішку нагадваю пра ягоныя фрывольныя фігуры і камбінацыі, якія ён учора складаў.

**31.10**

«Можна разганяцца па-рознаму, гэта нездаровая х…».

Напачатку тыдня Стаса (худога і размаляванага), «промачную галаву», які не вылазіў з промкі, паклалі ў бальніцу — тубік. Паслалі на флюшку[277] ўсю секцыю. Учора Косьцю паклалі ў нашую бальнічку з падозраньнем. А ён сядзеў за нашым сталом у сталоўцы месяцы з два. Абеды і сьняданкі часта прапускаў. Апетыту не было. Я Бэндажу Эдзіку кажу:

— Мо і ў цябе тубік, бо ты худы нейкі.

Сьмяецца:

— Парода такая.

Учора прыязджала Натальля-адвакатка. Сказала, што «хазяйку» і намесьніка ўключылі ў санкцыйны сьпіс[278], і калі яна была ў яго, то журналісты якраз яму названьвалі. Мабыць, гэта адаб’ецца неяк і на маім становішчы.

Учора тэлефанаваў Наталі. Казала, што ў радзе працу яе затрымалі з заўвагамі[279]. Кажа, што заўвагі сьмешныя. Выглядае, што будуць рэзаць. Ах, як непрыгожа. Гэта — адплата, помста і за мяне, і за яе актыўнасьць. Яна сказала: «Я спакойная, бо зараз у мяне іншыя інтарэсы і зацікаўленьні». Мне гэтага шкада.

Паразмаўляў на гэты конт з Натальляй-адвакаткаю, таксама пра прэмію В. Гаўла[280], які я задаволены і крыху заклапочаны, таксама пра зьезд праваабаронцаў, які на гэтых выходных прайшоў у Вільні[281]. Прэса

выцягнула азначэньне «палітзьняволеных» і «вязьняў сумленьня», па якіх была дыскусія, як асноўнае пытаньне. Спрэчка і марная, і небясьпечная. Бо пустая, па сутнасьці, неканструктыўная, адцягвае ўвагу на другаснае.

Я хаджу, вечна перхаю, і макроты вечныя адхаркваюцца, хочаш ня хочаш, пра тубік будзеш думаць.

Умывальня: чаропіны з двух бакоў, маленькая двухстворкавая фортка, сьметніца ў куце, сьцірка, смарканьне, галеньне, мыцьцё і абмываньне перадам да ўсіх, выкручваньне, пале́ньне. Вада, якая пераліваецца, сьцёк пасярэдзіне. Тут я пе́руся.

Прыбіральня: тры пісуары, першы левы талчок для касяка, але не запарафінены, можна хадзіць усім. Далей — тры паспалітыя і апошні, пяты, адгароджаны рудой прасьціной-«шторкаю»[282]. У вакно раней касякі сьмецьце ў баку падавалі. Зараз — выносяць. Карціна трагікамічная, калі зэк адкрыта ў «позе арла» сядзіць на талчку. Трагічная — бо прыніжае чалавечую годнасьць, камічная — бо сьмешная.

**01.11**

Праверка зранку. Борыч прайшоўся па секцыях і вяшчае з ганка:

а) Фескі[283] каб не ляжалі! Запісвайце ў вопісы «галаўныя ўборы», а ня фескі!

б) З тумбачак прыбярыце абразкі, кнігі, газеты, каб тумбачкі чыстыя былі!

Вакол ідзе нейкі двіж. Хтосьці перакідаецца ў іншую брыгаду, нехта прыходзіць, пераведзены зь іншай брыгады, усё вакол варушыцца, ізноў прашарсьцілі багата каго. Зразумела чаму[284]. Але пакуль усё гэта не кранае мяне.

**02.11**

Стаяць цудоўныя, сонечныя, ясныя, сьвежыя дні. Пагодная восень радуе душу. Вось у «Народнай волі» сёньня прачытаў інфу, што сьпіс неўязных у ЕС зьменшылі на 13 асобаў, а трох дадалі, і сярод іх — начальнік і намесьнік начальніка калоніі. Вось таму ціхі двіж апошнія дні і стаяў вакол. Як яно далей будзе разьвівацца — пабачым. Сёньня зранку сілаў не было, другая зьмена ўсё ж стамляе. Таму газеты пачытаў і — гадзіну паспаў, а яшчэ гадзіну пахадзіў.

У «Дзеяслове» зьявіўся мой тэкст пра Дзяды. Атрымалася, здаецца, ёмка.

**03.11**

Сёньня нядзеля, перуся. Побач Сазон анучы выпалосквае, нашую секцыю прыбірае. І Аляксандзер прыйшоў. Іхні дыялог. Аляксандзер кажа:

— Дарвін сьцьвярджае — праца зрабіла з малпы чалавека.

— О-го-го! — адгукаецца Сазон.

— А зэкі ўдасканалілі гэты закон. — працягвае Аляксандзер. — Вялікая праца зрабіла з чалавека каня! — сьмяецца, намякае на Сазона.

Той рэагуе:

— Не-е-а! Зьбярыцеся з гэтым Дарвіным, сядзьце і правядзіце навуковую спрэчку. Не-е-е!

Стаім на вечаровай праверцы. Панкрат кажа:

— Вось, працаваў у Гомелі на «хуткай» шафёрам, езьдзілі ў дзіцячую бальніцу на Валатаву. І нашто іх, невылечна хворых, прымаюць? Толькі мучаюцца. Пазабівалі б, дык лягчэй было б.

Я не магу ўтрымацца:

— Фашысты таксама з псіхічна хворых пачыналі, а потым — яўрэі, цыгане, беларусы. Так нельга.

Ён пагаджаецца, пачынае неяк каментаваць маю думку. Побач Мікола ставіць, маўчыць. Я схамянуўся: «Штосьці я разбалбатаўся». І адвярнуўся. Усе хто слухаў, паціху сьмяюцца. Панкрат дадае: «А то будзе табе і Латвія, і Літва». Намякае на закіды аператыўніка да Міколы, якога хтосьці заклаў, што я як быццам бы яму штосьці распавядаў пра Латвію і пра Літву. Лухта поўная. Пакуль сітуацыя не разьвіваецца, але далей пабачым.

**05.11**

Борыч пайшоў на начштаба. Будзе новы начальнік атрада, які зараз стажорам у 7-м атрадзе. Пытаюцца: «Як ён?» Адказ: «Кажуць, дурны, як сабака. Барысавіч у параўнаньні зь ім адпачывае».

На працы невялікія перамяшчэньні. Толік сеў бліжэй да сейфа, а на ягоную машынку, бліжэй да мяне, — Руслан Марышаў, першы дзень як выйшаў.

**08.11**

Зранку хадзіў на працу, выварочваў рукавіцы за двума швейшчыкамі. Перад абедам усе зьняліся разам з загатоўкай і пайшлі на званкі. Паразмаўляў з Наталяй, яна зрабіла адказы на зáкіды да кандыдацкай. Затым — у атрад, пераабуў чаравікі на «паложаныя», бо хаджу зараз у промачных, з тупымі насамі. Прыйшлі ў штаб. Чарга на камісію. У мяне — тэрмін замены меры стрыманьня. Заходзім па чарзе ў агітпакой. Сядзіць «хазяйка», зам. Зачыталі: «злосны парушальнік». «Хазяйка» сурова спытаўся: «Вопросы есть?» — «Няма». Усё, выйшаў. Яшчэ распісаўся за «неадпаведнасьць». Затым дзякуючы камісіі я пасьпеў патрапіць у лазьню. А вось там скралі ў мяне ручнік. Мабыць, выпадкова. Зараз на вячэру ісьці.

У першыя дні ў атрадзе, памятаю, іду па прадоле. Насустрач Борыч:

— Чаго вы такі шчасьлівы? — пытаецца.

— Ды не, — адказаў я, — я такі, як заўсёды.

І так і думаў. А зараз мяркую, штосьці ўсё ж такі было на маім твары такое, неўсьвядомлена шчасьлівае адлюстраваньне. Патрапіў туды, куды і марыў…

**09.11**

Выварочваў сёньня нашытыя і за ўчора, і за сёньня рукавіцы за двума з паловай швейшчыкамі. І стаміўся. На вячэрняй праверцы нават задрамаў стоячы, і штосьці кароткае мне сьнілася. А ўвечары для разгрузкі глядзеў разам з усімі серыял пра маладых хакеістаў[285]. Там па сюжэту другі трэнер падкінуў тэлефон і гадзіньнік у торбу нелюбімаму хлопцу-хакеісту. Серыя на тым скончылася, што іх знайшлі. Выходзім, Мікола скептычна так: «Брахня, каб гадзіньнік, які сьвіснуў, у торбе два дні цягаў! Маняць!» — зь веданьнем справы так сказаў адзін з «пажарнікаў»[286], які ў канцы гэтага месяца выходзіць на волю.

**10.11**

Заўсёдныя крошкі хлеба ў кішэні.

Маці В. напісала, што кніжкай пра «Талаку» Сяргей Дубавец справакаваў шэраг сьмерцяў талакоўцаў (што так гавораць). Сапраўды, так атрымалася, што вось пяцёра памерлі за два гады. А мне падаецца, усё ж іншая прычына — гэтая актыўнасьць. Група рызыкі ва ўсіх адносінах. Вось так і супала.

**13.11**

Новы начальнік пакуль ганяе тых, хто любіць паспаць. Я яшчэ не трапляўся. Пранозы на саміт Усходняга партнёрства ўсё больш стрыманыя. Перазагрузкі,

відаць, не адбудзецца, у зьвязку з гэтым і нашыя шанцы выйсьці датэрмінова зьмяншаюцца. Зазіраю сабе ў душу і асаблівай трэмы там не адчуваю. Сапраўды, мабыць, калі палова тэрміну пераадолена, дык другую ўжо як-небудзь агораю.

Працягваю начытваць Мікуліча.

Выйшаў пазаймацца фізкультурай, з носа кроў (з унутраных сасудаў) пайшла. Адхаркнуў і спалохаўся: а раптам сухоты? Спыніўся і кінуў турнік. Зараз пішу, па падваконьні скачуць два верабейкі і ў вакно зазіраюць.

Вось па радыё абвясьцілі — прэзідэнцкія выбары адбудуцца ў лістападзе 2015 года. А праз два месяцы — мой званок. Адсядзець-то я адсяджу, але вось што будзе навакол, калі выйду праз чатыры з паловай гады? Мабыць, багата што зьменіцца і адаптацыя будзе няпростай.

Вылучылі ў Літве на прэмію Свабоды[287]. Пакуль атрымлівалі яе савецкія дысідэнты. Першую — Кавалёў[288], якога асудзілі ў Літве на 7 гадоў. Другую — іхні Тэрляцкас[289], якога я ня ведаю.

**16.11**

«Штосьці з табой сёньня зробіцца: ці маланка заб’е, ці карова абсера».

Кожную раніцу прачынаюся і бачу Валодзю і Сан Віктыча Арбуза, якія стаяць на галовах. Такая ў іх фізкультура. Ці на коле з ручкаю езьдзяць зь ціхім грукатам па падлозе. Такія антыатланты, якія падтрымліваюць ня столь, а падлогу.

Стаім на праверцы, я чытаю:

> Не загаснуць зоркі ў небе,
> Покі неба будзе.

Не загіне край забраны,
Покі будуць людзі.

Мішка каментуе:

— Хутка ня людзі будуць па зямлі хадзіць, а блядзі, гамадрылы адныя, п...

Адвечная ягоная тэма, зэка, які прасядзеў дзясятачку і яшчэ восем наперадзе.

Усе гэтыя дні начытваў Барыса Мікуліча. Штосьці вымалёўваецца. Але яшчэ прашу Алену даслаць мне то адно, то другое. Асноўная думка будзе — як чалавек караскаецца па прыступках жыцьця, а бязьлітасны лёс скідвае яго раз за разам у пекла. А другая лінія — творчая моладзь, якая вырасла ў перыяд беларусізацыі і што потым зь ёй сталася.

Спрэчка маладых хлопцаў побач з маёй шконкай. Адзін:

— Прагрэс дае больш магчымасьцяў. Зараз у нас лядовы палац, а мы гулялі некалі ў хакей на балоце.

Другі:

— Гэта ўсё лухта. Людзі нікуды ня ходзяць, сядзяць удома за кампутарамі, дыстрафуюцца. І ніякія палацы ім ня трэба.

**19.11**

На промцы быў дагляд. Даглядзелі маю торбу. Пісаў тлумачэньне, чаму ў торбе апынуліся кніжкі (Чэхаў і Платонаў), а таксама ксеракопіі Барыса Мікуліча, дзьве прасьціны і працоўная роба. Напісаў Кісялю[290]. Ён сказаў, што будзе складзены акт. Зразумела, адкуль ногі растуць. Мабыць, аднаўляецца графік штомесячнай прафілактыкі.

Адась прыслаў два завумныя лісты. Наталя піша, што сумуе, але ў зьвязку з тым што Высоцкая зарэзала

яе працу, думаю, што зараз ёй «весела». Падтрымаць яе інакш, чым словамі, няма як.

Я ўсё ж гадзіну сваю адходжваю.

Дачытаў «Аповесьць для сябе»[291] і думаю міжволі пра яе. Усё неяк спрабую прасьвяціць сваімі промнямі Барыса Мікуліча. Няпросты ён, і ці ўдасца мне гэта перадаць у поўнай меры — ня ведаю. Але буду імкнуцца, зараз ужо — калі мне гэта дадуць зрабіць. Неяк дзіўным чынам ягоная гісторыя паўтараецца ўва мне, а як гэта паказаць?..

Мабыць, перадачку забяруць ці спатканьне…

**20.11**

Піцьцё кавы зранку — сьвятое. З шакаладам. Калі першая зьмена. Пачынаю гатаваць яе да адыходу на сьняданак, накрываю паперкаю, і яна настойваецца. Прыходжу і п’ю з кавалкамі папярэдне пакрышанай кілаграмовай пліткі шакаладу, ссыпанай у поліэтыленавы мяшэчак. Бандэролі ёсьць. Іх не забраць у зэка. Значыць, будзе і кава ў мяне.

Прымерваюся, калі пачынаць пісаць пра Б. Мікуліча. Мабыць, прачытаю яшчэ «Чорную вірню»[292], хаця ў першую частку, якая пра ягонае дзяцінства і раньняе юнацтва, яе ўжо не дадаць; што маю, тое і маю.

Лістоў сёньня не было. Ня могуць разабрацца, каму іх атрымліваць. Як быццам бы днявальным іх аддаваць ужо ня будуць, а толькі начальнікам атрадаў. Вось жа, наш, мабыць, сёньня яшчэ не атрымліваў і дадому сышоў. На працы — багата белых мяшочкаў, выварочвалі і разразалі сёньня цэлую зьмену. І заўтра тое самае будзе.

**21.11**

Зараз падчас сьняданку і пасьля яго думаў: якое гэта глупства і дзікасьць — караць чалавека (мяне ☺)

за знойдзеных Чэхава, Платонава, Мікуліча і «Дзеяслоў». XXI стагодзьдзе. Яны хочуць, каб я, чалавек глыбока гуманітарны, які жыве заўсёды са словам перад вачыма, стаў тупым скатом.

Ізноў учора, пасьля праходкі ўжо, з носа пайшла кроў, хоць з «нагрузак» практычна і была толькі праходка. І гэта мяне насьцярожвае. Ціск? Штось іншае? Трэба было б у бальнічку запісацца ды схадзіць.

Праз тыдзень — саміт у Вільні[293]. Усё менш шанцаў і спадзяваньняў, што гэта неяк паўплывае на мой лёс.

Галандская Amnesty International ізноў распачала двухтыднёвую кампанію падтрымкі. Прыходзіць багата паштовак. Я іх сартую па тэмах: кветкі, жывёлы і краявіды — і дасылаю Наталі дадаткам да лістоў, як ілюстрацыі. А найбольш цікавыя інфармацыйна дасылаю Ірцы[294].

У ду́шы пазаўчора не памыўся: ідзе халодная вада. Вось пра што «айцам камандзірам» трэба было б думаць, а не пра Чэхава і «Дзеяслоў» у маім кешары.

Мяшочкі — самы лёгкі для апрацоўкі занятак, але іх так багата, што яны забіраюць увесь час. Прынёс учора газеты на працу (назло стукачам), і пачытаць не было калі, ад калка не адыходзіў[295].

Цікава слухаць (ужо не цікава), як «кантынгент» разважае наконт касякоў[296]. А калі б выйсьці ў горад і спытацца, хто для іх больш непажаданы, думаю, што адказ багата каго б зьдзівіў. Жыць на адной лесьвічнай пляцоўцы з касяком ці з былым забойцам ці наркадылерам — мяркую, выбар быў бы адназначным. А «кантынгент» гэтага не разумее.

**22.11**

Сёньня — дзень калоніі. У 65-м годзе яна адчынілася, і сёньня падчас сьняданку я ўголас уявіў, як

пад зыкі духавога аркестра начальнік калоніі дакладваў міністру пра тое, што калонія адчынілася і зэкі нядружна пракрычалі: «Ура!»

Учора падчас працы ў цэх зайшоў бацюшка з крапідлам і кадзілам. Ягоны памочнік, нейкі мужычок, нёс за ім пластмасавае вядзерца. Музыка грае шансон, машынкі гудуць, швейшчыкі шыюць мяшочкі, я сяджу на варштаце пры калку, выварочваю гэтыя мяшочкі. І вось у гэты працоўны вэрхал заходзіць бацюшка і пакрапляе ўсіх сьвятой вадой. Моўчкі праходзіць па цэху, ад увахода і ў канец. Я толькі пасьпяваю саскочыць з варштата. І гэтак жа моўчкі сыходзіць, як быццам бы пабываўшы ў жытле і прыстанішчы грахоў. Руслан, убачыўшы яго, выбег. Потым распавёў: ён нехрышчоны. Кажа, хацеў пахрысьціцца, прыйшоў у мясцовую царкву. Там яго на ганку сустрэў зэк, які штосьці жаваў, і працадзіў скрозь зубы: «Вывучы тры малітвы і потым прыходзь». — «Добра» — адказаў ён, разьвярнуўся і пайшоў.

Сёньня — званкі. А лазьня, мабыць, пралятае. Працуем у першую зьмену.

**23.11**

Учора падчас размовы па тэлефоне Наталя распавяла што ВАК хоча, каб яна забрала кандыдацкую. Яна не забірае, адмовілася. Я яе падтрымаў. Відавочнае жаданьне камісіі ўнікнуць адказнасьці, перакласьці рашэньне на… Наталю. Мала, што ў цябе праца «паганая», дык ты яшчэ і сама, яе забраўшы, павінна прызнаць гэта. Штосьці падобнае чакаюць ад нас: мала, што вы «вінаватыя» і асуджаныя, вы павінны яшчэ і пакаяцца — напісаць просьбу на памілаваньне. Б’юць і плакаць не даюць.

Учора сабраліся ў лазьню, прастаялі перад прахадной пад дажджом паўгадзіны, пакуль усіх не запусь-

цілі (нягледзячы на лазьню па раскладзе, нас раней ня выпусьцілі), толькі потым мы выйшлі з промкі. Прыйшлі ў атрад а палове на чацьвёртую, хутка сабраліся, і ў лазьню павёў Шумахер. Народу ў лазьні мала, напор вады такі моцны, які я яшчэ ня бачыў. На «сьціплую» вячэру не пайшлі, затое вымыліся. А Шумахер нас забіраць не прыйшоў. Вось жа, сапраўды Шумахер: носіцца паўсюль, як шалёны, зь дзікімі вачыма, а толку мала.

А пад вечар новая навіна — Кулікова пераводзяць у 2-і атрад. Як заўсёды, без тлумачэньняў і нечакана. Ці трэба здагадвацца, хто будзе пасьля яго брыгадзірам… Ускосна (а можа, і не) ува ўсе гэтыя разборкі, падставы і замены ўблытаны і я.

**24.11**

Вось ужо чацвёрты чытач «У крузе першым» скардзіўся. Надвор'е — дождж і бруд пад нагамі. Але і ў цэху, і на працы цёпла. Андрэй Кулікоў прыходзіў зь іншага атрада і працаваў, а хто будзе новым брыгадзірам — пакуль невядома.

**26.11**

Пайшоў Коля Варапаеў, адседзеў восем гадоў, адзін з «пажарнікаў». Сам пад два метры, а выраз твару — амаль юнацкі, ужо своеасаблівая легенда атрада. Вясёлы, любіў пасьмяяцца, папрыкалвацца, але й пару разоў сінякі ставіў, эспээсьніку[297] былому летась вялізны сіняк паставіў. Жонка ягоная Наталя часта эсэмэскі па радыё з каханьнем і падтрымкаю перадавала. Ён — гомелец, пайшоў ціха, бяз гучных провадаў.

Хадзіў сёньня да стаматолага, каронка хістаецца. Доктара няма. Як сказала медсястра, паехала на стрэльбы. Пайду яшчэ раз у чацьвер.

**27.11**

Прыйшоў сёньня акт аб маіх «парушэньнях» на промцы. Выклікаў новы начальнік атрада, папярэдзіў, што пойдзем на хрэсьбіны да «хазяйкі». Пакуль зьбіраўся, галіўся, у клуб не пайшоў, дзе той самы «хазяйка» і выступаў, адказваў на пытаньні. Зазірнуў Арочка і сказаў, што на сёньня экзекуцыя адмяняецца. Атрада не было больш за гадзіну. Я чытаў прэсу. Затым зайшоў да начальніка, які зьявіўся. Той сказаў: заўтра да зампарора пойдзем, да Трутка. Так дык так, адзінае, што сёньня меркаваў пад гэтыя «хрэсьбіны» на промку не пайсьці, біятлон паглядзець, сёньня жанчыны бягуць на 15 км. Не атрымаецца.

Рабіць па Б. Мікулічу асабліва нічога не магу. Усё ж ёсьць нейкае ўнутранае хваляваньне, якое не выяўляецца ніяк, апроч вось такога нежаданьня працаваць. І зьвязана яно, выглядае, зь віленскім самітам. Едзе Макей. Што ж ён адтуль прывязе — спадзеў на свабоду ці далейшую «вучобу»?

**29.11**

Учора вадзілі на хрэсьбіны па «парушэньнях» у торбе на прамзоне. Разглядаў Трутко. Спытаўся пра сьпісы[298]. Перад гэтым пасьміхаўся, а потым стаў пагрозьліва сур’ёзным. Я ніяк гэта не адкаментаваў. Скончылася «размовай» запісанай, натуральна, у асабістую справу. Афіцэры ведаюць, пазнаюць, вітаюцца. Стаялі каля штаба з гадзіну, чакалі. Надвор’е перадзімнае. На клумбах і градах — сьнег, на асфальце — хлюпота.

На працы рукавіцы ўчора выварочваў за Марышавым. Да праверкі два разы соладка засынаў на зэдліку каля батарэі, у куфайцы. І на душы было спакойна. Напісаў лісты Наталі і Адаму. Сёньня — заказныя лісты, званкі, лазьня, стрыжка. Званіць буду, мабыць,

Вользе, бо Наталя хутчэй за ўсё на сустрэчы ў Вільні. Таксама з навіною пра «бяседу» адправіў ліст са зьместам перадачы, якая мусіць прыехаць (яе прывязе Наталя) праз два тыдні. Ёй клопат — закупіць усё па сьпісе. Атрымалася лішняя вага на 2 кг. Калі што, напісаў, каб адкідала рыс. Кашы можна і тут у лаўцы ў выпадку неабходнасьці купіць, а ў мяне яшчэ 2 кг грэчкі ёсьць. Мёд, мяса, сухафрукты, гарэхі, кава — вось што патрэбна, і шакалад, натуральна, для «шчасьлівага настрою».

**08.12**

Учора пайшоў «па званку» Жэня Сазонаў. Адсядзеў 14 гадоў. Сеў у 18, зараз — 32. Трэсла яго апошні тыдзень, бо выходзіў у незнаёмы для яго сьвет. Адрэзаў галаву ў Гомелі нейкаму крыўдзіцелю маці. А маці — алкагаліца. Бабка яго чакае.

Я ў панядзелак і чацьвер лячыў зубы. Каронку, якая не трымалася ўжо, паставілі на цэмент. Працы ўвесь тыдзень не было. Пісаў лісты і ўрэшце пачаў пісаць пра Барыса Мікуліча.

Учора тэлефанаваў Наталі. Паштоўка з раскладам званкоў, якую дасылаў тыдзень таму, яшчэ да яе не дайшла. І сьпіс на перадачу таксама, і іншыя лісты. Што за хрэнь? У сераду павязе перадачу, я сказаў, калі што, каб кіравалася старым сьпісам. Там на тры чвэрці — аднолькавае.

Выпаў сьнег — дарогі замятае. Яна таксама пыталася, ці дайшлі лісты ад Вінцука і Язэпа[299], якія былі дасланыя пару месяцаў таму. Не, не дайшлі.

Адась 10-га будзе ў Парыжы на абвяшчэньні мяне ганаровым грамадзянінам Парыжа. А Наталя пойдзе на абвяшчэньне лаўрэатаў прэміі Аляхновіча (прэмія ПЭН-цэнтра і «Радыё Свабода»). Інтрыга там застаец-

ца, але 12 намінантаў. Мне сёньня хаця б старонку пра Б. Мікуліча трэба напісаць.

Сьнег падае ўвесь дзень, але мокра. Перад праверкай і адразу пасьля яе ў небе — дзясяткі сьняжкоў-камякоў, якія ляцяць з нашай лакалкі ў іншую і наадварот. Адразу сьмех у атрадзе, нейкі вясёлы настрой, як у дзяцінстве, калі ў школе на перапынках ладзілі сьняжковыя баі.

Заўтра 100% выхад на промку: панядзелак.

**09.12**

Стаім на ранішняй праверцы, і Мішка штось распавядае сур'ёзна пра сьпецыяльны станок, у які заганялі жарабка, які задавальняў распусных жанчынаў. І вось, кажа, аднаго разу той так напёр, што станок ня вытрымаў, і жарабок так падсунуў, што ўсё там у яе разарваў, і жанчына памерла. Я сьмяюся: гэта што, чачэрскія паданьні? Ён кажа: «Не, гэта ў старых летапісах так напісана. Гэта некалі было». Такім дзіўным чынам даходзяць пераасэнсаваныя старарымскія паданьні пра залатога асла.

**10.12**

Выклікалі, размаўлялі (Трутко). Пыталіся, ці не чытаю я ўслых у секцыі «Народную волю». «Не, — адказаў я, — гэта гіены-стукачы брэшуць, балы зарабляюць».

Усё нам цікава: і ЕС, і Украіна. Бачу, што ўсе зараз пільна назіраюць за ёй, чым гэта скончыцца.

Дзень сонечны, адпаведна, ні радка пра Доўбар-Мусьніцкага[300] я сёньня яшчэ не напісаў. І невядома, ці напішу ўжо. Хутка абед. У «Саўбелцы» паведамленьне, што на 350 млн. баксаў зьменшыўся залаты запас за лістапад. Такое адчуваньне, што карабель павольна і няўхільна ідзе на дно.

**11.12**

Перадала Наталя сёньня перадачу. Атрымаў пасьля гадзіны чаканьня. Нават днявальны ўцёк, ня стаў чакаць. Я затаварaны і задаволены. Будзе з чым і як Каляды сустракаць. Да вячэры на працу не пайшоў, застаўся раскладацца і вопісы складаць. На цэлы дзень бугор[301] не адпусьціў, зразумела чаму.

На вечаровай праверцы стаяла нашая частка, 14-ы атрад, сьмяяліся, гучна размаўлялі. Заўважыў Трутко, прыйшоў, змусіў усіх распрануцца і адстрэліў тых, хто без кліфтоў быў. Сказаў на разьвітаньне: «Заўтра ў штабе сустрэнемся». — «Бывайце, калядныя пасылкі», — рэзюмаваў Вася.

**12.12**

Згадваю анекдот пра Ўкраіну. Зранку па кіеўскім радыё дыктар урачыста абвяшчае: «Вставай, Україно, москаль вже годину не спить!» Вось і паўстала Ўкраіна. Выходзяць на плошчу па паўмільёна. Гэта цяжка ўявіць, і бачыў я столькі людзей толькі ў 2005 годзе ў Кіеве.

**16.12**

Зараз хадзілі тэлефанаваць. Я на працу не пайшоў, пайду ў бальнічку планавы агляд праходзіць, а то даўно ня быў. Ціск хачу памераць, аналізы здаць. Наталя толькі прачнулася. Падзякаваў за перадачку. Сказала, што тэрмін прыезду можа быць толькі пасьля 25-га, а там будзе багата людзей, таму будуць даваць на спатканьне па паўгадзіны, так ёй сказалі, калі яна тэлефанавала ў аддзел. Вырашылі, што будуць яны з Воляй планаваць прыезд напачатку студзеня.

Я выказаўся наконт музея М. Багдановіча. Усё выказаў, пра што ўчора думаў і сёньня згадваў уначы[302].

У суботу пайшоў сусед па шконцы Толік Барун.

Як я яго называў — Буркатун ці Толік-драўляны. Адсядзеў 3,5, а было 5,5. Сеў непаўналетнім за тое, што «руку патрымаў», як ён распавядаў[303]. А як яно там было… Ён ноч перад гэтым ня спаў. Перадачка не прыйшла, усё ў яго ня клеілася. Далі яму цыгарэты, каву і шакалад, апошні — я, так і правёўся.

Новы заўхоз — былы капцёршчык Зялёны. Тут толькі даведаўся ягонае сапраўднае прозьвішча. А старога адразу перавялі ў іншы атрад і паклалі спаць на пальму каля ўвахода, бо праштрафіўся. Эпізод зь ягоным сыходам (голас дрогнуў, за тое, што не… і не…). Відаць, што гэта была адна з прычынаў[304].

Першую частку «Дзяцінства», умоўна так можна назваць пра Барыса Мікуліча, я зрабіў, чарнавы варыянт, сёньня ўжо буду перапісваць. Напісаў Алене ліст, там вызначыў восем частак. А потым перапісаў яго, каб яе не палохаць. Бо ёй жа ўсё гэта трэба будзе набіраць. Буду рабіць і дасылаць ёй па частках. Яны як асобныя эсэ могуць ісьці, зьвязаныя між сабой некаторымі сюжэтамі — арматурна.

Наталя сказала, што Адась вярнуўся з Парыжа, дзе мусіў атрымаць і дыплом, і медаль ганаровага грамадзяніна. А Саша пісала, што зьбіраецца павадзіць яго па горадзе. Некалькі дзён ён там прабыў, упершыню — гэта заўсёды цікава. І я свой першы прыезд у Парыж зь Інай Кулей[305] памятаю, як пілі белае віно на Манпарнасе, а я закусваў сьлімакамі.

Зь лістамі зараз зацягваю, але што паробіш, Мікуліч займае мае думкі і час.

**22.12**

Тыдзень мінуў тускла. Праца. Схадзіў у бальнічку. Ціск трохі павышаны. Далі пігулкі ад ціску і ад алергіі. Яны сонныя да ўсяго. Таму зранку ўстаю як п’яны і «раскумарваюся» толькі ў абед. Прастыў.

Зранку сёньня і глотку папырскаў, і асьпірынку зьеў, на вуліцы — патоп. Днём абяцаюць да плюс 4. Буду перапісваць першую частку Б. Мікуліча. Праньне адмяняецца, мачыцца не хачу. Хадаркоўскі[306] прашэньне на памілаваньне напісаў. А сядзець яму заставалася 9 месяцаў. Пакуль незразумела — чаму.

**23.12**

Хворы. Прастуда. Прасіў у цёзкі-эспээсьніка, каб запісаў да доктара. Сёньня яны пайшлі, я сьледам. Даганяю, а ў яго зьдзіўленыя вочы: «А ты чаго?» — «А ты што, мяне не запісаў?» — «Не». Так і скончыўся мой паход. Вярнуўся. Перапісваю Мікуліча. Заўтра павінен скончыць. Будзе каля 25 старонак. Першая частка. Таму і почырк зараз такі, пішу як кура лапай.

**25.12**

Раненька, а пятай, зазваніў Валодзеў будзік, ён ва ўмывальніку ў гэты час абліваўся халоднай вадой. Мы з другой зьмены, ляглі пасьля 23, ніхто не ўстае. Я ўстаў, выключыў яго. Так раньнім званком пачалося Божае нараджэньне.

Выходзім сьнедаць, асфальт блішчыць ад буйных крышталёў шэрані — увесь зьзяе і пераліваецца, як засыпаны каштоўнымі камянямі. Сьвяточнасьць.

Учора атрымаў два лісты з аплаткамі. Зранку паламаў і ў думках найперш падзяліўся з Адамам і Наталяй. Потым — зь іншымі сябрамі-каталікамі.

Сёньня плануютсядзець увесь дзень і займацца віншаваньнямі. Мне ўжо даслалі пару дзясяткаў, на якія трэба адказаць, плюс напісаць сваім сябрам, родным. І так зараз будзе штодзень тыдні тры-чатыры. Па 10–15 віншаваньняў у дзень.

Учора выварочваў рукавіцы за Таранавым. Шые нясьпешна, даволі якасна. Але каляровая ўкладка

ўсярэдзіну часта нефарматная. Зьнешняя столка не прыхопліваецца, і ўкладка тырчыць. Тады ён падшывае. Я яшчэ і чытаць крыху пасьпяваю.

**28.12**

Адказваю на віншаваньні і сам віншую як знаёмых, сяброў, так і незнаёмых людзей, якія пішуць мне. Штодзень — 10–15. Гэта зараз асноўны занятак. Першую частку пра Б. Мікуліча зрабіў. Атрымалася 26 старонак. На пісаньне сыходзіць увесь вольны час.

Лука зьезьдзіў да Пуціна і атрымаў 2 млрд. даляраў крэдыту.

Філарэт пайшоў на пенсію (узяў прыклад з Папы Бенедыкта). Прыслалі з Масквы новага «Філарэта» — Паўла. Як быццам сваіх няма. Баяцца «ўкраінскага» варыянту разьвіцьця царкоўнага жыцьця.

Акцыю «Стоп-падатак» аўтамабілісты зрабілі. Аднавілі традыцыю двухгадовай даўніны.

**29.12**

Барацьба за вокны ў секцыі. Валодзя адчыняе, мы супольна зачыняем форткі, бо скразьняк у хаце — хоць ваўкоў ганяй. Час ад часу ўзьнікаюць з гэтай нагоды спрэчкі.

Зранку пайшоў штосьці вымываць. Мацюк:

— Ну нах… так рабіць!

— Што? — пытаюся.

— Вось гэта, — паказвае.

Раззлаваў мяне. Хоць я б прыбраўся адтуль адразу. І таксама — незадавальненьне ад сябе, што расслабіўся і не адказаў адразу адпаведным чынам. А людзі ж яшчэ ва ўмывальні былі. Мне гэта даруюць, але я ўсё роўна раззлаваны.

Пасьля званкоў вяртаемся, вядзе начальнік Мікалай Сяргеевіч. Кажа:

— Вось раней я пра вас толькі ў інтэрнэце чытаў.

— Жыцьцё такое, рознае ў ім бывае, — няпэўна адказаў я. Ён пагадзіўся.

**31.12**

Мае два касьцюмы — гэта асобная гісторыя іх пашыву[307].

Учора іду ўвечары ўжо зубы чысьціць, начальнік заходзіць і на прадоле ўважліва паглядае на мяне. Вяртаюся, Антон-заўхоз падыходзіць: «Трэба заяву на кароткае спатканьне напісаць, бо начальнік сыходзіць у адпачынак і зранку заўтра — апошняя магчымасьць яе падпісаць». А ўзоры заяваў пад ключом на ПВР. Вось ноччу прачынаюся і думаю пра гэта, бо калі не падпішу — спатканьня ў студзені ня будзе. Зранку папрасіў Каліну адчыніць ПВР. Адчыніў. Хаця мог і паслаць. Заяву я напісаў і аддаў. З самага ранку, да праверкі. Пасьпеў.

Учора на працы рукавіцы выварочваю за Сінім і Русланам.

Сіняга перасялілі на месца Баруна, побач са мной. Атрымаў ён перадачу і — самы заняты чалавек. Усім патрэбны, усе яго шукаюць, а ён ад усіх высьлізгвае.

Яшчэ і не зразумела, ці будзе «зялёная» на Новы год, ці адбой будзе ў 10. Кажуць: начальнік давядзе.

І вось надыходзіць Новы год. Сітуацыя крыху дзіўная. Бо ўсе тусуюцца і кучкуюцца, толькі я адзін ем і п’ю гарбату. Ды яшчэ Патрык спаць рыхтуецца. Бо ён егавіст, а сьведкі Еговы Новы год не прызнаюць і не адзначаюць.

Сёньня сярод прыкладна 30 паштовак і лістоў прыйшло віншаваньне ад Ленкі Галоты. Прыгадала сьмешны эпізод з нашай вучобы. Піша, як здымаліся на выпускны альбом, дык я засаромеўся і адняў сваю руку ад яе рукі, каб Наталя не прыраўнавала і

не пакрыўдзілася. У студэнцкія часы Ленка Галота, Надзя Карповіч ды Ірка Дзягцяр — вось яны былі «тры мушкецёры», сябравалі паміж сабой, а я — зь імі, заўсёды сьмяяліся і жартавалі разам. І найшло на мяне сентыментальнае нейкае насланьньё. Ленка была рагатуньняй, вясёлай, з добрым характарам. І адразу думаю: чаму мы за ўвесь час, а гэта ўжо 30 гадоў, так ні разу і не сустрэліся? Шкада. Вельмі шкада.

Сёньня працавалі да 15. І мой адпачынак пачаўся, да 18-га.

**01.01.2014**

Зранку ў сталоўку пайшлі лічаныя людзі. Астатнія, і я ў тым ліку, спалі да абеду. Незвычайны Новы год, несапраўдны, бо няма жанчынаў. Жанчыны робяць Новы год сапраўдным сьвятам.

Прачытаў у «Нашым слове» жыцьцяпіс Вацлава Гебельта, шахматнага кампазітара, да 100-х угодкаў з дня народзінаў. Быў з забясьпечанай сям'і, скончыў інстытут, класічную філалогію, быў палякам, выкладаў у польскіх школах, пасьля вайны сядзеў пяць гадоў. Пасьля вярнуўся і працаваў бухгалтарам у Лідзе, бо ў Гародні жыць не дазволілі. Стаў шахматным суперкампазітарам, быў неаднаразовым чэмпіёнам СССР. Зьдзіўляе адно: чаму ён ня зьехаў у Польшчу пасьля адсідкі. Усе зьехалі: маці, сёстры, браты. Ён адзін застаўся да сьмерці. Чаму?

**06.01**

Глядзім «Валадар пярсьцёнкаў». Абед. Я ў секцыю заходжу:

— Эльфы прыйшлі на дапамогу людзям! Мы не загінем, з намі эльфы!

Рыжы:

— А там яшчэ оркі-уркі-муркі. Шняга адна.

І пазаўчора, і ўчора, і сёньня пішу паштоўкі, адказы на віншаваньні. Мікуліч ня рухаецца. Але пісаньне адка́заў — абавязковы падатак за маю маральную падтрымку.

Трэцяга прыязджала Наталля-адвакатка. Паразмаўлялі наконт адпачынкаў для зьняволеных. Вырашылі напісаць, па маёй ініцыятыве, паўсюль, дзе гэта можа вырашыцца.

**07.01**

Да абеду пачаў пісаць другую частку пра Б. Мікуліча. На вуліцы зранку — сьветла, нават сонейка вызірнула. Я прачытаў тое, што тычыцца 1920–1926 гадоў. Заняло пару гадзінаў. Потым старонку напісаў. Выйшаў на вуліцу пахадзіць. Сьветла, цёпла. Раство, а ў маленькай выбоіне ў бетонным доле лакалкі купаецца верабей. Вось так Раство. Ня памятаю такой цеплыні.

**08.01**

Сёньня ноччу прачынаўся некалькі разоў і кожны раз думаў пра тое, што сёньня прыязджаюць Наталя і Воля. Тэлефанаваў 6-га Волі, бо Наталя была яшчэ ў Адама. Гаварылі коратка. Я папрасіў, каб ехалі асьцярожней. На вуліцы цёмна, вільготна. 6:40 ранку.

**09.01**

Учора прыязджалі Наталя і Воля. Як заўсёды, такія сустрэчы даюць багата эмоцыяў, якія калі адразу вонкава і не праяўляюцца, дык потым не адпускаюць і змушаюць пракручваць у галаве тое ці іншае сказанае ці пачутае. У «Коле першым» А. Салжаніцын выдатна апісаў такое спатканьне, кароткае спатканьне зэка і жонкі. Багата што памянялася, а пачуцьці не зьмяніліся.

Паразмаўлялі мы пра справы і вучобу Адама, пра ягоную паездку ў Парыж і практыку на працы памоч-

ніка рэжысэра ў фільме, пра Наталю і яе юбілей, які набліжаецца і адбудзецца праз тры тыдні, пра яе становішча на працы, пра яе кандыдацкую, якую зарэзаў ВАК, пра кнігу, якую я ўгаворваў яе рабіць. А з Воляй — пра яе жыцьцё-быцьцё, пра Аксану, унука і працу. Я распавёў пра свае розныя навіны, пачынаючы ад атрыманых новых чаравікаў і сканчаючы новым начатрада. Сустрэча была дзьве гадзіны. Нагаварыліся дастаткова. І аднавіліся ў сьвядомасьці мілыя рысы Наталі і родныя рысы Волі. Час (а мы ня бачыліся пяць месяцаў) зацірае абліччы. І Наталю я ў гэтыя месяцы часта згадваў і маладой, і крыху сталейшай. І ніяк не магу звыкнуцца зь яе сьветлымі косамі. У памяці яна — чорнавалосая.

Прыйшла віншавальная паштоўка ад У. Някляева, дзе вершам ён напісаў:

У вясельнымі карагодзе,
У вясновым карагодзе,
У калядным карагодзе
Людзі ўсе —
зь дзяцінства
родам…
Дык, Алесю,
З Новым Годам!..
Магда, Вольга і Валодзя.
*Ул. Някляеў.*
*1.01.2014*

А назва ягоная ці прысьвячэньне: Алесю Бяляцкаму.

І з гэтай жа поштай, у стосе лістоў і паштовак — ліст з «Нашым словам», а ў ім — першая частка «штрыхоў да творчага партрэту» Е. Акуліна, мая «Сьцяга паэта». Прачытаў і бачу — паўторы, некаторыя недакладнасьці. Вось што значыць не было рэдактара. Добра, няхай газетны варыянт будзе такі.

А «кніжны» трэба будзе аддаць абавязкова на рэдагаваньне.

**11.01**

Учора толькі адбіліся, можа, у 22:05 заходзіць афіцэрык, маладзенькі лейтэнанцік з узьлёткі. Я дачытваю «Камсамолку».

— Што ў вас за галаўны ўбор?

Я скідаю сваю начную шапачку і хаваю пад коўдру.

— Дайце. Адкуль яна ў вас?

— Я на швейцы працую, год таму пашыў.

— Так, недазволены шырспажыў.

Забраў. Рыжы хадзіў, пігулку шукаў, Саня ў сваёй лыжнай шапачцы па калідоры лазіў. Усіх запісаў.

Зранку на іх дваіх склаў акты — вадзілі да Бабра, паўшчувалі і адпусьцілі. А адразу пасьля абеду сёньня, толькі ўсе супакоіліся, Корч (Карчэўскі) зьявіўся. Я — у шапцы, у куртцы, куфайка пад падушкаю, трусы мокрыя сохнуць на біле і ложак крыху зьмяты. Снайпер валяецца, астатнія стаяць. Зайшоў, пахадзіў, загадаў сяржанту: «Запішы гэтых нягоднікаў». Той запісаў мяне і Снайпера. Так што ўсё роўна на наступным тыдні хрэсьбіны непазьбежныя.

**12.01**

Пасьля абеду я быў насьцярожаны. Ня спаў, хоць вельмі хацелася. Калі глядзеў мужчынскі біятлон, нават засынаў на ПВР на імгненьне. А перад гэтым толькі прылёг косткі расправіць, як зайшоў А., паглядзеў і хутка зьнік. Праз хвілінаў пяць я ўстаў, адчуўшы нядобрае. Толькі апрануўся — ужо дзяжурны з узьлёткі бяжыць. Я павітаўся — і на ПВР. Як казалі, дзяжурны зайшоў у атрад і адразу ўбок направа памкнуўся да нашай секцыі. Мяне пабачыў і выйшаў. Гляджу, днявальныя скоса на мяне пазіраюць. Зараз прыбіра-

юся ў тумбачцы — выграбаю ўсё непатрэбнае. Першую частку пра Б. Мікуліча адаслаў. Пішу зараз другую, рэгулярна і штодзень, зранку. Каб хоць да канца тыдня напісаць, калі ня гэтага, дык хоць наступнага, да 26-га.

Так і не зразумелы ўчорашні візіт Карча ў зьвязку зь сёньняшнім. Ці будуць якія ягоныя наступствы, ці не? У бліжэйшыя дні будзе відаць.

**13.01**

Сёньня зь секцыі ў іншыя атрады перавялі Валодзю Вінічука і Гарбуза, а з атрада яшчэ Гарноўскага і Таранава. Двое апошніх сядзелі са мною ў сталоўцы за адным сталом. У гэтым разьвязка сітуацыі? Значыць, будзе новы старшы секцыі. Сёньня таксама перапісаў пачатак аповеда пра Б. Мікуліча.

З Парыжа Lucy (Люсі)[308] прыслала сьмешны альбом з фоткамі Адася падчас уручэньня пасьведчаньня аб ганаровым грамадзянстве. Было багата калядных лістоў з Галандыі. Усе — ад актывістаў Эмнесьці.

**14.01**

Тэлефанавалі сёньня. Размаўляю з Наталяй. Аказваецца, мае лісты (маленькія пластыкавыя капэрты) яна не чытала, думаючы, што там — пошта, якая яе не датычыць. А я ёй ужо ня першы такі ліст дасылаю.

На месца Вінічука і Арбузава прыйшлі і заваліліся спаць пасьля начной зьмены Фікса і Юрэк. Але месца Юрэка абходжвае Малючок. Хоча туды ўпасьці. Цягне іх у нашую секцыю, як мух.

Прыйшлі з абходам два лекары. Паглядзелі дзьве тумбачкі, не мае, і пытаюцца ў мяне: а вось як вы ставіцеся да педэрастыі, па-нашаму садаміі? Мы ня хочам, каб Еўропа гэта прапагандавала і нам навязвала. Зэкі ў секцыі стаяць, слухаюць. Я закасіў і пытаю-

ся: «А што гэта такое?» Сыходзячы, даюць наказ: «Вы там перадайце, што гэтага нам ня трэба». А напасьледак мардаты дадае: «І чорных нам ня трэба». Сышлі, два лейтэнанты, медыкі.

Сёньня апошні дзень майго «адпачынку». Заўтра — на працу. Пішу пра Б. Мікуліча, пакуль тэмп вытрымліваю. 1–2 старонкі штодзень, што для мяне зусім ня мала. Чытаў сёньня, як ён піша: «Ганю “Вецер”» (гэта ягоная аповесьць «Вецер на сьвітаньні»). Вось так і я ганю аповед пра яго. Таксама перапісаў пачатак першай часткі і адаслаў Алене.

А гісторыя зь медыкамі нагадала мне гісторыю пра хітрага паляўнічага, які, каб заняць увагу мядзьведзя, падкінуў шапку, і пакуль той ірваў яе лапамі і зубамі, усадзіў яму ў жывот рагаціну.

**15.01**

У «БелГазеце» палітолагі даюць прагноз на год, адказваюць на пытаньне: «Ці выпусьцяць да чэмпіянату сьвету па хакеі ўсіх палітзьняволеных?» С. Чалы адказвае: «Ды і хто там застаўся? Па пальцах пералічыць». Л. Заіка: «Праблема нацягнутая. Палітзьняволеныя — гэта хто? Статкевіч, Бяляцкі?» Па гэтых адказах відаць, што прытаміліся эканамісты-палітолагі ад сядзеньня палітзьняволеных. А мы — прытаміліся?

**16.01**

Перад абедам праверка маіх торбаў у кешарцы. У выніку — недахопы (дробныя), самы сур’ёзны зь якіх — туфлі[309]. Як ніколі багата за гэтыя паўтара года я пішу, і як ніколі багата мяне караюць. Адное непарыўна зьвязана зь іншым.

Паразы і недахопы я спрабую ператварыць у маленькія перавагі. Застаюся да вячэрняй праверкі ўкладаць торбы і ня буду набіваць матрацы.

**17.01**

Зранку ўчора зайшоў Корч і пазабіраў шапачкі ў тых, у каго яны былі, а таксама тром зэкам паабяцаў акты з тых, хто мусіў уставаць. Мы спалі — другая зьмена. Затым прыйшлі лісты ад Эдзіка[310] і з «Нашым словам», з «Сьцягой паэта», ужо другая частка. Эдзік прапаноўвае зрабіць асобную кніжку-брашурку. Так, мабыць, і трэба зрабіць. Затым было багата заказных — паштоўкі з бабруйскім краявідам, а дакладней — зь відам Бярэзіны, якія зрабілі па маёй замове. Атрымалася прыгожа. І ліст ад Ірыны Пракопчык. Затым — лазьня з гарачай вадой. А вось пасьля яе — праца. І самая брудная, якая ў нас бывае: набіваньне вацінам матрацаў. Пылу — хмары лётаюць. Мы ўнізе ў цэху набіваем, а ўгары, на «хорах» стаіць Трутко і паглядае. Зранку сёньня прачнуцца не магу, а трэба ж Б. Мікуліча працягваць.

**20.01**

Мароз стаіць! Учора ўдзень было мінус 16, а ўначы было за 20 зь мінусам. У секцыі і на працы цёпла, а на праверках — замярзаю. Уначы — поўня сьвеціць, а ўдзень — сонца.

Сёньня схадзіў у рэжымны аддзел і напісаў заяву на «туфлі цывільнага ўзору», каб іх забралі на склад.

Заходзіў да нас абход. І былы начальнік атрада Казлоў быў, і Трутко — запытаўся, гледзячы на мяне, ці няма якіх скаргаў. Адказалі — не. Выйшлі, гамонячы: «Якія шторы чырвоныя!»

Дзячэнка каментуе: «Тут сур’ёзныя людзі сядзяць, а яны: а што гэта ў вас за вяровачка з вакна зьвісае?» Мы сьмяёмся.

На вуліцы мінус 19, а ўжо абед. Пасьля ж — на працу.

**22.01**

Але і зэкі ня лепшыя. Адзін распавядае другому: «Учора ўвайшоў у кураж, сядзеў лісты пісаў, маляваў…»

**23.01**

Учора прыйшоў з працы, увечары праглядзеў «СавБел.» — выступ Лукашэнкі перад журналістамі. І першы пасаж наконт: «адпушчу, але мусіць быць просьба аб памілаваньні». Нічога новага. З тым і лёг спаць. А зранку прачытаў і другі пасаж — адказ на пытаньне Алеся Ліпая[311]. І там ужо неяк весялей напісана, хоць ізноў няпэўна. А вось «Зьвязда» дык і зусім аптымістычна рэзюмавала: «Па просьбе аднаго з удзельнікаў сустрэчы прэзідэнт пракаментаваў справу Бяляцкага. Кіраўнік дзяржавы даручыў праверыць інфармацыю аб тым, што Бяляцкі кампенсаваў нанесеную ім шкоду, а затым разглядзець пытаньне аб яго магчымым вызваленьні».

А сёньня прыязджае як быццам бы абл. пракурор і нач. дэпартамента. То сказалі мне знаходзіцца ў поўнай баявой гатоўнасьці, прыйшоў заўхоз і папярэдзіў, што могуць выклікаць у штаб і трэба быць гатовым, каб на працягу дзьвюх хвілінаў выйсьці.

Самы непрыемны сон, які мне сьніўся на свабодзе, — гэта тое, што мяне зноў забіраюць у войска. Я даказваю, што я ўжо адслужыў, а мяне ўсё роўна накіроўваюць у частку, дзе я спрабую патлумачыць, і ўсё марна. Ці будуць мне сьніцца такія сны пра турму?

Былі на працы, пайшлі вячэраць у сталоўку. Там усе брыгады з промкі сабралі і не выпускаюць. Затым падышоў суровы рэжымнік і кажа: пойдзем. Пайшлі адразу ў штаб. Там некалькі чалавек у парадным пакоі сядзяць з справамі. Тыя, хто пісаў у Вярхоўны Суд. Затым прыйшоў Дарошка[312], мы ўжо стаім на калідо-

ры. Мяне «хазяйка» паклікаў, а сам выйшаў. Пытаньне было — ці буду я што пісаць. Я сказаў — не, віны не адчуваю, не прызнаю, таму і пісаць ня буду. І так зыск выплаціў, астатняе — ня мой клопат. Ён напачатку хваляваўся, па голасе было чуваць. Потым як я размаўляў спакойна і пасьміхаўся, і ён расслабіўся і заўсьміхаўся.

А першае пытаньне было: «Як вам тут?»

Я адказаў: «Турма ёсьць турма. Але цярпіма».

А скончылі размову тым, што я сказаў: «Ды буду я сядзець!» Гэта прагучала як: «Адчапіцеся ад мяне!» А пачаў: «Я б і рады напісаць прашэньне, але не магу». На тым і разышліся.

Шухер у зоне быў страшэнны. Цёмна ўжо, а ўсе на месцах. І майстры ў куртках вайсковых расходжвалі, чаго раней не было ніколі. А ён некалькі разоў сказаў: «Гэта вашае рашэньне. Вам вырашаць». Прывёў аргумент: «І Саньнікаў, і Каваленка[313] напісалі, хоць што-небудзь». Я адказаў: «Такая ў іх планіда», маючы на ўвазе, што ў мяне — іншая.

**24.01**

Зранку перад сьнеданкам носіцца Квантуз, начальнік атрада, і ва ўсіх правярае бэджы. Ішоў у атрад Таранаў (Таранціна), падыходзіць да яго і кажа:

— Эдуардавіч… я тое і тое.

Той яму адказвае:

— Па-першае, я не Эдуардавіч, па-другое, мітулем у свой атрад!

Пасьля сьняданку зайшоў заўхоз і кажа мне:

— Аляксандр, на промку сёньня не ідзеш.

Блін, ды што гэта? Адвечная думка зэка.

**25.01**

«Ты чаго прыпёрся сюды? Усе прыйшлі, а ты прыпёрся!»

Здаецца, што ідэя прытрымаць мяне два дні, каб я пасядзеў у атрадзе і не хадзіў на промку, была мясцовай ініцыятывай. Сёньня дапісаў устаўкі ў другую частку аповесьці (эсэ?) пра Б. Мікуліча. Атрымаецца здаравенная. 22 старонкі безь вялізных цытатаў. А затым паклікалі ў штаб. Кожны такі выклік — як нямое пытаньне: што, ужо на вызваленьне? Гэтам разам — не. Выклікаў Губіч (нач. аператыўнага аддзела), сказаў, каб пра вынікі размовы з Дарошкам не распавядаў зэкам. А сам пацікавіўся асьцярожна: «А пра што размаўлялі?» Я дыпламатычна ўхіліўся ад адказу, на ўсялякі выпадак, хоць ніякага сакрэту ў гэтым няма. Спытаўся, што я буду рабіць, калі вызваляць. «Зьбяру торбы за 20 хвілінаў ды пайду», — адказаў я. «У панядзелак тады вы ідзіце на промку. У першую зьмену». — «Добра», — адказаў я. А над ім вісіць цытата Ушакова[314] (адзін зь нейкіх міністраў царскіх, ці не XVIII ст.), дзе ўхваляецца данос… Заўважыў, што я прыглядаюся да гэтай рамачкі, і патлумачыў, што засталася ў спадчыну.

У. Някляеў учора прыслаў «Знакі прыпынку» і падпісаў:

*Алесю Бяляцкаму.*

Дзесь Загор’е, Залесьсе
За гарамі, лясамі…
Штосьці ў сьвеце, Алесю,
Застанецца й за намі…

*Ул. Някляеў*
*14.01.2014*

**26.01**

Учора «зламаліся» тэлефоны і атрады не тэлефанавалі. Сёньня ўвечары ў нас званкі, але ці будзем мы тэлефанаваць — невядома. Перапісваў Мікуліча. Шэсьць старонак перапісаў, і «рука байца калоць устала». Затым паперыў бялізну. На вуліцы зранку было мінус 20, зараз мо мінус 15. І сонца, і цёпла, на вуліцу не выходжу. І «Васабі» з французам Рэно[315] паглядзелі. Які раз гляджу — добры фільм.

Вось абвясьцілі, што званкоў ня будзе «па тэхнічных прычынах».

**27.01**

Учора ўвечары іду на ўмывальнік зубы чысьціць: «Атрад! Увага!» Гляджу, ДПНК[316] з кантралёрам заходзяць і ідуць па прадоле. У мяне думка: ці не да мяне з радаснай навіною?.. Вось так зараз я іх успрымаю.

Учора ўвечары кажу Фіксе: «На працу ў панядзелак не іду, іду на бальнічку. Два дні не пабыў, то і трэці ўжо не пабуду». Ён: «Ды і нам безь цябе спакайней будзе».

**30.01**

Холад на вуліцы дзікі. Прыемная навіна: прыслаў паштоўку з падтрымкаю Олесь Ірванец, ліст якога літаральна ўчора да Уладзі Арлова чытаў у «Нашай Ніве». І аповесьць ягоную цудоўную добра памятаю, якую Уладзя пераклаў[317]. Вось яе зьмест:

*«Дарагі Алесь!*

*Я тож Алесь, і ў Вашым веку — 53 гады. Я — украінскі пісьменьнік Олександр Ірванець.*

*Вам, дорогий Алесю, бажаю сили, снаги і витривалості. Бути позбавленим волі важко. Але Ваша (і наша) боротьба недаремна.*

*Мы переможемо!*
*Мы пераможам!*
*Слава Україні!*
*Жыве Беларусь!*
*Ваш — О. Ірванець».*

Цяжка пісаць у дзёньнік, не прывучаны. Лісты значна прасьцей пісаць, але ня ўсё там можна, і не пра ўсё.

**01.02**

Калі ў мяне спытаюць: «Што ты тут рабіў?», адзін з адказаў будзе: «Вар’яцеў ад маўчаньня».

Вывеў заўхоз Дубешку, сказаў, што будзе новым старшым секцыі. Спытаўся, ці ёсьць якія прэтэнзіі. Адказалі двое: «А нам увогуле пох…». А астатнім — тым болей.

**02.02**

Учора прачнуўся сярод ночы ад абсалютна выразнага металічнага голасу: «Бяляцкі!» Прагучала, як быццам бы які маёр мяне паклікаў. Падхапіўся, сэрца забіваецца. Вось гэта — праджахі, якія, верагодна, будуць сьніцца на волі і ад якіх застаецца непрыемны асадак на душы.

А сёньня сьніўся ня лепшы сон. Спачатку нейкае вожканьне з Аленай і Ірынай, нейкія пільныя справы, а потым сустрэча з Шэляговіч Тацянай[318] у нейкім кабінеце, дзе яна запускае мне шпільку, а я бразгаю ключамі ад злосьці і, чамусьці, заточкай, і выбягаю з кабінета. Гэта ўсё рэха ад музейных справаў так трансфармуецца.

Учора ўвечары тэлефанаваў, Наталі няма, яна ў Вільні, таму паразмаўляў з Вольгай, папрасіў скінуць Наталі эсэмэску, каб не хвалявалася, бо ж апошніх званкоў не было і, як сказала ёй Наталя, яна хвалю-

ецца. Паштоўка, якую паслаў адразу, мабыць, яшчэ не дайшла.

**03.02**

Зранку адчуў, што ўвесь час знаходжуся ў стане чаканьня, якое то большае, то меншае, але прысутнае пастаянна.

Перачытаў зараз вершы, якія Эдзік даслаў па маёй просьбе і якія не ўвайшлі ў ягонае выбранае. Цудоўныя вершы. Атрымаўся такі дадатак да выбранага.

**04.02**

Вось, два гады засталося.

У Васі-цыгана пытаюцца: «Нашто бярэш туалетку?» (у мяне).

Сёньня дзень нараду па сталоўцы. Я нават на працу не іду дзеля сталоўкі, адпусьцілі. А на працы ўвесь дзень учора былі пагоны.

**05.02**

Учора ўвечары — нарад у сталоўцы. А перад гэтым схадзіў у бібліятэку. Патэлефанавалі на маё пытаньне пра 6-ы нумар «Дзеяслова». Аказалася, выпісаны ён ня быў. І прыйшла паперына зь Першамайскага суда ад судовага выканаўцы. Распачынаюць канфіскацыю. Але чаго — ня ведаю. Можа, ізноў да кватэры вярнуліся. А што іх да гэтага падпіхнула? Даручэньне разабрацца?

У нарадзе мылам залілі дол, а потым яшчэ вадой з брандспойта. Сьцягвалі ваду, сьцягвалі, а затым выцíралі. Прыйшлі толькі ў 22:30. У мяне з носа пайшла кроў. Ціск? Таблеткі ж п’ю ўжо 8 дзён. Алена прыслала дадзеныя перапісу 1926 года па Бабруйску. Цікавыя.

Ясныя марозныя ранкі, малінавае зарыва на ўсхо-

дзе, высокае зелянкаватае неба, і зорка, вялікая зорка на ўсходзе, мабыць Венера.

**06.02**

Далі — па-каталонску гэта азначае «жаданьне».

**11.02**

Слата стаіць колькі дзён ужо. Зіма скончылася? Даша Домрачава сёньня стала чэмпіёнкай Алімпіяды. Узяла золата — вялікая справа для Беларусі. У студзені згандлявалі на мінус 400 мільёнаў даляраў. Расійскага крэдыту такімі тэмпамі хопіць на пяць месяцаў. Пачытаў сёньняшнюю «БелГазету», адзін артыкул. У офісе АГП разважалі, як сустракаць чэмпіянат сьвету па хакеі. Наталя махае шабляй адважна: ніякіх кампрамісаў. Гляджу і дзіўлюся на сваю жонку.

А падчас праверкі назіраем, як (у вячэрнюю якраз Даша бегла, так што мы і не паглядзелі) насупраць начальнік атрада штодзень трасе секцыю — вытрасае розныя зэкаўскія транты. Добра, што ў нас ня так. Згадваюць зараз і Беласьнежку[319] добрым словам.

**15.02**

Пазаўчора прыязджала Натальля-адвакатка, абмеркавалі, што і як. Усе ў чаканьні. Я распавёў пра вынікі сустрэчы. Яна падрыхтавала ліст наконт адпачынкаў.

Учора ўпершыню чуў гонар у рэпліках і водгуках пра Беларусь. На алімпіядзе — два золата і бронза. Вось так спорт робіць народ і нацыю. І не адзін сказаў: «Во, бл…, Лука будзе рады!» Перамогі ў спорце атаясамліваюцца зь Беларусьсю, і аўтаматычна — зь ім. Мо таму столькі негатыву і ў дачыненьні да Беларусі выказваецца, ці недаацэнкі, няверʼя, скажам так. Бо счэпка ў сьвядомасьці моцная: Беларусь — Лукашэн-

ка. Я тут выглядаю белай варонай, бо буру стэрэатып. І што самае парадаксальнае, што і беларуская мова зь ім зьвязваецца, і — зь яе насьмешкі.

**16.02**

«Праца — ня х…, стаяла і стаяць будзе».

**17.02**

Учора. Нядзеля, праўся ўвесь дзень, кіно дурное амерыканскае паглядзеў і болей нічога не рабіў. Добра. Сёньня лаўка, і трэба думаць, што Ірцы напісаць[320].

Прыйшоў адзін, хваліцца здымкам дзяўчыны. Хлопцы каментуюць: «Ну ў яе і сіські!» Ён: «Яна маладая. Ёй 19 гадоў. Яна проста вельмі жырная». Хлопцы: «У яе сіські па баскетбольным мячы!» Дзяўчына падпісала гэты здымак: «Маёй ягадцы».

Вызірнула сонца. Пачаў падсыхаць асфальт, і вось урэшце запахла вясной. Галубы ўзьнімаюцца з даху, лятуць гурмой мо ў 50 птушак, блішчаць бельлю падкрыльляў, робяць кола і вяртаюцца на дах.

**18.02**

Чакаецца прыезд міністра, таму ўсё чысьціцца, прыбіраецца. Заўтра мусіць быць, а сёньня нейкі начальнік аддзела міністэрства прыехаў. Сёньня была размова па лісьце ў Канстытуцыйны Суд. Рэкамендаваў Трутко — дасылаць не ад мяне. А Даша стала тройчы алімпійскай чэмпіёнкай. Атрымала Героя Беларусі. Учора, як па навінах на промцы пачулі, што ўзяла яна трэці медаль, нават выгукнулі: «Ура!» І гэта — беларусы, у якіх усе эмоцыі ўсярэдзіне, а да ўсяго яшчэ і зэкі.

**19.02**

Чакаюць прыезду міністра. Усё вымецена, прыбрана, мы ўсе «па форме адзеньня». Тры часткі пра Б. Мікуліча я ў чарнавым варыянце скончыў. Спыніўся і зараз спрабую штось для Іркі напісаць. Потым — па Едрусю зрабіць матэрыял. «Сьцяга паэта» друкуецца ўжо ў сямі нумарах «Нашага слова» і яшчэ «працяг будзе». Алена Лапцёнак напісала, прымхліва глядзіць на выданьне асобнай кніжкі. Мне здаецца, мы занадта сьціпла паводзімся і ня цэнім сябе. А трэба, як Даша Домрачава, ламаць стэрэатыпы.

**20.02**

Ва Ўкраіне часова дэманстранты перамаглі, здаецца. Але толку там у персьпектыве ўсё роўна ня будзе. Тацяна[321] напісала, што арганізацыя Роберта як быцам бы дае прэмію[322]. І Марышава з промкі з панядзелка здымаюць.

**23.02**

Ва Ўкраіне пацiху ўладу забіраюць у Януковіча. Пад сотню, а то і болей ахвяраў, забітых з абодвух бакоў, — кошт рэвалюцыі. Я песімістычна гляджу на іхнюю будучыню. Штосьці там ня тое. А больш дакладна — народ расколаты ментальна на ўсход і захад, а гэта за тыдзень не направіць. Так што зараз — часовая перамога. І ўсе неяк з большай павагаю і шматзначна паглядаюць на мяне. Кожны, мабыць, думае: а ці магчыма такое ў нас? Адказ на гэтае пытаньне — ва ўзроўні нашай нацыянальнай сьвядомасьці. На мяне — нуль увагі ад іншых[323], мабыць, чакаюць загаду згары. На вуліцы — дождж. Зіма падыходзіць да канца.

Хадзілі на канцэрт, прысьвечаны Дню савецкага войска, якому і я некалі быў аддаў 1,5 годы майго

жыцьця, — самыя сумныя гады. Міша-цыган сьпяваў: «Я люблю тебя, Россия!» На гадзінным канцэрце — аніводнай беларускай песьні.

**27.02**

Пасьля падзеяў у суседзяў ва Ўкраіне мой імпэт да пісаньня моцна падупаў, бо падаецца такім дробным і няважным.

Адзін зэк пытаецца ў другога:

— У цябе хлеба няма?

Той адказвае:

— У нас Пілюлькін (Антон) дабрачыннасьцю займаецца. Зьбірае ў сталоўцы хлеб са сталоў, а потым раздае няшчасным. Вось ты прыкінься няшчасным і папрасі. Ён дасьць.

Тонкі-тонкі серпік ветаха і зорачка ў сантыметры над ім.

**02.03**

«Назавіся, хто зайшоў!»

Згадваю размовы Гарбатага, які падпіхваў мяне да ШЫЗА. Сёньня прыйшоў новы начальнік, па мянушцы Квантуз. Дзядзька з характэрным беларускім «ч».

Тэлефанаваў учора Наталі. «Дзеяслоў», Барыс і кампанія, далі мне «Залаты апостраф» за публікацыю «Дзядоў» у 2013 годзе. Літаратурная прэмія.

Ва Ўкраіне пахне вайной. Шаленец Пуцін зьбіраецца ўводзіць войскі ў Крым. Яму патрэбная «маленькая і пераможная» вайна. А што ж украінцы? Дадуць яму такую магчымасьць? Украіна аслабленая, на парозе эканамічнага крызісу і без прэзідэнта. Час падабраны «ўдалы». А што ж гарантыі суверэннасьці? Расія ж падпісвалася пад імі. Няўжо вайна?

Сёньня брыгада ідзе на працу, у нядзелю, а мяне пакідаюць. Затое ў аўторак у мяне 101-я.

А з Украінай адбываецца найгоршы варыянт. А як на гэта будзе рэагаваць Еўропа? Лука заявіў, што падтрымлівае цэласнасьць Украіны. І што, як цяпер стасункі з Расіяй будуць разьвівацца? І паўночны Казахстан пад пытаньнем. Хаця там новай сталіцай і перасяленьнем казахаў на поўнач і адтокам рускіх сітуацыю зьмянілі.

Паглядзеў зранку паўтор учорашніх навінаў. Рада[324] дала дазвол Пуціну на ўвядзеньне войскаў ва Ўкраіну. Заварушылася Еўропа і Амерыка, скліканая Рада бясьпекі ААН. У нас у гледачоў тэліка ўсеагульная нянавісьць да Амерыкі. І да чаго гэта прывядзе? Ізноў падзел сьвету?

**04.03**

Сёньня Дзень міліцыі — дзень мянта.

Учора па навінах перадалі і паказалі, як контрадмірал украінскага флоту Беразоўскі прысягае Рэспубліцы Крым. Гэты крызіс паказаў слабасьць украінскага войска. Крым аддадзены зусім бяз бою. Проста так. Украінскія часткі пераходзяць пад крымскае падпарадкаваньне. З пункту погляду ўкраінскай дзяржавы гэта — здрада. І адразу прыходзяць цяжкія думкі: а што, калі падобная сітуацыя ўзьнікла б у нас? Аргумент акупацыі і «абарона стратэгічна важных для Расіі аб’ектаў» (той жа Мазырскі НПЗ) і «русскоязычного населения». А войска беларускае ў гэтай сітуацыі — пшык. Не гатовае ні маральна, ні псіхалагічна, ні стратэгічна. Я думаю, — я перакананы, што такі варыянт падзеяў нават і не разглядаўся. Але ж «саюзьнічак» ненадзейны. І хто ў іх заўтра будзе ля руля?..

«Васьмёрка» праігнаравала сустрэчу ў Сочы. Сем

краінаў адмовіліся. Расію практычна вывелі з «васьмёркі», рубель падае. Дагуляліся.

**06.03**

Другі дзень як на працы няма працы, і я займаюся сваімі справамі: чытаю, пішу, п'ю зялёную гарбату з цытрынаю. Кайф. Украіна ў цэнтры ўвагі, і яшчэ доўга будзе. А я пішу тэкст для Ірынінага альбома. Напішу, а як ён пройдзе — хто яго ведае. Далі мне «Залаты апостраф» у «Дзеяслове», а Эдзіку Акуліну — «Гліняны Велес» за «Сьвятую ноч». Вакол мяне ўсё ціха-ціха. Пачаў чытаць Картасара «Гульню ў класікі». А Барыс[325] сваю кніжку не даслаў, хоць я і прасіў яго. Ня хоча, каб пасьля «Сьцягі паэта» я што-небудзь пра яго пісаў, здаецца. Барадулін[326] памёр. Лука, скрыпучы зубамі, выказаў спачуваньне. Барадуліна цяжка было не заўважыць. Пуціна крыху асадзілі. А ўсе грошы, патрачаныя на імідж на Алімпіядзе ў Сочы, — у пясок.

**08.03**

Учора стаім на праверцы. Ідзе пераклічка. Маёр-майстар называе прозьвішчы.

— Пятроў!

Ня ўсе адказваюць гучна, і можна пачуць у адказ замест сапраўднага імя і імя па бацьку:

— Ніна Аляксандраўна!

Усе рагочуць.

Майстар называе брыгадзіра. Той стаіць у першым радзе і можа сабе дазволіць прамаўчаць. У адказ за спінай: «Бе-е-е-е!», маючы на ўвазе «казла». Вось тут ужо і я складаюся ў столку ад рогату.

У Макея ў інтэрв'ю інфаагенцтву BNS пытаюцца:

— Я читала в белорусской прессе, что президент Беларуси обсуждал возможность того, что в ближайшее время можно было бы отпустить на свободу Але-

ся Беляцкого. Можно ли ожидать каких-то конкретных действий в отношении «политзаключённых»?

— Мы считаем, что всё должно находиться не в политической, а в чисто правовой сфере. Всё должно решаться в соответствии с законом. Если суд сочтёт, либо соответствующие правоохранительные структуры сочтут, что лицо подлежит освобождению, или этот человек напишет соответствующее прошение о помиловании, соответствующими компетентными комиссиями или органами эти прошения будут рассмотрены и внесены на рассмотрение главе государства.

— По поводу Беляцкого нет новой информации?

— Насколько мне известно, изучаются обстоятельства этого дела. Я не хочу сейчас гарантировать, отвечать за Генпрокуратуру и за соответствующие структуры, но обстоятельства этой ситуации изучаются («Народная воля», 07.03.2014).

Усе пайшлі на працу, а я застаўся. Сьвята.

**10.03**

Секцыі «добраахвотныя»: СБД, СВП, СООТ[327].

СВП — «свабодны вынас прадуктаў», СБД — «скора буду дома».

Мянушкі: Шумахер, Міша-галава, Бубка, ён жа Мурзік, Бэтман.

Учора па НТВ і РТР бамбілі такую беспардонную дэзу, што яна вывела мяне зь сябе. Прачнуўся ноччу, заснуць ня мог. Як падчас вайны — дэза і прапаганда. Пагана, што ўсё гэта выліваецца на галовы бедных беларусаў.

Новы начальнік закамандаваў: падчас праверкі пантоплі — у шафу, тумбачкі чыстыя, шконкі запраўленыя па-беламу. Сіні зайшоў да яго ў спартовых

штанах, той абурыўся і кажа: «Ты б яшчэ х… мне на столываліў!» А «бля» ў яго — для зьвязкі.

Украіна так вывела мяне ўчора, што я з гарачкі ўвязаўся ў спрэчку. І адчуў няёмкасьць, калі ўсе выслухалі і прамаўчалі.

Зранку адзін зэк (беларускі армянін) грузіць другога:

— Сінхрафазатрон, шчыльнасьць атама ведаеш?

Той адказвае:

— Ідзі ў сраку.

«Блін, а што вы за муць зранку вярзьлі, лепей ужо пра фізіку паразмаўляць», — гэта мы вяртаемся са сьняданку.

**12.03**

На працу не пайшоў сёньня, іду да галоўнага доктара выпісваць мед. бандэрольку. На вуліцы — сонечны веснавы дзень. Украіна — дурдом. Авіярэйсы з Кіева адмянілі. Рыхтуюцца да рэферэндуму ў нядзелю, які ніхто, апроч Расіі, прызнаваць не зьбіраецца. Пішу тэкст Ірцы пра галандскія паштоўкі — мае развагі і рэфлексіі.

**13.03**

Учора ўвечары Лука заявіў, што запрашае яшчэ эскадрыльлю самалётаў з Расіі ў зьвязку з напружанасьцю на заходніх межах. Падобна, што і мы пачынаем уцягвацца ў канфлікт. А сёньня зранку я згадаў, як усім нашым маладым бацькам пісаў, што столькі малых дзяцей, якія нарадзіліся за апошні год, — гэта да вайны…

**14.03**

Сітуацыя такая, як за крок да вайны. Украіна і Расія грымяць зброяй. Паўсюль вайсковыя вучэньні.

І над намі вось ужо другі дзень падчас вечаровай праверкі пралятаюць грузавыя летакі. Гудуць, як авадні, і шлейф з выхлапу за сабой цягнуць. Калі пачнецца вайна, для Ўкраіны гэта будзе катастрофа, і для Расіі ў персьпектыве. Украіне патрэбны хаця б з год на вучэньні, а яго няма. У выніку поўны гамон. А ў нас гэта прычына чарговы раз гайкі падціснуць. Учора лісты мае з раздрукоўкамі затрымалі. І сёньня не аддалі, хаця абяцалі. Пішацца, у зьвязку з усім гэтым, зь цяжкасьцю. Пісаньне здаецца непатрэбным. Вось ужо сапраўды, калі гавораць гарматы, музы маўчаць.

**17.03**

Учора ў Крыме адбыўся «аншлюс». Што гэта — пачатак адраджэньня імперыі? Ці пачатак канца Расіі? Відавочна, што гэта моцна паўплывае на сітуацыю ў Беларусі. Пра гэтую кучу дамоваў з Расіяй і думаць ня хочацца. Сітуацыя яшчэ раз пацьвердзіла, што бяз мовы мы — патэнцыйны этнаграфічны матэрыял для рускіх. А стаўленьне да мовы сумнавядомае: няма школьніцтва, мовы ў тэхнікумах ды інстытутах — ня будзе і ва ўжытку. Справы паганыя.

**18.03**

Учора, ідучы на вячэру, мы бачылі, як ляцяць гусі, невялікі клін, можа зь дзясятак птушак. Яны ляцелі гурмою і гучна гергеталі, мабыць у бок бярэзінскіх разьліваў.

У абед адным вокам паглядзеў пачатак навінаў РТР. Расіяне радуюцца да ўсрачкі. «Путин — воссоединитель земель русских». Кінуў глядзець, не магу.

**20.03**

Учора стаялі на вячэрняй праверцы на прамзоне і ўбачылі шпакоў. Прыляцелі.

Бурлівая радасьць расейцаў аб «узнаўленьні справядлівасьці», крыўды на тое, што зь імі ня лічацца, заціскаюць у кут. Выплюхнулася ўсё імперскае гаўно. Зь якім жахам на іх паглядаюць былыя «браты па СССР». Ідзе аналіз нашых стасункаў. І нават «памяркоўныя» журналісты паднапружыліся. Відавочна, што наступнай за Крымам можа быць Беларусь.

У мяне цішыня надзвычайная. Нязвыкла. Перадачку з красавіка хачу перанесьці на травень, сумясьціць са спатканьнем, калі яно яшчэ будзе актуальным.

**22.03**

Зранку вельмі цёпла, і ўдзень ужо нават горача. Сапраўдная раньняя вясна. На ранішняй праверцы і вераб'і сьпяваюць, і шпакі сьвішчуць. Сёньня да абеду нічога не рабіў, хадзіў па лакалцы, чапляўся да ўсіх і каментаваў, што і як. Трэба перапісваць нататкі пра лісты[328] — мо з панядзелка пачну. Штодзень пішу «адказы» і «каментары» на галандскія лісты. 14 старонак ужо напісаў. Сёньня яшчэ працуем, а заўтра — выходны. Чытаю «Гульню ў класікі» Картасара, на працы — «Легенды і казкі паўночных народаў Расіі». Крым «прыязналі». Меркель назвала гэта анексіяй, а «Наша Ніва» — аншлюсам. Проста вар'ятня нейкая.

**23.03**

Сёньня выбары ў мясцовыя Саветы. Прафанацыя поўная, як і ўсе апошнія гады. Сонечны, пагодны дзень. Рабіць нічога ня хочацца. Трэба выпрацца і напісаць хоць са старонку тэксту.

**25.03**

Пуцін ня спыніцца, будзе захоп Адэсы, будзе вайна.

**26.03**

Зранку на праверцы над намі нізка праляцелі два лебедзі. Фантастыка нейкая. Кургана адправілі «адпачываць» на сем сутак. Лука выступаў падчас галасаваньня. На пытаньне БелаПАНа пра палітзьняволеных адказаў: «Не нахіляйцеся!», як сядзелі, так і сядзець будуць. Патрэбны зварот — і я ў момант адчынены. Так што, відаць, прыйдзецца мне даседжваць.

**27.03**

Хадзілі ў лаўку. Купіў і зьеў лёды. Забалела горла.

Займаўся фізрай. Пасьля пайшоў абмывацца. Прайшоў А., і праз пару хвілінаў прыйшоў Георгіевіч[329]. Тлумачальную напісаць загадаў. Прыходзіў «па набіўцы». Увечары я напісаў тлумачэньне, а потым была размова, ён адвёў на сярэдзіну ўзьлёткі, каб з атрада менш падслухоўвалі, і распытваўся наконт Украіны.

Вось цяпер можна дакладна сказаць, што прыйшла вясна.

**29.03**

Пасьля лёдаў забалела горла. Выпіў на ноч колдрэкс, стала балець меней. Стаяць прахалодныя і нават марозныя зранку, але сухія і сонечныя дні. У цэху горача. Дачытаў Картасара. Працягваю «адказы галандцам». Гэтая праца зацягваецца. А трэба пра Едруся пачынаць пісаць, дакладней дапісваць. Але й тут яшчэ ёсьць што сказаць. Дараблю ўсё ж гэта напачатку.

**30.03**

Ранак. Толькі займаецца золак. Стаяць Панкрат і Казя-цыган. Казь пытаецца ў Панкрата:

— Якое сёньня будзе надвор'е?

Той адказвае, паглядзеўшы ў неба, з гумарам:

— Будзе дождж.

— Вой! — жахаецца Казя. — Ня дай Бог!

Казю пасадзілі за махлярства.

**31.03**

Сьнілася, што за нагу ўкусіла мяне гадзючка. Я яе пачаў душыць рукой, і яна яшчэ мяне за палец цяпнула. Зранку на праверцы пытаюся ў Міхася, што б гэта значыла. Ён кажа: «Нейкая гадасьць адбудзецца, але ты яе задушыш».

**04.04**

Рукі-кру́кі — прымаўка на няўдалыя рукі.

Ложкі вакол мяне пустуюць. Напачатку закрылі Кургана, а пазаўчора зьехаў на кічу і Сіні. Да канца тэрміну яму засталося 17 дзён. Адсядзеў 5 гадоў. Затое закінулі двух новенькіх, на верхнія бакавыя шконкі. Мішу-галаву вадзілі «хрысьціць» за ранішні сон, пазбавілі пасылкі, якія яму і так не перадаюць. А Мішаня ідзе на камісію. Зь ягоных шасьці гадоў яму засталося сем месяцаў. Мне сёньня — год і 10 месяцаў. Ужо і небагата.

Ва Ўкраіне ўсё пакрыху супакойваецца. Зьбіраюць зброю ў «правых», высьвятляюць, хто страляў па людзях, зарэгістраваліся кандыдаты ў дэпутаты. Лука сказаў, самі вінаватыя, Крым аддалі і вайну пабаяліся пачынаць. Ну і «саюзьнічак» у Расіі.

Учора тэлефанаваў Вользе, Наталя ў Стакгольме, а ў наступны званок паедзе да Адама на прэзентацыю-іспыт ягонага дакументальнага фільма[330].

Я перапісваю ў лістах тэкст для Ірыны Пракопчык, адначасна запісваю «адказы» на галандскія лісты.

Сёньня — лаўка, заказныя, пастрыжка, гара́ спраў. Чытаю гомельскі літаратурны альманах «Палац» — цікава.

**05.04**

Увечары прыйшлі з працы, разгортваю «Народную волю», а там — партрэт «за кратамі» зь весткай пра прэмію шведскіх «Абаронцаў правоў чалавека». За вакном — сонца і я́драна, дыхаць цяжка, бо нос закладзены, як і амаль заўсёды тут.

Віцёк-Бэтман недзе падхапіў каросту, і ў «хаце» прыбірае Патрык.

З Патрыкам ды іншымі хадзілі 30 сакавіка ў нарад па сталоўцы, мылі падлогу, прыбіраліся. Патрык — сьведка Еговы, як я яго называю: «сьведка Бога». Я яму кажу:

— Ты, Патрык, сьведка Бога, а я — сьведка Беларусі!

У нарадзе ён крыху спрабаваў пераказваць мне Біблію. Запінаецца, але стараецца.

**06.04**

Дачытаў «Казкі народаў Поўначы». Вось урывак ітэльменскай казкі:

*Ліса выбралася на бераг: «Вось, кухляначку пасушу і вочкі таксама». Зьняла яна скуру, вочкі выняла. Вочкі ў карчах паклала, а скуру на дрэва павесіла. Сама тутака легла. «Адпачыць ці што?» І заснула. Ідзе Крук па беразе. Наткнуўся ён на лісу, сьмешна яму стала: «Ты бачыш, голая ляжыць. Зараз я цябе напалохаю». Пайшоў ён да ракі, набраў вады ў рот, і зноў сьмешна яму стала — уся вада з рота вылілася. Зноў пайшоў да ракі, вады набраў і рот рукой затуліў.*

*Ляжыць ліса голая, сьпіць. Пырснуў Крук вадой на сьпячую лісу. Моцна налякалася ліса, ускочыла, пабегла, натыкаецца на ўсё, бо сьляпая. Крук са сьмеху памірае. Раптам лісу паклікаў хтосьці:*

*— Ты чаго ходзіш голая?*

*— Крук мяне напалохаў, — кажа ліса. — А хто тут?*

*— Гэта мы, галубічкі, самі сябе зьбіраем.*

*— Дайце мне дзьве галубічкі.*

*Далі ёй, уставіла замест вачэй. Усё навокал сінім стала. Ідзе далей, бачыць — брусьнічкі самі сябе зьбіраюць.*

*— Ліса, ты чаго гэта так ходзіш?*

*— Крук напалохаў. Дайце дзьве брусьнічкі.*

*Выкінула ліса галубічкі, уставіла брусьнічкі. Усё цяпер чырвоным стала. Далей пайшла. Знайшла яна тое месца, дзе пакінула вочкі і кухлячачку. Глядзіць — у яе ўся скура засохла, пакарабацілася. Ліса замачыла яе ў калюжыне.*

Ітэльмены жывуць на Камчатцы. Іх каля 1,5 тыс. Мова адносіцца да чукоцка-камчацкай групы палеазіяцкіх моваў. Беспісьмовая.

Ня памятаю, ці пісаў я: галубка на адной назе на ўзьлётцы скача і голуб вакол яе круціцца, буркаціць, не зважае, што калекая.

Сядзіць зэк, перапісвае нейкае абавязальніцтва. Пытаецца:

— Чуеш, Рома, «правопослушный» — гэта адное слова? Разам пішацца?

— Так. А што, гэты дэбіл напісаў асобна?

— Бо дэбіл.

**07.04**

Сёньня зьняўся з абеду. Працуем у першую зьмену. На санчастку, на ўскрыцьцё медбандэролі Саўчык, поўны цёзка, прыйшоў у сталоўку, забраў. А потым, праз гадзінку сказаў, што рэжымнікаў у 14 ня будзе, так што ўсё пераносіцца на заўтра.

У Данеччыне закалот. Гэта іспыт для новых уладаў. Чарговы. А расіяне дзеюць па плане.

Бегаў сёньня паўгадзіны. Зараз імкнуся кожны дзень ці на турнічку і брусах, ці бег.

**11.04**

Пазаўчора прыязджала Натальля-адвакатка. Паразмаўлялі, нічога канкрэтнага. Я распавёў пра «зацішша». Яна — пра справы ў Жэневе. Ужо дзён пяць як расквітнелі на градах жоўтыя нарцысы. Галя Янушкевіч[331] класны малюнак Ракава даслала. Вясёлы і добры. Учора бандэрольку не легалізаваў, начальнік атрада на працу выгнаў. У панядзелак пайду. Сёньня пятніца: заказныя лісты і лазьня. А цяпер зьбіраюся на працу. Ранак сьветлы, з малінавымі воблакамі, сонца ўсходзіць. Але — сьвежа і вецер ледзяны.

**12.04**

Прачытаў інтэрв’ю Сааакашвілі ў «Народнай волі», і пасьля яго нейкае прадчуваньне вайны Ўкраіны з Расіяй перайшло ва ўпэўненасьць.

**13.04**

Учора перадалі пра захоп мянтоўкі ў Славянску — і ўсё: кладуся спаць — і сэрца тахкае. Ноччу прачынаюся і думаю; крыважэрныя думкі, адным словам. Сёньня крыху пацяплела. Ідзём палуднаваць, а пасьля некалькі лістоў напісаць трэба. Дык што ж з гэтай Украінай будзе?

**16.04**

Выклікалі ў штаб. Пагаліўся з халоднай вадой і пайшоў. Доўга чакаў. Прыйшла «Гісторыя Літвы» ў перакладзе Вінцука Вячоркі. Далі пачытаць да аўторка[332]. Украіна развальваецца. А я асьцерагаўся, што выклікаюць па лістах. Здаецца, прайшлі, там эсэ для Іркі. Сёньня ноччу прачынаўся літаральна ў жаху, з-за Ўкраіны.

Бандарэнку[333] пасадзілі ў СІЗА, «СБ» надрукавала «за злоснае хуліганства», будзе яму нясоладка.

**17.04**

Пaціху ўцягваюся ў фізкультуру. Сёньня прабег паўгадзіны на месцы, без праблемаў, толькі пачуцьцё задавальненьня. У атрадзе ціха, ва Ўкраіне неспакойна. Учора ўначы ў Марыупалі быў напад мясцовых на вайсковую частку. Напад адбілі, трох забілі, 12 паранілі, 64 «узялі ў палон». Але ў атрадзе гэта мала каго цікавіць. Навіны не глядзяць, а вось «баі бяз правілаў» — яшчэ як.

**18.04**

Учора прыляцелі ластаўкі. З такім задаволеным цвыркатам заляцелі ў гараж, правяралі гняздо, вылятаў і лёталі, лавілі жамяру, якая зьявілася, бо пацяплела. Забраў учора мед. бандэрольку і сёньня ем ужо розныя амегі і лецытыны з валяр’янкамі ўпрыкуску.

**20.04**

Вялікдзень. Цёпла. Зранку лёгкія аблокі. З тумбачкі прыбраў каляндар і паставіў паштоўку-яйка. Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос! Сёньня буду толькі чытаць і пісаць.

**21.04**

Дзень нараджэньня Адама. Яму 25 гадоў. Напісаў яму ліст. Учора быў Вялікдзень, дзень, калі я практычна нічога не рабіў, адзін зь нямногіх такіх дзён. Напісаў некалькі паштовак — і ўсё. Увечары паразмаўляў з Наталяй. Задаволеная паездкай да Адама. У таго быў іспыт — дакументальны фільм. Здаў пасьпяхова, шэсьць зь пяці, паставілі найвышэйшую адзнаку. Напісаў мне вялікі ліст, але яны ў плыні эмоцыяў забыліся пра яго. І я ўвечары перад адбоем прахадзіў задаволены. Посьпехі дзяцей — нашыя посьпехі.

**23.04**

Учора зранку стала пагана. На праверцы занудзіла і ўвесь успацеў. Не дачакаўся заканчэньня праверкі, бо адчуў, што ня вытрымаю, сказаў Георгіевічу — у прыбіральню. Пасьля апраўкі палягчэла, пайшоў на працу, там усё паўтарылася, званітаваў прасянай кашай і кавай. І павёў мяне Кірылавіч, майстра, у бальнічку. Тут памацалі, паслухалі і паклалі. Патрапіў я ў хату з умывальнікам і вадой, на тры ложкі, а ляжым удвух зь Мікалаем, які магілёўскага пракурора прыстрэліў. Магілёўскую калонію, адну з дзьвюх, расфарміроўваюць, і яго сюды разьмеркавалі. Ён былы паляўнічы, паляўнічазнаўца. Мае 23 гады тэрміну, а самому ўжо каля 60…

Ціха, спакойна. Пад вечар учора ўзьнялася тэмпература да 38. А сёньня зранку 36,6. Сястра кажа: «Што ты ўчора — масты́рыўся[334]?» Я пытаюся: «А што гэта такое?» Жартую. Яна адказвае: «Значыць, мала яшчэ прасядзеў». Даюць пігулкі. Чытаю газеты, Мікола байкі травіць. Дадзеныя НІІСІПІ па аб’яднаньні з Расіяй ці зь ЕС супярэчлівыя. Але вымалёўваецца прыкладна траціна за ЕС і дзьве траціны за Расію. Такая яна, аб’ектыўная рэальнасьць, на сёньня.

Удзень хадзіў у атаварку, пагасіў там свае апошнія за гэты месяц капейкі. Узяў чатыры шакаладкі. Прабіраліся па зоне зь цяжкасьцю, бо прыехала на вучобу гурма зампарораў[335] — зона была пустая, аж пакуль яны ня выйшлі, мы сядзелі ў лаўцы. Сёньня адчуваю сябе ўжо лепей.

**24.04**

Я яшчэ ў бальнічцы. Здаў аналізы. Зранку тэмпература 35,9. І гэта ўжо другая раніца. Але нічога не баліць, пасьляатрутны стан спакою ў арганізме. Сёньня пачалі аперацыю ў Славянску. Украінцы ідуць неяк павольна і няўпэўнена. Там усё заварушылася. На вуліцы пахаладала і вецер. Пішу лісты, а тэкст для Іркі пакуль адкладзены, ляжыць. Штогадовы зварот Лукашэнкі да народу — нацыянальна арыентаваны, за незалежнасьць. І за мову нешта сказаў. Як на гэта адрэагуюць чыноўнікі — хутчэй, ніяк, але для актывістаў могуць зьявіцца дадатковыя магчымасьці.

**25.04**

Ляжу. Глядзеў навіны ўдзень, украінцы ізноў пад Славянскам загамава́лі, затое расіяне сікаюць кіпнем і пагражаюць. Чым гэта скончыцца?..

Ірка Пракопчык прыслала паштоўку, усе мае чатыры лісты дайшлі, і гэта добра. А Кукабака[336] сваю фотку даслаў, стары ваяка.

**27.04**

Нядзеля. Я яшчэ далежваю ў бальнічцы. Зранку ціха. У палаце нас было ўдвох, зараз мы ўтрох. Падсялілі ўкраінца, які прыехаў з гарадской бальніцы, з рэанімацыі, там рабілі яму нейкую аперацыю. З Сумшчыны, і затлумлены, як і ўсе ўсходнікі.

Чытаю «Дзеяслоў» 69-ы нумар, усё цікава, апроч

рамана Ўсені. І Вежнавец, і Мудроў, які мяне згадвае, і Стэфановіч[337].

Адзінота мая пакрыху падыходзіць да канца, заўтра выпіска. У Славянску «партызаны» захапілі вайсковую місію АБСЕ, па некалькі (ад аднаго да трох) немцаў, палякаў, чэхаў і г. д. Гэта тое самае, што сунуць руку ў вулей.

**26.04**

Ранак, сьняданак з хлеба, масла і рысавай кашы. Я ўсё яшчэ працягваю адпачываць, учора хадзіў прыкладна дзьве гадзіны. Можа, сёньня выпішуць. Усё ж адчуваньне такое, што жыву зараз у іншым сьвеце. Упершыню за два гады.

Вось, сказалі, што выпіскі ня будзе, значыць, мой курорт працягваецца, і зараз іншыя задачы — патрапіць у атрад, узяць усё неабходнае, і самае галоўнае — галандскія лісты, і патэлефанаваць.

**29.04**

Учора ўвечары хадзіў на званкі. Наталя кажа, што Адам распытваўся падрабязна, як я рэагаваў на ягоную шасьцёрку. На што я сказаў, што яшчэ падрабязьней хачу распытацца, як праходзіў іспыт. А сёньня хадзіў у чарговы раз забіраць ліст, і спыталіся ў мяне наконт спатканьняў, пацьвердзіўшы, што спатканьні будуць. Няўжо будуць? Я яшчэ ня веру, хоць заўтра павінны ўжо вывесіць у атрадзе графік спатканьняў. У любым выпадку да 8-га трэба рыхтавацца, а там ужо паглядзім, як далей. Такім чынам, «каранцін» складзе два гады[338].

Сёньня Радуніца, як кажуць, і заўтра, пазаўтра — выходныя, так што, верагодна, я яшчэ і да 2-га буду тут. Але не бядую. Забраў учора лісты галандцаў і

працягваю адказваць. У дзень адзін ліст. Два ўжо напісаў, яшчэ штук шэсьць засталося.

Хаджу па сьцежцы да «рэнтгену», адціскаюся, так і жыву. На вуліцы — рай: аблокі, сіняе неба, таполя, якая адстрэльвае пупышкі.

Учора Коля Блізьнец распавёў гісторыю пра свайго сябру Сашу-пажарніка, пра «вясельную» гармату на Буйніцкім полі, пра ягоную заслужаную «жменю грошай», якую ён браў з стрэлаў па нядзелях.

А цыган Багдановіч-Федзя — пра тое, як пасьля аперацыі ўпершыню тэлефанаваў жонцы ў Баранавічы і абрадаваў яе, што жывы, бо месяц не падаваў пра сябе весткі, і яна думала, што ён ужо памёр, таму была моцна радая званку. Але й яна зьдзівіла яго, распавёўшы, што іхняя дачка, якой няма яшчэ і 15 гадоў, па інтэрнэце пазнаёмілася з хлопцам-цыганам са Жлобіна і, сказаўшы маці, што пойдзе ў лазьню, сама ў Баранках села да яго ў аўто і пакаціла ў Жлобін. Маці спалохалася, што яе не было ўдома, і напісала заяву ў міліцыю, а праз два дні пазваніла малая і сказала, што яна ў сям'і ў хлопца ў Жлобіне. Туды паехала тры машыны дзядзькоў і братоў. Сям'я жлобінская іх ня ўразіла: былі небагатыя. Малую забралі, звазілі ў бальніцу, праверылі, ці цэлая, і забаранілі мець хоць якую сувязь з жаніхом. Так што Федзя, калі даведаўся пра ўсе гэтыя прыгоды, і сам прыбалдзеў.

**30.04**

Учора ўбачыў стрыжоў. Увечары кружляла над зонай першая пара. Мой «адпачынак» працягваецца. Учора Луганск фактычна захапілі «ребята». Зьдзіўляе іхняя пасьпяховасьць і абсалютная няздатнасьць кіеўскіх уладаў хоць як апанаваць сітуацыю. Імпатэнты поўныя. Нават і ня ведаю, чым абгрунтаваць іхняе няўменьне і нежаданьне дзейнічаць. А зброя разыхо-

дзіцца па руках. Сотні калашоў у «ребят». Такое адчуваньне, што Луганск і Данецк украінцы ўжо страцілі.

**05.05**

Пазаўчора я вярнуўся ў атрад, і адразу ў другую зьмену на работу. Была і 101-я, і другая зьмена. Учора і ў нядзелю дзьве зьмены працавалі з абяцаньнем аддаць адгулы. Холадна. Цялагі ўжо здалі, маю засунулі ў дапаможны пакойчык, а на вуліцы днём і дзесяці не набірае.

**06.05**

У Славянску ўчора былі баі. Данецкія «палачкамі» зьбілі ўжо трэці шрубалёт. Я сёньня ўдома, за нядзелю. Буду працца. Яшчэ холадна. Ноччу прачынаюся ў прыбіральню — і думкі пра Ўкраіну. Там фактычна грамадзянская вайна. Гэтая шалёная страляніна і «Хатынь» у Адэсе. Маскалі падкідаюць у вагонь дровы. А ў мяне было 1000 дзён няволі. Наталя лічыла, дала інтэрв'ю, а яшчэ палічыла, што я пражыў 18 тыс. з хвастом дзён. Вось да апошняга і я б не дадумаўся.

**07.05**

«Каму што, а млынару — вецер».

Збаяўся Пуцін. Мабыць, палічылі, што гэтыя ўбогія Данеччына і Луганшчына будуць ня вартымі тых эканамічных і палітычных стратаў, колькі б гэта каштавала, і ў штопар ня ўпалі. Заклікаў адкласьці рэферэндум, а гэта значыць, фактычна пахаваць ідэю аб ім. Да ўсяго, канчаткова, мабыць, вылезьлі і ў Славянску, і ў Данецку расійскія вушы, і ў Адэсе таксама. І проста цяжар з плячэй спадае. Значыць, калі нічога ня здарыцца, прэзідэнтам будзе Рашэ́н[339]. А Юля[340] і «Бацькаўшчына» будуць ваяваць за парламент. Бо прэм'ер будзе галоўнейшым за прэзідэнта. Такі рас-

клад. Калі толькі нічога ня зьменіцца кардынальна. Расіяне зразумелі, мабыць, што без вайны, аднымі дыверсантамі Харкаў і Адэсу не адкусіць. І астатняе таксама. І з Луганскам і Данецкам — бадзяга, таму і адступаюць часова. І гэта для ўкраінцаў — шанец. Ці скарыстаюць яны зь яго?

Рэчы мае не перадаюць, падчас працы была сустрэча з «акулярыкам»[341], які абураўся інтэрв'ю Наталі. А я так зразумеў, што яно камусь і ў Менску на вочы патрапіла, адтуль усыпалі гэтым. А тут палічылі, што і з шмоткамі штось ня тое замышляецца. Таму і казаў Скудны[342]: «Уважаемы».

Удзень тэлефанаваў Наталі, заўтра спатканьне, а паштоўку пра доўгатэрміновае спатканьне яна яшчэ не атрымала. Вось я ёй і распавёў. Яна згадала, як я ёй у Гомелі падарыў тульпан. А я зусім ня памятаю.

**10.05**

Сьпім з расчыненымі вокнамі, і зь пяці гадзінаў чуецца няспынны шчэбет-цвырканьне вераб'ёў, сапраўдны птушыны рай. Восьмага было спатканьне з Наталяй і Воляй. І, як заўсёды пасьля яго, пару дзён я прыходзіў у сябе, пераварваю пачутае і яшчэ раз прагаворваю сказанае. Багата эмоцыяў, і самае галоўнае — можна паглядзець адно на аднаго. Яна трымаецца, Адам кінуў паліць. Так што жыцьцё ідзе. Сёньня ў мяне другі адгул, які выбіў зь цяжкасьцю. Антон хацеў сумясьціць яго з нарадам па сталоўцы… Я выказаў усё, што думаю з гэтай прычыны, брыгадзіру. Фікса пагадзіўся і адгул усё ж даў.

Пачну пісаць начыставую лісты да Іркі, «адказы» на галандскія лісты ды троху лістоў паадпісваю.

**11.05**

Зранку падумаў, што толькі два дні мінула, як На-

таля прыязджала, а такое адчуваньне, што тыдзень таму. Першыя галандскія лісты неабходна дапісваць амаль цалкам. Сёньня буду пісаць ліст № 2. А № 3 пусты, яго напісаць наноў фактычна патрэбна.

**13.05**

Усе з захапленьнем абмяркоўваюць учорашнюю перамогу беларусаў над швейцарцамі па хакеі. Таксама радыя, што расіяне выйгралі ў амерыканцаў — паквіталіся зь імі за наш пройгрыш (1:6), і плююцца з вынікаў Еўрабачаньня. Барадатая Канчыта ўсіх уводзіць у транс. «Гэтая Еўропа ах… ужо!» — большасьць сябе зь Еўропай не атаясамліваюць.

Ва Ўкраіне 11-га адбыўся «рэферэндум», які, як вызначылі арганізатары, лічыцца сапраўдным пры любой яўцы. Лухта поўная. І ўчора ўжо заявілі, што і «Данецкая рэспубліка», і «Луганская рэспубліка» зьвярнуліся да Расіі: прыміце. «Рэспублікі» на адзін дзень. Расійская тэлевізія тлуміць людзей, а маскоўскія грошы — усю Беларусь.

**14.05**

Учора, мабыць, падкінулі мне ўвечары хлебны член у натуральную велічыню. Зранку сёньня паклікаў я Шуру, і ён выкінуў яго. Прыкладна я здагадваюся хто. Сакрэт не вялікі. І зранку опер адразу паклікаў усіх на размову — як і што. Я яму сказаў: «Дзіцячы сад!» Хаця момант кампраментацыі ў вачах народу тут ёсьць. І так тут заўсёды трэба мець слых на семярых. Ледзь расслабіўся — і трындзюліна ляціць. А прычына, мабыць, у перастаноўках, двухпавярховыя нары вяртаюцца. Можа, каго гэта і заела, а хто вінаваты пасьля ўчорашняга абходу? Зразумела, каму жыцьцё ўскладняюць.

Ва Ўкраіне «партызаны» напалі на калону вай-

скоўцаў, шасьцярых забілі, васьмярых паранілі — для ўкраінскага войска гэта сур’ёзная ўструска. Ці зробяць яны якія высновы і ці хутка? Пабачым.

**15.05**

Сёньня застаўся ў атрадзе, бо нарад у сталоўцы. Цыган Ваня прыйшоў з бальнічкі, нешта незадаволены і абураны, кажа Васю: «Гэтая белая з… дастала мяне. Хадзем, супакоімся, кавы пап’ем».

Па «хлебнаму члену» — цішыня. Пішу лісты Ірцы, ужо чатыры напісаў, але ці пройдуць — невядома.

Учора тэлефанаваў Наталі. Яна гаворыць: «Я ў немцаў». Я ёй: «Бяры асадку і запісвай». І надыктаваў перадачку на спатканьне. Садавіну ўсю зялёную і часнок не кітайскі. Зрабіў намёк, што на кароткім спатканьні ўсё было аж занадта перасьпелае. Яна апраўдалася: «Гэта ня я купляла». А з С… жа вопыт такіх даручэньняў ужо ж быў, што сядзела, пазірала на купленыя ім разынкі і плакала. Мужыкі ў падобных пакупках спрэс бесталковыя.

**16.05**

Аказваецца, гісторыя з хлебным чэлесам ужо ў атрадзе была. Такі ж падкінулі Слабодчыкаву і, каб замяць гэтую справу, звалілі ўсё на Патрыка. Учора Патрык падчас нараду ў сталоўцы сказаў мне:

— Ты ж не падумай, гэта ня я.

— А хто? — спытаўся я.

— Нейкі вар’ят, — адказаў ён. — У вас у атрадзе ворагаў няма.

Ёсьць ці няма — цяжка сказаць, але пачуць такое было прыемна.

У нарадзе мне дастаецца апошні рад. Частка лавак касяковыя, і я іх абмінаю.

**17.05**

«У добрага цыгана і конь усьміхаецца».

**18.05**

«Скруціць вату ўліткай».

«Бархатныя зэчкі».

Учора схадзіў зранку, паразмаўляў з заўхозам, патлумачыў на пальцах, як і што, сказаў, што ў ягоных інтарэсах зрабіць так, каб інцыдэнты з хлебным чэлесам і падобныя яму не паўтараліся. Таксама сказаў, што здагадваюся, хто гэта мог зрабіць, і што, думаю, ён таксама ведае, здагадваецца, бо гэта мусіць быць цалкам адмарожаны чэл, але яго нацкаваў нехта хітрэйшы.

Сёньня нядзеля. Зранку будзе ПХД[343], а я хацеў прабегчыся. Перанясу на вечар. Зараз, значыць, буду прыбірацца, і папрацца трэба хутка. Садавіну са скрынкі прыбраў, хаця як быццам бы дамовіўся, што, калі вярнуся са спатканьня, дазволяць. Пабачым. І паміж усімі гэтымі бытавымі клопатамі застаюцца лісты да Ірыны, ці да галандцаў, якія трэба рабіць.

Побач паклалі сьмярдзючага Сярожку, вечна ўшушканага брудняку. Зганяюць у секцыю розных недарэкаў.

— Усё?

— Усё — гэта калі ногі халодныя.

«Скончыў сцацца, пачаў срацца».

Сярожка кажа мне:

— Ты не базар са мной. А то мяне запішуць у тваю злачынную групіроўку.

**20.05**

Учора беларусы выйгралі ў хакей у латвійцаў і

выйшлі ў чвэрцьфінал. Дасягненьне. Іду на спатканьне на суткі. Ноччу спаў, як пшаніцу прадаўшы. Нічога мяне не хвалявала, арганізм ужо прызвычаены да рэжыму.

**21.05**

Быў на спатканьні. Атрымліваецца паўдня і ноч. Нагаварыліся, але трэма ў мяне была, хваляваньне, паступова суцішылася. Зараз стан хаатычнасьці, як заўсёды пасьля спатканьня. Торбы папоўніліся. І самае істотнае, што сказала Наталя, а ёй сказала М., ёсьць дамоўленасьці. Пабачым. Адразу ўзьнікаюць думкі: а што потым?

**24.05**

Вось зараз толькі пасьля спатканьня прыходжу ў сябе. Пазаўчора засялілі нашую секцыю, закінулі трох з каранціна, і нада мной зьявіўся пасажыр, хлопчык 22 гады. Прыйшлося палову тумбы вызваліць. Гарачыня стаіць. На працы няма чым дыхаць. Я прынёс слоік з-пад сухой гародніны, пластмасавы, абліваюся вадой пасьля абеду і калі сыходзім. А сёньня вызваліў яшчэ адзін. Цяпер з двух ужо і мыцца можна будзе.

Устаў зранку ў пяць, пазаймаўся фізкультурай, бо ўвечары занадта горача. Учора прыйшла мая кніжка, забралі «на экспертызу»[344].

**25.05**

Сёньня абяцаюць да 32 градусаў гарачыні. Я ўстаў у пяць і прабегся (на месцы) з паўгадзінкі. Частка брыгады пайшла на працу. Мяне не чапаюць. Зараз адзіная галоўная думка — ці прайшлі мае шэсьць лістоў да Іркі. Званкі яшчэ ня хутка, толькі 30-га, каб можна было ў Наталі спытацца. Буду зараз пісаць у запас, адсылаць пакуль ня буду. Кароткія адказы, якія неаб-

ходна «разганяць», сканчаюцца, яшчэ тры засталося. А далей будзе прасьцей. Адказы далей прыкладна па старонцы, што цалкам даволі.

Аднаго з хлопцаў, прозьвішча якога Буян, адразу ж перахрысьцілі, памяняўшы літары (трэцюю перацягнулі на пачатак), атрымалася ня менш задзірыста.

Цыган Федзя, ужо паджылы вялікі дзядзька з Давыд-Гарадка, так смачна гаворыць па-беларуску. Як я пачуў: скараводка, уюны несолоныя — аж сэрца заныла. Так і баба Соня на Нараўляншчыне казала.

**27.05**

Ірына Багдановіч прыслала свой верш, дзе згадала і мяне:

Такі цёплы кастрычнік сыходзіць
у жоўтым экстазе
Лістападу суцэльнага колераў мёду
й бурштыну…
А ў бабруйскай калоніі сябра,
пан-братка мой, вязень
Адбывае пакуту за край наш —
сьвятую Айчыну.

Колькі ж лёсаў, Айчына,
адважна табе паслужылі:
Два стагодзьдзі змаганьня за Волю,
за Праўду, Бог бачыў.
І ў пятлі, і ў Сыбіры галованькі
шчодра злажылі…
Твой народ кунтушовы — з Пагоняю
ў сэрцы гарачым,

А народ твой сярмяжны… Ды што там…
Дай, Божа, нам сілы!..

Выйдзе вязень на волю, дух продкаў
ня зьнішчыцца ўпарты,
Каб нарэшце збылося прароцтва:
васкрос ён з магілы —
Гэты годны народ, Валадарства Нябеснага
варты!

*29–30.10.2013*

Руслан-цыган гаворыць: «“Пагана”, гэта хіба пагана? Пагана, калі прачнуўся — і жонкі няма, і статка няма. Жонка ўцякла, а статак некуды сышоў. Вось тады пагана, ня ведаеш, у які бок кідацца».

**31.05**

Штосьці нервы мае расхадзіліся. А ўзлаваўся з-за, здаецца, дробязі — перагляду кешараў, які наладзілі заўхоз і Руслан-капцёршчык. Пайшоў хадзіць. Затым сабраўся, сканцэнтраваўся, пераадолеў сваё раздражненьне і — здаў торбы з праверкай. Думаю, што ўскосна ўсё ж такі спатканьне выбіла мяне з наезджанай каляіны.

Учора тэлефанаваў Наталі, усё, здаецца, нармальна. Буду ў чэрвені тэлефанаваць Адаму, накупляў багата картак на 360 адзінак. Наталя сказала, што памёр Генадзь Бураўкін[345], наш сусед па «Вясьне».

**01.06**

Брыгада пайшла на працу. Нядзеля. Я ўдома. Перапісаў для Іркі чарговы ліст, а зараз буду працца. Паглядзеў у раскладзе на чэрвень — я ў нарадзе ў сталоўку і на 101-ю, як заўсёды.

**02.06**

Зь якой цяжкасьцю я разьвітаўся з сырам, які праляжаў запакаваны ў поліэтылен тыдзень у торбе

падчас гарачыні і пачаў «пахнуць» і крыху аплавіўся. Сыр быў цьвёрды, але пасьля атручваньня есьці яго я асьцерагаўся, і выкінуць рука не ўздымалася. Цягаў то ў тумбачку, то з тумбачкі, туды-сюды, урэшце выкінуў у сьметніцу, пайшоў на турнік і супакоіўся.

Учора перабіраў торбы, бо ўсе перабіралі, на капцёрцы Антон і Рысьнік — выбарачную праверку зрабілі, цыгарэты не сыходзяцца. Тлумачу: 1 пачак узяў, каб за ўборку разьлічыцца. Сёньня ўжо размова са старшым секцыі — Алесь мусіць сам прыбіраць. Па графіку.

Чытаю Бенедыкта Сарнова пра Салжаніцына[346]. Багата злосьці.

**06.06**

Сёньня і лаўка, і званкі. Секцыю запоўнілі. Зараз 14 асобаў. Амаль усе маладыя. Двое за спробу гвалту, 166-ы артыкул, адзін — 328, яшчэ нейкія. Нязвыкла. Хадзіў 4-га ў нарад у сталоўку. Хаджу штомесяц. Напісаў усім лісты, і ўсе маўчаць. А які там лёс кніжкі будзе? Адпісваюся Ірцы.

**08.06**

Пайшла «легенда» пра тое, што Лука паглядзеў на Закон аб амністыі і не падпісаў яго, палічыў слабым: «багата артыкулаў не ўваходзіць». Хацелі б бачыць і зэкі «добрага цара». А ў мяне з гэтай амністыяй свае спадзяваньні, кволыя праўда, але ёсьць. З. нахабнее з кожным днём, так хацелася б мне прыкласьціся, але разумею: нельга ўлазіць у гэты бруд.

Вось зьявіўся вольны час, як сёньня, і адразу апаноўвае сум.

— Кругаль табе твой аддаць?
— Я думаў, ты паставіш.

— А засыпаць ёсьць чым?
— Знайду.
— Тады стаўлю.

**09.06**

Патрык мыецца ва ўмывальні адной рукой, старанна так. Я раблю заўвагу:

— Патрык, твар мыюць дзвюма рукамі. Цябе не вучылі ў дзяцінстве?

Раніца перад праверкай. Сьмяёмся.

У Шумахера тату на глотцы: «Я сыт по горло». І ўсё. Я пытаюся: «А што далей?»

Ён кажа: «Я сыт па горло вашей добротой».

«Штосьці “тэ” ў цябе невыразнае, як “эр”». Чытаю: «Я сыр». «Ты сыр?» — пытаюся. «Сам ты сыр» — адказвае, а касы́, вочы ў розныя бакі глядзяць, як у артыста Крамарава[347].

Чытаю У. Някляева «Знакі прыпынку»[348]. Піша: «Для таго, каб быць літаратарам, дастаткова ня піць». Хораша сказана.

**12.06**

Хтось ходзіць пад вокнамі, галосіць: «Ё… у рот! Куды я патрапіў! Выпусьціце мяне адсюль!»

Усе нашыя неяк амаль адначасова адпісаліся мне, і стала адразу спакайней. А заўтра буду тэлефанаваць Адасю, таксама я ўжо хвалююся.

Прыехаў Валынец з суда, амаль год не было, давёз да сваіх васьмі, якія былі, яшчэ дзевяць. Усяго зараз 17.

**13.06**

Прыйшлі ўчора ўвечары з промкі, а нам у сек-

цыю яшчэ адную на́ру ўпіхнулі, заставілі ўсё, зараз на 16 месцаў, і гэта з 10, якія былі яшчэ два месяцы таму.

**14.06**

Учора патэлефанаваў Адаму. І чаму раней не дадумаўся да гэтага? Паразмаўлялі хвілінаў пяць, уклаўся ў паўкарткі на 360 адзінак. Сказаў яму, што буду тэлефанаваць яшчэ ў канцы месяца. Ён круціцца, і яму гэта нязвыкла, але прыемна было. Сказаў, што вучыцца ўжо 10 гадоў і што гэта ўжо яго дастае. Атрымліваецца, як і ў мяне з асьпірантурай, — залатыя мае часы. І наколькі гэта мяне супакоіла.

З газам расіяне і ўкраінцы дамовіцца ня могуць, чым не нагода для вайны?

Дачытаў «Знакі прыпынку» У. Някляева, цікавая і ўвогуле сьветлая кніжка.

Зранку хлопцы праз хадок парамсілі, а пасьля абеду ўжо прадол мыюць.

Прыйшоў у другую зьмену дзядзька Валодзя[349] працаваць, і мужыкі пацягнуліся ва ўмывальню галіцца, і я ў тым ліку. Адзін раз «не заўважыў» — другі раз не даруе.

**17.06**

Цыган Рустам, ужо другі раз чую, гаворыць: «Якая розьніца, якая нацыянальнасьць, абы чалавек добры быў». Мабыць, дастаюць яго зь ягоным цыганствам, а ён яшчэ з групы палескіх цыганоў, якія і па-цыганску не гавораць, толькі па-беларуску і па-руску.

Напісалі яму крэйдай на куртцы: «Беркут». Выйшаў з промкі на двор — засьмяялі. Падышоў да Сідаровіча, здаровага, тоўстага наркамана зь Менска, і кажа: «Табе па я…алу даць?» Той аж прыбалдзеў. Адказаў адпаведна. Так я і прасьмяяўся ўвесь дзень з гэтага: «Беркут».

Сказалі прыбрацца ў сушылцы, там вымывалі яе. Я пайшоў у чаргу ў кешарку адным зь першых, каб доўга не стаяць. Забраў — станок, кавалак кілбасы, сухафрукты, а пра сушылку забыўся. У выніку прасіў Антона і забіраў красоўкі з падсобкі, а там жа яшчэ і мачалка…

**18.06**

Сьняданак у 6:10. Сядзім за сталом. Піня гаворыць:

— Як хутка тыдзень праляцеў, ужо серада.

Віталік адказвае:

— Ды ну, цягнецца, я…аць-я…аць.

— Ужо 18-га, хутка ліпень.

— Дзе ж хутка, яшчэ два тыдні.

— Так і лета праляціць — і не заўважым.

— Іюнь-іюль цягнуцца, канца ім няма.

Я ем гарохава-ячную кашу, слухаю. Яны ж не ядуць — грэбуюць.

**20.06**

Учора сяджу на працы. Міколы няма. Адпаведна, рукавіцаў няма і працы таксама, балдзею. Напісаў старонку для Ірыны Пракопчык, чытаю «Вайну і мір», адступленьне ад Смаленска да Царскіх Старож (ранейшай нашай мяжы з Расіяй), схадзілі паабедалі, мне на ФОКСе, на заходзе на промку, кажуць: стой, не заходзь, адвакат прыехала.

Я чакаю ў лакалцы сёмага атрада. Падышоў Шадыеў, зь ім пагаманілі. Затым прыйшоў старшына: «А я вас паўсюль шукаю». Паразмаўлялі з Натальляй. Дзьве навіны. Першая — адкрыты ліст у Камітэт па правах чалавека наконт маёй справы, другая — больш істотная. Яна паглядзела праект амністыі. Каб пад яе патрапіць, трэба быць чыстым перад амністыяй. А я ж «злосьнік» яшчэ да кастрычніка. Так што амністыя,

як на сёньня, мне ніяк не падыходзіць. Верагоднасьць сядзець «да званка» павялічваецца.

Сёньня пятніца, напружаны дзень: і лаўка, і званкі, і заказныя лісты. Пасьля спатканьня прыйшоў на ФОКС, кантралёр кажа: «Ідзі дадому». Кніжка, нажніцы і стос рукавіцаў на стале засталіся.

# ЛІСТЫ, НЕ ПРАПУШЧАНЫЯ ЦЭНЗУРАЙ

## ЛІСТ 1

*16.07.2012*

Добры дзень, дарагая Наталя!

Гэты ліст буду пісаць цэлы тыдзень, штодзень патроху, а пашлю яго ў нядзелю. Сёньня 16 ліпеня, панядзелак. Працуем у першую зьмену, таму пад'ём у 6, у 6:10 сьняданак, у 7:00 праверка, у 7:40 ідзём на працу. Прачнуўся я ў 5:40, каб пагаліцца зранку, галюся тут празь дзень. Пачаў грэць ваду кіпяцільнікам, і той «стрэльнуў». Перацерліся і скантактавалі дроцікі. Быў у мяне паўгода, яшчэ з Жодзіна. Затым пайшоў ва ўмывалку галіцца. Папраўляў ручнік, які быў заткнуты за пояс, і той упаў на дол. Падымаць нельга. Гэтая рэч, якая ўпала ва ўмывальніку, ці, што яшчэ горш, у туалеце, ужо табе не належыць. Яна ўжо належыць «касяку», чалавеку з касты «недатыкальных». Ручнічок быў абы-якенькі і больш нагадваў белую тонкую анучку, але мне ён падабаўся, бо быў ільняным, і я гэтую анучку-ручнічок купіў у атаварцы яшчэ на Валадарцы, і вось урэшце яму прыйшоў канец. Так, гэта ўсё панядзелак, падумаў я.

Затым мы хадзілі ў сталоўку. Выходзіць увесь атрад з лакалкі ў адну вузкую фортку, таму гэты пра-

цэс займае час. Ёсьць магчымасьць укінуць лісты ў паштовую скрыню, якая вісіць на плоце іншага атрада, у метрах 20 ад нашай лакалкі, чым я сёньня і скарыстаўся. І пятніцу, і суботу, і нядзелю лісты копяцца (забіраюць у пятніцу зранку, а потым толькі ўжо ў панядзелак), і я іх пішу і ўкідваю ўсе гэтыя дні. Учора ў нядзелю ўкінуў, можа, зь пяць лістоў і паштовак, засталася адна паштоўка, якую я напісаў Валі Л. У яе з Пашам тут хата недалёка ад Глушы, вёскі-мястэчка каля Бярэзіны, адкуль родам Алесь Адамовіч.

Затым я хадзіў на працу ў першую зьмену, ацёпваў і пакаваў рукавіцы. Прыйшоў стомлены пасьля працы, галава яшчэ адгукаецца, а затым — у нарад у сталоўку. Там мылі падлогу. Я вымыў свой рад і ў 9 толькі вярнуліся, якраз да вячэрняй праверкі. Тут высьветлілася, што нада мной, на верхнюю шконку, засялілі пасажыра, днявальнага, якога з днявальных выгналі за тое, што пагана прыбіраў. Затым я лёг спаць і, лічы, адразу адключыўся.

Зранку прачынаўся, бо ядрана было, вакно пакуль у нас адчыненае.

У аўторак — рукавіцы на працы. А пасьля працы — дзіўная навіна. «Народная воля» з фоткаю Ларын і з фоткаю, якая мяне шчыра парадавала. Гаварыла ты песімістычна, зусім ня так, як пісала мне ў апошнім лісьце: «Цябе хутка выпусьцяць…» Але Ларын малайчынка. Таццяна Заміроўская, ёсьць такая музычная аглядальніца ў «БелГазеце», некалі пасьля Еўрабачаньня ў Баку напісала-фыркнула на яе. Што гэтая шведка-мараканка ўздумала — сустракацца з апазіцыянерамі і выказвацца аб правах чалавека. Гэта ж не яе справа! Фу! Вось жа, мякка кажучы, неразумная дзяўчынка, падумаў я. Што за «робаты» гэтыя беларусы, выхаваныя ў цяперашні час, што за рамкі і клеткі існуюць у іхніх галовах! Чаму лаўрэатка

Еўрабачаньня ня можа выказацца аб правах чалавека! Можа! Як і оперная сьпявачка, як і рок-музыка, як і актор кіно, як і любы іншы чалавек.

Серада — была праца. А яшчэ з «Саўбелкі» вырваў я кавалак паперкі, дзе напісана, што паміж Мазыром і Оўручам у вайну дзейнічала партызанскае злучэньне, якім камандаваў Віктар Карасёў, які потым стане Героем Савецкага Саюза. А там жа, у Нараўлянскім раёне, у партызанах быў мой дзед Аляксандр Барысавіч Кавальчук. З партызанаў яго забралі ў Чырвоную армію, і праз паўгода ён прапаў бязь вестак, як казалі бабулі аднавяскоўцы, пад Белай Царквою, на Ўкраіне. Цікава было б пра яго пашукаць у вайсковых партызанскіх архівах, мо ў таго ж Карасёва ў брыгадзе, а раптам што б і знайшлося.

У чацьвер на швейку зьявіўся Першы канал здымаць. Я сказаў намесьніку начальніка калоніі, што здымацца не зьбіраюся, і пакуль яны настройвалі камеру, выйшаў «у прыбіральню». Я быў не адзіны. І перада мною, і пасьля мяне з цэха выскачыла чалавек зь дзесяць, і прыкладна столькі ж засталося. Здымалі яны аднаго з асуджаных за машынкаю. Мо і сюжэт які будзе неўзабаве. Між іншага пыталіся і пра мяне. Мо таксама маюць замову адзьняць для якога-небудзь свайго чарговага пасквіля.

А ўвечары стаім на праверцы, у аднаго з асуджаных, які стаіць непадалёк ад мяне, з рук падае запальніца, стукаецца аб асфальт і выбухае. Я аж падскокваю. Зэкі сьмяюцца: тэракт чысты.

І ў «Камсамолцы» артыкул пра смаленскага «рускага» пісьменьніка Івана Сакалова-Мікітава, які пісаў з 1910-х да 70-х. Ён быў знаёмы з двума іншымі знакамітымі смаленчукамі Ісакоўскім і Твардоўскім. В. Пяскоў цытуе з І. Сакалова-Мікітава (заўваж, што не Нікітава), які апісвае Смаленшчыну, глухі кут:

— Марья, покличь батьку!

Вось яно, беларускае: «Мар'я, пакліч бацьку!» Так яно, мабыць, было па-сапраўднаму. І вось гэтага бацьку папрасілі сыграць на… дудзе. Ён і гаворыць: "На дуде? Эх, братики, дуда-то моя, чай, теперь уже рассохлась, двадцать годков в руки не брал. Да и дуду теперь не сыщешь, на чердаке куры загадили… В старину, бывало, на свадьбах играл. Под дуду и плясали; суток двое жаришь без передыху, а хозяева тебя за это водочкой угощают. Тогда этих балалаек и гармоней ещё не ведали…" Представление дудочки состоялось! Старика городские мужики свозили даже в Москву. Дед-пастух большого города не знал и счастлив был увидеть, что его деревенская музыка многих заставила даже платить».

І тут па тэксце — беларусізмы: ня ведаць, браткі. Дык яшчэ і В. Пяскоў, відаць, ня ведае, што беларуская дуда — гэта ня дудачка, а валынка! Так яна па-руску называецца. Вось яна — беларуская атмасфера!

Дарэчы, гэтых трох пісьменьнікаў, з пэўнымі тлумачэньнямі, варта было б уключыць у кантэкст беларускай літаратуры. Бо хоць і пісалі яны па-руску, але часта думалі па-беларуску. І асабліва калі пісалі пра родныя мясьціны, пра беларускую Смаленшчыну. «Камсамолка» за 19.07.2012. А звалі дзеда гэтага Сямён.

## ЛІСТ 2

*(Кавалак ліста, які не прапусьціла цэнзура)*

Пад'ём угору, і лясь, лясь. Дзьверы ня толькі адразаюць прастору, здаецца, яны ляскаюць па тваіх мазгах.

Ну і вось, ужо болей за два гады я ў калоніі, і мае абставіны, скажам так, пакуль што стабільныя. Яны не паляпшаюцца, але й не пагаршаюцца. Увесь гэты час я працую ў швейным цэху, упакоўваю тое, што

нашываюць шаўцы: рукавіцы, працоўную вопратку, міліцэйскія пагоны, прасьціны і наўлічкі. Працуем мы шэсьць дзён у тыдзень. У вольны ад працы час я чытаю газеты, патрошку кнігі, але ўсё роўна атрымліваецца больш, чым на волі, пішу лісты. Тройчы на дзень у нас праверкі. Строем мы ходзім у сталовую, у клуб, у лазьню. Я імкнуся гадзіну ў дзень хадзіць і займацца фізічнымі практыкаваньнямі.

Стасункаў зь іншымі зьняволенымі ў мяне амаль няма. З аднаго боку, гэта такі нечаканы плюс, бо можна болей часу раздумваць, заставацца самому з сабой; зь іншага боку, крыху сумнавата. Асабліва гэта кантрасна пасьля бясконцага сумоўя, якое было ў мяне з сотнямі людзей на волі.

У вонкавай аднастайнасьці і аднолькавасьці жыцьця кожнага зьняволенага, у тым ліку і ў мяне, самае істотнае і самае галоўнае адбываецца ўсярэдзіне чалавека, унутры ягонай душы. А калі на гэта накласьці яшчэ рысы замкнутага характару беларусаў, які звыкся хаваць свае пачуцьці і не пускаць у сваю душу абы-каго, можна ўявіць, наколькі зьнешняя карціна не адпавядае ўнутранай. Беларус звонку і беларус усярэдзіне — гэта два розныя сьветы.

Месца, дзе знаходзіцца калонія, мне падабаецца. Бабруйск ужо, мабыць, больш за паўтысячагодзьдзя стаіць на Бярэзіне. Тут пачынаецца беларускае Усходняе Палесьсе, лясы цягнуцца на паўтары сотні кіламетраў на поўдзень, аж да ўкраінскай мяжы. Непадалёк — малая радзіма майго бацькі, дзеда, прадзеда, а значыць, і мая бацькаўшчына. На Бабруйшчыне нарадзіліся Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Алесь Адамовіч, Міхась Кукабака ды яшчэ багата хто з заслужаных перад Беларусьсю і шырэй людзей. Урэшце, тут цяплей, чым у Менску, і надвор’е, і клімат падобны да Сьветлагорскага, дзе прайшло маё дашкольнае дзяцін-

ства і школьнае юнацтва. Сьветлагорск таксама стаіць на Бярэзіне, толькі ніжэй па плыні, у 80 кіламетрах. Таму псіхалагічна я адчуваю сябе амаль як удома.

З наведваньнем родных справы былі сумныя. Па законе мне належаць два доўгатэрміновыя спатканьні, да трох дзён, і тры кароткія, да дзьвюх гадзінаў у год. Доўгатэрміновага спатканьня два гады я не заслугоўваў, і зараз вось толькі адбудзецца спатканьне на адны суткі, чаму я бязьмерна рады. Таму былі кароткія спатканьні і штотыднёвыя тэлефанаваньні дадому. Раз на тыдзень дзесяць хвілінаў тэлефоннай размовы — тваё. І — ліставаньне. Вось тут ужо ніякіх колькасных абмежаваньняў. Пішы хоць кожны дзень. І думай, пра што пішаш. Так што — думай і пішы![350] Ня самы паганы лозунг для пісьменьніка.

Што тычыць кантакту зь людзьмі, дадам, што ён у мяне зараз адбываецца пераважна ў думках і развагах. І гэта ня менш цікава і захапляльна, а ў нечым нават больш, чым у рэчаіснасьці. Бо ты заўсёды можаш спыніць размову, нікога не пакрыўдзіўшы, і наадварот, бясконца доўжыць яе, не баючыся быць нудным і навязьлівым.

Вось, пакуль што так. Да пабачэньня,

Алесь.

## ЛІСТ 3

*(Да У. Някляева)*

Добры дзень, Уладзімір Пракопавіч!

З задавальненьнем прачытаў Вашае інтэрв'ю ў часопісе «Абажур» (2013. № 2), дзе Вы разважаеце пра літаратуру і пра тое, што Вас, бясспрэчна таленавітага літаратара, вымусіла заняцца грамадскай дзейнасьцю. У гэтым інтэрв'ю багата цікавых думак і тэмаў для роздуму, але мяне найбольш закранулі Вашыя развагі



Начальнику колонии ИК-2
Беляцкого Александра Викторовича, 1962 г.р.
осужденного по ст. 243 ч.2
4 года 6 месяцев.
Начало срока: 04.08.2011
Конец срока: 04.02.2016

ОБЪЯСНЕНИЕ

15.05.2012 г. я находился на рабочем месте. Рабочий день подходил к концу. Я только что окончил упаковывать простыни и убрал рабочее место, смел со стола и подмел пол. Во время уборки рабочего места я снял куртку с нагрудной биркой, чтобы не запачкать ее. В это время в рабочее помещение вошел начальник отряда Козлов Д.В., который увидел меня без [illegible] знака и сделал мне замечание о несоответствии моей формы одежды. С замечанием я и согласился и сразу же исправил его, взял куртку, которую [illegible] и одел ее. Чтобы избежать повторения ситуации, 16.05.2012 я пришил опознавательную бирку также и на [illegible] рубашку. Теперь даже, если я буду снимать куртку, опознавательный знак все равно будет виден.

Также прошу отметить то, что 15.05.2012 в колонии проходил смотр внешнего вида [illegible], к которому я готовился и [illegible] побрился, вычистил ботинки и привел в порядок форму. Смотр я прошел успешно, без замечаний.

Учитывая то, что совершенный проступок был совершен мной не намеренно и был сразу же исправлен, прошу это учесть.

16.05.2012 А. Беляцкий

*Тлумачальная зьняволенага А. Бяляцкага ў сувязі з «правапарушэньнем», учыненым 15 траўня 2012 г.*



**ПОСТАНОВЛЕНИЕ**

**о наложении дисциплинарного взыскания**

Осужденный ______________________
(фамилия, имя, отчество)

1962 г.р.

«15» ______ 2012 г. допустил нарушение установленного порядка отбывания наказания: ______________________
(краткое описание правонарушения, статья и пункт нормативного акта)

Рассмотрев материалы и руководствуясь статьей 112 УИК РБ

**ПОСТАНОВИЛ:**

Осужденного ______________________
(фамилия, имя, отчество)

за нарушение установленного порядка отбывания наказания ______________________

«18» ______ 2012 года

Начальник ______________________
(спец. звание) (подпись) (инициалы, фамилия)

Постановление мне объявлено ______________________
(подпись осужденного)

Постановление объявил ______________________
(подпись, должность объявившего)

*Пастанова пра дысцыплінарнае спагнаньне А. Бяляцкаму 15 траўня 2012 г. за тое, што падчас працы ў швейным цэху быў без курткі з «нагрудным знакам устаноўленага ўзору».*



АКТ

«2» июня 2012 года г.Бобруйск

Мы нижеподписавшиеся:

ДПНК майор внутренней службы Казакевич Е.Г., начальник отделения майор внутренней службы Ковалев О.Н., оперуполномоченный режимного отдела ст лейтенант внутренней службы Попруга Д.В.

составили настоящий акт о том, что 02.06.2012г. при обходе расположени отряда №14 было установлено, что осужденный отряда №14 Беляцкий Александ Викторович, 1962г.р., ст.243-2, н.с. 04.08.2011г., к.с. 04.02.2016г., в 13 час. 10 мин нарушил распорядок дня, а именно спал в одежде на своём спальном месте. Своими действиями осужденный Беляцкий Александр Викторович нарушил пункт 57.1 гл.1 ПВР ИУ.

| | | |
|---|---|---|
| ДПНК майор внутренней службы | | Казакевич Е.Г. |
| начальник отделения майор внутренней службы | | Ковалев О.Н. |
| оперуполномоченный режимного отдела ст. лейтенант внутренней службы | | Попруга Д.В. |

*Акт пра ўчыненьне «правапарушэньня» зьняволеным А. Бяляцкім 2 чэрвеня 2012 г. Пасьля гэтага акту за ўчыненьне трох «парушэньняў» ён быў прызнаны «злосным парушальнікам рэжыму». Адпаведна, А. Бяляцкі, як «злосьнік», быў пазбаўлены амністыі, якая праходзіла ў краіне ў 2012 г.*

234

ВрИОД начальника ИК-2
подполковнику внутренней службы
Трутко Ю.И.

**РАПОРТ**

Настоящим докладываю, что 31.05.2012г. в медицинскую часть обратился осужденный Беляцкий Александр Викторович, 1962 г.р., отряд 14 с жалобами на головокружение, боль в поясничной области, общую слабость. Объективные данные без особенностей. Диагноз: вегето-сосудистая дистония по смешанному типу. Люмбалгия. Назначены препараты гипотензивного ряда – каптоприл; аминокислота – глицин; препарат растительного происхождения – валерьяна; обезбаливающее и противовоспалительное – диклофенак. Данные препараты не относятся к группе транквилизаторов, психотропов и не оказывают снотворного действия. Осужденный Беляцкий А.В. 01.06.2012, 02.06.2012 в медицинскую часть не обращался.

Начальник медицинской части
майор внутренней службы　　　　　　　　И.В.Казакова

«5» 11 2012г.

*Даведка зь медчасткі калоніі пра тое, што лекі, выпісаныя зьняволенаму А. Бяляцкаму, «не аказваюць снатворнага дзеяньня».*



ПОСТАНОВЛЕНИЕ

о наложении дисциплинарного взыскания

Осужденный Беляцкий Александр Викторович

(фамилия, имя, отчество)

1962 г.р.

«2» июня 2012 г. допустил нарушение установленного порядка отбывания наказания:

(краткое описание правонарушения, статья и пункт нормативного акта)

Рассмотрев материалы и руководствуясь статьей 112 УИК РБ

ПОСТАНОВИЛ:

Осужденного Беляцкий Александр Викторович

(фамилия, имя, отчество)

за нарушение установленного порядка отбывания наказания

«__» ______ 2012 года

Начальник

(спец. звание) (подпись) (инициалы, фамилия)

Постановление мне объявлено (подпись осужденного)

Постановление объявил (подпись, должность объявившего)

Ознакомлены:

Контролер по проведению свиданий — (подпись, фамилия)

Бухгалтер — (подпись, фамилия)

Бобруйский филиал Государственного предприятия «БЦ Могилевоблстата» з 0464 т.3000, 2011 г.

*Пастанова пра дысцыплінарнае спагнаньне А. Бяляцкаму 2 чэрвеня 2012 г. за сон днём — пазбаўленьне доўгатэрміновага спатканьня.*



30.10.2012 примерно в 17.20 я находился в секции на своей кровати в горизонтальном положении. Это связано с тем, что я был на больничном в связи с болями в пояснице (остеохондроз). И наиболее благоприятное положение в этом состоянии — лежачее. На мне был спортивный костюм, я читал газету. В это время в секцию зашел начальник отряда Козлов Д.Б. и сделал мне замечание за нарушение формы одежды. Считаю замечание несправедливым, т.к. я находился на больничном, лежать в форме одежды на белой простыне было бы негигиеничным, а лежачее положение наиболее способствовало моему выздоровлению.

31.10.2012 А. Беляцкий

*Тлумачальная А. Бяляцкага на чарговае «правапарушэньне». Усяго за два гады і чатыры месяцы знаходжаньня ў бабруйскай калоніі на А. Бяляцкага было накладзена больш за 10 спагнаньняў.*




*Бірка, якая мацуецца на спальнай нары зьняволенага.*



Беляцкий Александр Викторович 1962 г.р.
Отряд № 14

Опись имущества

1. Костюм спортивный – 1 пара.
2. Простыни – 2 шт.
3. Наволочка – 1 шт.
4. Полотенце – 2 шт. (1 - банное, 1 - для ног).
5. [illegible] – 3 шт.
6. Носки – ~~11 пар~~ 12 пар
7. Майки – ~~[illegible]~~ 3 шт.
8. Трусы – 4 шт.
9. Кальсоны – 2 пары
10. ~~Шорты – 1 шт.~~
11. Сигареты – ~~[illegible]~~ 250
12. [illegible] – 2 пакета
13. Папка с документами – 1 шт.
14. Средства гигиены – 1 пакет
15. Рубашка – 1 шт.

А. Беляцкий (Беляцкий А.В.)

НАЧ. ОТР. К-Н ВС Козлов А.Б.

ЗАМ. НАЧ. Р.О. К-Н ВС Харитонов В.А.

*Вопіс маёмасьці зьняволенага, які павінен знаходзіцца ў торбе з асабістымі рэчамі зьняволенага. Любое, нават дробнае, разыходжаньне вопісу з рэчамі можа быць пакарана дысцыплінарным спагнаньнем.*



*21 чэрвеня 2014 г. Сустрэча А. Бяляцкага на вакзале ў Менску.*




*22 чэрвеня 2014 г. Падчас першай прэсавай канферэнцыі пасьля зьняволеньня А. Бяляцкі выкрэсьлівае сваё імя зь сьпісу палітзьняволеных у Беларусі.*

# КАМЕНТАРЫ

## РОЗНАКАЛЯРОВЫ СШЫТАК

[1] Павел Якубовіч, галоўны рэдактар праўладнай газеты «Беларусь сегодня» («Советская Белоруссия»).

[2] Аляксей Шыдлоўскі, былы палітычны зьняволены, палітэмігрант, зараз жыве ў Чэхіі. У 2002 годзе П. Якубовіч у рэдактарскім артыкуле ў «Советской Белоруссии» сьцьвярджаў, што А. Шыдлоўскі адбыў паўтара года ў турме не за палітычнае графіці, а за нявыплату аліментаў. У адказ з дапамогаю ПЦ «Вясна» А. Шыдлоўскі падаў іск аб абароне гонару і годнасьці.

[3] Натальля Пінчук — мая жонка.

[4] «Ганяць каня» — перадаваць па перакінутых з вакна камеры ў вакно другой камеры нітках дробныя перадачы: цыдулкі, гарбату, цыгарэты і г. д.

[5] Зана́чка — прыхаваная ў камеры недазволеная адміністрацыяй СІЗА рэч. Напрыклад, рэзка (заточаны кавалак жалеза ці бляхі), ці мойка (палавінка ляза для галеньня), ці што іншае.

[6] Абшча́к — стол.

[7] Шконка — на́ра.

[8] Вата — матрац.

[9] Ке́шар — торба.

[10] Абшчакоўскі — агульны.

[11] Ускрыцца – нанесьці сабе рэзаныя раны.

[12] Карму́шка — фортка ў камерных дзьвярах, праз якую падаюць ежу.

## КАРЫЧНЕВЫ СШЫТАК

[13] Летнія Школы па правах чалавека, якія беларускія праваабаронцы ладзілі для моладзі зь Беларусі ў Вільні ў Беларускім Доме правоў чалавека. Улетку 2011 года было чатыры такія школы, на трох зь якіх я быў. Нягледзячы на тое, што Дэпартамент фінансавых расьследаваньняў разам з КДБ ужо шчыльна займаліся маёй справай, мяне выпускалі зь Беларусі ў Літву з спадзяваньнем, што я застануся за мяжой і не вярнуся ў Беларусь.

[14] На выхадзе зь метро на станцыі «Акадэмія навук», кіруючыся на офіс «Вясны», я сустрэў свайго калегу зь «Вясны», які папярэдзіў мяне, што каля офіса стаяць нейкія падазроныя асобы. Тады ж я вырашыў не ісьці на офіс, вярнуўся ў метро і паехаў дадому. У сьнежні 2010 і студзені 2011 года на офісе Праваабарончага цэнтра «Вясна» адбыліся два вобшукі, таксама па надуманых прычынах на офіс некалькі разоў прыходзілі супрацоўнікі міліцыі.

[15] Мяне затрымалі на ўваходзе ў метро на плошчы Перамогі (Круглай плошчы).

[16] Флэшку, якая вісела на шыі, я адкрыта на вачах у старшага групы, якая праводзіла вобшук, перадаў жонцы Наталі. Ён абурыўся, але не адважыўся гвалтам адбіраць яе.

[17] Адам — наш сын.

[18] Два вінчэстары ад стацыянарных кампутараў пасьля майго званку падчас затрыманьня, які я пасьпеў зрабіць, Наталя і Адам схавалі ў вентыляцыйнай шахце ў прыбіральні. Іх знайшлі падчас вобшуку. Вінчэстары былі запароленыя, і сьледства не змагло выкарыстаць супраць мяне інфармацыю, якая была на іх.

[19] Пасьля вобшукаў і канфіскацыі кампутарнай тэхнікі на офісе «Вясны» мае калегі звычайна забіралі ноўтбукі з сабой. Два старыя ноўтбукі хавалі ў канапе.

[20] Гэта былі Тацяна Рэвяка і Алена Радачынская.

[21] Адвакат Дзьмітры Лаеўскі і сьледчая Тацяна Касынкіна.

[22] У завулку Якуба Коласа, д. 3, знаходзіцца Савецкае РУУС г. Мінска.

[23] Адразу было зразумела, што пытаньне майго арышту — палітычнае.

[24] Сьледчы патэлефанаваў жонцы, паведаміў пра затрыманьне і сказаў, што можна перадаць неабходныя рэчы. Наталя прыехала з Ірынай练копчык.

[25] На вул. Сапёраў у Мінску знаходзіўся ізалятар часовага ўтрыманьня.

[26] Адзін зь вязьняў быў зь мястэчка Ракаў.

[27] Кіраўнік турыстычнай кампаніі «Сакуб» Сяргей Букас у той час знаходзіўся на Валадарцы ў чаканьні перасуду ягонай справы.

[28] Гэтак званы «расстрэльны калідор» з камерамі, дзе трымаюць асуджаных да сьмяротнай кары.

[29] Камандуючы ваенна-паветранымі сіламі і войскамі супрацьпаветранай абароны генерал-маёр Ігар Паўлавіч Азаронак. Яго абвінавачвалі і потым асудзілі за атрыманьне хабару. Віны не прызнаў.

[30] Стары будынак турмы знаходзіцца ў аварыйным стане і змацаваны стальнымі палосамі зялёнага колеру.

[31] Глеб аказаўся сынам мастака, які быў лепшым сябрам майго добрага знаёмага мастака Э. Агуновіча.

[32] Макс — 18-гадовы хлопец з Курасоўшчыны. Амаль год знаходзіўся на Валадарцы, абвінавачаны ва ўдзеле ў бойцы.

[33] Міша — былы вайсковец, пенсіянер, абвінавачаны ў перадачы хабару ў Менскім гарвыканкаме.

[34] Валодзя — «старшой» камеры. Абвінавачаны ў скімінгу, абнаяўліваньні банкаўскіх картаў. Асуджаны, але тэрмін адбываў на Валадарцы, бо па справе праходзілі яшчэ двое супрацоўнікаў міліцыі, якія бралі ўдзел у злачынстве і таксама былі асуджаныя. Баяўся помсты зь іхняга боку. Інфармаваў аператыўнікаў пра вязьняў з нашай камеры. Герой апавяданьня «Гумовы тапак» Зьмітра Дашкевіча, які сядзеў у гэтай камеры напачатку 2011 года.

[35] Беларускія пісьменьнікі Ўладзімір Сьцяпан і Людміла Рублеўская.

[36] У Беларусі ў гэты час стварылі тэрытарыяльную абарону.

[37] Рэклама пральнага парашку «Мара» па тэлевізіі была зробленая па-беларуску.

[38] Сьвятлана Панкратава — вядучая праграмы «Надвор’е». Перадача ішла па-беларуску.

[39] Сьвятлана Байкова — былы старшы сьледчы па асабліва важных справах Генеральнай пракуратуры. Сьпецыялізавалася на карупцыйных справах супраць супрацоўнікаў МУС, КДБ, мытні. За «пасьпяховую» працу атрымала ордэн «За службу Радзіме» 3-й ступені. Верагодна, па яе ўказаньні з падсьледных выбіваліся паказаньні ў СІЗА. Урэшце была арыштаваная і абвінавачаная ва ўчыненьні асабліва цяжкага злачынства. Зьвярнулася з прашэньнем аб памілаваньні да прэзідэнта. Асуджаная да «лёгкага» прысуду на два гады «хіміі».

[40] Пачута ад зьняволеных. Крымінальнае заканадаўства ў Расіі па эканамічных злачынствах больш ліберальнае за беларускае.

[41] Пасьля таго як І. Азаронак напісаў Максіму скаргу па ягонай справе, той быў выпушчаны на волю.

[42] Анатоль Грамовіч — намесьнік начальніка ўпраўленьня КДБ па Брэсцкай вобласьці. Па гэтак званай «справе Грамовіча» былі арыштаваныя мытнікі на мытні «Заходні Буг». Іх абвінавачвалі ў пропуску прамысловых тавараў празь мяжу бяз мытнага афармленьня за атрыманьне хабару. Справу вяла сьледчая С. Байкова. Суд, які адбываўся з 21 траўня 2010 года па 15 лістапада 2011 года, усіх апраўдаў. Празь некалькі тыдняў пасьля заканчэньня суда С. Байкова была арыштаваная КДБ.

[43] Дзіма — Дзьмітры Мядзьведзеў, прэзідэнт РФ.

[44] Пальма — верхнія нары.

[45] Цэдрык, Варыкаш — кіраўніцтва СІЗА.

[46] Пры выкарыстаньні прыбіральні палілі сухія апельсінавыя скарынкі: перабівалі непрыемны пах.

[47] Мы па маёй ініцыятыве зьлівалі малако з малочнага супу ў пластыкавыя пляшкі і ставілі на суткі. Атрымлівалася прымальнае кіслае малако (сыракваша).

[48] Абажур на лямпачку, якая сьвеціць увесь дзень, зрабілі з газеты і чаплялі яго на ноч.

[49] Кешар — торба, у якой ляжаць асабістыя рэчы зьняволенага.

[50] Кама́з — пластыкавая пасудзіна.

[51] Камаз часам прапальваецца кіпяцільнікам. Тады яго запайваюць, капаючы расплаўленым цэлафанам.

[52] Рэшка — краты на вакне.

[53] Гінзбург Яўгенія «Круты маршрут». Кніжку перадала Наталя яшчэ ў Дэпартаменце фінансавых расьследаваньняў, калі дазволілі перадаць першую перадачу. Пры прыезьдзе ў СІЗА яе мне пакінулі.

[54] Пра Кісялёвых піша ў сваёй кніжцы «108 дзён і начэй у засьценках КДБ» Анатоль Лябедзька. Пасьля СІЗА КДБ іх перавялі ў СІЗА МУС. З адным зь іх, бізнесменам, сядзеў і я. Ён распавядаў пра парадкі ў «амерыканцы», калі там зьявіліся палітычныя зьняволеныя. Утрыманьне пагоршылася, іх без прычыны ганялі, абшуквалі, зьдзекаваліся. СІЗА пару месяцаў кантралявалі «чорныя маскі». Усё было так, як ва ўспамінах тагачасных сядзельцаў «амерыканкі» А. Лябедзькі, А. Фядуты, І. Аліневіча, І. Халіп, Н. Радзінай, А. Саньнікава.

Ігар Пажарыцкі — сядзеў па эканамічным артыкуле. Зьявіўся ў камеры, праз некалькі дзён між іншым пры ўсіх спытаўся ў мяне, чаму я не пішу «памілаванку», адпусьцяць жа. У адказ я зарагатаў: «Дурня знайшоў». Праз некалькі дзён яго забралі з камеры. Мяркую, што запытаўся ён не з сваёй ініцыятывы.

Андрэй Шэмбярэцкі — маёр, арыштаваны за эканамічныя злачынствы, праз пяць месяцаў у СІЗА справу спынілі і яго вызвалілі.

Макс Анкуда, Глеб Капшай — асобы, зь якімі я пэўны час знаходзіўся ў адной камеры.

[55] Саша Кулаева — праваабаронка, працавала ў FIDH па Ўсходняй Еўропе і Сярэдняй Азіі.

[56] А. Шэмбярэцкі.

[57] Мае яшчэ ўніверсітэцкія сябры Сяржук Сыс і Эдуард Акулін.

[58] Вадзім Зайцаў — старшыня КДБ РБ, Андрэй Швед —

намесьнік генеральнага пракурора РБ, Андрэй Вегера — намесьнік старшыні КДБ РБ.

[59] ДФР — дэпартамент фінансавых расьследаваньняў Камітэта дзяржаўнага кантролю РБ.

[60] 2 лістапада 2011 года — першы дзень суда.

[61] Судзьдзя Першамайскага суда г. Менска Сяргей Бандарэнка.

[62] Пракурор Менскай гарадской пракуратуры Валеры Сайкоўскі.

[63] Андрэй Палуда — праваабаронца.

[64] Барыс Звозскаў — праваабаронца (1949–2012).

[65] Алена Лапцёнак — праваабаронка.

[66] Віктар Сазонаў — праваабаронца, пісьменьнік.

[67] Анжаліка Анатольеўна — падаткавы інспектар, якая займалася маімі дэкларацыямі аб даходах.

[68] Стакан — маленькая камера ў будынку суда, дзе зьняволенага трымаюць, калі прывозяць зь СІЗА, перад судовым працэсам, падчас абеду, а таксама пасьля судовага працэсу, перад тым як адвезьці назад у СІЗА.

[69] Алег Гулак — праваабаронца.

[70] Патрыманы «сітраэн» я купіў у Літве ў 2010 годзе.

[71] Шведская арганізацыя «Абаронцы правоў чалавека», Міжнародная федэрацыя правоў чалавека, фонд «Адкрытае грамадства» — з гэтых арганізацыяў паступалі сродкі па грантах на праекты, якія выконваў Праваабарончы цэнтр «Вясна». Назвы гэтых арганізацыяў фігуравалі ў дакументах, якія выкарыстоўваліся для таго, каб абвінаваціць мяне ў атрыманьні ўласнага прыбытку і ўтойваньні падаткаў.

[72] Лапіцкі Аляксей — праваабаронца.

[73] Палуда Андрэй і Рэвяка Тацяна.

[74] Кулей Іна — грамадская дзяячка.

[75] Лабковіч Уладзімір, Стэфановіч Валянцін — праваабаронцы.

[76] Арлоў Уладзімір — пісьменьнік.

[77] Кіракасян Артак — праваабронца з Арменіі, генеральны сакратар FIDH.

[78] Вольга Юркевіч — мая сястра.

[79] 23 сакавіка 2010 года В. Стэфановіч, І. Тоўсьцік, С. Сыс і я выйшлі на пікет у знак пратэсту супраць расстрэлу асуджаных да сьмяротнай кары А. Жука і В. Язэпчука.

## ЧОРНЫ СШЫТАК

[80] Конь — прыстасаваньне для перадачы прадметаў з адной камеры ў другую.

[81] Гнаць паражняк — балбатаць попусту, ілгаць.

[82] Адное са значэньняў слова «конь» на турэмным жаргоне — турэмны супрацоўнік.

## АСОБНЫЯ АРКУШЫ

[83] На час разгляду апеляцыйнай скаргі пасьля суда мяне перавялі зь СІЗА № 1 у Менску ў СІЗА ў Жодзіна, якое знаходзіцца ў жодзінскай турме № 8. Там я знаходзіўся з пачатку сьнежня 2011 года па сярэдзіну лютага 2012 года.

[84] Крапіць (крепить) – трываць.

[85] Наталя — мая жонка.

[86] Віцьба — пасёлак у Віцебскім раёне, дзе знаходзіцца папраўчая калонія № 3.

[87] У камеры дазвалялася мець пры сабе толькі два фотаздымкі. Я пакінуў фота нашай кошкі Касі і ракаўскага сабакі Ваўка.

[88] Хвядос Шынклер (1903–1942), пісьменьнік. У 1984 годзе выйшла кніга выбранага «Апошні рэйс».

Адольф Барановіч (1940–2001), пісьменьнік, аўтар кнігі «Агні хат» (1986).

Ніна Мацяш (1943–2008), пісьменьніца, пераклала Ж. Сімянона «Першая справа Мегрэ» (1982).

[89] Зэчкі — тут: алюмініевыя кубкі.

[90] Гэтыя запісы былі пранумараваныя.

[91] Мікалай Астрэйка — былы палітычны зьняволены, адзін з кіраўнікоў грамадзянскай ініцыятывы «Партнёрства», ліквідаванай беларускімі ўладамі ў 2006 годзе.

[92] Сяргей і Тамара Мацкевічы, мае сябры.

[93] Ляпіла — доктар.

[94] СБП — Саюз беларускіх пісьменьнікаў.

[95] 16 сьнежня 2011 года прыязджала на сустрэчу Наталь-

ля Мацкевіч — адвакат, якая замяніла адваката Дзьмітрыя Лаеўскага. Яго за абарону мяне ў судовым працэсе змусілі «добраахвотна» сысьці з адвакатуры.

[96] 2 сьнежня 2011 года падчас паездкі ў Івацэвіцкі раён прэзідэнт А. Лукашэнка на пытаньне журналістаў пра маю крымінальную справу адказаў: «Дзякуй Богу, што не ў Амерыцы! За такія грошы мог бы атрымаць не 4 з паловай, а 17 гадоў і доўга адтуль бы ня вылез».

Ён таксама адзначыў, што па гэтай справе не было прашэньня аб памілаваньні: «Будзе зварот — я яго буду разглядаць». Гэта быў недвухсэнсоўны намёк на тое, што ўсе палітычныя вязьні могуць быць амніставаныя толькі праз асабісты зварот да прэзідэнта аб памілаваньні.

Скончыў ён гэтую тэму наступнай заявай: «Я лічу, што суд паступіў у рамках сваёй кампетэнцыі, па закону».

[97] Альманах «Запісы Беларускага інстытута навукі й мастацтва», выходзіць у ЗША.

[98] «П’яны руль» — так называюць зьняволеных, якія былі асуджаныя за кіраваньне машынай у нецьвярозым стане.

[99] Маецца на ўвазе Сяржук Сыс, паэт, журналіст, праваабаронца, мой універсітэцкі аднагрупнік.

[100] 7 сакавіка 2012 года.

## ЖОЎТЫ СШЫТАК

[101] На му́рзе – з парнаграфічным часопісам.

[102] Мурзілка — порначасопіс.

[103] «Трудовой путь» — газета Дэпартамента выкананьня пакараньняў.

[104] Пасьля таго як я пачаставаў двух зьняволеных, іх неадкладна перавялі ў іншы атрад.

[105] СООТ — секцыя па ахове працы. Адная з фармальных «самадзейных арганізацыяў» асуджаных.

[106] Фільм рэжысёра Віктара Корзуна «Верыць толькі ветру».

[107] Па скарзе Насты Лойкі на неатрыманьне мной карэспандэнцыі мяне ў калоніі 5 чэрвеня 2012 года наведваў прадстаўнік Магілёўскай абласной грамадскайназіральнай

камісіі пры галоўным упраўленні юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама Віктар Сідарэнка.

[108] Намесьнік начальніка калоніі павіншаваў мяне з атрыманьнем прэміі Дзяржд эпартамента ЗША за дзейнасьць у галіне абароны правоў чалавека. Я падзяліўся гэтым зь іншымі зьняволенымі. Відаць, адразу ж гэтая інфармацыя патрапіла ў аператыўны аддзел калоніі. Назаўтра я быў выкліканы гэтым службоўцам, і ён падкрэсьлена прамовіў, што ніякіх віншаваньняў не было.

[109] Зьняволены пасьля размовы са мной быў пераведзены, верагодна, у іншы атрад.

[110] Закупіцца ў турэмнай лаўцы можна было па раскладзе тройчы на месяц.

[111] Не катаць вату — не губляцца, рабіць усё рашуча, сьмела.

## ЗЯЛЁНЫ СШЫТАК 1

[112] Мікалаеўшчына — родная вёска Якуба Коласа.

[113] Матаблок — мянушка Ўладзі.

[114] Матрацы набіваюць вацінам у халодным цэху-ангары.

[115] Барыс — старшы брыгадзір атрада.

[116] Валера — малады хлопец, жыў у адной секцыі са мной. Аднекуль дастаў ксеракопію дакладу «Вясны» і ФІДШ «Условия содержания под стражей в Республике Беларусь. 2008» і паказаў яго мне. Відаць, пра гэта даклалі адміністрацыі. За гэта, верагодна, і быў пераведзены ў іншы атрад.

[117] Эсэ «Пра беларускую турэмную літаратуру» (у кнізе «Асьвечаныя Беларушчынай». Вільня, 2012).

[118] ДІН — Дэпартамент выкананьня пакараньняў.

[119] ПВР — засталося ад старой назвы «комната политико-воспитательной работы». Там глядзяць тэлевізар, адбываюцца сходы атрада, туды прыходзіць цырульнік для стрыжкі зьняволеных і г. д.

[120] Начальнік 14-га атрада калоніі Дзьмітры Барысавіч Казлоў.

[121] Намесьнік начальніка калоніі Юры Трутко.

[122] Начальнік калоніі Аляксандр Какуеў.

[123] «Хазяйка» — начальнік калоніі.

[124] Зь іншага атрада патаемна передалі выразаны артыкул пра мяне, здаецца з «Нашай Нівы».

[125] Ірына Пракопчык.

[126] На 14 лютага 2013 года была прызначана пастаноўка Радыётэатра 1-га канала Нацыянальнага радыё Швецыі, прысьвечаная А. Бяляцкаму, у рамках праекта «Сусьветная гісторыя ад Радыётэатра». Аўтар 5-хвіліннага спектакля — Дзьмітры Плакс.

[127] Па маёй асабістай заяве была дазволена сустрэча з ксяндзом, пробашчам бабруйскага касьцёла Юрыем Быкавым. Пасьля гэтай сустрэчы неўзабаве было вынесена чарговае папярэджаньне.

[128] КБО — камбінат бытавога абслугоўваньня.

[129] Адзін з намесьнікаў начальніка ДІНа.

[130] Нунцый арцыбіскуб Клаўдыё Гуджэроці наведаў 25 верасьня палітычных зьняволеных Сяргея Каваленку, Паўла Сырамалотава, Мікалая Статкевіча, Алеся Бяляцкага, Зьмітра Дашкевіча, Эдуарда Лобава і Паўла Севярынца.

[131] Аляксандр М. — шчыльна працаваў з адміністрацыяй, спрабаваў правакаваць зьняволеных супраць мяне.

[132] Зьняволеным пад пагрозаю пакараньня было забаронена кантактаваць са мной.

## ЗЯЛЁНЫ СШЫТАК 2

[133] Эсэ пра паэзію Сержука Сыса «Сьветлы смутак па вечнай Радзіме» (у кнізе «Асьвечаныя Беларушчынай»).

[134] Кешарка — пакой, дзе захоўваюць торбы (кешары) зьняволеных. Там стаяла таксама і лядоўня, дзе захоўваліся харчы.

[135] Мае харчы адказны за кешарку па негалосным указаньні кагосьці з адміністрацыі калоніі загадаў забраць з агульнай лядоўні.

[136] Я адмовіўся забіраць харчы зь лядоўні і папярэдзіў, каб, ня дай Бог, гэтага ніхто не зрабіў. «Актывісты» адступіліся.

[137] Мы адгарадзіліся прасьцінай-шторкаю з суседам адзін ад аднаго. Некалькі чалавек у секцыі зрабілі тое самае. Быў агляд уначы, і на ўсіх склалі акт за парушэньне рэжыму.

[138] Хрэсьбіны — пакараньне за «парушэньне» рэжыму. «Хрысьціць» звычайна начальнік калоніі ці ягоны намесьнік.

[139] Быў пакараны чарговы раз, бо з сталовай нельга выносіць харчы, хаця зьняволеныя звычайна спакойна выносяць хлеб на вячэру. Пакараньні выносіліся сьпецыяльна, каб запісаць мяне ў разрад «злосных парушальнікаў рэжыму».

[140] У гэты час праходзілі летнія алімпійскія гульні, дзе тэнісісты В. Азаранка і М. Мірны ў пары выйгралі залаты медаль.

[141] Гарбаты — мянушка зьняволенага Аляксандра М., правакатара. Кісель — афіцэр аператыўнага аддзела.

[142] Эрыксан Стэфан — амбасадар Швецыі ў Беларусі. Размаўляў па-беларуску. Быў ультыматыўна выдалены зь Беларусі.

[143] Шведская сьпявачка Ларын, лаўрэатка Еўрабачаньня, сустрэлася з маёй жонкай і В. Стэфановічам у амбасадзе Швецыі і сфатаграфавалася ў майцы з маёй выявай. Гэты здымак зьявіўся ў незалежных масмедыя.

[144] Марцін і Сафія Угла — праваабаронцы з Швецыі.

[145] Статкевіч Мікола — палітычны зьняволены.

[146] 101-ы артыкул Крымінальна-выканаўчага кодэкса РБ абавязвае асуджаных адпрацоўваць пэўны час без аплаты працы.

[147] Прадмова Карла Гершмана, прэзідэнта Нацыянальнага фонду падтрымкі дэмакратыі, была напісаная да кнігі Валерыя Каліноўскага «Справа Бяляцкага» (2012).

[148] Рудзік — доктар, псіхіятр-нарколаг.

[149] Прадмова К. Гершмана да кнігі В. Каліноўскага «Справа Бяляцкага».

[150] У Мінск прыязджаў прэзідэнт ПА АБСЕ Рыкарда Мільёры. Гэта быў візіт напярэдадні парламенцкіх выбараў у Беларусі.

[151] Адвакатка Натальля Мацкевіч.

[152] З рамана Паўла Каэльё «Алхімік».

[153] Дубавец Сяргей. «Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду» (2012).

[154] Ксёндз-пробашч бабруйскага касьцёла Юры Быкаў.

[155] Зьняволены зь нізкім статусам. Часта маюць жаночыя мянушкі.

[156] Намесьнік начальніка калоніі па выхаваўчым працэсе і ідэалагічнай працы Дзьмітры Дылевіч.

[157] Зьняволены зь нізкім статусам.

[158] Генадзь — былы ўладальнік і дырэктар цагельні.

[159] Я быў намінаваны на Нобелеўскую прэмію міру.

[160] Вольф Рубінчык — беларускі і яўрэйскі пісьменьнік і публіцыст.

[161] Андрэй — брыгадзір брыгады швейшчыкаў.

[162] Андрэй Бандарэнка — грамадскі актывіст, у 2010 годзе сядзеў у бабруйскай калоніі.

[163] Уладзімір Бяляцкі — брат.

[164] Марына Адамовіч, жонка Мікалая Статкевіча.

**[165]** Карчэўскі — афіцэр рэжымнага аддзела калоніі.

[166] Сяргей Кішко — начальнік рэжымнага аддзела калоніі.

**[167]** Мае публічныя адказы затым былі сабраныя ў разьдзел «Лісты падтрымкі» ў кнізе «Лісты салідарнасьці» (2018).

[168] Пракопчык Ірына.

[169] Кірылавіч — майстар у швейным цэху.

[170] Юра — днявальны. Самі зьняволеныя без днявальнага ня могуць хадзіць па тэрыторыі калоніі.

[171] Кніга вершаў Эдуарда Акуліна «Малітва воч».

[172] Самалёт, ён жа Валера. За кантакты са мной быў пераведзены з нашага атрада ў іншы.

[173] Насамрэч я спецыяльна распускаў гэтыя чуткі з разьлікам на «актывістаў» і адміністрацыю, каб моцна не шчыравалі і не дапякалі. Каму ахвота зьвязвацца з палітычным зьняволеным, які адной нагой ужо на волі?

[174] Дазволіў карыстацца агульным для секцыі, дзе я жыў, тазікам.

[175] Патрык (паганяла), Аляксандр Патрыкавіч — зьняволены, родам з Рэчыцы, мулат.

[176] Кніга Валерыя Каліноўскага «Справа Бяляцкага».

[177] Тазік мне патаемна перадалі зь іншага атрада ад зьняволенага, які сыходзіў дадому. Пасьля адбылося расьсьледаваньне без майго ўдзелу. Хоць у калоніі амаль дзьве тысячы чалавек, тым ня менш аператыўны аддзел даведаўся, чый тазік. Мабыць, усю сетку інфарматараў дзеля гэтага паставілі на вушы. Але пакараць гэтага зьняволенага яны ўжо не змаглі. Мабыць, залічылі «аперацыю “тазік”» як свой пройгрыш, але мяне не чапалі.

[178] Таццяна Рэвяка напісала, што выйшла мая кніга «Асьвечаныя Беларушчынай».

[179] Лішонка — спагнаньне за парушэньне ў выглядзе пазбаўленьня чарговай харчовай перадачы.

[180] Андрэй Саньнікаў.

[181] Палажняк — той належны мінімум, які зьняволены атрымлівае ў калоніі.

[182] Зьняволены, адкрыта прыстаўлены да мяне адміністрацыяй з мэтаю дакладаць пра кожны крок.

[183] Рэцэнзія «Роднае гняздо» на кнігу Паліны Сьцепаненка «Матылі» (2012). Надрукаваная ў часопісе «Дзеяслоў» (2013. № 63).

[184] Начальнік аддзяленьня калоніі Крупачэнка А. Л.

[185] Кніга вершаў Эдуарда Акуліна «Сьвятая ноч» (2013).

[186] Дзьмітры Дылевіч — намесьнік начальніка калоніі па выхаваўчым працэсе і ідэалагічнай працы.

[187] Ігар Марзалюк — гісторык, на той час член Савета Рэспублікі.

[188] Барыс Беразоўскі (1946–2013) — расійскі бізнесмен і палітычны дзеяч.

[189] У гэтым выпадку — сам па сабе.

[190] Рэцэнзія «Бой з сабой» на зборнік вершаў Э. Акуліна «Малітва воч» («Народная воля», 22.05.2013).

[191] Эпізод аднаго з эсэ П. Севярынца, напісанае ім на «хіміі» (у кнізе «Беларуская глыбіня», 2014).

[192] А. Лукашэнка.

[193] Размова ідзе пра эсэ-дасьледаваньне пра творчасьць

Э. Акуліна «Сьцяга паэта». У 2014 годзе было надрукавана ў газеце «Наша слова» (№ 1-8). Выйшла ў кнізе А. Бяляцкага «Бой з сабой» (Менск, 2016).

194 Рыгор Язэпчук быў асуджаны да расстрэлу Магілёўскім абласным судом 23 красавіка 2013 года.

195 Гэты ліст не быў прапушчаны цэнзурай. Захаваўся ў чарнавіку. Зьмяшчаецца ў гэтым дзёньніку.

196 Ліст-эсэ да Ірыны Пракопчык «Развагі пра ахвярнасьць: Андрэй Цікота» (у кнізе «Халоднае крыло Радзімы». Вільня, 2014).

197 Эсэ «Развагі пра ахвярнасьць: Леанід Фёдараў» (у кнізе «Халоднае крыло Радзімы»).

198 У кастрычніку 2012 года былы галоўны рэдактар часопіса «ARCHE» Валер Булгакаў у выніку абвінавачваньня ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасьці за продаж кніг і часопіса быў вымушаны зьехаць зь Беларусі. Вярнуўся ў траўні 2013 года.

199 Юры Дамброўскі — расійскі пісьменнік, вязень ГУЛАГа. На маю просьбу Алена Лапцёнак даслала мне кнігу з двума ягонымі раманамі: «Факультэт непатрэбных рэчаў» і «Захавальнік старажытнасьцяў».

200 Мянушка аднаго з афіцэраў.

201 Эсэ «Пра князя Аляксандра Неўскага» (у кнізе «Халоднае крыло Радзімы»).

202 Зьняволены Чаромха адмовіўся выходзіць на працу.

203 Адам Глобус перадаў праз Тацяну Рэвяку ў калонію дзьве свае кніжкі з аўтографамі: зборнік выбраных вершаў «Новае неба» (2010) і «Сказы» (2012).

204 Я. Губіч — начальнік аператыўнага аддзела калоніі.

205 У асуджанага, які працуе, паводле крымінальна-выканаўчага заканадаўства, ёсьць права на працоўны адпачынак у 12 каляндарных дзён у межах калоніі. Для яго атрыманьня трэба адпрацаваць 11 месяцаў за каляндарны год. У 2012 годзе я адпрацаваў 9 месяцаў, і яны не былі залічаныя для атрыманьня адпачынку. У сувязі з гэтым адвакатам быў падрыхтаваны ад майго імя ліст, які мы меркавалі накіраваць па некалькіх адрасах дзяржаўных ведамстваў.

## ЗЯЛЁНЫ СШЫТАК 3

[206] Мілана Міхалевіч — жонка былога палітычнага зьняволенага Алеся Міхалевіча, які на той час быў у эміграцыі ў Чэхіі.

[207] Леанід Гаравы — грамадскі актывіст з г. Гарадок Віцебскай вобласьці, пастаянна пісаў мне лісты.

[208] Рамэн Гары (1914–1980) — вядомы францускі пісьменьнік яўрэйскага паходжаньня, двойчы лаўрэат Ганкураўскай прэміі, нарадзіўся ў Вільні, бацькі паходзяць са Сьвянцянаў і Трок. Мая калега па праваабароне Саша Кулаева перадала кнігу з двума раманамі Р. Гары празь Сержука Сыса ў калонію.

[209] «Прыніжаныя і зьняважаныя» — раман Ф. Дастаеўскага.

[210] «Гэта наш набытак» — эсэ, надрукаванае ў кнізе «Халоднае крыло Радзімы».

[211] Ігар Бабкоў — беларускі пісьменьнік, філосаф. Мы знаёмыя з 1987 года, разам удзельнічалі ў Таварыстве маладых літаратараў «Тутэйшыя».

[212] Адам Глобус — беларускі пісьменьнік.

[213] Міхаіл Савіцкі (1922–2010) — беларускі мастак.

[214] Уладзімір Кожух, Фелікс Янушкевіч, Віктар Альшэўскі — беларускія мастакі.

[215] Зборнік выбраных вершаў А. Глобуса «Новае неба». 2010 г.

[216] «Карані неба», раман Рамэна Гары, як яго называюць, першы францускі «экалагічны» раман, асноўны сюжэт якога пабудаваны на абароне ад вынішчэньня афрыканскіх сланоў. Сланы сімвалізуюць увогуле ўсё жывое на зямлі, што чалавек зьнішчае ў сваёй празе да багацьця і ўлады. У 1956 годзе аўтар атрымаў за яго Ганкураўскую прэмію.

[217] «БелГазета».

[218] Уладзімір Макей — міністр замежных спраў Беларусі.

[219] Нарыс «Сьцяга паэта».

[220] Вольга Юркевіч — мая родная сястра.

[221] Аксана Юркевіч — мая пляменьніца.

[222] Алена Лапцёнак — мая калега, калі я знаходзіўся ў турме, рыхтавала да друку мае тэксты, якія я дасылаў ёй лістамі. Падрыхтавала да друку кнігу «Іртутнае срэбра жыцьця».

[223] Зьміцер Вішнёў — беларускі пісьменьнік, кнігавыдавец.

[224] Віктар Жыбуль, Сяржук Сыс, Сяргей Кавалёў — беларускія пісьменьнікі.

[225] Маю на ўвазе прэзідэнцкія выбары ў Беларусі, якія прыпадалі на 2015 год.

[226] Аляксей Навальны — расійскі палітык, блогер, выкрывальнік карупцыі ва ўладных колах.

[227] Барыс Пятровіч (Сачанка) — беларускі пісьменьнік, грамадскі дзеяч.

[228] Сяргей Скрабец — былы палітычны зьняволены.

[229] Intex-press — незалежная рэгіянальная газета, якая выходзіць у г. Баранавічы.

[230] Наста Лойка — праваабаронца.

[231] Паліна Сьцепаненка — мая сяброўка, беларуская пісьменьніца, грамадская дзяячка, праваабаронца, зь якой я вёў з калоніі актыўную перапіску.

[232] Маюцца на ўвазе ўспаміны Хвядоса Шынклера пра Барыса Мікуліча ў кнізе «Апошні рэйс».

[233] ПКТ — памяшканьне крытага тыпу.

[234] Рэцэнзія «Гомельцы руляць!» на кнігу Сяргея Балаханава «Зямля пад крыламі Фенікса» (2012) разьмешчаная на сайтах ПЦ «Вясна» і Саюза беларускіх пісьменьнікаў.

[235] Анатоль Рыбакоў (1911–1998) і Юры Дамброўскі (1909–1978) — расійскія пісьменьнікі, раманы якіх («Важкі пясок» А. Рыбакова і «Захавальнік старажытнасьцяў» і «Факультэт непатрэбных рэчаў» Ю. Дамброўскага) я прачытаў у калоніі. У выніку я напісаў эсэ «Беларускія сьляды на “Важкім пяску” Анатоля Рыбакова», зьмешчанае ў кнізе «Халоднае крыло Радзімы».

[236] Уладзімір Някляеў — выдатнейшы беларускі пісьменьнік, кандыдат у прэзідэнты падчас выбарчай кампаніі 2010 года, палітычны зьняволены. 20.05.2011 быў асуджаны

па арт. 342 ч. 1 КК РБ (арганізацыя дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак, ці ўдзел у іх) на два гады пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай на два гады.

[237] Юры Трыфанаў (1925–1981) — вядомы расійскі пісьменьнік, бацькі якога былі рэпрэсаваныя ў 30-я гады. Пісаў пра сталінскія рэпрэсіі.

[238] Сяргей Гарадноў — на той час — начальнік аддзела папраўчага працэсу калоніі.

[239] Дакументальны фільм Адама Бяляцкага «На мяжы» (2015).

[240] Харукі Муракамі — вядомы японскі пісьменьнік.

[241] Аповесьць А. Чэхава «Палата № 6».

[242] 7 жніўня падыходзіў тэрмін атрыманьня перадачы.

[243] Апавяданьне Льва Талстога.

[244] Праваабаронцы Таццяна Рэвяка і Уладзімір Лабковіч.

[245] Я. Губіч — начальнік аператыўнага аддзела.

[246] Блог пад маім імем на сайце «Беларускі партызан», наконт якога з Паўлам Шараметам дамовілася Таццяна Рэвяка. Алена Лапцёнак разьмяшчала там некаторыя публічныя лісты і эсэ, часткі з кнігі «Іртутнае срэбра жыцьця», якія я дасылаў ёй.

[247] З жонкай, сястрой і братам.

[248] Кліфт — пінжак.

[249] Ірына Пракопчык.

[250] «Аватар» (2009) — фільм рэжысёра Джэймса Камерона.

[251] Адам і Уладзімір Бяляцкія — мае сын і брат.

[252] Уладзіслаў Баўмгертнер, генеральны дырэктар «Уралкалію». Арыштаваны 26 жніўня 2013 года ў Беларусі, куды прыехаў па запрашэньні прэм’ер-міністра М. Мясьніковіча. Абвінавачаны ў нанясеньні стратаў «Беларускалію». Праз месяц быў выпушчаны зь СІЗА КДБ пад хатні арышт, 21 лістапада быў перададзены праваахоўным органам Расіі. 20 лютага 2015 года крымінальная справа супраць У. Баўмгертнера ў Расіі была спыненая з адсутнасьці ў яго дзеяньнях складу злачынства.

[253] Тадэвуш Кандрусевіч — арцыбіскуп, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі.

[254] За́рык — ігральны кубік у нардах.

[255] Зьміцер і Наста Дашкевічы, былыя палітычныя зьняволеныя.

[256] Марына Адамовіч, жонка палітычнага зьняволенага Міколы Статкевіча.

[257] Віктар Сазонаў — беларускі пісьменьнік, грамадскі дзеяч, праваабаронца. У 2013 годзе выйшла ягоная кніжка «Паэзія прозы» з прысьвячэньнем Алесю Бяляцкаму.

[258] Дзьмітры Барысавіч Казлоў, начальнік атрада. Рэгулярна праводзіў абавязковыя па працы «выхаваўчыя» сустрэчы, якія мелі характар размоваў пра ўсё.

[259] Эсэ «“Баскі” — forever!» (у кнізе «Бой з сабой»).

[260] Цэнзар спаслаўся на тое, што газета «Витебский курьер» (рэдактар Алег Баршчэўскі) зарэгістраваная ў Расіі, а замежныя выданьні перадаваць зьняволеным забаронена.

[261] Чэслаў Мілаш «Родная Еўропа» (2011). Кнігу пераслала Алена Лапцёнак.

[262] У выніку быў напісаны цыкл эсэ «Лісты надзеі» па паштоўках галандскага Amnesty International, надрукаваны ў кнізе «Лісты салідарнасьці» (2018). Было распачатае і нясконачанае эсэ пра беларускага пісьменьніка, вязьня сталінскіх лагераў родам з Бабруйска Барыса Мікуліча (1912–1954).

[263] Эсэ «Навеянае “Жыцьцём Ліліяны Лунгіной”», надрукаванае ў кнізе «Халоднае крыло Радзімы».

[264] Рамсі́ць — сварыцца.

[265] Віктар Івашкевіч (21.09.1959 — 03.10.2013) — мой даўні сябра з другой паловы 80-х гадоў, выдатны беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, журналіст, палітычны зьняволены, адзін зь лідараў беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху з 80-х гадоў.

[266] Хэза Макгіл — супрацоўніца лонданскага офіса Amnesty International.

[267] Трутко Юры Ігаравіч, намесьнік начальніка па РОР (рэжымна-аператыўнай працы) калоніі.

[268] Лінас Лінкявічус — міністр замежных справаў Літвы.

[269] Раман Васіля Аксёнава «Апёк» (1975).

[270] Раман Уладзіміра Някляева «Аўтамат з газіроўкай зь сіропам і без» (2012).

[271] Ірына Пракопчык рэгулярна дасылала ў лістах раздрукоўкі з інтэрнэту, якія тычыліся міжнародных і беларускіх навінаў.

[272] В. Стэфановіч, С. Кулаева, Ю. Джыбладзэ, В. Захарава, Ж. Літвіна 11–13 верасьня 2013 года ў Галандыі сустракаліся з чыноўнікамі МЗС і дэпутатамі парламента Галандыі па пытаньнях парушэньня правоў чалавека ў Беларусі. 12 верасьня адбыліся слуханьні ў галандскім парламенце: «Беларусь: бізнес і правы чалавека».

[273] Заява на тэлефонныя званкі на наступны месяц пішацца загадзя ў папярэднім месяцы.

[274] Эсэ «Дзяды былі з намі», надрукаванае ў часопісе «Дзеяслоў» (2013. № 66), атрымала прэмію «Дзеяслова» «Залаты апостраф» за 2013 года, затым надрукаванае ў кнізе «Халоднае крыло Радзімы».

[275] Раман Аляксандра Салжаніцына «У коле першым», напісаны па ўспамінах пра турэмнае зьняволеньне ў 1947–1950 гадах.

[276] Знакамітае эсэ В. Гаўла «Сіла бясьсільных», ёсьць у кнізе «Жыцьцё ў праўдзе» (2014).

[277] Флюшка — флюараграфія.

[278] Начальнік бабруйскай калоніі Аляксандр Какунін і намесьнік начальніка па рэжымна-аператыўнай працы калоніі Юры Трутко ў кастрычніку 2013 года былі ўключаныя ў сьпіс беларускіх грамадзянаў, у адносінах да якіх дзейнічалі санкцыі Еўрапейскага саюза. Верагодна, гэта адбылося ў выніку неабгрунтаванага адміністрацыйнага ціску, які аказваўся на мяне ў калоніі.

[279] Кандыдацкая праца маёй жонкі Натальлі Пінчук «Ювелірныя ўпрыгажэньні касьцюма IX–XIII стагодзьдзяў (фактары фарміраваньня і стылістычныя асаблівасьці мастацкай традыцыі на тэрыторыі Беларусі)» аднагалосна абароненая ў Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры АН Беларусі. Гэтае рашэньне ў канцы 2013 года было адмененае прызідыумам Вышэйшай атэстацыйнай камісіі. ВАК спаслаўся на адмоўнае заключэнне свайго экспертнага савета па мастацтва-

знаўстве і культуралогіі. Пэўна, што гэтая адмена абароны кандыдацкай дысертацыі мела палітычны характар.

[280] 30 верасьня 2013 года Парламенцкая асамблея Рады Еўропы сумесна зь Бібліятэкай Вацлава Гаўла і фондам Charta 77 у Страсбургу абвясьціла мяне першым лаўрэатам прэміі імя Вацлава Гаўла за правы чалавека.

[281] 26–27 кастрычніка 2013 года ў Вільні прайшоў 3-і беларускі праваабарончы форум.

[282] Першая чаропіна ў прыбіральні — для зьняволеных нізкага статусу і таксама для ўсіх іншых зьняволеных. Апошняя, пятая чаропіна занавешаная зьняволенымі прасьцінай для «легальнага» занятку ананізмам.

[283] Феска — летняя кепка з казырком, як частка адзеньня зьняволенага.

[284] Перыядычна амаль усіх жыхароў секцыі, у якой я жыў, пераводзілі ці ў іншыя секцыі атрада, ці ўвогуле ў іншыя атрады калоніі.

[285] Серыял «Маладзёжка» (2013, Расія).

[286] «Пажарнікі» — вядомая арганізаваная злачынная групоўка. Дзейнічалі ў асноўным на тэрыторыі Гомеля і Гомельскай вобласьці.

[287] Прэмія Свабоды, заснаваная 15.09.2011 літоўскім Сеймам. Адзначае дасягненьні асобаў і арганізацыяў у абароне правоў чалавека, разьвіцьці дэмакратыі, барацьбе за свабоднае самавызначэньне і суверэнітэт народаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.

[288] Сяргей Кавалёў — вядомы дысідэнт савецкіх часоў, быў асуджаны ў 1975 годзе ў Вільні на 7 гадоў турмы за «антысавецкую агітацыю і прапаганду».

[289] Антанас Тэрляцкас — былы палітзьняволены савецкіх часоў, дысідэнт.

[290] Кісель — оперупаўнаважаны аператыўнага аддзела.

[291] «Аповесьць для сябе» — аўтабіяграфічная аповесьць Барыса Мікуліча.

[292] «Чорная вірня» — аповесьць Б. Мікуліча (1931).

[293] Саміт Усходняга партнёрства ЕС адбыўся ў Вільні 28–29 лістапада 2013 года.

[294] Ірыне Пракопчык.

[295] Упакоўшчыкі ў швейным цэху працуюць каля прымацаваных да варштатаў калкоў, на якіх выварочваюць рукавіцы, пагоны, мяшочкі і г. д.

[296] Зьняволеных зь нізкім сацыяльным статусам.

[297] СПС — зьняволены, які адказвае за аказаньне медыцынскай дапамогі іншым зьняволеным у атрадзе, водзіць іх у бальніцу, па лекі, на абсьледаваньне і г. д.

[298] Санкцыйны сьпіс ЕС у дачыненьні да беларускіх чыноўнікаў, куды патрапіў і намесьнік начальніка калоніі Ю. Трутко.

[299] Вінцук Вячорка і Язэп Янушкевіч, зь якімі я быў у пастаяннай перапісцы.

[300] Юзаф Доўбар-Мусьніцкі, царскі генерал, камандзір 1-га польскага корпусу, разьмешчанага ў Бабруйску. У 1918 годзе не падпарадкаваўся савецкай уладзе, захапіў Менск і значную частку тэрыторыі Беларусі. У траўні 1918 года корпус быў раззброены нямецкімі войскамі і адпраўлены ў Польшчу.

[301] Бугор — брыгадзір.

[302] Абурэньне выклікала тое, што экспазіцыі цэнтральнага музея М. Багдановіча і філіі музея «Беларускай хаткі» не працавалі ўжо некалькі гадоў.

[303] Быў асуджаны за згвалтаваньне.

[304] Адная з прычынаў ягонага зьмяшчэньня была ў тым, як ён казаў, што адмовіўся ладзіць нейкую правакацыю супраць мяне, але якую канкрэтна — не сказаў, паасьцярогся.

[305] Іна Кулей — грамадская дзяячка, старшыня Камітэта абароны рэпрэсаваных «Салідарнасьць».

[306] Міхаіл Хадаркоўскі — расійскі грамадскі дзеяч, палітычны вязень.

[307] Кожны раз за пашыў мне зэкаўскай робы швейшчыкаў каралі.

[308] Люсі Карбет (Lucy Corbett) — валанцёрка, перакладчыца ў Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека.

[309] У складзеным на «парушэньне» акце напісалі, што ў асабістых рэчах захоўваў туфлі «неустановленного образца».

[310] Эдуард Акулін.

[311] Алесь Ліпай (09.04.1966–23.08.2018) — журналіст, генеральны дырэктар інфармацыйнага агенцтва БелаПАН.

[312] Сяргей Дарошка — начальнік Дэпартамента выкананьня пакараньняў МУС.

[313] Андрэй Саньнікаў і Сяргей Каваленка — палітычныя зьняволеныя.

[314] Андрэй Ушакоў (1672–1747), начальнік канцылярыі таемных вышуковых спраў у Расійскай імперыі.

[315] Фільм «Васабі» (2001) з акторам Жанам Рэно ў адной з галоўных роляў.

[316] ДПНК — дзяжурны памочнік начальніка калоніі.

[317] Аповесьць Олэксандра Ірванца «Рівне/Ровно (Сьцяна)» (2001) перакладзеная на беларуску мову Ўладзімірам Арловым.

[318] Супрацоўніца, а потым і дырэктарка музея М. Багдановіча.

[319] Мянушка былога начальніка гэтага атрада.

[320] Маюцца на ўвазе эсэ «Лісты надзеі». Надрукаваныя ў кнізе «Лісты салідарнасьці» (2018).

[321] Тацяна Рэвяка.

[322] Роберт Хорт — старшыня шведскай праваабарончай арганізацыі Civil rights defenders. 2 красавіка яны абвясьцілі мяне «Абаронцам грамадзянскіх правоў года».

[323] Пасьля таго як Лукашэнка даў даручэньне «разабрацца» і пасьля прыезду з гэтай нагоды начальніка ДІНа С. Дарошкі часова спыніўся ціск на мяне з боку адміністрацыі.

[324] Савет Федэрацыі Расіі.

[325] Барыс Пятровіч — беларускі празаік.

[326] Рыгор Барадулін — найвыдатнейшы беларускі паэт (24.02.1935–02.03.2014).

[327] СБД — секцыя побыту і вольнага часу (быта и досуга), СВП — секцыя ўнутранага парадку, СООТ — секцыя арганізацыі і аховы працы (организации и охраны труда).

[328] Эсэ «Лісты надзеі».

[329] Георгіевіч — начальнік атрада Ўладзімір Скудны.

[330] Адам Бяляцкі вучыўся ў Вышэйшай школе кіно ў Лодзі.

[331] Мастачка Галіна Хінка-Янушкевіч.

[332] «Гісторыя Літвы» (2014), пераклад на беларускую Вінцука Вячоркі. Кніжку далі пачытаць з умовай, што потым адразу я яе вышлю дадому.

[333] Андрэй Бандарэнка — праваабаронца, грамадскі актывіст. Затрыманы 1 красавіка 2014 года. 7 жніўня 2014 года быў прызнаны вінаватым ва ўчыненьні хуліганства, злоснага хуліганства і асабліва злоснага хуліганства (часткі 1, 2 і 3 артыкула 339 КК) і асуджаны на тры гады калоніі.

[334] Масты́рыцца — сімуляваць хваробу.

[335] Зампарор — намесьнік па рэжымна-аператыўнай працы.

[336] Міхась Кукабака — савецкі дысідэнт, палітычны вязень, адсядзеў у лагерах і псіхіятрычных бальніцах 17 гадоў, родам з Бабруйска, жыве ў Маскве. У красавіку 2014 года М. Кукабака наведаў Бабруйск і сфатаграфаваўся каля бабруйскай калоніі.

[337] У 69-м нумары часопіса «Дзеяслоў» былі надрукаваныя заканчэньне рамана Алеся Ўсені «Грэх», апавяданьні Евы Вежнавец «Усе рудыя — ведзьмакі», Вінцэся Мудрова «Мутны Меконг» і Андрэя Стэфановіча «Нататкі пра Эрнеста Саву, вандроўніка і вар’ята».

[338] Два гады мне не дазвалялі доўгатэрміновых спатканьняў.

[339] Пётр Парашэнка — украінскі палітык, уладальнік кандытарскай карпарацыі «Рашэн».

[340] Юлія Цімашэнка — украінскі палітык, старшыня партыі «Бацькаўшчына».

[341] Я. Губіч — начальнік аператыўнага аддзела.

[342] Уладзімір Скудны — начальнік атрада. Мне забаранілі перадаваць рэчы з калоніі дадому.

[343] ПХД — парка-гаспадарчы дзень (парко-хозяйственный день).

[344] Алена Лапцёнак даслала ў калонію заказным лістом маю кнігу, напісаную ў калоніі, «Іртутнае срэбра жыцьця».

[345] Генадзь Бураўкін (28.12.1936–30.05.2014) — беларускі паэт, грамадскі дзеяч.

[346] Бенедыкт Сарноў «Феномен Салжаніцына» (2012).

[347] Савелі Крамараў (1934–1995) — расійскі кінаактор.

[348] «Знакі прыпынку» (2013) — кніга біяграфічнай прозы Ўладзіміра Някляева.

[349] Уладзімір Скудны.

## ЛІСТЫ, НЕ ПРАПУШЧАНЫЯ ЦЭНЗУРАЙ

[350] Намёк на цэнзуру.

## ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁНАЎ

**У серыі «Беларуская турэмная літаратура» выйшлі кнігі:**

1. Зміцер Дрозд. **Бунт батанікаў.** Дзённік. 2017
2. Ігар Аліневіч. **Еду ў Магадан.** Успаміны, артыкулы. 2017
3. Мікола Дзядок. **Фарбы паралельнага свету.** 2017
4. Алесь Кіркевіч. **Сем месяцаў у беларускай турме.** 2018
5. Алесь Бяляцкі. **Турэмныя сшыткі.** 2018

